# УЛАСНЫ КРЫЖ

*Аповесць*

*З прысвячэннем — Табе,*
*без якога гэтай аповесці не было б*

Усім нам згодна з сілаю дадзена,
Па плячы і руцэ — адмерана.
А на спіне — не крылы складзены,
Можна злосна на свет ашчэрыцца.
Што на сэрцы асела цяжарам?
Што на вуснах ускіпела горыччу?
Што з касматай душы непрыгладжанай
Выбіваецца вонкі — покрычам?
Усе мы цягнем па ношы Сізіфавай,
Прыпынісся — і скоцішся каменем.
У адным толькі лёс нас літаваў:

**Уласны крыж абіраем самі мы.**

## 1.

Май прыйшоў сыры і неласкавы, з начнымі прымаразкамі, з хмарнымі градамі, ацяжэлымі ад ненароджаных ліўняў, на паўнеба. Сеяўся дробны дождж, часам сыпаўся град, паўночны вецер раз'ятрана развяваў хмарныя касмылі. Але ўсё ж між зялёнага лісця бэзу патроху наліваліся ліловым суквецці, і яблыні апантана цвілі, і яркаю маладой травой абрасталі касматыя берагі дробных рачулак.

Цягнік быў сучасны, хуткі, бег бадзёра, стралою працінаючы асіннікі, што падпіралі вершалінамі нізкае цяжкае неба. Зініч, раз-пораз падымаючы кучаравую галаву ад планшэта, глядзеў у вакно безуважна, абыякава слізгаючы

позіркам па палях, па дальніх хваёўніках, над якімі бушавалі залевы. Грукат колаў навяваў на яго сон, а ад мільгацення за шклом зліпаліся пачырванелыя ад недасыпу вочы.

Вагон аказаўся паўпусты: эпідэмія лютавала, хворых штодзень большала, і таму падарожнічаць ахвотных было мала. Правадніца, маладзенькая, кругленькая, сама ў масцы і сініх гумовых пальчатках, на чарговай станцыі сустракала кожнага з нешматлікіх пасажыраў з заўважным неспакоем, нават з дрыготкаю. І з палёгкаю выдыхала, калі дзверы мякка зачыняліся і цягнік зноў пачынаў рухацца на поўнач.

Іншым разам сам Зініч, мабыць, не стаў бы рызыкаваць здароўем (а мо' і жыццём), падарожнічаючы ў такі час. Ён і да эпідэміі з хваравітай стараннасцю мыў рукі як мага часцей, а калі не атрымлівалася, апрацоўваў антысептыкам. Цяпер жа, калі каранавірус, падавалася, быў паўсюль, усе сустрэчныя падаваліся Зінічу хворымі, і ў кругленькай спуджанай правадніцы ён таксама з паранаідальнай уважлівасцю пачынаў знаходзіць прыкметы, якія бясспрэчна сведчылі пра заражэнне.

Таму Зініч часта папраўляў новенькі рэспіратар, калі правадніца праходзіла паўз яго, і з празмернай уважлівасцю глядзеў на цёмныя хвоі, аблітыя захадам, на далёкія цёмныя хаткі, што разбягаліся па пагорках, на азярыны і падтопленыя бярэзнікі. Міжвольна прыціскаўся бокам да вакна, стараючыся аддаліцца ад іншых пасажыраў як мага болей, і моршчыўся пад рэспіратарам, і нервова паводзіў абцягнутымі пальчаткамі пальцамі.

Твар у яго быў худы, бледны, з рабаціннем, якое мацней выступала на скулах, калі Зініч хваляваўся, з абазначанымі скуламі, з трохі раскосымі — «татарскімі» — карымі вачыма. Цёмна-русыя валасы ўзбіваліся цыганскімі кучарамі, а вось нос быў самы беларускі, бульбінай. Сядзець некалькі гадзін, заціснутым крэсламі, высокаму Зінічу было не дужа зручна.

Але падняцца і пахадзіць паміж шэрагаў крэслаў, хай сабе і паўпустых, не хацелася: ён выразна чуў, як суха, адрывіста кашляла бабуся ў пачатку вагона, і гідлівасць накатвала на яго хвалямі дрыжыкаў, і нават дробна трэсліся рукі.

Праз нейкі час увесь вагон, увесь цягнік падаваўся яму брудным. Усюды кішэлі мікробы, нябачныя, але несумненна існыя. Зініч, пакрэхтваючы, круціўся на крэсле, моўчкі пакутаваў і пазіраў на гадзіннік — а лічбы на экранчыку быццам застылі. Спрабаваў дыхаць размерана, спрабаваў засяродзіцца на сканаваных зжоўклых аркушах, што, слухмяныя дотыку, выводзіліся на экран планшэта. Засяродзіцца атрымлівалася кепска — дарма што менавіта дзеля гэтых аркушаў, патрапаных часам, з грыфамі «Сакрэтна» ды пячаткамі розных колераў, Зініч, нягледзячы ні на што, і выправіўся ў дарогу.

Аркушы тыя нейкім цудам трапілі да Зінічава даўняга знаёмага: той, апантаны даўнінай, апошнія гадоў дзесяць жыў у Полацку. Вышукваў падземныя хады разам з суполкаю такіх жа заўзятараў-«дзігераў», у сацсетках посціў кепскія фота нейкіх скляпенняў, паўразбураных муроў ды ржавых дзвярэй. Зініч за ўсім тым асабліва не сачыў: з універсітэцкіх часоў іх з Алегам Маслоўскім шляхі разышліся. Не засталося нічога агульнага, апроч, можа, колішняга паўдзіцячага захаплення беларускай старажытнасцю.

А тут Алег напісаў, ды яшчэ на працоўную электронную пошту. Зініч непрыемна здзівіўся быў — ды пасля прыгадаў, што гэты адрас якраз-такі лёгка адшукаць на сайце тоўстага паважанага часопіса, дзе ён цяпер працаваў. Ліст быў досыць ветлівы, быццам і не мінула дзесяць гадоў маўчання, але і без фамільярнасці, без прэтэнзій на сяброўства. Апошняе Зінічу нават спадабалася: большасць колішніх аднагрупнікаў, калі нешта было ім патрэбна, не саромеліся прыгадваць «старыя добрыя часы» і ціснуць

тымі ўспамінамі. Алегаў тон быў выхаваны і халаднаваты, і таму Зініч не выдаліў ліст, прачытаўшы два-тры сказы, як тое бывала звычайна.

Зрэшты, амаль адразу парадаваўся, што не выдаліў. Бо Алег пісаў — з яўнымі, канечне, недагаворкамі,— быццам у рукі яму трапіў унікальны архіў. І з тым унікальным архівам ён, Алег, просіць Зініча азнаёміцца, найперш — з некаторымі сканаванымі матэрыяламі. Каб падагрэць цікаўнасць.

— А калі пабачыш, што гэта можа ўяўляць цикавасць для цябе як для даследчыка, прыязджай.

Так і напісаў — «для даследчыка». Быццам Зініч не кінуў у свой час аспірантуру пры alma mater і не працаваў цяпер у журналістыцы.

З журналістыкай усё атрымалася выпадкова — і, як тады падавалася, часова. Адзін з яшчэ студэнцкіх допісаў Зініча трапіў у паважанае калягістарычнае выданне, галоўрэд заўважыў някепскі стыль — і прапанаваў падпрацоўку. Плацілі някепска (выданне было на кані, бо фінансавалася Саюзнай дзяржавай), і Зініч патроху закінуў дысертацыю. Сёе-тое з напісанага патроху парасцягаў на артыкулы, трохі падправіўшы там і сям, а болей да «дысертацыйнай» тэчкі на камп'ютары не звяртаўся.

А зараз Алег Маслоўскі патрабаваў ягонага аўтарытэтнага меркавання наконт нейкіх там архіўных дакументаў. Зініча, вядома, гэта ўсцешыла: некалі ён лічыўся адным з самых перспектыўных маладых навукоўцаў. Адно за Алегавай просьбай стаяла нешта яшчэ, нешта не выказанае, але пэўнае. Мусіць, дакументы трапілі да Алега не самым законным чынам, што называецца, «з гісторыяй». Можа, замяшаныя былі і нейкія пазыкі — і Зініч цвёрда вырашыў, што грошай, калі на тое, не дасць.

Хаця трэба было аддаць Маслоўскаму належнае: дакументы сапраўды аказаліся цікавыя. У тым, што даслаў на

прагляд Алег, знайшліся паперы з пячаткамі БелАН — 1928 або 1929 года. Былі рукапісныя нататкі таропкім кучаравістым почыркам, у які Зініч пакуль што ленаваўся ўчытвацца: занадта быў неразборлівы. І таксама — некалькі аркушаў, надрукаваных на машынцы, без пачатку, са збітай нумарацыяй. Гэтыя, мяркуючы па датах ля подпісаў, адносіліся да 1931 года.

Машынапіс пазнейшых папер быў бледнаваты, з рэдкімі абдрукоўкамі і акуратнымі падчысткамі на пажоўклай паперы, з неразборлівымі паметамі алоўкам над друкаванымі радкамі. Зініч, разбіраючы напісанае на экране планшэта, зачапіўся вокам за слова «оперуполномоченный». Оперупаўнаважаны малодшы лейтэнант дзяржбяспекі распісваўся зялёным алоўкам пасля важкага «постановили» — пастанаўлялі пра перавод нейкага Івянецкага ў іншае месца няволення «для дальнейшего выяснения». Тут жа было, у разнабой, колькі аркушаў — відавочна — пратаколаў допытаў, і знаёмы зялёны аловак праходзіўся тут і там, то падкрэсліваючы асобныя сказы або выразы, то ставячы на палях машынапісу тлустыя клічнікі.

Зініч нахмурыўся. Калі дакументы, атрыманыя Маслоўскім з нявысветленых крыніц, сапраўды былі з архіваў НКУС, значыць, наўрад ці яны цалкам чыстыя. Магчыма, скрадзеныя — нават калі і не цяпер, дык, скажам, у 90-я. На такія рэчы, Зініч ведаў, зазвычай хапае ахвотнікаў: і калекцыянераў даўніны, і калекцыянераў інфармацыі рознага кшталту, і проста апантаных, фанатыкаў. Алег пачаў гуляцца ў дурныя гульні, вырашыў пра сябе Зініч. Зрэшты, Маслоўскі — дарослы чалавек, хай сам разбіраецца, ягоная асабістая справа. Зініч яшчэ раз падумаў, што пазычаць грошы колішняму прыяцелю не будзе, і трохі супакоіўся.

Мяркуючы па ўсім, дакументы былі арыгінальныя. Ясная рэч, варта было б яшчэ паглядзець самі паперы, не сканы.

Але пячаткі, стан паперы і чарніла, стылістыка — усё сведчыла на карысць Зінічавай здагадкі. Было, праўда, трохі няўцям, чаму Алега настолькі зацікавілі менавіта гэтыя, па змесце досыць шараговыя дакументы. Прычым настолькі зацікавілі, што Маслоўскі вырашыў узнавіць даўно перарванае знаёмства. Зініч зноў паглядзеў на хвоі за вакном, на касматую зорку, што выпаўзла над шатамі дрэваў, і серп маладзіка, падвешаны на зорцы, як на цвіку. Паглядзеў безуважна, задуменна папстрыкаў пальцамі. Зноў прагартаў разрозненыя сканаваныя аркушы на экране планшэта. Спыніўся на адным і, звузіўшы вочы, паспрабаваў учытацца, ледзь разбіраючы падслепаваты выцвілы машынапіс.

Цягнік набіраў хуткасць, вагон мякка патрэсвала. Грукаталі пад падлогаю колы, тахкалі, быццам нечае ўспуджанае сэрца. Мякка патрэсквалі лямпы пад столлю, і дрыжалі адбіткі паўсонных пасажыраў у вокнах, зацягнутых вечаровым змрокам.

## 2.

Сэрца тахкала, сціскалася болем, нібы спрабавала выскачыць з грудзей.

Свяцілася лямпа на сінім сукне, што ўкрывала цяжкі пісьмовы стол ля вакна. З попельніцы падымаўся пакручасты дым: хвіліну таму там нецярпліва загасілі недакурак. Святло ад лямпы слізгала па зашклёных рамах з партрэтамі: тыя віселі на сцяне за сталом, над шырокімі плячыма таго, хто зараз чыркаў запалкай, звесіўшы новую цыгарэту з кутка рота. Святло падала неяк хітра, вуглом, таму твару чалавека за сталом відаць не было — толькі цяжкаватае падбароддзе ды рот з цыгарэтай. Партрэты на сцяне глядзелі сурова і разам з чалавекам за сталом утваралі несумненную і нават пагрозлівую большасць.

Ува ўсякім выпадку так падавалася другому чалавеку, які, скурчаны, сядзеў на хісткім зэдліку перад сталом, спінаю да цяжкіх дзвярэй. За дзвярыма — чалавек на зэдліку гэта ведаў — быў доўгі змрачнаваты калідор, дзе трывожна пахла сырасцю. І ў тым калідоры безліч дзвярэй, спрэс цяжкія: захлопнуцца — і не чуваць, што за імі адбываецца.

Маўчанне запаўняла пакой да самай столі — густое, важкае. Шматзначнае і трохі абвінаваўчае. І пад цяжарам гэтага абвінаваўчага маўчання ў чалавека на зэдліку апускаліся вузкія плечы, дрыжалі бледныя вусны і тонкія кісці рук бездапаможна сціскаліся на каленях, абцягнутых мехаватымі нагавіцамі. На лацкане шэрага пінжака, рукавы ў якога былі караткаватыя, цьмяна бліскалі значкі: чырвоны камсамольскі, ромбік універсітэцкага.

За вузкімі вокнамі, паміж якімі месціліся патрэты, паспеў апусціцца вечар. Захад, разбіты белымі кратамі, ужо адпалымнеў над дахамі і палісадамі, і густы змрок заліў вуліцу, змякчыў гукі і фарбы. З прычыненай форткі, праўда, наплываў п'янкі водар вільготнага бэзу, але рэзкі пах тытуню перабіваў яго, запаўняючы невялікі пакой.

Чалавек на зэдліку, часта міргаючы стомленымі бляклa-блакітнымі вачыма, глядзеў на стол. Там у зыркім коле святла бялелі спісаныя аркушы паперы — чалавек з непрыемным халадком у жываце пазнаваў завіткі ўласнага почырку. Побач ляжалі і паперы, нядаўна адстуканыя на машынцы, а яшчэ адна ці дзве машынкі ленавата падавалі галасы, прыглушаныя тоўстымі сценамі. Чалавек сутаргавата варухнуў плячыма. Падумаў мулка, невыразна: пішуць. І чамусьці вусцішна стала ад адной гэтай думкі, і нядобрая слабасць апанавала ўсё цела. Як у страшным сне, калі хочаш бегчы, аднак слупянееш, бездапаможна заміраеш на адным месцы.

Чалавек на зэдліку зажмурыўся. Млосць раптам накаціла на яго душнай хваляй, закруцілася ў галаве. Пакутліва хацелася піць, але чамусьці няёмка было нават зірнуць на поўны графін, які стаяў на нізкім століку ў дальнім куце, не тое што папрасіць вады.

Над сінім сукном тым часам запалілася чырвонае вочка цыгарэты. Той, за сталом, не без задавальнення дыхнуў дымнымі ікламі, адкінуўся на высокую спінку крэсла так, што старая мэбля падала голас. Зашапацелі паперы на стале, пакорлівыя ўладнай руцэ.

— Ивенецкий,— сказалі над сталом.— Так. Андрей Павлович. Так. Одна тысяча девятьсот десятого года рождения, белорус... Историк вы у нас, Андрей Павлович? Или... как это называется?

Чалавек на зэдліку варухнуўся ад гуку ўласнага імені. Замёр на імгненне, бо чужыя словы непаваротліва складваліся ў галаве, дзесьці там, у патыліцы, дзе пульсаваў, нарастаючы, боль. Сяк-так склаўшы словы, кіўнуў. Так, так. Ён — Андрэй Івянецкі, гісторык. Этнограф. Дысертацыя амаль гатовая, паводле матэрыялаў некалькіх экспедыцый. Асістэнт у «Камісіі па ахове помнікаў старасветчыны». У акадэміка Ластоўскага. Былога акадэміка, канечне. Былы асістэнт, то бок.

— Ассисте-е-ент,— недаверліва расцягнулі над сталом, зноў дыхнуўшы дымам.— Вы вот, Андрей Павлович, видимо, умный человек. Работы вот всякие, вижу, пишете, древности разные изучаете. Комсомолец. Характеристики на вас, вижу, хорошие. А всё же контру антисоветскую под носом у себя проглядели. Ассистировали контре-то. Как же так, друг любезный?

Тон быў досыць дабрадушны, амаль сяброўскі, але чалавек на зэдліку міжволі ўцягнуў галаву ў плечы. Паглядзеў на суразмоўцу ваўкавата, спадылба, трасянуў светлымі растрапанымі валасамі.

— Я...— адказаў здушана.— Я... не ведаю. Не знаю. Понимаете, я же подумать не мог. Я працаваў толькі. Честное слово, я ничего не...

— Конечно,— дабрадушна гукнулі з-за стала.

Канечне, нікому нават у галаву не прыходзіла б абвінаваціць шчырага камсамольца ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Таварыш Івянецкі, адрозна ад ягонага былога кіраўніка, нічым сябе не заплямі́ў. Якраз з гэтай прычыны да таварыша Івянецкага і звяртаюцца — па дапамогу.

— Дело, как вы, конечно, понимаете, запутанное. Неприятное дело. И действовать нужно, конечно, в интересах народа.

Тут чалавек за сталом зрабіў невыразны жэст рукой, як бы спасылаючыся на партрэты, што сурова паглядалі з-за ягоных плеч. Былы асістэнт былога акадэміка пужліва зірнуў на зашклёныя рамкі і часта заківаў. Канечне, канечне. У інтэрасах народа. Ён, Івянецкі, дапаможа. Ён жа нічога *такога* не ведаў. Не мог ведаць. Праўда.

— Конечно,— пагадзіліся за сталом з мяккай усмешкай. І ад гэтай усмешкі ўнутры ў Івянецкага ўсё імгненна перавярнулася: не вераць. Што ні скажы, як н і пераконвай, не вераць і не павераць. Вусны ў Івянецкага часта задрыжалі, як у пакрыўджанага дзіцёнка. Але падумаў ён чамусьці не пра маці і сястру ў вёсцы пад Полацкам, не пра агідныя шэпцікі, якімі будуць перакідвацца калегі, але пра запаветную тэчку з паперамі ў сваім стале. Звычайную кардонную тэчку, распухлую ад змесціва, так што ледзь завяжаш растрапаныя стужачкі. І чамусьці стала да болю шкада тое, што ўнутры,— недалюбленае, усё яшчэ не даведзенае да канца.

— Вы с Вацлавом Устиновичем этим вашим в каких были отношениях?

Голас з-за сукна прагучаў знянацку, разарваўшы прадзіва думак. Івянецкі скалануўся, як халоднай вадой абліты. Паглядзеў непаразумела — і голас цярпліва, ледзьве не па складах паўтарыў сваё пытанне.

— У звычайных,— сіпла адказаў Івянецкі і пакашляў у кулак, прачышчаючы засмяглае горла.— Працо... Рабочих. Я, видите ли, был приставлен к академику в качестве ассистента. С бумагами помогать. С описями. Только и всего.

Той, за сталом, падняўся на ногі, паправіўшы рэмень з кабурою. Прайшоў побач, парыпваючы масніцамі, і на кожны крок пужліва адгукалася, брынкаючы, пузатая чарнільніца на стале. Івянецкі зажмурыўся — але цяжкія крокі абмінулі яго. У куце дзынкнула шкло графіна, палілася вада.

— Так вот вы и расскажите, для чего конкретно были приставлены. Про эти ваши экспедиции расскажите, например. Факты давайте, факты.

— Пра... экспедыцыі?..— Івянецкі здзіўлена прыўзняў светлыя бровы.

Чалавек з кабурой нетаропка вярнуўся за свой стол і, зрабіўшы добры глыток са шклянкі, адказаў самым прыязным кіўком. Пра экспедыцыі, пацвердзіў. Былы акадэмік, як вядома, знаходзіў і апісваў досыць шмат цікавых рэчаў. Старажытных і каштоўных рэчаў, трэба заўважыць. І, улічваючы шкодніцкую і антынародную скіраванасць дзейнасці былога акадэміка, варта ўсе гэтыя набыткі праверыць.

— Нашто... правяраць? — шчыра здзівіўся Івянецкі.— Ёсць жа вопісы, усё зафіксавана... Зафиксировано то есть.

— Кем зафиксировано, товарищ Ивенецкий? — суха ўдакладніў чалавек за сталом.— Вредителем? Этим вашим бывшим академиком? Так он чего угодно понаписывать мог, вы это хоть понимаете? А народные ценности вти-

харя сплавил. На капиталистический Запад. А, товарищ Ивенецкий?

Івянецкі акругліў вочы і прыціх. Няпэўна пакруціў галавой. Вацлаў Юстынавіч не стаў бы, прагаварыў сіпла. Вацлаў Юстынавіч — шчыры беларус. І тое, што ўсяму народу належыць, ён ніколі не стаў бы...

— Антисоветчик ваш Вацлав Устинович,— адмахнуліся з-за стала, і аблічччы партрэтаў на сцяне, падалося, пасуровелі яшчэ болей.— И вы, товарищ Ивенецкий, напрасно пытаетесь его выгораживать. Это даже очень подозрительно.

— Я не...— на шчоках у Івянецкага запаліліся плямы нездаровага румянцу.— Я толькі хацеў сказаць, што... что академик... то есть бывший академик... что он никогда и не подумал бы о таком.

За сукном прагучаў мяккі смяшок. А вы, таварыш Івянецкі, хіба ведаеце, што там хто думаў? Гэта, таварыш Івянецкі, справа НКУС — ведаць, хто ды што думаў. І, калі што, крамольныя думкі выкараніць.

— ...пресечь!..— цяжкая далонь пляснула па сукне, так што зноў пужліва азвалася чарнільніца і падскочыла апусцелая шклянка. Івянецкі таксама падскочыў на сваім зэдліку. Сэрца забілася шалёна, і сціснулася перасохлае горла. Дробна калаціліся рукі, а ўвесь гэты душны пакой з кратамі на вокнах зрабіўся жудасным, невыносным.

— Так что излагайте факты, товарищ Ивенецкий,— строга мовіў чалавек за сталом, адкінуўся на спінку крэсла і чыркнуў запалкай. Над сінім сукном зноў запалілася калючае вочка цыгарэты.

Івянецкі перарывіста выдыхнуў.

І, пільна гледзячы ў зыркае цыгарэтнае вока, загаварыў.

## 3.

Зініч прачнуўся рэзка, быццам ад штуршка, нібы выпаў з бяздоннай цемры, цяжка абрынуўшыся ў няўтульнае крэсла. Адчуў імгненна і холад шкла на шчацэ, і ламоту ў спіне, і электрычнае святло, што лілося з-пад столі. Цягнік запавольваў ход, паступова набліжаўся за вокнамі асветлены ліхтарамі перон, над якім сеяўся дробны дождж.

— ...прибывает на конечную станцию,— глуха гаварыў дынамік, голас якога, мабыць, і абудзіў Зініча. Той паморшчыўся, рассеяна ўскудлачыў валасы. Пагаслы планшэт без асаблівага шкадавання ўкінуў у заплечнік. Ад непрацяглага сну ламіла скроні, і на імгненне прымроіўся ў паветры густы і задушлівы пах тытуню. Зініч патрос галавою, механічна паправіў рэспіратар. Тут жа адхіснуўся далей да вакна: побач, заходзячыся кашлем, прайшла, несучы некалькі торбаў, змрачнаватая бабуся ў ружовым пухавіку нарасхрыст. Маскі на бабулі, канечне ж, не было, і нават прыкрыць рот насоўкай або локцем яна, здаецца, лічыла справаю збыткоўнай і недарэчнай.

— Дурніца старая,— прамармытаў Зініч, праводзячы ружовы пухавік непрыязным паглядам. Адчайна захацелася садраць з сябе пальчаткі, рэспіратар ды адзенне і ўлезці пад гарачы душ, каб змыць усю гэтую дарожную заразу.

Нешматлікія пасажыры тым часам патроху падцягваліся да дзвярэй вагона. Тыя, што былі ў масках, ваўкавата касіліся на тых, што масак не насілі. Плакаў дзіцёнак — малеча гадкоў трох,— капрызліва патрабуючы, каб цягнік прыпыніўся тэрмінова, бо надакучыла. Фарбаваная ў бландынку стомленая, з запалымі вачыма жанчына супакойвала дзіця, як магла, а тое аніяк не супынялася, плакала, тыцкаючы пальчыкам у зашклёныя дзверы, за якімі наплываў, увесь у агнях, захутаны ў змрок вячэрні Полацк.

Ад несціханага дзіцячага плачу скроні ў Зініча заламіла мацней. Ён, скрыгатнуўшы зубамі, падняўся, нацягнуў паліто. Пакуль намотваў на шыю цёплы вязаны шалік, вагон мякка страсянуўся і прыпыніўся, і ружовы пухавік тут жа ўтрапёна забіў даланёй па кнопцы, што адчыняла дзверы. Праз хвіліну-другую тыя паддаліся — і спачатку энергічны ружовы пухавік, а пасля і іншыя нецярплівыя пасажыры вываліліся з вагона пад халодны дождж. Зініч, нікуды асабліва не спяшаючыся, узяў заплечнік, яшчэ раз паправіў рэспіратар і выйшаў, мабыць, апошнім, залавіраваўшы сярод шэрагаў тых, хто сустракаў, і тых, каго сустракалі.

У самім Полацку Зініч ніколі не быў і таму трохі падазрона прыглядаўся да каробачкі вакзала, да ліхтароў і агароджаў. Дождж быў нямоцны, але халодны, вецер падступна сыпаў прыгаршчы халодных кропель за каўнер, і ў падазронай вакзальнай каробачцы давялося-такі ратавацца.

Унутры была светлая плітка, пара міліцыянераў, што пазяхалі каля лесвіцы, і колькі металічных лаваў каля зачыненага кіёска Белсаюздрука. Адфыркваючыся і патрэсваючы ўвільгатнелымі валасамі, Зініч дастаў смартфон, ажывіўшы той дотыкам,— і нахмурыўся: Маслоўскі ў сваім апошнім лісце абяцаў патэлефанаваць адразу пасля прыбыцця цягніка, але ўваходных выклікаў не было. Зініч пачухаў патыліцу і, павагаўшыся, улез ува ўласную электронную пошту, прагартаў апошнюю перапіску з Маслоўскім. Адшукаў там нумар тэлефона і полацкі адрас: сёмы завулак Міронавай. Там у Алега нібыта было уласных паўдома — спадчына ад цёткі,— і ў тыя свае паўдома Маслоўскі запрасіў быў Зініча:

— Перакантуешся колькі дзён, пакуль паперы разбіраць будзем.

Але нахабна было б з’явіцца на парозе ў Маслоўскага, не стэлефанаваўшыся папярэдне. Ды і, праўду сказаць,

чорт яго ведае, дзе той завулак Міронавай. Зініч, хмурачыся, набраў Алега раз, другі — і ўсё без выніку. Тэлефон Маслоўскага быў «адключаны або знаходзіцца па-за зонай сеціва», быццам ніхто і не запрашаў Зініча ў Полацк разбіраць выключныя і неймаверна цікавыя дакументы.

— Жарты ён са мной жартуе, ці што? — сярдзіта прамармытаў Зініч.

Нехта, праміннаючы, зачапіў яго плячом. Зініч абурана крутануўся на месцы — але пабачыў у аддаленні адно шырокую спіну, туга запакаваную ў шэрую куртку, ды стрыжаную патыліцу з апаплексічнай складкаю.

Заставацца на вакзале не было як, страшэнна хацелася адпачыць, і Зініч, пазяхнуўшы, вырашыў з ненадзейным Маслоўскім разбірацца заўтра, а пакуль што знайсці які-небудзь прытулак. Адшукаў звесткі пра танны гатэль непадалёк (з рамантычнаю назвай «Ветразь»), прычым над самай Заходняй Дзвіной, і рушыў з вакзала, час ад часу зазіраючы ў мапу ў смартфоне.

Прайшоў праз сквер з аблюбаваным галубамі помнікам Леніну, паўз вітрыны зачыненага дома гандлю, паўз асветленыя знутры вокны з фікусамі і гераням. Сыпаў дождж, міргалі святлафоры на скрыжаванні, прамінуў, цяжка ўздыхаючы, самотны аўтобус. Зініч, трохі закалыханы спакойным цячэннем нешырокай соннай вуліцы, нечакана для сябе вываліўся ў прастору праспекта і пабачыў у святле ліхтароў змрачнаватага бронзавага Скарыну на пастаменце. Ад Скарыны яму, як сведчыла мапа, трэба было ісці ўлева, пасля крутануцца ўправа, спусціўшыся да Ніжне-Пакроўскай. Мінакоў амаль не было, толькі рэдкія купкі шумных падлеткаў або асобныя дарослыя. На рагу дома нейкі добра падпіты дзядзька звяртаўся з пранікнёнай тырадай да вадасцёкавай трубы. Зініч, пад рэспіратарам гідліва таргануўшы ротам,

старанна абмінуў яго, перайшоўшы на іншы бок вуліцы: з самага маленства не выносіў п’яных.

«Ветразь» сапраўды выглядаў ветразем — дзіўнавата-футурыстычнага кшталту, аднак. Зініч, закінуўшы кучаравую галаву, колькі хвілін вывучаў бэжавы будынак з хвалямі карычневага шкла і думаў чамусьці пра касмічныя караблі на сонечных ветразях. Гатэль і падаваўся касмічным караблём, які выпадкова прызямліўся побач з утульнымі даваеннымі забудовамі. Зініч міжволі па вокнах падлічыў паверхі — выйшла шэсць, і над апошнім свяціліся пластыкавыя літары шыльды: «Парус».

Нумар «павышанай камфортнасці» меў шырокі ложак пад барвовым пледам, пажылы тэлевізар на белай тумбе і светлую канапу бокам да вакна. За вакном уздыхала цёмная рака, а на тым беразе міргалі, аддзеленыя завесаю дажджу, дробныя цьмяныя агні — рассыпаныя, разрозненыя. Вымыўшыся ў душы і трохі разамлеўшы, Зініч бесцырымонна адсунуў паўпразрыстую шторку і сонна ўглядаўся ў дажджлівую цемру, поўную самотных агнёў.

Думаў пра горад, у якім ніколі раней не быў, горад вусцішна даўні. Горад з тайнікамі і таямніцамі, з загадкавымі лёхамі, са схаванымі скарбамі. Горад на зямлі, якую шчодра палівалі крывёю — з самай касматай даўніны, з часоў Рагвалодавых. Жылі тут, на гэтых прырэчных узгорках, людзі даўным-даўно. І яшчэ, напэўна, будуць жыць. І будзе вось гэтак жа цячы рака, і дождж будзе сыпацца, і будуць уздыхаць ад уласнага цяжару камяні.

Праз такія думкі рабілася мулкавата, быццам неабачліва зазірнуў у бездань. Зініч зябка павёў плячыма, пацягнуўся, адчуваючы, як ныюць пасля чатырохгадзіннай паездкі спіна і плечы, і кінуўся на ложак, на халодныя прасціны з лёгкім пахам хлоркі. Заснуў амаль адразу і ніякіх сноў

не сніў. Проста праваліўся у мулкае чэрава цемры, поўнае дажджу і агнёў, і вынырнуў з яго адно раніцай.

Радасна дзынкалі за вокнамі нахабныя сініцы, белае святло залівала пакой. Чуваць было, як па калідоры ходзяць, бразгаючы дзвярыма, людзі, як дрынкае, праязджаючы міма, вазок прыбіральшчыцы. У пакоі было халаднавата, і Зініч скурчыўся пад коўдраю, зажмурыўшыся і ўкрыўшыся з галавою. Настойліва падаваў голас страўнік, лезлі ў галаву непрыемныя думкі пра асаблівасці гатэльнай прыборкі, і таму невыносна агіднымі падаваліся дотыкі пасцельнай бялізны да скуры. Зініч, урэшце, не вытрымаў, падхапіўся. У ванным пакоі доўга і старанна мыў рукі і твар, чысціў зубы. Пасля зноў прыняў душ і зноў старанна вымыў рукі. Сам выгляд мыльнай пены на далонях, гарачыня вады супакойвалі, прыносілі ўпэўненасць. Зініч сустрэўся вачыма са сваім адбіткам у люстры — і грэбліва скалануўся, згледзеўшы на люстранай паверхні неадцертыя дробныя плямкі.

Ён таропка нацягнуў джынсы ды калючы швэдар і праверыў смартфон з кволым спадзяваннем. Але Маслоўскі не тэлефанаваў і не пісаў, і Алегаў тэлефон усё яшчэ быў выключаны. Выпівае ён там, ці што, злосна падумаў Зініч, вывучаючы свежыя лісты з працоўнай пошты. Ён узяў адпачынак за свой кошт на тры дні, але ані галоўрэд, ані калегі, падобна, не бралі гэта пад увагу і працягвалі накідваць пытанні па новых матэрыялах, рубрыках ды вёрстцы. Зініч паспрабаваў быў учытацца ўва ўсё гэта, пасля плюнуў.

У яго заставалася яшчэ тры дні, каб разабрацца з паперамі Маслоўскага. Прыдбаная за гады працы журналісцкая інтуіцыя падказвала, што з усяго гэтага атрымаўся б неблагі матэрыял. Што-небудзь такое пранізлівае, з націскам на лёсы ахвяраў рэпрэсій. Народу цяпер такое падабаецца. А можа, атрымалася б штосьці яшчэ больш цікавае, пра якія-небудзь старажытныя артэфакты ці нават са-

праўдныя скарбы. З пратаколаў, якія Зініч праглядаў учора, было зразумела, што справа тычыцца беларускіх экспедыцый Ластоўскага канца дваццатых гадоў. Цікавостак тады было знойдзена шмат — праўда, большасць з іх страчана падчас Вялікай Айчыннай. Зініч вырашыў: Алег, верагодна, так апантана ўчапіўся ў гэтыя архівы з мутнай гісторыяй менавіта таму, што яны праліваліі святло на месцазнаходжанне нейкага адмысловага артэфакта. А можа, нават і некалькіх цікавых і сапраўды каштоўных рэчаў: усплыло ж неяк у дзве тысячы трэцім Слуцкае Евангелле.

Аднаго спадзявання на падобнае адкрыццё было дастаткова, каб расштурхаць п'янага Маслоўскага і дабіцца ад яго рэшты архіўных папераў.

— Сёмы завулак Міронавай, дом тры,— сказаў Зініч таксісту, закідваючы заплечнік у салон.

## 4.

...Крыж быў шасцікантовы, з паўметра ў даўжыню. Цяжкі — не столькі за кошт кіпарысавага дрэва, колькі, мабыць, праз залатыя і сярэбраныя пласцінкі, часткаю згубленыя, але ўсё адно дасканалыя. Роўны шэраг перлін ішоў па самым краі, бліскаючы жаўтаватымі бакамі, і пераміргваліся каляровыя камяні сярод зліваў арнаменту.

З Крыжа глядзелі ўважлівымі вачыма Хрыстос і Божая Маці, арханёлы Гаўрыіл ды Міхаіл ахоўвалі ніжняе перакрыжаванне. І іншыя нябесныя заступнікі, абкружаныя грэчаскімі і славянскімі літарамі, паглядалі з залатых пласцін — быццам паказваліся з вакенцаў у світальных аблоках. А па срэбры, што крыж апаясвала, цягнуўся надпіс, пагрозлівы і ўладны:

— *...а хто не паслухаецца, знясе Крыж з манастыра, таму не будзе дапамогі ні ў гэты век, ні ў наступны, і*

*будзе праклятый Святою Жыватворнаю Тройцай, і будзе яму доля Юдзіна, які Хрыста прадаў...*

Івянецкі перачытаў свой пераклад са старaславянскай, бязгучна варушачы вуснамі,— і міжвольна сцепануўся. Пытальна падняў вочы на акадэміка, які ўпарадкаваў уласныя рукапісныя нататкі за суседнім сталом, разглядаў планы сабора ды нешта ўпарта крэсліў на паперчыне.

Пакой, дзе яны працавалі, быў сам па сабе невялікі, з сырым рэхам пад скляпеннямі і парай закратаваных акенцаў, прарэзаных пад самай столлю з пыльнымі ніткамі павуціння. У гэтую каморку неяк уціснулі сталы для працы і пару крэслаў, а апроч таго — скрыні з уліковымі карткамі. І, нагрувашчанае на сталах, абкладзенае газетнай паперай,— тое, што карткі ўлічвалі: здабыткі апошняй экспедыцыі, якая разбірала фонды полацкага фінаддзела.

Народныя скарбы.

Былі тут старасвецкія драўляныя фігуры, рэквізаваныя з храмавых алтароў,— святыя і анёлы з простымі беларускімі тварамі, трохі здзіўленыя, часта без рукі ці без нагі, патрапаныя часам, з аблезлаю, але ўсё адно яркаю фарбай. Грубаватыя постаці дыхалі жыццём, бо рабілі іх не паводле зададзеных канонаў, але з уласных назіранняў майстра, які, мусіць, міжволі даў святому Пятру задуменны твар і пластыку суседа-ганчара.

Былі тут і абразы — у залатых і сярэбраных акладах, часам без іх, проста пацямнелыя ад часу распісаныя дошкі. Але з тых дошак глядзелі вочы Божай Маці, шматаблічнай і прыгожай, таксама маляванай некалькі стагоддзяў таму з натуры, з жывой і, напэўна, каханай жанчыны. І дзіця, што тулілася да яе шчакі ці раскідвала маленькія ручкі, як бы абдымаючы свет, таксама было жывое, сапраўднае дзіця. Можа быць, таму ад аднаго позірку на іх — Маці і Дзіця, чалавечных, існых,— сціскалася сэрца.

На іншым абразе, пазнейшым, дзевятнаццатага стагоддзя, невялікім, квадратным, анёл прыносіў вестку Марыі. Майстар паспрабаваў стварыць аб'ём, і драўляныя фігуркі Божай Маці, Гаўрыіла і галуба ў аблоках трохі ацяжэлі, прымацаваныя да дошкі. Фігуркі выдаваліся наперад на пяшчотным ружовым, як світанне, фоне. Строгі Гаўрыіл праваю рукою паказваў на галуба, што ўзлятаў над імі ў залатым ззянні, а Марыя пакорліва схіляла перад прынесенаю весткай галаву. І нешта было ў гэтых простых, трохі наіўных фігурках, у гэтай простай, без асаблівых аздобаў сцэне. Нешта такое, што адначасна да глыбіні душы ўражвала і дарыла дзіўную светлую радасць. Радасць еднасці — з тым, хто старанна і натхнёна працаваў над гэтаю дошкай.

І з многімі іншымі, такімі ж стараннымі і натхнёнымі.

Можа быць, падумаў Івянецкі, калі ўпершыню з замілаваннем разглядаў крылатую фігурку Гаўрыіла, можа быць, справа зусім не ў Боскім, рэлігійным пачатку. Сам ён, Івянецкі, не верыў ні ў Бога, ні ў чорта і трохі нават бравіраваў перад аднакурснікамі сваім бязвер'ем. А вось у што ён верыў, дык гэта ў народ, здольны сваім талентам, сваёй нястомнаю працай ствараць гэтую прыгажосць, ажыўляючы Святое Пісанне, пераасэнсоўваючы кніжную мудрасць на ўласны лад. Пераствараючы далёкія ў прасторы і часе гісторыі па-свойму, чэрпаючы натхненне з самога жыцця вакол сябе, з пракаветнай народнай мудрасці.

І гэтым народам, разумным і таленавітым, шматпакутным і моцным, нельга было не ганарыцца. Бо кожная, нават самая дробная рэч у гэтым пакоі была доказам велічы гэтых людзей, доказам велічы народа, які, нягледзячы ні на што, выжыў. Дасюль, нягледзячы ні на што, выжываў.

Але надпіс на крыжы быў вусцішны — выпушчаная праз стагоддзі парфянская страла. Івянецкага перасмыкнула, а цесны пакой, ледзь не пад столь запоўнены паперамі

ды артэфактамі, падаўся магільным склепам, і закруцілася — да зялёных колаў перад вачыма — у галаве. Ён, канечне, з сабою амаль адразу справіўся, каб прачытаць перакладзенае ўголас. Прачытаць — як цікавостку. Зірніце, маўляў, які забаўны надпіс. Голас, праўда, у Івянецкага задрыжаў, ды і сам ён, па-дзіцячы трохі, прагнуў падтрымкі і тлумачэння.

Бо акадэмік ведаў усё на свеце, ён мусіў разабрацца. Ад упэўненага голасу Вацлава Юстынавіча адразу рабілася лягчэй. Ластоўскі, разважлівы, разумны, кемлівы, умеў спраўляцца з любымі перашкодамі, пачынаючы ад праблем з фінансаваннем экспедыцый да насцярожанасці мясцовых. Ластоўскі быў рухавіком, нястомным сэрцам, якое жывіла дух экспедыцыі. Без ягонай няспыннай энергіі наўрад ці разварушылася б хоць нешта, наўрад ці было б выратавана ўсё багацце, зараз карпатліва сабранае ў гэтым пакоі і старанна апісанае для далейшага вывучэння і захавання.

Івянецкі не памыліўся: акадэмік, павярнуўшыся ў крэсле, мякка ўсміхнуўся і загаварыў супакойлівым, разважлівым тонам. Звыклая практыка, упэўнена казаў Вацлаў Юстынавіч, і светлыя вочы яго дабрадушна паблісквалі. На пячатках старажытных егіпецкіх магільнікаў таксама крэслілі праклёны тым, хто надумае абрабаваць мёртвых фараонаў. Бо калі злодзеям не стае звычайнай чалавечнасці, каб зразумець, што трывожыць вечны спакой нельга, дык хай хаця б застрашаць іх чары ды сурокі. Так і тут, з крыжам: калі чалавеку не стае розуму скеміць, што падобную рэліквію трэба берагчы, няхай дрыжыць ад жаху, баючыся гневу нябёсаў.

— Але для нас, Андрусь, справы зямныя зараз куды важнейшыя за нябёсныя. І Крыж, як і многае іншае, трэба захаваць ад хцівых дурняў. Трэба шанаваць усё гэта — бо гэта, Андрусь, наша гісторыя.

І ў Крыжа — таксама свая гісторыя. Даўняя, заблытаная. Крывавая. Яго вывозілі падчас даўніх ваенных навалаў — у Смаленск, у Маскву. Крыж вярнуўся на Радзіму толькі з Іванам Жахлівым, падчас няўдалага паходу таго на Вялікае Княства Літоўскае. Пасля перамогі Стэфана Баторыя Крыж быў перанесены ў Сафію — а праз некалькі стагоддзяў зноў схаваны ад ваеннай навалы. І зноў вярнуўся, як толькі адгрымеў 1812-ы.

— Зноў і зноў рознымі шляхамі вяртаўся на Радзіму, разумееш, Андрусь? Туды, дзе павінен быць. Заўсёды — вяртаўся.

Івянецкі слухаў захоплена і час ад часу згодна ківаў. Вацлаў Юстынавіч, як звычайна, меў рацыю. Усе гэтыя творы мастацтва належаць народу — усім беларусам, кожнаму з іх. З тых, хто жыў, хто жыве і яшчэ толькі будзе жыць, праз сотню, праз тысячу гадоў. І дзеля тых, наступных, новых, нельга, каб уся гэтая прыгажосць, увесь гэты агульны, слаўны, стагоддзямі спавіты народны гонар ляжаў дзесь у цёмных кутах, закінуты і аплецены павуціннем. Ці, яшчэ горш, быў прададзены кудысь за мяжу.

— ...тыя, хто не шануе гісторыі,— трохі нараспеў, быццам гутарыў сам з сабою, працягваў акадэмік, вяртаючыся да нататак,— тыя ні сябе, ні род свой, бацькоў і дзядоў, не шануюць і крыўдзяць увесь свой народ.

— Ваша праўда, Вацлаў Юстынавіч,— з лёгкім сэрцам пагадзіўся Івянецкі. Адклаў убок расшыфроўку і пераклад надпісаў на крыжы, слізгануў паглядам па ўліковых картках з пячаткамі БелАН і кучаравістымі подпісамі. Пасля, задуменна правёўшы рукою па светлых валасах, асцярожна спытаў: — Вацлаў Юстынавіч, а Крыж... яго пасля ўсяго... куды ўсё-такі?..

Яму меней за ўсё хацелася падацца Вацлаву Юстынавічу прымхлівым цемрашалам, але не спытаць было нельга.

«Крыж заўжды вяртаўся туды, дзе павінен быць»,— так сам Ластоўскі казаў.

Акадэмікава рука на імгненне замерла над паперай, пальцы мацней сціснулі аловак. Ёсць розныя меркаванні, гэтаксама асцярожна адказаў Ластоўскі. Розныя... прапановы. Незалежна ад прапановаў, аднак, усе згодныя, што зараз Крыж варта абараніць. Захаваць як найлепей, надзейна.

— То, значыць, усё-такі звязем яго? У Мінск?

— У музей,— глуха гукнуўся Вацлаў Юстынавіч, не паварочваючыся, а рука з алоўкам усё крэсліла нешта.

Івянецкі нават, дзеля цікаўнасці, выцягнуў шыю і трохі прыўзняўся на крэсле, каб зазірнуць акадэміку цераз плячо. І нічога асаблівага не пабачыў, нават расчараваўся: проста старыя будаўнічыя планы, паметы са сціслымі подпісамі. Акадэмік усё яшчэ вывучаў старыя планы Сафіі, выпадкам знойдзеныя ў мясцовым архіве.

Івянецкі працёр стомленыя вочы і падсунуў бліжэй скрынку з яшчэ не прагледжанымі карткамі: усё гэта да вечара трэба было ўнесці ў пратакол. Навязлівая муха, што немаведама якім чынам заляцела ў гэтае скляпенне, з ціхім гудам кружыла над чарніліцай. За вокнамі ціхутка ўздыхала слота, навяваючы сон, і Івянецкі, прыкрываючы даланёю рот, пазяхнуў, патрос галавою. Зноў паглядзеў на Крыж, на лагодныя пералівы перлін, на каляровыя выявы святых і анёлаў, на высакародны бляск металаў.

Крыж быў прыгожы. Неймаверна, неверагодна прыгожы. Не толькі каштоўнасцю сваёй або працаю майстра, але і старажытнасцю, амаль рэчыўным подыхам даўніны, што атачаў яго.

То быў сапраўдны скарб — скарб цэлага народа, святы не культавай святасцю, але святасцю нашых каранёў, повяззю аднаго з усімі і кожнага — з гісторыяй.

Калі на тое, раптам падумаў Івянецкі, дык нават і жыцця не шкада, каб гэтую святыню ўсім нам, усяму народу — вярнуць.

І любыя праклёны тут бяссільныя.

## 5.

Шыны таксі прашапацелі па пясчанай дарозе, патрывожыўшы зацягнутую зеленаватай плёнкай лужыну ў адной з каляін. Таксі спынілася перад перакошаным плотам, за якім буяў недагледжаны сад. Саду заўважна цесна было на ўчастку, і ўся здзічэлая без чалавечага догляду расліннасць настойліва спрабавала вылузацца, вызваліцца, выйсці за межы. Галіны яблынь, густа абсыпаныя квеценню, навальваліся на нягеглы плот зверху, і буяў бэз, і лезлі са шчылін разныя лісты і жоўтыя кветкі чыстацела. Тут жа блакітнымі агеньчыкамі свяціліся і зорачкі незабудак, амаль нябачныя ў высокай траве, і жоўтыя сонцы дзьмухаўцоў.

Дажджавыя хмары ветрам зносіла ўбок, праглядала па-весняму яркае сонца, дрыжала ў кроплях на павуцінні. Дзесьці ўнізе, ля ўзножжа пагоркаў, падавала голас рака, нябачная за поўсцю трыснягу ды зелянінаю вербаў.

— Райончик, конечно, глухой,— цокнуўшы языком, ацаніў таксіст, смуглаваты хлапец гадоў дваццаці пяці, пакуль Зініч расплачваўся.— Ни соседства, ничего. Хутор! Резать будут — не услышит никто.

І без усмешкі, з нечаканай вусцішнай сур’ёзнасцю спытаў:

— Может, вас подождать пока что?..

Зініч таргануў шчакою пад рэспіратарам і адмоўна пахітаў галавой. Яму ўсю паездку, пакуль таксіст разбіраўся з хітраспляценнямі завулкаў у навігатары, карцела

выбрацца з прапахлага таннымі цыгарэтамі і не дужа чыстага салона, дзе з дынамікаў бубніў шансон.

Таксіст звыкла пералічыў грошы і, гэтак жа звыкла кінуўшы абыякавае «всех благ», з'ехаў, і пажылы мерсэдэс хутка знік за зялёнымі зарасцямі. Зініч на дарозе перад шэрым, амаль паваленым плотам застаўся адзін. І падумаў, што раён і праўда глухі: сёмы завулак Міронавай пралягаў на водшыбе ад астатніх забудоў, ішоў трохі вышэй па схіле пагорка. З-за зарослага вербамі сырога яра, да паловы заваленага будаўнічым смеццем, паказваліся дахі ды антэны, а вось дамоў паблізу болей відаць не было. Калі, канечне, не лічыць пару паўразбураных і відавочна нежылых будынкаў у аддаленні, за хвалямі зараснікаў.

Зініч рашуча паправіў заплечнік на плячы, трасянуў валасамі — і рушыў уздоўж плота ўверх па схіле, да іржавай брамкі. Ідучы, парадаваўся, што ў дарогу абачліва апрануў цяжкія высокія боты на шнуроўцы — іначай адчуваў бы падэшвамі бязладна раскіданы гравій, аскепкі цэглы ды кафлі і проста незразумелае каменне.

Брамка, вакол якой радасна зелянела маладая крапіва, адчынілася ад лёгкага штуршка, зарыпела віскліва, нібы скардзячыся на няпростае жыццё. За брамкаю вузкая сцежка ў траве вяла да драўлянай будыніны пад шэрым шыферным дахам. Ганак жаўцеў аблезлымі бакамі з-за кустоўя бэзу, побач грувасціліся прыбудовы — перакошаныя хлеўчыкі ды паветкі. Выглядала ўсё безнадзейна занядбаным і нежылым, а вакно ў паддашку было разбітае і коса завешанае поліэтыленам, быццам бяльмом зацягнутае.

Трохі збянтэжаны такім пейзажам, Зініч падумаў быў, што смуглаваты таксіст наблытаў і завёз яго не туды, але на шэрай сцяне крыва вісела шыльда з адрасам. Таму

давялося, чартыхаючыся пад нос, ісці па вузкай сцежцы ў вільготнай траве, так што на ганак Зініч ускараскаўся, добра намачыўшы крысы паліто. Дошкі, таксама вільготныя, прагіналіся і ціха стагналі пад чалавечым цяжарам.

Гузік званка, на рамцы якога было чорным маркерам напісана імя Маслоўскага, маўчаў, не адгукаючыся на дотыкі. Зініч, павагаўшыся, кулаком пагрукаў у дзверы, гукнуў Алега па імені раз-другі. І толькі тады зразумеў, што падмоклая белая паперчына з расплывістаю пячаткай і крывым подпісам змацоўвае створкі дзвярэй не проста так. Зініч звёў бровы, адступіў на крок-два, збіраючыся з думкамі, перабіраючы ўсе магчымыя варыянты таго. Складваючы, як кавалачкі мазаікі, і паперчыну на дзвярах, і маўчанне Маслоўскага. Стала трохі ніякавата.

— А вы, маладзёж, хто?..— запыталі ў Зініча раптам, і ён ажно падскочыў на месцы. Павярнуў галаву на голас — і пабачыў, што на нізкі плот справа ад ганка абапіраецца локцямі пажылая жанчына. Тая глядзела круглымі блакітнымі вачыма з-пад насунутай на самыя бровы зялёненькай хусткі з іерогліфамі. За яе спінай быў куды больш дагледжаны сад, блакітны ганак з паркалёвай фіранкай у дзвярным праёме і гарод, дзе, ціха ступаючы лапкамі, хадзіла трохкалёрная пухнатая котка.

— Я... да Маслоўскага,— адказаў Зініч, кашлянуўшы, і спусціўся па дрогкіх прыступках ганка. Скеміў: у Алегавай маёмасці палова дома, значыць, гэта суседка. А суседзі часам шмат чаго цікавага заўважаюць.

— Да Маслоўскага-а? — недаверліва перапытала жанчына. Не кранаючыся з месца, патупала нагамі ў гумовых ботах, чамусьці зладзеявата азірнулася на ўласны ганак — і раптам перахрысцілася. Зініч непаразумела прыўзняў брыво.

— А вы разьві ні знаіці? — суседчыны вусны, падфарбаваныя ружовым, плаксіва скрывіліся.— Убілі жэ Алега Маслоўскага, заўчора ноч'ю, уродзе. Учыра утрам і міліцыя была, апічатала там усё, бумажкі ды такое разнае. Унь нас з Пітром Сімёнавічам этымі... панятнымі бралі.

— Панятымі,— механічна выправіў Зініч, унутрана халадзеючы.

Суседка заўважна ажывілася і заківала. Дакладна, панятымі. Цела, канечне, яны з Пятром Сямёнавічам не бачылі, дзякуй богу, але кроў паўсюль ды мэблю паламаную, і раскіданыя паперы, і люстра разбітае,— вось гэтае ўсё.

— А бумажак жа там у яго — страх сколька,— суседка нават галавою пакруціла, мабыць, асуджаючы.— За бумажкі, наверна, і застрэлілі беднага. І штукі нейкія ржавыі стаяць панацяганыі. Вот вы мне скажыце, пра пакойнікаў нільзя так, а ўсё раўно: ці будзіць нармальный чылавек разную драньз зямлі капаць і ў дом цягнуць? А?

Зініч варухнуў плячыма. Думалася адначасна пра ўсё адразу: пра архівы з кепскай гісторыяй, пра нядобрыя гульні, у якія ўляпаўся Маслоўскі. А па-над усім — пра сакавіты паспяховы артыкул, які зрабіць ужо не атрымаецца. І чамусьці гэты вось ненапісаны артыкул Зінічу было шкада болей, чым небараку Алега.

«Дарма і паехаў»,— змрочна думаў Зініч, бяссільна сціскаючы кулакі. А гаваркая суседка ўсё сакатала, радасна распавядаючы, які Маслоўскі быў змрочны і «нібыта не ўвесь тут» апошнім часам. Які зрабіўся ўзрадаваны яшчэ дні тры таму — усё хадзіў ды рукі паціраў, і ўсміхаўся. І яна, суседка, неяк не ўтрымалася, спытала: «Чагой-та ты, Алежак, вясёлы такі? Жэнішся нарэшце мо' ці ў латарэю выйграў?» А той засмяяўся толькі дый кажа: «Адзін Гаўрыла ў Полацку, цётка».

— Лунацік! — голасна прыпячатала суседка з веданнем справы, быццам дыягназ паставіла. І тут жа незадаволеным падазроным фальцэтам азваўся блакітны ганак:

— Галя! Ты там с кем это?

— Мужык мой,— панізіўшы голас, інтымна патлумачыла суседка. І крыкнула цераз плячо: — Ды пра Маслоўскага тут спрашываюць, Пітро Сімёнавіч.

— Про Масловского-то?..— здзівіўся фальцэт. На блакітны ганак, штурхануўшы дзверы, выйшаў высокі, трохі аццяжэлы ад гадоў мужчына ў сініх трэніках і расцягнутай белай майцы. Наблізіўся, пацціраючы голеную галаву, змерыў Зініча паглядам.

Зініч заўважыў на левым плячы Алегава суседа сіні якар і нейкія лічбы. Мабыць, былы марак, вырашыў Зініч.

— Пётр Семёнович,— мовіў марак, працягваючы цераз плот шырокую далонь. Потную гэтую далонь Зініч, назваўшыся, вымушана пацціснуў, і сусед энергічна патрос млявую ягоную руку ў сваёй.

— От эпидемии прячетесь? — весела спытаў Пятро Сямёнавіч, праводзячы перад носам і ротам рукой. Зініч, звёўшы бровы, паправіў рэспіратар і няпэўна пахітаў галавой.

Пакутліва хацелася вымыць рукі. Або, лепей, улезці пад гарачы душ.

— Такие вот, значит, дела,— Пятро Сямёнавіч падціснуў вусны і кіўком паказаў на Алегаву палову дома.— Был человек — и нету. Главное, чего ж его, блаженного, убивать-то. Ни денег, ничего. Да.

— А былі ж дзеньгі,— сказала раптам суседка. Пятро Сямёнавіч крэкнуў і зноў правёў рукою па голенай галаве, а ягоная жонка працягвала: — Былі. Ішчо ў срэду вірнуўся ўвесь такі шчаслівый. Доўг мне аддаў. Ціпер, кажыць, цётка, зажывём. Адзін, кажыць, Гаўрыла ў Полацку. А што за Гаўрыла-та такой? Эт!..

Ярка-ружовыя вусны яе таргануліся, і суседка, пацягнуўшы носам, пацерла куток вока рагом хусткі. Пятро Сямёнавіч паляпаў яе па плячы, шапянуў нешта на вуха і лёгенька падштурхнуў у бок блакітнага ганка. Суседка, усхліпваючы, пакорліва пакрочыла туды, а котка, згледзеўшы гаспадыню, тут жа пабегла, задраўшы хвост, за ёю.

— Женщина, что ж тут,— напаўголасу сказаў марак Зінічу, як бы апраўдваючыся, і нават рукамі развёў.— А вы Олежку вообще кто?

— С-сябар,— адказаў Зініч пасля кароткай паўзы. Сам не ведаў, як бы сябе назваць, як акрэсліць іх з Алегам перарваныя гадамі ўзаеміны, і не дужа дарэчнае слова вырвалася само па сабе.

— Сочувствуем,— сказаў Пятро Сямёнавіч, зморшчыўшы твар — мабыць, усімі сіламі спрабуючы выказаць належнае спачуванне. Зініч паківаў і пакасіўся на апячатаныя дзверы. Калі тыя «бумажкі», пра якія згадвала суседка, былі Алегавым выключным архівам, значыць, як мінімум частка папер усё яшчэ там. Нават калі тыя, што прыходзілі па Алегаву душу, забралі нешта асабліва для іх каштоўнае, па рэшце дакументаў можна зрабіць такія-сякія высновы.

— Такие вот, значит, дела,— паўтарыў Пятро Сямёнавіч. Змерыў Зініча вачыма, варухнуў касматымі бровамі.— А вы, значит, из столицы будете?

— Так,— безуважна гукнуўся Зініч. Зноў паглядзеў на жоўты ганак з мёртвым званком і расплывістай ад вільгаці пячаткай на дзвярах.

Марак прасачыў яго пагляд і быццам гукнуўся на думкі:

— Вы, может, договаривались с Олежком, чтоб он вам что нашёл или там привёз?..

Тон быў трохі дзіўны — нават голас змяніўся: стаў на паўтона цішэйшы, з ліслівымі ноткамі. І ў вачах у марака нешта новае з'явілася, быццам агеньчык унутры запалілі.

— А што,— асцярожна спытаў Зініч, адводзячы позірк: чамусь непрыемна было глядзець у вочы з такім галодным агеньчыкам,— часта з Маслоўскім вось так... дамаўляліся?

Марак пацiснуў мажнымі плячыма.

— Бывало,— адказаў расплывіста, і рот у яго крывіўся ў непрыемнай усмешачцы.— А вы... как вас, простите? Константин? Вы, Костя, к участковому нашему сходите. Ну, если в доме там что... ваше. Участковый опечатал, так ведь он и распечатать может. Если договориться. Да.

Зініч схадзіць паабяцаў, і задаволены Пятро Сямёнавіч, зноў сціснуўшы ягоную руку ў сваёй, перавальваючыся пайшоў за жонкай. Зініч змрочна глядзеў на шырокую спіну ў белай расцягнутай майцы, ажно пакуль тая не знікла за паркалёвай фіранкаю.

— Дзіўна,— прамармытаў Зініч.

Яго трохі насцярожылі рэзкія перамены ў суседзе: і няшчырая ўсмешачка, і хціvы агеньчык у вачах, і ліслівы тон. Ён, на хаду дастаючы з кішэні смартфон, каб выклікаць таксі, прамінуў аблезлы ганак Маслоўскага. Але, раптоўна адчуўшы, як жаласна хруснула нешта пад падэшваю цяжкога шнураванага бота, спыніўся, апусціўся на кукішкі, абцёр наліплы на нешта гладкае бруд.

Глыбока ўціснуты ў вільготную зямлю, пад пальцамі Зініча цьмяна бліснуў метал.

## 6.

Паверх быў пяты, прыступкі высокія, і на самым версе ў Алега збілася-такі дыханне. Ён спыніўся, абапіраючыся адной рукою на парэнчы, перавёў дух. Прыслухаўся — і пачуў, як пазваньвае за вокнамі пад’езда

красавіцкі дождж, як усхліпваюць рыны жоўтай сталінкі ў сэрцы Мінска.

Да дзвярэй Маслоўскі наблізіўся не без хвалявання. Ведаў, што пра сустрэчу нібыта дамовіліся, а ўсё адно не мог стрымаць дрыготку. Гаспадыня кватэры разы тры пераносіла сустрэчу: то перадумвала, і трэба было зноў яе пераконваць, то была на лецішчы, то хварэла. «Старыя часта хварэюць»,— глуха сказала яна ў апошнюю тэлефонную размову і раскашлялася, як бы пацвярджаючы ўласныя словы.

Алег пазваніў. За пыльнымі дзвярыма з пацёкамі пабелкі (мабыць, падчас рамонту ў пад'ездзе не было каму прыкрыць іх плёнкаю ці прасцінамі) раскаціўся салаўіны пошчак. «Іду, іду»,— гэта наўздагон пошчаку, і пакрэхтванне, і цяжкія крокі. У чэраве замка нешта пстрыкнула — і дзверы расчыніліся. На Алега павеяла цёплым цяжкім паветрам з кіславатым пахам, як звычайна бывае ў кепска праветраных памяшканнях.

Гаспадыня стаяла перад ім, хутаючыся ў рудую вязаную кофту. Невысокая, пухлаватая, з абвіслымі шчокамі, з баразнамі зморшчак на хваравітым, зямлістага колеру твары. Вочы былі светла-блакітныя, мутнаватыя, глядзелі прыязна.

— Людміла Андрэеўна?..— спытаў Алег, нерашуча перамінаючыся з нагі на нагу. Гаспадыня нахіліла галаву.

— А вы — Маслоўскі? Гісторык? — звузіла вочы з сумневам.

— Так,— адказаў Алег, кашлянуўшы. Тэлефануючы Людміле Андрэеўне, ён асабліва не ўдаваўся ў падрабязнасці, распавядаючы пра сябе. І па адукацыі, калі на тое, ён сапраўды быў гісторыкам. Так што хлусня была быццам бы і не хлусня, а — паўпраўда.

Але на душы ўсё адно было моташна. Быццам, недагаворваючы гэтай хворай старой, ён здзяйсняў злачынства.

— Праходзьце,— Людміла Андрэеўна зрабіла крок назад. За яе плячом паказалася кепска асветленая вітальня з брудназатым дываном, вялікім вазонам з саламянымі кветкамі на круглым століку ў куце і пузатаю шафай. Збоку з прачыненых белых дзвярэй з мутным шклом прабівалася дзённае святло і вуркатанне тэлевізара.

Алег пашоргаў падэшвамі па вільготнай анучы ля ўваходу, ступіў на дыван, аглядаючыся. На выцвілых шпалерах злева ад дзвярэй вісела вялікае люстра, і ў ім Алег сустрэўся з уласным адбіткам: бледным, растрапаным і трохі ўспуджаным, у зацёртай скуранцы ды старых джынсах. Алег паправіў торбу на плячы і пакорліва пацягнуўся на голас гаспадыні, якая паспела размыцца ў глыбіні калідора і грымела посудам.

Направа па калідоры была досыць прасторная кухня. Тут насвістваў чайнік, ад парцалянавага імбрычка патыхала бергамотам, а на стале, засцеленым заплямленым абрусам, стаяла міса з печывам.

— Сядайце,— запрасіла гаспадыня.

Алег прысеў на адно з крэслаў ля стала, кінуўшы цяжкую торбу на падлогу. Людміла Андрэеўна, трохі кульгаючы, паварочвалася на кухні, даставала з палічак надколатыя кубкі з ружовымі кветачкамі. За вакном, за падваконнем, заваленым старымі пажоўклымі газетамі, кнігамі ды каробачкамі з-пад лекаў, уздыхалі пад імжачкай старыя каштаны.

На сцяне над сталом месціліся рамкі з малюнкамі: спрэс нейкія цэркаўкі ды касцёлы, часам кветкі і хаткі, колькі замкаў. На бліжніх да сябе малюнках Алег адразу ж пазнаў вежу Наваградскага замка і полацкую Сафію. Намалявана было з густам, хаця і не дужа ўпэўненай рукой аматара.

— Муж захапляўся,— сцісла патлумачыла Людміла Андрэеўна, ставячы на стол перад Алегам вымыты кубак.

Алег паківаў, назіраючы, як ліецца гарбата і кіпень. Гаспадыня, грукнуўшы чайнік на пліту, пакрэхтваючы, сама села за стол насупраць госця — роўна, не абапіраючыся на спінку крэсла. Паглядзела бляклымі блакітнымі вачыма пытальна, трасянула валасамі, фарбаванымі хною.

— Вы хацелі са мною сустрэцца,— мовіла строга, не пытаючыся, але сцвярджаючы. Алег праглынуў шорсткі камяк у горле.

— Хацеў,— адгукнуўся.— Людміла Андрэеўна, я...

— Вы сцвярджаеце,— працягвала гаспадыня, асабліва на яго не зважаючы,— быццам да вас трапілі некаторыя паперы, датычныя майго бацькі і экспедыцый БелАН, у якіх ён у свой час удзельнічаў.

— Менавіта,— уставіў Алег. Гаспадыня пажавала вусны, гледзячы ў свой кубак з гарбатай.

— Пэўны час таму,— сказала,— да мяне ўжо прыходзілі маладыя людзі, зацікаўленыя ў экспедыцыях БелАН. Нават прапаноўвалі грошы за карысную інфармацыю. Карысную для іх, зразумела.

Алег заўважыў, як грэбліва крывяцца бледныя вусны Людмілы Андрэеўны, і паспяшаўся загаварыць:

— Я не... разумееце, я не з тых. Не ад тых, кім бы яны ні былі. Я хутчэй незалежны даследчык. І... і мне падаецца, што менавіта ваш бацька мог ведаць месцазнаходжанне...

Голас у Алега зламаўся ад хвалявання. Гаспадыня ўсміхнулася — самымі куточкамі рота.

— Падобнае меркаванне,— адказала яна, чаканячы словы,— было і ў следчых, якія майго бацьку арыштавалі. Першы раз, у трыццаць першым, і другі, у трыццаць сёмым. Але бацька мой быў у выніку рэабілітаваны. Значыць, меркаванне ў следчых было ўсё-такі памылковае. Як вам падаецца, спадар гісторык?..

На колькі хвілін на кухні павісла цішыня. Толькі чуваць было, як кроплі са слязлівага старога крана раз-пораз б'юцца аб металічную мойку.

— Людміла Андрэеўна,— сказаў Алег ціха,— калі ласка, паверце мне. Я некалькі гадоў жыцця ўклаў ува ўсё гэта. Я не для сябе хачу завяршыць гэтыя росшукі, разумееце?

— А для каго ж тады? — халодна пацікавілася гаспадыня. Скрыжавала рукі на грудзях, як бы абараняючыся, і пагляд бляклых блакітных вачэй зрабіўся калючым, амаль варожым.

— Для... людзей,— адказаў Алег.— У нас жа амаль нічога няма. Такога, што звязвала б з даўнінай. А гэта — сімвал. Наш сімвал.

— Страчаны сімвал,— выправіла гаспадыня.— Вывезены ў сорак першым і згублены падчас Вялікай Айчыннай.

Алег тарганиуў ротам і палез пад стол, каб пакорпацца ў торбе. Выцягнуў адтуль пластыкавую тэчку з паперамі, паклаў паміж некранутых кубкаў з гарбатай.

— Гэта — што?..

— Пратаколы допытаў,— адказаў Алег і, заўважыўшы, як гаспадыню перасмыкнула, таропка дадаў: — Некаторыя толькі, не ўсе, не ўсе. З тых, што да мяне трапілі. А яшчэ...

Ён асцярожна пацягнуў колькі аркушаў з сярэдзіны на сябе. Гаспадыня сачыла за ім уважліва, хаця і недаверліва. Дастала з кішэні рудой кофты акуляры, адна дужка якіх была абматана скотчам. Алег падсунуў выцягнутыя паперы бліжэй да яе, пільна ўглядаючыся ў гаспадынін твар. Заўважыў, як тая варухнула сівымі бровамі, прачытаўшы колькі радкоў нататак неразборлівым кучаравістым почыркам. Як, ажывіўшыся і нібы трохі памаладзеўшы, рэзка перагарнула адну, другую старонку, як дрыготкай рукой асцярожна кранулася подпіса — колькі завіткоў і

росчырк — у самым нізе, пад прозвішчам з ініцыяламі і датай.

— Гэта вопіс, створаны вашым бацькам у 1928 годзе,— зноў загаварыў Алег.— І, мяркуючы па ўсім, ваш бацька тады сапраўды трымаў у руках крыж Еўфрасінні Полацкай. Але ў пратаколе 1931 года...— Алег жэстам фокусніка выцягнуў з тэчкі старонку машынапісу.— У 1931 годзе следчы на допыце настойваў на неадпаведнасці першага вопісу і пазнейшых, у тым ліку і зробленага Ластоўскім.

— Errare humanum est,— гаспадыня паціснула плячыма.— Хтосьці мог і памыліцца: ці Ластоўскі, ці бацька.

— Маглі,— рахмана пагадзіўся Алег.— Яшчэ як маглі. І мне падаецца, што памыліўся менавіта Ластоўскі. Прычым наўмысна.

— Вось як? — гаспадыня акуратна склала акуляры і вярнула іх у кішэню. Зямлісты твар яе зноў зрабіўся застылым і абыякавым — зморшчаным, замучаным тварам хворай жанчыны за восемдзесят.

— Я ўпэўнены, Людміла Андрэеўна,— працягваў Алег, і голас у яго зноў задрыжаў,— я ўпэўнены, што крыж, які выправіўся ў пакой-сейф у Магілёве, а можа быць, і той, які экспедыцыя адвезла ў Мінск, быў копіяй. Па-майстэрску зробленай, дарагой — але ўсяго толькі копіяй.

Рукі ў Алега скаланаліся ад дробнай дрыготкі, а спіна пад скуранкай узмакрэла. Ён адкінуў з твару светлыя валасы і пытальна, з напружаным чаканнем зірнуў на гаспадыню.

— А дзе ж тады сапраўдны Крыж? — спытала тая спакойна.

— Я... не ведаю,— адказаў Алег, хмурачыся.— Пакуль яшчэ не ведаю дакладна. Нешта не сходзіцца. Не стае кавалкаў мазаікі. Але Крыж — у Полацку. Недзе ў Полацку. Схаваны ад хцівых вачэй і брудных рук.

— А вашыя рукі — чыстыя, спадар Маслоўскі?

Тон быў з'едлівы, і Алег прыкусіў язык.

— Не самыя чыстыя, калі на тое,— адказаў змрочна, паціраючы шчаку з трохдзённым шчаціннем.— Я... Людміла Андрэеўна, я вам нахлусіў. Даруйце. Я не з Акадэміі. Гісторык, праўда, але не з АН. Але паверце: Крыж я шукаю не па нечай замове. І прадаваць яго не збіраюся. Спадчынай цэлага народа не гандлююць.

Ён выціснуў з сябе апошнюю фразу з гарачымі ад сораму шчокамі — і пакутліва адчуў уласную бездапаможнасць. Ён дужа спадзяваўся на гэтую сустрэчу, настойліва дамагаўся яе недзе з месяц. Бо дачка таго самага Івянецкага проста павінна была ведаць нешта карыснае. Але цяпер, нават калі і ведае, наўрад ці падзеліцца. Не верыць яму старая — і наўрад ці паверыць. А значыць, мазаіка з фактаў так і застанецца не складзенай.

Крыж, які, падавалася, быў зусім побач, выслізгваў з ягоных рук.

— Вы з Полацка? — раптам спытала Людміла Андрэеўна.

Алег кіўнуў, не падымаючы на яе вачэй.

— Бацька мой з Полаччыны,— сказала гаспадыня, і голас у яе заўважна пацяплеў.— Вёска Бяздзедавічы. Забаўная назва, праўда?

Алег зірнуў на Людмілу Андрэеўну пытальна, а яна няўклюдна, у тры прыёмы паднялася з крэсла, закашлялася, ледзь не напалам склаўшыся. Кіўнула Алегу.

— Хадзем, спадар Маслоўскі.

Пайшлі па калідоры ў вітальню, адтуль — за зашклёныя дзверы пакоя, дзе мармытаў тэлевізар. Над працёрнутай канапай сох велічэзны фікус, герані свяціліся чырвонымі і белымі кветкамі на падвоконнях. Гаспадыня прашаркала да савецкай сценкі, дзе за шклом цьмянелі сервізы,

павярнула ключык у адной з шуфляд. Выцягнула вялікую шкатулку з узорамі з саломкі, якія збольшага абсыпаліся, дабрыла да канапы і цяжка села, ажно адгукнуліся спружыны. Алег апусціўся на канапу побач, назіраючы, як рукі гаспадыні перабіраюць старыя паштоўкі ды лісты, білеты ды этыкеткі.

Пад усімі гэтымі паперчынамі, прапахлымі пылам і ўспамінамі, аказаўся зашорганы канверт з сіняй паперы, і на ім Алег згледзеў знаёмы кучаравісты почырк. Людміла Андрэеўна, асцярожна, з любасцю вынуўшы канверт, працягнула яго Алегу. Той разгублена ўзяў канверт — нечакана цяжкі, падпухлы ўнізе, з яўна не папяровым змесцівам. Прачытаў касаваты надпіс на канверце ўголас:

— А... адзін Гаўрыла ў Полацку.

І, чамусьці перайшоўшы на шэпт, спытаў у гаспадыні:

— А гэта — што?..

Людміла Андрэеўна мякка ўсміхнулася самымі куткамі роту.

— Бацька казаў,— мовіла,— гэта — ключ.

## 7.

У цеснай кавярні ў супермаркеце было пуставата. Пакупнікі ў гандлёвую залу смела ішлі без масак, а аднаразовыя пальчаткі на ўваходзе калі і бралі, дык напіхваючы ў кішэні «на запас». Але кавярні ўпарта пазбягалі, і маладзенькая прадавачка за прылаўкам з кексамі ды піражнымі заўважна нудзілася, пазяхала ды тыцкала пальцам у экран смартфона.

Апроч Зініча, які ўладкаваўся як мага далей ад усіх за чырвонаю барнай стойкай ля доўгага, ва ўсю сцяну вакна, тут было толькі некалькі віскілвых школьніц, што шап-

таліся за сталом ля ўваходу. Яны амаль не перашкаджалі сядзець над кубкам кепскаватай кавы і думаць.

А думаць было пра што. Смерць Маслоўскага, архіў з дакументамі БелАН і пратаколамі НКУС, які збольшага застаўся ў апячатаным доме, дзіўнаватыя суседзі Алега — усё гэта перамяшалася ў адзін ліпкі, непрыемны камяк. Зініч хмурыўся, бо ніяк не мог зразумець, як да ўсяго гэтага падступіцца, і думка плюнуць на ўсе гэтыя мутныя справы ды з'ехаць назад у Мінск падавалася ўсё болей і болей спакуслівай.

Зініч выцягнуў з кішэні ключ, знойдзены каля ганка Маслоўскага. Быў ён важкі, з серабрыстага, трохі кранутага іржою металу, з доўгім, у сантыметраў дзесяць, вітым стрыжнем і мудрагелістай бародкай. А вось галоўка ключа была самая простая: плоскае кольца, сцёртае часам і дотыкамі.

Адчуваць цяжар ключа ў руцэ было надзіва прыемна, і нешта супакойлівае было ў самім пабліскванні металу. На кольцы Зініч разабраў глыбока выбітыя літары «ANNO 1760 JKG» і з сумневам узважваў ключ на руцэ, вагаючыся, ці верыць гэтаму надпісу. Для ключа васямнаццатага стагоддзя метал параўнальна хораша захаваўся, а яшчэ не давалі спакою ініцыялы пасля года. Зініч рассеяна пацёр скронь. На імгненне падалося, быццам загадка ініцыялаў побач з гэтаю датай можа мець адзінае правільнае рашэнне і рашэнне гэтае Зінічу вядома. Але думка не давалася, унікала, Зініч раздражняўся ўсё болей і болей і, схаваўшы назад у кішэню загадкавы ключ, нервова забарабаніў пальцамі па барнай стойцы.

І амаль адразу ж спахапіўся. Стойку каля сябе ён, яшчэ не сеўшы, працёр вільготнымі сурвэткамі. Але яна па-ранейшаму падавалася бруднай, і не атрымлівалася прымусіць сябе ссунуць рэспіратар і зрабіць хаця б адзін глыток

кавы. Зініч тут жа прыгадаў, што прадавачка, якая была адначасна афіцыянткай і кавяркай, звонка чхнула, калі ён уваходзіў, і адсунуў ад сябе некрануты папяровы кубачак.

Школьніцы захіхікалі грамчэй, Зініч незадаволена пакасіўся на іх. Пабачыў мімаходзь, як напіраюць на прылавак двое мажных мужчын. Патыліца з апаплексічнай складкай і цеснаватая шэрая куртка аднаго чамусьці падаліся знаёмымі, і ад гэтага пазнавання на душы стала трывожна.

— Лухта,— прамармытаў Зініч, вяртаючыся да сваёй астылай кавы. Адчуваў, як заходзіцца сэрца, і злаваўся сам на сябе за гэтую недарэчную трывогу.— Так хутка ўласнага цēню пачнеш баяцца.

Ён трасянуў валасамі і стаў глядзець на вуліцу: колькі кіёскаў з кавай і марожаным, паркоўка, дзьмухаўцы на газоне з пратаптанымі сцежкамі. Над шматпавярховікамі па той бок ажыўленай вуліцы збіраліся хмары ўсіх адценняў сіняга, несучы дождж, а можа, і навальніцу. Зініч утаропіўся ў гэтыя хмарныя хвалі — і адчуваў, камянеючы, непрыязныя ўважлівыя позіркі на сваёй спіне. А павярнуць галаву і ўпэўніцца, што мэтанакіравана сочаць, назіраюць за ім, не было як. Не ставала духу.

— Яны па тваю душу прыйшлі,— сказалі побач.

Зініч скасіў вочы ўлева, дзе толькі што нікога не было, і пабачыў дзяўчо гадоў дваццаці з лішкам. Белы, нібы бяскроўны тварык быў змрачнаваты, а куткі вуснаў, падмаляваных моднай цёмнай памадай, адцягваліся ўніз.

— Па тваю душу,— паўтарыла дзяўчо, папраўляючы каўнер чорнай скуранкі, і не без задавальнення адпіла кавы са свайго кубка.

Зініч акінуў яе паглядам — худую, стрыжаную, у простай белай цішотцы, запраўленай у джынсы, у стаптаных кедах. Зачапіўся за радзімку над вуснамі: яна раптам на-

гадала пра першае школьнае каханне, недасяжную Віку Карабан. Але гэтае вуглаватае змрочнае дзяўчо да прыгажуні Вікі падобна было мала, так сабе, звычайнае брыдкае качаня, якіх шмат.

Іншая справа — як гэтае брыдкае качаня настолькі ціха падсела да яго? І — навошта падсела ўвогуле? Занепакоены, Зініч інстынктыўна падаўся ўбок. Дзяўчо гэты ягоны рух заўважыла і насмешліва чмыхнула.

— Ты не мяне бойся,— мовіла. І дадала, нязмушана паказваючы вялікім пальцам сабе за спіну: — Ты вось іх лепей бойся.

— Лухта,— пахмурна працадзіў Зініч скрозь зубы.— Параноя. Я нічога такога не зрабіў. Толькі начытаўся пратаколаў з допытаў НКУС і ўразіўся весткамі пра забойства Маслоўскага. Я... нічога не зрабіў.

Ён мацней сціснуў пальцы на папяровым кубку з кавай — каб не адчуваць, як дрыжаць рукі.

— А калі справа зусім не ў тым, што ты зрабіў? — спытала няўмольнае дзяўчо.— А ў тым, што пабачыў? У тым, што ведаеш?

Але я нічога не ведаю, падумаў Зініч, халадзеючы. Я нічога не ведаю, апроч тых скупых звестак, якімі падзяліўся Маслоўскі. Апроч змесціва пары сканаваных дакументаў. Вось, уласна, і ўсё. Дзеля чаго тут могуць быць нейкія шпіёнскія гульні? Лухта, лухта.

— А ключ? — спытала навязлівае дзяўчо.

«Ключ, ключ»,— затахкала ў скронях у Зініча. Сапраўды, ключ. Не варта было падымаць. Можа быць, забойцы Алега цягнулі нешта з дома, паперы там ці яшчэ штось. І ў цемры пад начным дажджом недагледзелі, згубілі, затапталі ў бруд. А ён, Зініч, выпадкова наторкнуўся, знайшоў. Можа быць, штука сапраўды васямнаццатага стагоддзя. Каштоўная. Ці — адмыкае нешта каштоўнае.

І зараз гэтыя — хто яны ўвогуле? — прагнуць адабраць. Ці, яшчэ горш, думаюць, быццам Зініч забраў ключ наўмысна, ведаючы, для чаго ён патрэбны, што адчыняе. А калі Зініч ведае — значыць, лішні сведка.

Лішнія сведкі доўга не жывуць, як вядома. Маслоўскага, можа, якраз праз гэты кляты ключ і застрэлілі.

— Лухта,— прасіпеў Зініч.

Сапраўды, лухта. Параноя. Што замінае дваім плячыстым дзядзькам проста зайсці ў кавярню? Проста зайсці, бо захацелася? Захацелі — і зайшлі капучына выпіць. Сапраўды, чаму такія вось суровыя мужыкі не маюць права выпіць кавы з малочнай пенкай? Гендэрныя стэрэатыпы.

Але ў скронях па-ранейшаму тахкала, ужо з ледзяною, страшнаю ўпэўненасцю: «Ключ, ключ, ключ!»

— А ты вазьмі дый правер,— прапанавала дзяўчо, легкадумна боўтаючы нагамі.— Выйдзі зараз. Калі за табою ўвяжуцца — будзеш ведаць дакладна.

— Т-так,— пагадзіўся Зініч.

Саскочыў з барнага крэсла, прыхапіў заплечнік. Папраўляючы рэспіратар, асцярожна павярнуў галаву ўбок, на бліжні столік. Скалануўся, бо адразу ж натыркнуўся на два цяжкія пагляды над кубкамі з капучына. Пагляды, праўда, тут жа далі нырца ў каву, але факт заставаўся фактам: за Зінічам назіралі, і досыць уважліва.

Зініч на ватных нагах пайшоў да выхаду. І ўжо ў дзвярах кавярні пачуў, як металічныя ножкі крэслаў скрыгочуць па светлай плітцы. Значыць, тыя, што назіралі, падняліся з месцаў. Гэта магло быць супадзеннем, канечне,— але магло і не быць. Зініч зрабіў яшчэ пару лунатычных крокаў наперад, а пасля рушыў амаль подбегам паўз кіёск з сухафруктамі, крамкі з посудам, спартыўным інвентаром, цацкамі. Слепа наляцеў на сямейную пару, нагружаную пакетамі з прадуктамі, спатыкнуўся аб самакат

нейкай саплівай малечы — і праз аўтаматычныя дзверы паспешліва выкаціўся на вуліцу.

Хмары, што неслі дождж над шматпавярховікамі, наблізіліся, плылі, падавалася, зусім нізка. Пырснула збоку рэзкім белым святлом, у твар Зінічу ўдарыла халодным ветрам. Над панэльнымі шматпавярховікамі, над гандлёвым цэнтрам, над бэзам у палісадах пракаціўся грукат — быццам неслася па хмарах агромністая калясніца. Зініч перавёў дыханне і рушыў наўздагад — наперад, усё адно куды, абы хутчэй і далей. Стрымгалоў прабег пад аркаю, што лучыла дамы, а насустрач яму несліся, павіскваючы і ўкрываючы галовы рукамі, дзеці з турнікоў, пясочніц ды лавачак:

— Ливень, ливень!..

І лівень сапраўды сыпануў. Ліў сцяною, біў цяжкімі кроплямі, быццам кулямі. На адным з балконаў жанчына таропка здымала бялізну, а тая рвалася з яе рук, нібы прагнула ўзвіцца ў хмарнае неба.

Зініч дазволіў сабе прыпыніцца толькі хвілін праз пятнаццаць. Нырнуў у цёмнае чэрава аркі побач з шэрымі дзвярыма нейкага пад'езда — мабыць, колішнім праходам да заваранага смеццеправода. Тут брыдотна смярдзела смеццем ды мачою, але Зініч, стрымліваючы рвотныя позывы, адступіў трохі далей, туды, куды святло навальнічнага дня не дацягвалася. У рэспіратары аддыхацца было цяжкавата, галава трохі круцілася, але Зініч замёр на месцы, чакальна гледзячы на асветлены прастакутнік аркі, за якім бушавала залева.

Зноў бліснула, зноў пакаціліся грымоты. За турнікамі і прыпаркаванымі машынамі Зініч згледзеў знаёмую шэрую куртку — і зніякавеў. Яго, падобна, і праўда шукалі, і ён, нерухомы ад вусцішы, пабачыў у рэзкім святле новай маланкі, як двое з кавярні трушком прабеглі паўз ягоную хованку.

— ...да не мог он далеко уйти,— глуха данеслася з-за дажджу.— Никуда не денется, сволота столичная.

Галасы і цяжкія крокі, аднак, хутка сціхлі, і Зініч, застаўшыся сам-насам са смуродам ды ліўнем, прыхінуўся спінаю да цаглянай кладкі і павольна споўз па ёй уніз. Седзячы на кукішках, бяздумна выцягнуў з кішэні ключ, правёў дрогкім пальцам па кольцы з выбітымі на ім лічбамі і літарамі. «У што ж ты мяне ўцягнуў, Алег,— думаў Зініч.— У што ты сам улез — і, галоўнае, дзеля чаго?..»

Прыгадалася раптам, як яны з Маслоўскім, яшчэ зусім зялёныя студэнты, учарашнія школьнікі, марылі зрабіць грандыёзныя адкрыцці. Зрабіцца не проста гісторыкамі, а слыннымі навукоўцамі, абавязкова дактарамі навук ды прафесарамі. Здзейсніць нешта сапраўды вартае. Для ўсіх, для кожнага аднолькава вартае і важнае. Каб пасля — Зборы твораў на некалькі кніжных шафаў, каб імёнамі цэнтральныя вуліцы ў некалькіх гарадах названыя.

— ...лухта,— скрушна прамовіў Зініч, сціскаючы ў кулаку важкі ключ. Не будзе для іх з Алегам ні прафесарства, ні таўшчэзных тамоў з залатымі літарамі. Для Маслоўскага і ўвогуле нічога болей не будзе. А колькі спадзяванняў меў — унь нават суседка згадвала, быццам надзвычай вясёлы быў апошнім часам.

Зноў усплыла думка кінуць тут усё і з’ехаць у Мінск. Да д’ябла Алега з ягонымі таямніцамі, з усімі гэтымі паперамі ды ключамі, з забойствамі і пагонямі — быццам з кепскага дэтэктыўнага рамана. У Зініча ёсць неблагая праца і высветленая, прадвызначаная надалей будучыня. А падстаўляць уласную шыю дзеля сумніўнай радасці выкапаць у паперах Маслоўскага хай сабе і сенсацыйны матэрыял — такое сабе задавальненне.

Але — меркаваў сам сабе Зініч — з іншага боку, калі Алег так за нешта ўхапіўся, калі дзеля гэтага нечага нават

жыццём ахвяраваў, значыць, рэч сапраўды вартая. Можа быць, якраз з тых грандыёзных рэчаў, пра якія яны марылі студэнтамі. Вось яна, побач, нават ключ да яе ёсць — толькі руку працягні. У Алега ўжо не атрымаецца, але ў Зініча — можа. Дзеля іх абодвух. Не цяперашніх нават, але тых колішніх, зялёных і натхнёных. Дзеля супольнай колішняй прагі зрабіць хоць нешта вартае.

Зініч павольна выпрастаўся, усё яшчэ сціскаючы ў кулаку ключ. Навальніца патроху сыходзіла, адкатвалася ўбок, да новых будоўляў. Лівень паступова сцішваўся, і, перакрываючы смурод цёмнай хованкі, пераможна разліваўся вакол салодкі бэзавы водар.

Цяжар ключа ў руцэ быў супакойлівы і надзейны.

## 8.

Гэта была загадка. Задачка. Рэбус.

І адначасна — ключ. Да Крыжа.

Зразумела, што Івянецкі з цэлага шэрагу прычын не мог напісаць адкрыта. Але намёк павінен быў пакінуць параўнальна празрысты — іначай не называў бы канверт з ягоным змесцівам «ключом», ці не праўда?

Акадэмік Ластоўскі мусіў падмяніць Крыж, пакуль была такая магчымасць. Бо хто-хто, а ён не мог не ведаць, які лёс чакаў народную святыню: прызнанне «аб’ектам недастатковай мастацкай вартасці» і продаж дзяржаваю на Захад разам з тысячамі іншых рэквізаваных артэфактаў. Яны, удзельнікі той экспедыцыі, добра ведалі пра гэта — і вырашылі схаваць Крыж.

Падпёршы галаву рукамі, Алег сядзеў за сталом ля вакна, абліты з аднаго боку ўтульным святлом лямпы. Пацепваў плячыма ў мятай сіняй цішотцы, прытупваў босымі нагамі. Пакусваючы аловак, па даўняй звычцы запісваў

сёе-тое ў нататнік. Словы «Адзін Гаўрыла ў Полацку» патроху абрасталі завіткамі ды ўзорамі, чалавечымі профілямі. Гарбата ў вялікім кубку, зарослым карычневатым налётам, даўно астыла, зацягнулася плёначкай. За вокнамі кустоўе бэзу, касабокія хлеўчыкі, нягеглы плот, зарослы нахабнымі дзьмухаўцамі,— усё патроху ўкрылася змрокам.

У сінім канверце, які Алег пару дзён таму атрымаў ад Людмілы Андрэеўны, ляжаў цяжкі ключ з серабрыстага металу, ледзь кранутага ржой. Алег, з лупаю ўважліва вывучыўшы бародку і кольца з надпісам, прыйшоў да высновы, што дата, выбітая на метале, не хлусіць: то быў сапраўдны ключ васямнаццатага стагоддзя, не падробка, не копія.

Ключ ад тайніка, дзе — Алег болей не сумняваўся — амаль сотню гадоў спачываў Крыж, быў у ягоных руках. Літаральна. Адно што месцазнаходжанне тайніка па-ранейшаму заставалася загадкай.

Алег шумна выдыхнуў, аберуч ускудлачыў светлыя валасы і зноў узяўся за канверт. Той, складзены з прамакальнай паперы, верагодна, самаробны, быў трохі шурпаты, пацёрты і выцвілы на згібах. Почырк на канверце быў почыркам Івянецкага — у гэтым Алег быў упэўнены: за час працы з адшуканым архівам добра вывучыў кожную літару.

— Адзін Гаўрыла ў Полацку,— прагаварыў Алег задуменна. На чарговым завітку грыфель алоўка не вытрымаў націску і падламіўся, паставіўшы тлустую кропку на старонцы. Алег, вылаяўшыся, раздражнёна адшпурнуў нявінны аловак прэч і абяссілена адкінуўся на спінку крэсла.

Страўнік шумна нагадаў пра сябе. Алег, паціраючы зарослае падбароддзе, паспрабаваў прыгадаць, калі апошні раз еў, і не здолеў. Падняўся на ногі, адчуваючы, як смыляць здранцвелыя мышцы: ён заседзеўся за сталом да глыбокай ночы. Крэкнуўшы, Маслоўскі зрабіў каля стала

колькі хрусткіх прысяданняў, пацягнуўся салодка, да храбусцення костак. Галава ацяжэла ад доўгай працы, ленавата варочаліся думкі. Алег шырока пазяхнуў, паціраючы шыю. Мутна паглядзеў на раскладзеную канапу, не засцеленую яшчэ ўчора ці заўчора. Між скамечаных коўдраў мірна спала, скруціўшыся, суседская трохкалёрная котка, якая забягала часам падсілкавацца і пацерціся аб ногі, а то й пераначыць.

Але спаць пакуль было нельга. Дакладней, Алег ведаў, што не засне, будзе варочацца, напружана думаючы пра адно і тое ж: пра загадку Івянецкага, пра ключ, схаваны ў прымаўцы, і ключ рэчыўны, віты, з загадкавымі ініцыяламі, выбітымі на кольцы.

Намацаўшы пад сталом падраныя тэпці, Маслоўскі, зноў пазяхаючы, скіраваўся на кухню. Ішоў, не запальваючы святло, звыкла праводзячы адной рукою па халоднай сцяне калідора. Тут добра чуваць было, як за сценкай храпіць Пятро Сямёнавіч і мерна цікае суседскі гадзіннік.

Дом быў стары, і добрых гадоў дзесяць, з самага таго часу, калі Алег атрымаў гэтую кватэру ў спадчыну ад цёткі, не рамантаваўся. Суседзі, канечне, заўжды нешта рабілі: гаспадарлівы Пятро Сямёнавіч завіхаўся, усё нешта падстукваў, падкручваў і фарбаваў, быццам атрымліваў асалоду ад свайго перманентнага рамонту. Алег жа да ўсяго гэтага быў абыякавы, спакойна мірыўся з падзёртымі цётчынымі шпалерамі, з разбітым вакном у паддашку, з рассохлымі драўлянымі вокнамі, ад якіх па невялікіх пакойчыках разляталіся скразнякі і мяккімі нябачнымі лапкамі краталі паперы і фіранкі. Можа, з прычыны гэтай Алегавай абыякавасці да абнаўленняў асаблівага сяброўства ў іх з Пятром Сямёнавічам не склалася. Так сабе — «дабрыдзень» ды «дабранач». Цётка Галя, суседава жонка, па ўласнае дабрыні ды дзеля памяці пра нябожчыцу Маслоўскую,

з якой сябравала, часам частавала пірагамі ды дранікамі. Сварылася трохі — па-добраму, праўда,— што, маўляў, старызны сабе ў дом панацягаў:

— Цібе ж, Алежак, наверна, і дышаць за пылью нечым!

«Старызны», як яна казала, сапраўды было многа. Дзень па дні толькі большала. Рэчы, знойдзеныя ў закінутых вёсках, выкупленыя на аўкцыёнах і распродажах або проста абмененыя ў нядбайных гаспадароў. Адкапаныя на сметніках, як, напрыклад, калаўрот канца дзевятнаццатага стагоддзя. Адшуканыя пад зямлёю або ў лёхах, куды ўваход — праз небяспеку абвальвання — быў забаронены. Многія, многія старыя рэчы, якія былі вартыя лепшага лёсу і лепшага стаўлення.

Нават тут, у вузкім калідорчыку, стаялі, укрытыя прасцінамі, часткі кроснаў — у апошні момант вывезеных з нейкай лядашчай паветкі, якую гаспадары планавалі зносіць. Кросны добра было б паднавіць трохі і прапанаваць у мясцовы музей ткацтва, але пакуль што не даходзілі рукі. Побач кругліліся колы калаўротаў, звезеных з розных куткоў Беларусі,— на іх ужо знайшліся ахвотнікі, каб выкупіць. Здаецца, для інтэр'ерных рашэнняў у нейкім сталічным бары. На такія здзелкі Алег пагаджаўся з цяжкім сэрцам, але для росшукаў ды рэстаўрацыі заўжды патрэбныя былі грошы. Ды і багатыя аматары «народнага стылю» ў інтэр'еры, прынамсі, абяцалі пра калаўроты клапаціцца.

У самой цеснаватай кухні, апроч разнастайных збаноў і глечыкаў, апроч маслабойкі і старасвецкай ступы з глыбокай трэшчынай на баку, стаяла пара драўляных фігур, добра паточаных шашалем. Іх, наколькі Алег ведаў, некалі звезлі з маленькага закінутага храма ў мёртвай вёсцы, а пасля, не ведаючы сапраўднай каштоўнасці беларускай скульптуры васямнаццатага стагоддзя, прадавалі за смешны кошт праз сеціва.

Так што цяпер тут, у бруднаватай кухні, струменілі ад уяўнага ветру выразаныя з дрэва валасы і складкі адзення, і лебядзіныя крылы раскідваліся ў абодвух за плячыма — паламаныя, пабітыя шашалем, скалечаныя крылы.

Але твары, хай патрэскаўся лак ды аблезлі фарбы, ўсё яшчэ былі па-анёльску гожыя: вялікавокія, з па-дзіцячы круглымі румянымі шчокамі, з пульхнымі вуснамі, з роўнымі дугамі броваў. Адзін, больш ваяўнічы, наступаў на пляскаты бок сумнага бясхвостага цмока і, мабыць, замахваўся на пачвару мячом — але правай рукі не ставала. Другі прыціскаў да грудзей ліхтар з запаленай свечкай і глядзеў задуменна кудысьці ўгару, трохі схіліўшы да пляча галаву з некалі пазалочанымі валасамі.

Першы быў Міхаіл, Архістраціг святога анёльскага войска, і гэта пераможаны д'ябал ляжаў бясхвостым цмокам ля ягоных ног. Другі — Гаўрыіл, правадыр мёртвых, той, хто адкрывае таемныя веды. Ліхтар са свечкаю ў ягонай руцэ паказваў шлях тым, што збіліся з дарогі.

Каля другога анёла Алег, пстрыкнуўшы выключальнікам, прыпыніўся: Гаўрыіл якраз прываліўся бокам да старэнькага, савецкага яшчэ халадзільніка «Свияга». Патрэсквала голая, без абажура, лямпачка пад аблезлай столлю, міргала святло. Па ўздыбленым ліпкаватым лінолеуме таропка прабег самотны прусак. Маслоўскі з надзеяй зазірнуў у хлебніцу на халадзільніку, трохі пашамацеў там пустымі пакетамі — і нічога не знайшоў. Падазрона пакасіўся на аднакрылага Гаўрыіла:

— А дзе ж наш батон, а, брат Гаўрыла?

І тут жа задыхнуўся ад нечаканай здагадкі. Недаверліва змерыў арханёла паглядам — ад парэштак сусальнага золата на валасах да ліхтара з запаленай свечкай у руцэ і адбітай ступні.

— Адзін Гаўрыла ў Полацку,— сказаў Алег безуважнаму праваддыру мёртвых.— Што, калі Івянецкі меў на ўвазе менавіта... Гаўрыіла? Арханёла? Бо і выява ягоная ёсць на самім Крыжы. І, магчыма, экспедыцыя тады, разам з усім іншым, знайшла ў фондах фінаддзела таксама і... скажам, абраз?

Маслоўскі прысвіснуў, абхапіў галаву рукамі. Здагадка абрынулася на яго цяжарам, з якім яшчэ трэба было ўправіцца, звыкнуцца. Драўляны Гаўрыіл глядзеў на яго вялікімі сумнымі вачыма, і ў цьмяным святле лямпачкі твар ягоны падаваўся амаль што жывым.

Алег, бадзёра шлёпаючы тэпцямі, захадзіў туды-сюды па маленькай кухні: тры крокі ад ступы да вакна, тры крокі назад. Мармытаў, патрэсваючы светлымі валасамі, пачэсваючы з тыдзень не голенае падбароддзе. Разважаў так: калі абраз быў знойдзены экспедыцыяй Ластоўскага разам з Крыжам, значыць, яго абавязкова ўнеслі б у вопіс народных каштоўнасцяў. Той жа Івянецкі, магчыма, і ўносіў. Калі гэта праўда, то ў прыдбаных Алегам дакументах мусіць быць згадка пра які-небудзь артэфакт з арханёлам Гаўрыілам — якога Івянецкі, загадваючы сваю загадку, фамільярна назваў Гаўрылам. Праўда, у падказцы Гаўрыіл-Гаўрыла мусіў быць у Полацку... ці значыць гэта, што экспедыцыя не ўзяла той артэфакт з сабою, а пакінула тут, магчыма, у музейных фондах?..

Маслоўскі невідушчымі вачыма паглядзеў на белага «Свиягу», які сярдзіта бурчаў пустым чэравам у кутку, пасля зноў на аднакрылага Гаўрыіла. Забыўшыся пра запозненую вячэру (ці ранні сняданак, тут як паглядзець), рынуўся па цёмным калідоры назад у пакой і, мяркуючы па страшэнным грукаце, паваліў штосьці з прыкрытых прасцінамі рэчаў. У пакоі, апусціўшыся на калені на фарбаваныя дошкі падлогі, стаў перабіраць распухлыя

кардонныя тэчкі з паперамі, паўшэптам прагаворваючы нумары і даты, напісаныя на карэньчыках. Дрогкімі пальцамі развязаў стужкі на адной, асцярожна перабраў пажоўклыя аркушы, спісаныя знаёмым кучаравістым почыркам. Выцягнуў некалькі, наўмысна складзеных ім у асобны файл, прабег вачыма па першых радках. Сеў на халодную падлогу, падсунуўшыся бліжэй да кола святла ад настольнай лямпы, чытаў, закусіўшы вусны. Алега трохі калаціла ад хвалявання, і ён стараўся дыхаць вальней, суцішыць сэрца, што ашалела білася ад радаснага хвалявання.

Драўляная скульптура Мікалая, кубак для еўхарыстыі, сярэбраны аклад да абраза, другі... абраз Божай Маці... яшчэ адзін, на сюжэт «Замілаванне»... абраз з сюжэтам «Звеставанне»...

Алег павольна апусціў руку са спісам рэквізаваных каштоўнасцяў. Абразы, скульптуры, увогуле чаго-кольвек з арханёлам Гаўрыілам — а заінтрыгаванаму Маслоўскаму ўжо, быццам наяве, бачылася нешта накшталт старажытнага «Анёла Залатыя Валасы», толькі беларускае,— у пераліку артэфактаў не было. Ніводнага. Расчараваны, Маслоўскі перачытаў спіс яшчэ раз, і яшчэ, і яшчэ,— і па-ранейшаму не знайшоў у пераліку каштоўнасцяў ніводнай згадкі пра Гаўрыіла.

Гіпотэза, якая толькі што падавалася дарэчнай і стройнай, рассыпалася на вачах, і ад гэтага было амаль фізічна балюча.

Не так, думаў Алег. Нешта не так. Сумневаў не магло быць: Івянецкі паківаў сваёй падказкай на адзін з артэфактаў у сваім вопісе. Можа быць, з абразом ці сульптураю Гаўрыіла ўсё было б занадта проста. Нешта не так. Ёсць нейкая дадатковая складанасць, ключык толькі для абазнаных, для ўважлівых. Sapienti sat.

Ён зноў сеў за стол, разгладзіўшы старонку нататніка са следам ад зламанага грыфеля, узяў асадку. Зноў уважліва прачытаў спіс вывучаных экспедыцыяй Ластоўскага артэфактаў, занатоўваючы асобныя назвы. Абразы Божай Маці, сюжэты «Замілаванне», «Аранта», «Адзігітрыя». Святы Трыфан. Святы Мікалай.

Рука Маслоўскага, што трымала асадку, замерла над старонкай нататніка.

— Звеставанне,— ломкім голасам прагаварыў Алег.

## 9.

Апорны пункт Зініч знайшоў не адразу: пару разоў, кіруючыся парадамі анлайн-мапы, прайшоў міма. Заблытаўшыся ў лабірынтах між шматпавярховікаў-блізнюкоў, вяртаўся, разгублена прыглядаючыся да абсаджаных бэзам і рабінамі пад'ездаў. Пасля заўважыў-такі някідкія чорныя металічныя дзверы з іржавою шыльдай на цаглянай сцяне побач. Дваравы дызайнер, каб унесці разнастайнасць, пафарбаваў цагліны вакол дзвярэй, цераз адну, у бякла-ліловы колер, як на падмурку. Безвынікова паторгаўшы ручку раз-другі, Зініч рассеяна палічыў колькасць фарбаваных цаглін вакол замкнёных дзвярэй (выйшла трыццаць чатыры з паловай) і бездапаможна азірнуўся па баках.

— З тарца жэ ўход у міліцыю, малец,— дабрадушна мовіла да яго сівая сухенькая бабуся, што з лавы каля пясочніцы назірала за ўнукамі.

Зініч неразборліва падзякаваў і, падазрона аглядаючыся, баючыся згледзець побач знаёмую шэрую куртку, абышоў дом па сырой сцежцы ў траве.

Ісці да ўчастковага было ходам лагічным, а логікі, структураванасці ўва ўсім гэтым гармідары апошнім часам ад-

чайна не ставала. Зініч, перш чым выправіцца на пошукі мясцовага ўчастковага, доўга цёр рукі антысептыкам у бліжэйшай падваротні, падалей ад людзей. Падумаўшы, таропка замяніў рэспіратар на новы, а стары запакаваў у пакецік і схаваў у кішэню заплечніка. Ад гэтых няхітрых працэдур трохі палепшала і вальней стала дыхаць, і нават, здаецца, разварот плеч стаў болей упэўненым.

Майскае сонца патроху ўваходзіла ў сілу, нават трохі прыпякала, быццам і не было ўчорашняй халоднай слоты. Зінічу пасля нядаўняй беганіны было горача, так што сваё чорнае паліто ён не без задавальнення расшпіліў. Ішоў, падстаўляючы разгарачаны твар сырому ветру, мружыўся на сонцы. Спіна была мокрая, яе халадзіла ветрам, але гэты халадок быў хутчэй прыемны. Ды і сэрца ўжо амаль супакоілася, Зініч болей не пачуваўся зацкаваным зайцам і мог эфектыўна разважаць — як звычайна, спакойным, халодным розумам.

Алегаў сусед (здаецца, Пятро Сямёнавіч ці неяк так) настойліва рэкамендаваў Зінічу завітаць да ўчастковага: нібыта з тым можна было дамовіцца. Зазірнуць у Алегаву кватэру, па вялікім рахунку, было б варта: сабраць сёе-тое з папер, перагледзець, вывучыць, вызначыць сапраўдную каштоўнасць, калі такая, вядома, маецца. Да таго ж, участковы мог нешта пра Алега і ягоныя разнастайныя «дамоўленасці» ведаць. Магчыма таксама, што ўчастковы бачыў нешта падазронае — ці хаця б проста адметнае — на месцы забойства. Ды і ўвогуле мог бы неяк дапамагчы разабрацца з усёй гэтай сітуацыяй, якая пакуль што для Зініча падавалася суцэльнай цёмнай плямай.

З прадстаўнікамі міліцыі Зініч некалі стасаваўся з працоўных мэтаў: рабіў «халтуру» — кароткія допісы пра калякрымінальныя здарэнні ў Мінску і вобласці. Пісаў без

асаблівага натхнення, але з нейкай юбілейнай нагоды нават атрымаў грамату — «За інфармацыйную падтрымку». Грамата, мусіць, дасюль ляжала недзе ў пісьмовым стале, нават усё яшчэ ў важкай драўлянай рамцы, засыпаная раздрукоўкамі вёрсткі ды ліставанняў. З параю хлопцаў з РУУС, бліжэйшых да сябе ўзростам, Зініч нават не тое каб пасябраваў, але някепска пазнаёміўся. Ніштаватыя быццам былі хлопцы, надзейныя. Зінічу даводзілася торгаць таго ці сяго па тэлефоне ці праз сацсеткі, удакладняючы сякія-такія факты па допісах, дык не падвялі ні разу. Адзін нібыта Яраслаў, другі... Зініч пачухаў патыліцу. У другога, здаецца, на «К» прозвішча.

А можа, і не на «К». Зрэшты, што там прыгадваць. Увогуле, у Зініча заўжды лепш складваліся стасункі з кнігамі, чым з людзьмі.

Сцежка абыходзіла дом збоку, круцілася ў бэзавых зарасніках і ўлівалася ў ціхую сонную вуліцу. Тут узбягалі ўгару бетонныя сходы з металічнымі парэнчамі (Зініч механічна падлічыў — шэсць высакаватых прыступак). З-за драўляных дзвярэй прасочваўся гугнявы голас радыё. На дзверы скотчам прыляпілі файлік з раздрукаванымі літаркамі.

— «Опорный пункт охраны правопорядка»,— прачытаў Зініч і, трохі падбадзёраны, узбег на ганак, пад жоўты пластыкавы брылёк.

Унутры па бетоннай падлозе, падскокваючы, карцілася рэха. Радыё гугнявіла дзесь у аддаленні, у глыбінях неасветленага калідора. Паміж пластыкавых стэндаў з графікамі прыёму, прафілактыкай кішэнных крадзяжоў і раздрукаванымі партрэтамі грамадзян, якія знаходзяцца ў крымінальным вышуку, былі яшчэ адны дзверы. Зініч вывучыў шыльду з ініцыяламі і прозвішчам, зверыўся з інфармацыяй з сайта — усё нібыта супадала. Зараз трэба было

гаварыць — і гаварыць правільна. Як-ніяк, ставіліся на кон цікавосткі з папер Маслоўскага і магчымы выбітны допіс.

І таксама яшчэ нешта іншае, нешта важнае. Важкае, як стары ключ у кішэні паліто.

— Участковы табе не дапаможа.

Зініч крутануўся назад. І пабачыў: тое стрыжанае дзяўчо з кавярні ў супермаркеце стаяла, прыхінуўшыся да сцяны побач з адным са стэндаў. Надзьмувала пузыр з ружовай гумкі, заклаўшы рукі ў кішэні велікаватай чорнай джынсоўкі, і глядзела па-ранейшаму змрочна.

— Дапаможа, дапаможа,— раздражнёна сказаў гэтай пустагаловай лялькцы Зініч.— Калі на тое, усё гэта не твая справа.

— Не мая,— абыякава пагадзілася дзяўчо.— А табе не прыходзіла ў галаву, што і ўчастковы, і Пятро... ці як там яго? Сямёнавіч? што яны таксама могуць быць разам з *тымі*?

Сэрца ў Зініча прапусціла ўдар. Вельмі жыва прыгадаліся хцівыя агеньчыкі ў вачах Алегава суседа.

— ...і цябе наўмысна скіравалі да ўчастковага,— бязлітасна працягвала дзяўчо.— А на выхадзе сустрэнуць. І нічога ты нікому не давядзеш, Кастусь.

Зініч паморшчыўся. Кастусём яго называла адно бабуля па маці — выкладчыца беларускай мовы ў Докшыцах. Адкуль гэтая маленькая дрэнь ведала ягонае імя, адкуль ведала пра падрабязнасці кшталту імені суседа ці дэталяў размоў з ім,— вось гэта была загадка з загадак.

— А ты,— Зініч звузіў вочы,— ты сама-та не з *тымі*, кім бы яны ні былі? І што ты тут робіш? Шпіёніш, нябось?

Дзяўчо ўхмыльнулася.

— Справы ў мяне тут. Свае ўласныя,— адказала.— Хаджу, дзе захачу.

— Хадзі-хадзі,— гукнуўся Зініч, дадаўшы пра сябе «сцерва». Пасля прыгладзіў валасы, пастукаў і, прычакаўшы слабага водгуку, увайшоў.

Кабінет быў прасторны і пуставаты, неабжыты — толькі стол, два крэслы ды стэлаж, які зеўраў пустымі паліцамі. Участковы аказаўся хлопцам гадоў дваццаці двух з моднаю стрыжкай і ў спартыўных штоніках. Сядзеў, выцягнуўшы з-пад стала ногі ў чырвоных красоўках, і ўважліва разглядаў штосьці на экране смартфона. Падняў на Зініча вочы, варухнуў бровамі.

— У меня выходной, гражданин,— важка ўпусціў участковы, зноў гледзячы ў смартфон і на наведвальніка не зважаючы.

Зініч звузіў вочы і намацаў у кішэні паліто цяжкі ключ.

— Я журналіст,— сказаў Зініч, быццам пароль, і, падумаўшы, назваў тоўсты паважаны часопіс, дзе цяпер працаваў. Гэтыя словы досыць часта адчынялі яму многія дзверы — проста таму, што на ўсіх людзей трохі гіпнатычна дзейнічаюць словы «газета» або «часопіс», нават калі яны той часопіс і ў рукі не бралі, а чыталі нешта апошні раз у чацвёртым класе.

Малады ўчастковы таксама зрэагаваў, прынамсі, падняў на Зініча вочы — з маўклівым пытаннем. З заўважным сумневам пакасіўся на нейкія аркушы на стале і локцем ссунуў іх у шуфляду.

— Журналист?..

Але тут суха пстрыкнуў гук паведамлення «ВКонтакте». Участковы, урастаючы ў экран паглядам, варухнуў вуснамі, быццам хаваў усмешку, і стаў таропка набіраць адказ.

— Какой ещё, гражданин, журналист? — прагаварыў адначасна, з нечаканай пяшчотаю, што прарывалася ў голасе. Пяшчота, вядома, адрасавалася не Зінічу, а суразмоўцы «ВКонтакте».— В приёмное время приходите по всем

вопросам. От начальства ничего на ваш счёт не поступало. А лично у меня выходной.

Сацсетка зноў пстрыкнула: мабыць, прыйшло яшчэ адно паведамленне. Участковы, яшчэ больш ажывіўшыся і зарумяніўшыся, працягнуў сваё ліставанне. Зініч, нахмурыўшыся, сеў на крэсла перад сталом, паклаўшы ногі адна на адну і схаваўшы рукі ў кішэні.

— Гражданин...— з лёгкім адценнем абурэння пачаў участковы, адарваўшыся-такі ад смартфона.

— Я журналіст,— паўтарыў Зініч, паправіўшы рэспіратар. Прыўзняўся, працягваючы ўчастковаму руку ў свежай гумовай пальчатцы. Участковы, вымушана ад перапіскі адарваўшыся, Зінічавы пальцы пацiснуў.

— Канстанцін Зініч,— белая візітоўка з пазалочаным гербам і назваю часопіса перанеслася (быццам па ўласнай волі) у далонь участковага.

— Валерий Сычёв,— гукнуўся той, вывучаючы візітоўку.— А вы, собственно...

Зініч усміхнуўся пад рэспіратарам. Хлусня плялася сама сабою, мякка і ненавязліва, бо складалася з паўпраўды.

— Я, Валерый, зараз працую над матэрыялам пра забойства Маслоўскага. Для зводкі на сайт абласнога аддзялення. Таму просьба даць пару дэталяў пра забітага. Адрас, здаецца, сёмы завулак Міронавай.

Зініч па-гаспадарску выцягнуў з заплечніка патрапаны нататнік, з якім звычайна ездзіў на інтэрв'ю, і асадку з назвай свайго часопіса. Зірнуў на новага знаёмага прыязным прафесійным паглядам — дабрадушным, але патрабавальным.

— А дыктафон, як бачыце, не дастаю,— заўважыў Зініч трохі гулліва і пстрыкнуў асадкай.— Проста нязмушана пагутарым. Паміж намі, так бы мовіць. Колькі фактаў пра сам інцыдэнт, калі можна, Валерый.

Прафесійны журналісцкі тон большасць людзей выбівае з каляіны. Бо чыстая старонка нататніка і асадка, якая чакальна замерла над ёю, абяцаюць імгнення зафіксаваць усё, што б ні было сказана. А людзі — Зініч добра ведаў гэта за гады практыкі — часта баяцца таго, што могуць сказаць.

Баяцца саміх сябе.

— М-масловский, значит?..— участковы, заўважна зніякавелы, адклаў смартфон.— Ага, Масловский... ну да, конечно. Олег Масловский. Выстрел в затылок. Да. А... что говорить-то?

Участковы прыўзняў бровы, утаропіўшыся ў Зініча. Нават не пакасіўся на смартфон, які зноў суха булькнуў, нагадваючы пра новае паведамленне.

— Увогуле,— адказаў Зініч, пачуваючы сябе гаспадаром сітуацыі,— я думаю, варта пачаць з партрэта забітага. Што сабой уяўляў, ці былі канфлікты з уладамі. Крымінальны след, магчыма.

— Это всё для сайта? — шчыра падзівіўся малады ўчастковы.

— Вялікі артыкул,— адрэзаў Зініч.— Увогуле пра забойствы ў рэгіёне. Ухіл будзе ў эфектыўнасць працы службаў у раскрыцці падобных справаў.

— А-а,— участковы паківаў.— Понятно, понятно... В общем, особо рассказывать нечего. Масловский... ну, потерпевший. Он судим не был. Привлекался, вроде бы, за административные правонарушения... штрафы были. Диггерством увлекался, вроде. У него дома, знаете, много всякого. Этого вот. Откопанного, значит.

Зініч, які старанна ківаў і рабіў паметы, пакуль участковы казаў, спыніўся. І тут жа паставіў на старонцы — так, каб суразмоўцы бачна было — вялікі тлусты клічнік.

— Дома ў забітага? Шмат такіх рэчаў? — пацікавіўся самым сухім, прафесійным тонам.— Дарэчы, пара фота не пашкодзіла б. Аздобілі б матэрыял.

— Опечатано же там,— малады ўчастковы скрывіўся, быццам лімон надкусіў.— Вы же понимаете, гражданин... я же не могу вот так взять и...

— А вы пасля зноў запячатаеце,— нахабна перапыніў Зініч і паціснуў плячыма.— Усё ж пры вас будзе адбывацца. Затое пасля спасылка на вас з падзякай у юбілейным матэрыяле сайта. І вашаму кіраўніцтву прыемна, і майму кіраўніцтву прыемна. І ўсе задаволеныя.

Участковы цяжка ўздыхнуў, круцячы ў пальцах Зінічаву візітоўку.

— Дамовімся? — спытаў Зініч, зараней ведаючы, як яму адкажуць.

## 10.

*(З дзённіка Андрэя Івянецкага, асобныя захаваныя старонкі)*

...сам ён высокі, кашчавы, з доўгім тварам з касматымі сівымі бровамі, з доўгім носам, з доўгімі пальцамі. Барада белая, спадае на грудзі, на чырвоную вышыўку на кашулі. Доўгія сівыя валасы да плеч. Увогуле, увесь ён — доўгі. У шэрай світцы, падперазанай каляровым тканым поясам, у нагавіцах, запраўленых у нячышчаныя боты — усе ў плямах фарбы ды лаку, з наліплымі кудзерамі габлюшкі. Калі прыходзіць, сядае на лаву, так што высока падымаюцца худыя калені, кладзе на калені спрацаваныя, аплеценыя сіняватымі жыламі цяжкія рукі.

І гаворыць — прыгожа, дарэчы, гаворыць. Заўжды нешта расказвае, пачынаючы з паўфразы, з паўслова, і ідзі яшчэ разбярыся, што да чаго. Спрабавалі з Міколам запісваць,

дзеля мэтаў этнаграфічных, бо дзед — проста выкапень, дзевятнаццатае стагоддзе. Спрабавалі — і дарма! Што там разбярэш, калі ўсё без пачатку, без канца. Акадэмік, аднак, са старым гутарыць часта і ахвотна. Паважліва гэтак. А пачалося з таго, што яны, акадэмік са старым гэтым, разам разглядалі старыя планы сабора ды ўсё нешта абмяркоўвалі.

Завуць яго Васіль Сымонавіч Шаціловіч. З мясцовых, з полацкіх, усё жыццё тут пражыў. Жыццё, мабыць, доўгае: колькі яму гадоў? Дзевяноста, не меней. Пэўна, болей нават. Але пры гэтым сіла пры ім засталася, хада лёгкая, розум ясны, і нібыта зубы яшчэ свае. Каб усім так старэць.

І прафесія, як жартуе Вацлаў Юстынавіч, самая біблейская — цясляр. У Полацку ў яго майстэрня свая, ці што. Саматужнік-адзіночка, карацей, калі партыйнымі паняткамі разважаць. Але майстэрня не абы-якая, мы з Міколам наўмысна даведваліся — цікава ж, чаму акадэмік гэтага дзеда так паважае. І даведаліся: майстэрня да рэвалюцыі збольшага на паноў працавала. Куфры, куфэркі дамскія. Мэбля самая разнастайная. І не простыя штукі, відаць. Даражэзныя. А на кулака, на заможніка дзед не падобны. Дзіва.

Сам-та стары, ясная справа, не адкажа, нават калі наўпрост спытаць. Увогуле, канечне, гаворыць і шмат, і цікава нават, і слушна нібыта. А задумаешся — і тыя абрыўкі дзедавых баек разам не звяжаш, не складзеш.

—... нашае прозвішча Шаціловіч,— кажа, напрыклад, неяк.— Корань у нас татарскі, таму кроў гарачая. Толькі і следу, што — кроў, татаршчына ўся за пакаленні выцерлася. А ў паперах пісаныя ўсе палякамі, дзеля таго, што каталікі. Толькі палякі з нас такія ж, як з карася скаромнае.

— А хто ж вы тады, як не палякі? — пытаю тады.

А ён з-пад броваў глядзіць насмешліва, як на дурня.

— А вядома,— кажа мне.— Вядома, камсамольчык. Мясцовыя мы. Туташнія. Спрадвечныя.

Вось і ўсёй размовы. І вочы нібыта выпрабоўваюць, і ўсмешка ў яго ў барадзе — быццам змяя ў траве выкручваецца. Недаверлівая такая ўсмешка. Баіцца лішняга пры чужым чалавеку сказаць, ці што?

З акадэмікам жа гавораць куды больш ахвотна. Абмяркоўваюць нешта, досыць жыва. Жэстыкулююць, спрачаюцца. Нават, здаецца, сварацца, у паперчыны свае пальцамі тыцкаюць. А аднаго разу Шацілові́ч пачаў — на беразе стаялі, побач з Сафіяй — нешта ў брудзе палачкай крэсліць. І селі абодва разам на кукішкі, і глядзелі, і перагаворваліся. Акадэмік пасля цэлы дзень хадзіў задуменны.

— Васіль Сымонавіч нешта вас азадачыў,— гэта я акадэміку. А той паглядзеў на мяне і толькі плячыма пацiснуў. І пагляд такі са шкадаваннем, сумны нават, быццам і хацеў бы сказаць штосьці, а нельга пакуль, дачасна.

А то яшчэ стары Шацілові́ч узяў моду заяўляцца ў пакой, дзе робім вопісы. Прыходзіць, сцягвае драную шапку, сядае. І побач ставіць бруднаваты скрутак, і павольна так анучы разгортвае. То й не хочаш — а зірнеш, цікава ж, што там. А ўнутры — то старая разная шкатулка, то нейкі ўзорысты куфэрак ці яшчэ якая скрыначка. Аднаго разу быў нават кавалак старасвецкага фатэля — з паліраванага чырвонага дрэва доўгая ручка, уся ў анёлках таўсташчокіх ды птушачках.

І ўся гэтая прыгажосць абавязкова з сакрэтам, з хованкай. То доўгую шпільку трэба ўзяць і ў непрыкметную дзірачку ўнутры шкатулкі ўторкнуць — тады двайное дно адкрыецца. То трэба павярнуць адмысловую кветачку на вечку — і ў куфэрку з’явіцца дадатковая адтулінка, а ўжо туды ідзе ключык, малюсенькі, з дзіцячы мезенец. А то і ўвогуле цэлая гульня: тут адлічы столькі-та кветак на

ўзоры, там націсні, тут павярні адначасна — і толькі тады жаўтаватыя касцяныя пласцінкі рассунуцца і стане бачны паз, за які трэба хованку выцягваць.

А стары Шаціловіч, хованкі свае круцячы ды паказваючы, яшчэ і гаворыць, распавядае. Не пра рэчы — пра людзей. Якія нібыта даўней былі мудрэйшыя ад нас цяперашніх і рэчы рабілі не проста так і не на адзін дзень. І таямніцы свае больш ахвотна давяралі рэчам, не чалавеку.

— Бо ў куфэркаў, бач ты, языкоў-та няма.

Кажа і смяецца, бараду пагладжвае. А пад спрытнымі пальцамі пстрыкаюць схаваныя спружынкі, шасцярэнькі паварочваюцца, пазы пазначаюцца і адкрываюцца. Сакрэт за сакрэтам, сакрэт за сакрэтам. Пстрык-пстрык. Зірнеш — і не адарвешся, сочыш, быццам загіпнатызаваны. А праца стаіць. Ажно няёмка — перад акадэмікам, перад справаю. Перад Міколам нават, дарма што той студэнт-практыкант. Важнейшыя, канечне, вопісы экспедыцыі, а не гэтыя буржуйскія старасвецкія забаўкі. Вядома, рэчы старыя, нібыта нават дзевятнаццатага стагоддзя каторыя, а то й васямнаццатага. Але ж з Крыжам гэтыя дрындушкі не параўнаць усё-такі.

Я неяк нават гаварыў Вацлаву Юстынавічу, што смешна адхіляцца ад мэты на такія забаўкі. Ды і дзед нейкі, пры ўсёй, канечне, павазе, падазроны. Ходзіць тут са сваімі скрыначкамі. У нас тут, між іншым, старажытныя каштоўныя рэчы ляжаць, а гэты — ходзіць, быццам да сябе дамоў. Але акадэмік толькі галавою пахітаў:

— Не скажыце, Андрусь, не скажыце. Тут справа ў разуменні прынцыпу.

Якога прынцыпу, праўда, не сказаў. Вусны падціснуў, змоўк. Шчыра, нават крыўда бярэ: усё разам робім, дапамагаю і з вопісамі, і з перакладамі, а даверу да мяне, выходзіць, меней, чым да гэтага ідала замшэлага.

Зразумець не магу, пра што яны — акадэмік і стары саматужнік — могуць размаўляць, ды яшчэ так жыва.

А ўчора зноў прыцягнуўся Шаціловіч. Вацлаў Юстынавіч якраз быў адышоўся, з чарговымі паперамі ў райвыканкам, здаецца. А гэты прыйшоў, не пагрукаўшы, сеў. Сядзіць, як сыч. Я дабрыдзень аддаў і працую сабе: карткі самі сябе не запоўняць. А дзед пакрэхтвае і пакашлівае ўсё, і адчуваю, што ў спіну мне глядзіць — настойліва так. Ажно я не вытрымаў.

— Чаго вам,— кажу,— таварыш?

Хаця які ён, канечне, мне таварыш. Ягоныя таварышы ўжо з паўстагоддзя таму, напэўна, да праайца Абрама на піва пайшлі. Не дзед, а перажытак. Яшчэ й несвядомы — «мясцовы» ён, бач. Старасць ды коснасць, нічога не зробіш, але як Вацлаў Юстынавіч з ім можа гэтак паважліва абыходзіцца, пра гэтую несвядомасць ведаючы,— не магу зразумець. Ніяк.

Дык вось. Быў гэта аўторак, дзесяць трыццаць раніцы (з часам дакладна, бо я на гадзіннік на руцэ адмыслова зірнуў). Значыць, учора было. Стары Шаціловіч зноў завёў сваю катрынку — без пачатку, без канца. Адно што гэтым разам нешта, так бы мовіць, нязвыклае. Дзіўнае нават, я б сказаў. Настолькі дзіўнае, што я нават запомніў — не слова ў слова, ясная рэч, але блізка да таго, як было сказана.

Гаварыў стары, утаропіўшыся ў мяне невідушчымі вачыма, неяк так:

— *...а скляпенні там старыя, і хто ведае, калі былі збудаваныя. Майстра мой, у каго я рамяству мальцам зялёным вучыўся, казаў, быццам хады спрэс езуіцкія. Але іншыя людзі, абазнаныя, гаварылі, што яшчэ да манахаў хады тыя былі, заблытаныя, глыбокія. Спрэс тут пагоркі пранізаныя хадамі, як краты точаць. Адно тое не краты, а людзі. Чысценька зроблена, камяні абчасаныя, адзін да*

*аднаго прыгнаныя роўненька. Такое сто, тысячу год стаяла — і далей стаяцьме. Дзе ў поўны рост устаць можна, нават і рукі ўгару выцягнуўшы, і тое столі не датыкнешся. А дзе паўзеш, скурчыўшыся, не раўнуючы — чарвяк.*

*...праточаныя, вядома, не проста так. Там і камеры ёсць, і залы. І ўсё пад зямлёю. Звіваюцца хады, за Дзвіну ідуць, з-за Дзвіны, пад замкавымі валамі былымі. Усюды, усюды. Рака часам падмывае, вада камень точыць, от і агаляюцца сякія-такія скляпенні, з тых, што бліжэй да паверхні. Гадоў дваццаць таму, яшчэ пры цары, былі знайшлі. Тут блізенька, каля Багаяўленскага сабора. Народ хадзіў, дзівасаўся. А загад прыйшоў — і засыпалі ўсё спрэс. Каб не бачылі. Каб не ведалі. Каб не памяталі. Бо, камсамольчык, які народ без памяці. З народам, які не памятае, што заўгодна можна зрабіць. Ляпіць яго, быццам гліну, любыя думкі ў галовы ўкладваць. Мы мясцовыя, мы спрадвечныя, мы-та ведаем. Ты гэта ўсё, камсамольчык, на вус матай. І сам глядзі цяпер, уважліва глядзі. І запамінай.*

*...немец перабудоўваў тут, Ян Кшыштаф. Па-іхняму калі, значыць,— Ёхан, Ёхан Глаўбіц. Немец з Вільні. Тут жа, казалі, пасля маскалёў, пасля цара Пятра ад Сафіі што засталося — слупы ды падмурак. Ну, яшчэ сёе-тое. А Сафія ж не проста так на тым месцы стаіць. Не проста так. Некалі сямівяршынная была, як зорка а сямі прамянях. Бо там, камсамольчык, капішча. Сем камянёў ахвярных. І хады, каб ты ведаў, даўней — даўно-даўно, страх, як даўно — пад тым капішчам як бы ў вузел завязваліся. Сэрца, значыць. От і выходзіць, што Сафія — сэрца нашае. І Пятро сэрца-та гэтае і выдраў. Наўмысна, нябось. Бо які народ без сэрца? Абяскроўлены, нежывы.*

*...Глаўбіц той шмат чаго ведаў. Няпросты быў чалавек. Мне мой майстра казаў, а таму — ягоны майстра і так далей, ад Касінскага, што мулярамі на будаўніцтве*

*кіраваў. Глаўбіц успоратыя чэравы хадоў пад саборам бачыў, сам па іх пахадзіў, адно неглыбока. Ён-та не наш, камсамольчык, яго, немца, хай і віленскага, хады далёка не пусцілі б. Але чалавек быў спраўны: і падмурак старадаўні, і слупы, і апсідку — словам, усё, усё, што засталося, у новы храм уплёў. Разам паяднаў. На свой, канечне, лад — што з яго ўзяць, немец. Лютэранін яшчэ нібыта. Але справу сваю ведаў і зрабіў усё, як мог, найлепшым чынам.*

*...а і Глаўбіц без сакрэтаў не абышоўся. Часы, камсамольчык, заўжды неспакойныя. І ў Сафіі, якую панаўляў, Глаўбіц свае хованкі і хады пакінуў. Паглядзеў на старыя, зразумеў тое-сёе. І зрабіў сам. Людзі-та раней іншыя былі. Мудрыя. Разумелі, што іншае-каторае варта часам і прыхаваць — ад варожай навалы, ад нядобрага вока. А цяпер усё ў вас напаказ, навыварат. Цягнеце, камсамольчык, даўніну ў свае музеі. Кажаце — усяму народу належыць. Так-та яно так, але і не так. Народ спачатку трэба прывучыць памятаць. Іначай не даўніну і не карані пабачаць, а толькі золата са срэбрам і камяні каштоўныя. Тое, што хцівасць будзіць, не розум.*

*...хады абы-каго не прапусцяць. З веданнем, з таямніцамі збудаваныя. Пойдзеш неабачліва, ступіш на плітку, не ведаючы,— а тая долу адкінецца і праваліцца. І паляціш у прадонне. Яшчэ сцены ў тупіках ёсць, што ад аднаго дотыку паварочваюцца, і сцены, што сціскаюцца, раздушваюць, калі плячом зачэпіш. Чужога хады не прапусцяць. З веданнем збудаваныя. Езуіты што — яны кніжнікі. Вычыталі, вывучылі, да сваіх патрэбаў прыстасавалі. А ў самыя глыбіні, канечне, не лезлі. І не ўлезлі б: не для іх будавана, не іхнім богам асветлена. Даўняя рэч, таемная рэч. І сэрца ў гэтай зямлі, камсамольчык, даўняе. Ты слухай, слухай. Калі зразумееш — скарыстаеш.*

Стары, здаецца, і яшчэ шмат чаго казаў, але таго я, па шчырасці, усяго не запомніў. Галава аццяжэла і страшэнна забалела ад ягонага голасу, быццам абручом чэрап сціснула, ажно ўваччу пацямнела. Мабыць, праз надвор'е: Шацiловiч ужо, не дачакаўшыся акадэміка, сышоў, і якраз навальніца пачалася. Даўно такой не было: пацямнела, як ноччу. А я, сорам сказаць, за сталом седзячы заснуў. І сніў розную дрэнь: усё нейкія хады, дзе было па калена ржавай вады, і барадатых ідалаў, і камяні на пагорку над рэчкай.

Лухта, канечне, але асобныя моманты цікавыя. Пра хады пад горадам, верагодней за ўсё, лухта. І пра капішча таксама. А вось віленскі немец Глаўбіц, Іаган Крыстоф, якраз-такі рэканструяваў Сафійскі сабор ў васямнаццатым стагоддзі. Цікава было б паглядзець тыя планы, якія вывучае Вацлаў Юстынавіч,— можа, сапраўды даўнейшыя хованкі ёсць?..

А пра памяць і пра сэрца — гэта вельмі хараша сказана, я ад беспартыйнага саматужніка нават і не чакаў. І мне нават падаецца, быццам...

*(На гэтым дзённікавы запіс абрываецца.)*

## 11.

Унутры ўсё было прыблізна так, як Зініч і ўяўляў. Выцвілыя савецкія шпалеры, месцамі падраныя, месцамі з пухірамі ад вільгаці. Дошкі з аблезлаю фарбай пад нагамі, што адгукаліся на крокі — кожная ў сваёй танальнасці. Пыльныя вокны з закладзенай між рамамі пажаўцелай ватай, пыльныя палавікі. У невысокім буфеце за шклом, акурат перад перамяшанымі сервізамі, было ўторкнута некалькі фота. Зініч наблізіўся, парыпваючы масніцамі. На першай картцы пазнаў Алега Маслоўскага — зусім

яшчэ падлетка, можа, дзесяцікласніка, са светлымі валасамі да плеч, у модных, але караткаватых джынсах. Побач стаяла фота пажылой жанчыны з ямінкамі на шчоках. Жанчына, мякка ўсміхаючыся, сядзела на крэсле, трымаючы руку на плячы бялявага хлопчыка. І ў хлопчыку Зініч, прыгледзеўшыся, таксама пазнаў Маслоўскага — пэўна, сямі- васьмігадовага.

Кватэра была невялікая: цесны пакойчык, кладоўка ды кухня. У пакоі сумавала пара хісткіх чырвоных фатэляў, што кульгалі на адну ножку. Тут жа за шафаю, што перагароджвала пакой, месціўся пісьмовы стол з накрыўкаю з аргшкла, пад якой пярэсцілі каляндарыкі ды талоны. На падлозе валялася, бездапаможна выцягнуўшы шыю, жоўтая настольная лямпа, падобная да дробнай жырафы. Лямпачка ў ёй ад падзення разбілася, і пад падэшвамі суха патрэсквалі дробныя аскепкі шкла. Побач валяліся вывернутыя са стала шуфляды — іх змесціва было бязладна параскідана вакол.

У куце стаяла раскладзеная канапа з накіданымі коўдрамі, падушкамі і прасцінамі, пара крэслаў, нізкі зэдлік, на якім сарамліва прытулілася — камяком — мятая бялізна. Колькі кніжных паліц уздоўж сцяны — разварочаных, з бязлітасна павыкіданымі кнігамі. І нават Зініч, які быў у гэтым доме ўпершыню, разумеў: усё было не там, дзе трэба, усё было ссунута са звыклых месцаў. Тут нешта шукалі, шукалі паспешліва і адчайна.

Пытанне ў тым, ці знайшлі.

А яшчэ пад нагамі шапацелі паперы. Спісаныя ад рукі — і з дробнымі друкаванымі літарамі, белыя раўнюткія аркушы — і зжоўклыя, змятыя. Ля ўваходу іх было меней, а вось у пакоі, у цесным калідорчыку і нават у кухні, дзе баязліва дрыжаў белы халадзільнік, папера спрэс укрывала падлогу, уздыхала пад крокамі і сям-там варушылася

ад дотыкаў скразнякоў. Скразнякі краталі і бруднаватыя прасціны, накінутыя на нейкае ламачча ў калідоры. Зініч асцярожна прыўзняў край адной, пабачыў нітачкі павуціння, іржавы метал ды трухлявае, паточанае шашалем дрэва — і гідліва адхапіў руку. Што б гэта ні было, яно было бруднае, і пальцы ў Зініча — ён адчуваў гэта нават скрозь гумовую пальчатку — цяпер таксама забрудзіліся.

— В общем, вот так,— гучна сказаў нябачны Сычоў. Сам ён ад дзвярэй далёка не адыходзіў, пераміпаючыся з нагі на нагу, быццам баяўся запэцкаць новыя чырвоныя красоўкі. Смартфон у руках участковага зноў пстрыкнуў паведамленнем з сацсеткі.

— Вы фотографируйте, что надо для статьи, и пойдёмте.

— Добра, добра,— адгукнуўся Зініч, нервова паводзячы пальцамі. Рассеяна зірнуў на пыльныя калаўроты, на вялізную ступу з трэшчынай. Падумаў, зноў варухнуўшы безнадзейна бруднымі пальцамі, што някепска было б памыць рукі, і скіраваўся далей па вузкім захламленым калідоры.

Дзвярэй на кухню не было — толькі фіранка з таннага паркалю ў кветачкі. Зініч, гідліва моршчачы твар, адшоргнуў яе ўбок — і ад нечаканасці адступіў на крок назад, упершыся спінаю ў нейкае пыльнае ламачча, якое адразу ж пасыпалася.

А з кухні на Зініча глядзелі — вялікімі сумнымі вачыма з-пад цёмных дугаў броваў. Зініч глыбока ўдыхнуў і выдыхнуў раз, другі, супакойваючыся.

Гэта былі ўсяго толькі драўляныя фігуры. Верагодней за ўсё, мяркуючы па стане дрэва і фарбы, досыць старажытныя. Беларускае наіўнае мастацтва, з трохі збітымі прапорцыямі — але праз гэта больш жывымі паставамі.

— Анёлы...— прагаварыў уражаны Зініч уголас. Меней за ўсё ён спадзяваўся адшукаць на бруднай кухні такія

рэчы — сапраўдныя скарбы. У мінскім музеі ёсць падобныя, здаецца. Страшна нават падумаць, колькі яны могуць каштаваць. Зініч міжвольна крануўся лебядзінага крыла за спінай у таго, што прытуліўся да халадзільніка. На валасах у анёла паблісквалі рэшткі колішняй пазалоты, а ў прыціснутай да грудзей руцэ было нешта накшталт ліхтара са свечкай.

А яшчэ тут жа на кухні, каля самага вакна, чарнела на лінолеуме закарэлая пляма, над якой вілася дробная мушка. Зініч, рэзка адчуўшы позыў на рвоту, з кухні паспешліва выйшаў. Стаяў у калідоры, адчуваючы, як млосць наплывае хвалямі, як скаланаецца ад дрыготкі ўсё цела.

Яму за ўсё жыццё рэдка даводзілася бачыць смерць у любых яе праявах. Бацькі з маленства да заканчэння школы аберагалі яго — не бралі з сабою на пахаванні, пазбягалі абмяркоўваць такія рэчы пры Зінічы. Рыбка не памерла, проста заснула. Любімая бабуля з'ехала ў далёкае падарожжа, але перадае прывітанне і калі-небудзь вернецца. І гэтае «калі-небудзь» расцягвалася надоўга — навечна. Ажно пакуль Зініч не вырас і не прыняў факты як дадзенае, без эмоцый, сцертых часам. Смерці адбываліся вакол, людзі сыходзілі, і ён, ужо дарослы, прывучаны берагчыся, шкадаваць сябе, абыякава чытаў пра трагічныя падзеі на любімых інфармацыйных парталах. Але з разгортваннем пандэміі смерць стала нечакана блізкай і непасрэднай пагрозай. І стала страшна.

Цяпер жа смерць увогуле заступіла яму дарогу, расцяклася брыдкаю лужынай з вусцішным саладкаватым пахам літаральна пад нагамі.

Спрабуючы аддыхацца і з замружанымі вачыма стараючыся не думаць пра закарэлую кроў на лінолеуме, Зініч разважаў так. Тыя, хто забіў Алега, прыйшлі сюды, відаць, адмыслова па нейкія паперы — інакш не расцерушылі б

усе запісы, не перавярнулі б кніжныя паліцы ды шуфляды ў пісьмовым стале. Паказальна, што не вынеслі сапраўды каштоўныя рэчы, кшталту тых жа анёлаў на кухні: ці то не ведалі вартасці, ці то цікавіліся зусім іншым. Зініч уласную галаву паставіў бы на другое.

Ён вярнуўся ў Алегаў пакой, сціскаючы ў кішэні важкі ключ. Нагою ссунуў раскіданыя паперы ўбок раз, другі. Брудных слядоў, з пацёкамі, са кавалкамі наліплай глебы, было шмат, але тое быў не паказчык, натаптаць маглі пазней самі супрацоўнікі міліцыі або суседзі-панятыя. Ды і сам Зініч, шчыра кажучы, не меў здольнасцяў Шэрлака Холмса, каб разабрацца, адкуль той бруд. Нават ад адной думкі нахіліцца і перабіраць кавалачкі бруду ды сухія травінкі яго цягнула на ваніты.

Зініч агледзеў пакой яшчэ раз, сам сабе, як звычайна, падлічваючы ўсё вакол сябе. Лічэнне заўжды супакойвала, нібы давала ўладу над асяроддзем. Вокны — раз, два. Два падваконні, заваленыя бруднымі ржавымі штукамі. Два фатэлі, адна шафа, адчыненая наросхрыст, з выпушчанай трыбухою старых швэдраў. Канапа — таксама адна. Пісьмовы стол, паваленае крэсла, разбітая лямпа — усяго па адным. Вывернутыя шуфляды — тры штукі.

Шуфляды, мабыць, варта было б вывучыць бліжэй. Зініч прайшоў па затаптаных аркушах, з кволай надзеяй гледзячы сабе пад ногі — а раптам нешта з архіва ўсё-такі засталося тут. Раз-другі нават прыпыніўся, падняў двума пальцамі адзін аркуш, другі. Але гэта былі то раздрукоўкі навуковых артыкулаў, можа, Алегавых уласных, яшчэ студэнцкай пары, то нейкія схемы і табліцы, то ўвогуле ад рукі маляваныя планы будынкаў з неразборлівымі пазнакамі. З аркушаў, што валяліся на падлозе, ніводзін не нагадваў тыя, якія Зініч бачыў сканаванымі — ані колерам, ані пячаткамі, ані рукапіснымі радкамі або выцвілым машынапісам.

Вакол перавернутых шуфлядаў былі бязладна накіданыя скамячаныя паперчыны, сточаныя алоўкі і пагрызеныя асадкі. Валялася колькі навагодніх паштовых картак, няроўна складзеныя мапы Полацка розных гадоў, газеты за пазамінулы год, рэкламныя праспекты з «Еўраопта». Колькі пяцірублёвых купюр, колькі манет, колькі старых фота Сафійскага сабора з розных ракурсаў, яшчэ нейкая пыльная драбяза, нікчэмныя абрыўкі штодзённага жыцця. Тут жа ляжала раздзертая кардонная тэчка без змесціва — калі, канечне, не лічыць адзін камяк сіняй паперы. Зініч асцярожна падняў яго, разгарнуў — і ў руках у яго аказаўся абрывак сіняй прамакальнай паперы. Зініч задуменна пакруціў яго ў пальцах і адкінуў прэч.

Тыя, хто прыйшоў сюды па Алегаву душу, напэўна, знайшлі-такі, што шукалі. Ведалі, па што ішлі, хай сабе і не былі ўпэўненыя, дзе шукаць.

Ані камп'ютара, ані тэлефона Маслоўскага відаць не было. Зініч, высунуўшыся з дзвярэй пакоя, сухім прафесійным тонам пацікавіўся, ці не было тут грабяжу. Сычоў, адарваўшыся ад смартфона, задумаўся і кіўнуў.

— Вынесли кое-что, действительно,— адказаў.— Соседи помнят, что у потерпевшего был ноутбук. Телефон тоже.

— Але болей нічога не ўзялі чамусьці,— заўважыў Зініч з націскам.

Участковы паціснуў плячыма, агледзеўся, крывячы рот.

— Да чего тут брать-то,— працадзіў.— Бабушатник типичный.

Зініч з'едліва ўхмыльнуўся пад рэспіратарам. Малады ўчастковы таксама не ведаў — зрэшты, і не мог ведаць, адкуль яму,— колькі грошай адвалілі б ахвотнікі за, скажам, тых жа драўляных анёлаў на кухні. Асабліва замежныя ахвотнікі, якіх на разнастайных паўлегальных аўкцыёнах хапае.

Можа, таму Маслоўскага і забілі? Не праз архіў, а праз нейкую даражэзную штуку, на якую знайшоўся нецярплівы пакупнік-калекцыянер? Зініч пакруціў носам, задуменна трасянуў валасамі.

Справа была дрэнь.

— Вы скоро тут? — занепакоіўся Сычоў, скоса паглядаючы ў дзверы, туды, дзе пышна квітнеў заліты сонцам бэз.— У меня, понимаете, выходной.

— Я зараз, хвілінку,— паабяцаў Зініч, зноў знікаючы ў праёме дзвярэй. Яшчэ раз прабегся паглядам па пакоі, вярнуўся да вывернутых шуфлядаў, апусціўся побач з імі на калені.

Калі Алегавы забойцы не проста сцягнулі архіўныя дакументы, але і забралі ноўтбук ды тэлефон Маслоўскага, значыць, дакументы і факты самі па сабе для іх не маюць вялікага значэння. Ім патрэбны быў Алегаў розум, даследаванне, у якім паміж усімі фактамі была б усталявана сувязь. Ім патрэбна была разгадка — і, калі ўлічыць сумны Алегаў лёс, у Маслоўскага тая разгадка ўсё-такі была. Той выпадак, калі чалавек сапраўды ведаў зашмат, каб застацца жывым.

Таму і знеслі ноўтбук і тэлефон — вывучыць файлы, званкі, перапіскі. Зініч з непрыемным халадком пад лыжачкай зразумеў, што, верагодней за ўсё, Алегавы забойцы дабраліся і да ягонага з Маслоўскім ліставання. А значыць, маглі даведацца — можа, ужо даведаліся,— хто ён, адкуль і дзеля чаго прыехаў у Полацк. І нават — як Зініч выглядае, бо варта толькі прабіць ягонае імя і прозвішча ў пашукавіку, каб атрымаць фота хоць бы і з Зінічавай аўтарскай рубрыкі на сайце часопіса.

Чаго забойцы ведаць не маглі, дык гэта Алегавых звычак. Дакладней, адной, яшчэ ўніверсітэцкіх часоў звычкі скрупулёзна занатоўваць ход сваіх думак, калі ідзе пра-

ца над новым артыкулам. Калі Маслоўскі пісаў дыплом, дык рукапісаў з такімі нататкамі аказалася ў выніку ледзь не ўтрая па вазе болей, чым уласна самой дыпломнай работы.

І пісаў Алег заўжды не ў адмысловых нататніках, не ў паважных штодзённіках у скураным пераплёце, а ў звычайных школьных сшытках, тонкіх, на дванаццаць лістоў, ды яшчэ з якімі-небудзь дурацкімі малюнкамі на вокладцы. Зініч, прыгадаўшы тую даўнюю звычку Алега, пакруціўся па пакоі, прыглядаючыся да папер, і пару такіх сшыткаў, якія забойцы, мабыць, палічылі нецікавымі ці нязначнымі, знайшоў. Адзін, з ружовымі сардэчкамі, валяўся пад фатэлем, напэўна, нецярпліва адкінуты ўбок. Другі, клятчасты, ляжаў у пыле пад сталом. Трэці слаба вытыркаў з-пад слаёў раскіданых папер — зялёны ў жоўтыя кветачкі, з брудным следам нечай падэшвы.

Забойцы ведалі пра архіўныя паперы ў тэчцы, ім стала розуму скеміць, што перапіску ды якія асабістыя дакументы можна паглядзець праз ноўтбук і смартфон забітага. Але пра Алегаву даўнюю звычку абыходзіцца такімі вось сшытачкамі для нататак яны нават не здагадваліся.

Значыць, не ведалі Алега блізка.

Зініч прагартаў сшыткі, выхопліваючы асобныя словы, не без цяжкасці разбіраючы нязграбны Алегаў почырк. Натыркнуўся позіркам на прозвішча *Івянецкі* — і ў момант прыгадаў пратакол допыту, які вывучаў у цягніку.

— Гражданин журналист, вы скоро? — падаў голас Сычоў, які заўважна нудзіўся ля дзвярэй.— У меня выходной, вообще-то.

— Іду,— адказаў Зініч, таропка ўкідваючы знаходкі ў заплечнік.

## 12.

Дзень быў кепскі. Прычым не задаўся з самай раніцы, калі Пятро Сямёнавіч, калупаючыся з шалёўкаю на верандзе, выпусціў з рук малаток — проста сабе на нагу. Пятро Сямёнавіч вылаяўся, пінаючы зэдлік, малаток і сцяну, прыкрыкнуў на жонку, што высунулася на гармідар з кухні, шпульнуў тэпцем у котку. Аддыхаўся, аціраючы слёзы, і на клятую шалёўку вырашыў плюнуць. Прынамсі, на сёння.

Бываюць такія дні, калі нічога не ладзіцца.

— Не идёт,— суха сказаў Пятро Сямёнавіч жонцы.

Трохі кульгаючы, выйшаў на ганак, у познюю сырую раніцу. Сеў на прыступку, выцягнуў з кішэні пачак цыгарэт, хацеў быў запаліць — але запалкі, адна за другой, згасалі ў пальцах, не паспеўшы нават разгарэцца як след. Іскрай ад адной балюча апякло пальцы. Пятро Сямёнавіч зноў вылаяўся, зламаў цыгарэту, шпульнуў разам з карабком у траву на газоне, абкладзеным фарбаванымі камянямі. Стаў змрочна глядзець на дождж, што сыпаўся спорна і радасна, бурбалкамі выступаў на паверхні льсняных лужын. Пакрыўджаная котка ценем мільганула на гародзе, за сцяною дажджу, знікла паміж дошкамі плота. Мабыць, зноў збегла да суседа — гэтага блажэннага Маслоўскага, які вечна корпаецца са старызнай. Нібыта не дурны хлапец, універсітэты паканчаў, а ўласны плот паправіць ці дах панавіць усё ў яго рукі не даходзяць. Так і жыве ў лайне, а яшчэ пра культуру нешта там балбоча. Хіба ж культурны чалавек так вось жыць можа?

— Блаженный, чтоб его,— працадзіў Пятро Сямёнавіч уголас і прыправіў азначэнне парай-другой брудных слоўцаў. Па вялікім рахунку, з суседам у яго стасункі былі досыць роўныя — дакладней, ніякіх і не было,— але сёння такі ўжо дзень прыдарыўся, што раздражняла ўсё на свеце.

Пятро Сямёнавіч агледзеў свой участак крытычным паглядам — усе клумбы з саламянымі ветракамі, з фігуркамі жабак і чарапах, з уторкнутым на альпійскай горцы пластыкавым буслом. Сёння нішто з гэтага болей не радавала, і півоні, пасаджаныя жонкаю ўчора, падаваліся недарэчнымі, і нават яблыня ля гароду цвіла кепска. «Срубить к чёртовой матери»,— сярдзіта падумаў Пятро Сямёнавіч, гледзячы на яблыню скрозь дождж.

Ён падняўся на ногі, выглядаючы ў траве запалкі і цыгарэты. Згроб з зэдліка ля дзвярэй мяты пакет, накінуў на галаву, на тоўстыя шарсцяныя шкарпэты нацягнуў кароткія гумовыя боты. Выйшаў пад дождж, пакрэктваючы і чартыхаючыся, зашнарыў у траве пад ганкам.

Забрахаў ля веснічак сабака — руды злосны Тузік, які быў насамрэч сучкай, невялікай, востраносай, на крывых тонкіх ножках. Пятро Сямёнавіч зірнуў на вуліцу — і за хвалямі бэзу пабачыў сярэбраны бок машыны. Гэта было дзіўнавата: праз іх завулак праязджалі рэдка, хіба што згубіўшыся. Далей, за хмызамі, ужо несла чырванаватыя хвалі Палата.

«Рыбаки?..» — падумаў быў Пятро Сямёнавіч. Машына тым часам спынілася — і гэта было яшчэ больш дзіўна — трохі далей, каля брамкі суседа. Пятро Сямёнавіч, прытрымліваючы адной рукой пакет, зрабіў колькі крокаў да плота, што аддзяляў іх і суседскі ўчасткі. Сам усё яшчэ нібыта прыглядаўся да травы, але раз-пораз цікаваў за плот.

Машына была велічэзнай і, пэўна, задарагой для якіх-кольвек рыбакоў. І дакладна задарагой для таго зброду, што звычайна цягаўся да Маслоўскага. Пятро Сямёнавіч нават дазволіў сабе ціхенька прысвіснуць, калі пазнаў-такі марку — «Ролс-Ройс», і не самы стары красовер.

— Пітро Сімёнавіч! — паклікала жонка, з'яўляючыся на ганку.— Ты чывой-та пад дажджом ходзіш? Пайдзём боршч есці, наварыла, як любіш.

Бываюць няўдалыя дні — а бываюць няўдалыя людзі, змрочна падумаў Пятро Сямёнавіч. Выбрала ж момант, каб выпаўзці ды гукаць. Боршч яна, бачыце, наварыла. Упрост талент з'яўляцца не там і не тады, і колькі жылі разам — а трыццаць гадоў будзе, не меней,— заўсёды была такая.

— Пітро Сімё...— зноў пачала жонка, але ён рэзка павярнуўся і прыгразіў дурніцы кулаком, маўляў, змоўкні. Тая прыціхла, збянтэжана лупаючы круглымі блакітнымі вачыма і хутаючыся ў расцягнутую вязаную кофту.

Сам жа Пятро Сямёнавіч, асцярожна прасоўваючыся па кроку, наблізіўся да плота: яго надзвычай зацікавіў адзін з фарбаваных у крапінку камянёў. Нахіліўшыся, Пятро Сямёнавіч адсунуў колькі сухіх травінак, па-гаспадарску змахнуў наліплыя драбочкі бруду. Зірнуў праз шчыліны між штыкецін — быццам незнарок, ненаўмысна слізгануўшы паглядам.

І пабачыў: з даражэзнага красовера палезлі людзі — двое плячыстых, што называецца, упоперак сябе шырэйшых, моцна збітых, у шэрай і сіняй куртках. А з імі яшчэ адзін, якога амаль адразу шырокія схавалі пад парасонам, так што не было як разгледзець. Утрох яны рушылі па зарослай сцежцы да ганка Маслоўскага.

— Пітро Сімёнавіч,— жончын шэпт горача апёк шчаку. Пятро Сямёнавіч скасіў вочы і ўбачыў побач сваю Галю, якая таксама прысела каля плота на кукішкі.— А хтой-та? А чывой-та ані? К Алежку, што лі?

Не дагаварыла, асяклася, паглядзела неяк успуджана. Ад жончынага спуду і самому Пятру Сямёнавічу зрабілася трохі ніякавата, дарма што аднаго разу тануў на Балтыцы ў ледзяной вадзе.

— Может, покупают что,— мовіў да жонкі Пятро Сямёнавіч.

Зноў баязліва зірнуў у шчыліну між штыкецін. Упэўніўся, што Алегавы госці ўжо ўвайшлі ў дом, а значыць, задужа цікаўных суседзяў не згледзяць, і паспешліва ўскочыў, пацягнуў за сабою жонку. Няма чаго пад дажджом калупацца, забубніў. Вось боршч — гэта справа. Боршч — гэта добра.

А сам крадком паглядаў цераз плячо на серабрысты бок машыны, што бліскаў, як рыбная луска між хваляў, у зялёным кустоўі.

Да суседа часам прыходзілі розныя дзівакі — як Пятро Сямёнавіч разумеў, прадаваць або купляць. Маслоўскі і сам неяк, у прыступе прыязнасці (а можа, выпіўшы быў), паказваў нейкія ржавыя манеты, нібыта чатырнаццатага стагоддзя, якія быццам дзесьці тут адкапалі. І цана ў тых манет быццам неймаверная, і каштоўнасць — у плане гістарычным — да нябёсаў. А што там за каштоўнасць-та? Пятро Сямёнавіч сам бачыў: так сабе, ржою паедзена ўсё спрэс, і малюнак не разгледзець. Праўда, пасля, дзеля смеху, трохі пагугліў на жончыным планшэце, што там за манеты і з чым іх ядуць. Выйшла — сапраўды не танныя. Асабліва для якога калекцыянера.

І заўжды гэтак дзіўна было, што Маслоўскі жыве ў лайне ды ходзіць у рваніне, калі на такіх грашах сядзіць. У Галі нават — тая, вядома, не хацела прызнавацца, але Пятро Сямёнавіч націснуў, то раскалолася,— займаў грошы. Прычым някепска так назаймаў, ажно давялося жонцы зладзіць галавамыйку, каб без ягонай, Пятра Сямёнавіча згоды, не думала столькі грошай абы-каму аддаваць. Бо добра там на прадукты яшчэ. Ну — на гарэлку, няхай. А то спусціць жа на нейкую лухту, на дрэнь гэтую, якую яму розныя валацугі носяць. То пабітую ступу прыцягнуць,

то балванаў нейкіх трухлявых. У старым дрэве, між іншым, шашаль заводзіцца, перакінецца цераз сцяну, мэблю паточыць — і за твае ж, выходзіць, уласныя грошы. Такая сабе прыемнасць.

— А дзеньгі-та он аддаў,— сказала Галя прымірэнча, пакуль налівала боршч у мужаву любімую глыбокую місу — з качачкамі.

Пятро Сямёнавіч, якога перапынілі на самым патэтычным месцы прамовы, незадаволена крэкнуў і памяў паміж пальцаў хлебны мякіш.

— Отдал?

Жонка паставіла качыную місу перад Пятром Сямёнавічам, паправіла хустку, хітра накручаную на валасы. Менавіта, сцвердзіла радасна і трохі нават пераможна. Яшчэ ўчора прынёс усё чыста, што вінен быў, выбачаўся нават, што трохі затрымаўся. І вясёленькі быў такі, і жартаваў усё пра нейкага Гаўрылу.

— Харошы малец, еслі падумаць,— заключыла Галя. Падсунула да мужа талерку з нарэзаным хлебам і салам, любоўна пагладзіла Пятра Сямёнавіча па руцэ. Той задуменна пабоўтаў у баршчы лыжкаю, размешваючы смятану.

— А откуда у него деньги-то?

Галя легкадумна пацiснула плячыма. А хто ж яго ведае адкуль. Зарабіў, значыць. Малец-та разумны. Можа, і прадаў што, старызны-ж у яго шмат, ледзь не ўся хата забіта. Унь расказваў яшчэ ўчора, што мінчукі ў яго калаўроты замовілі, нейкі там свой бар упрыгожваць будуць. Калаўротамі-та.

— Тожа мне сталіца. Как там людзі жывут, ні прэдстаўляю.

— Ага,— Пятро Сямёнавіч кінуў у рот скрылёк сала і надкусіў зубок часныку.— Видишь. Это минчуки денег, видно, дали. За крутёлки эти.

Жонка пацiснула плячыма. Каб мiнчукi далi, дык Алежак так бы i сказаў. Ён не з такiх, што хаваюцца. А то ўсё неяк кругам, кругам, у жарцiкi ўдарыўся. Вясёлы, а весялосць такая нейкая...

— ...падкручыная,— знайшлася Галя са словам. Пятро Сямёнавiч насмешлiва чмыхнуў носам. Жонка ў яго была далёка не самая разумная або адукаваная, канечне (зрэшты, не за тое браў), але часам як скажа — дык скажа. Зусiм ужо дзiкую дзiкасць.

— Не понял?..

А вось так, гукнулася Галя. Бывае, чалавек ад сэрца вясёлы, дык ажно сам радуешся, як на яго глядзiш. А тут такая весялосць, як у рускай рулетцы, ад азарту дурнога, i чалавек увесь — што сцiснутая спружына. I людзi гэтыя, што сёння да Алежкi прыехалi, не так проста з'явiлiся. Нядобрыя гэта людзi.

— ...нiхарашо, адным словам.— Галя падцiснула вусны, адвярнулася да мойкi i загрукатала патэльняй. Пятро Сямёнавiч глядзеў на яе напятыя плечы i колькi часу моўчкi еў боршч.

— Тебе бы,— не стрымаўся праз колькi хвiлiн,— меньше Донцовой читать, Галя. Детективщица, ишь ты.

Праўда, Пятро Сямёнавiч амаль адразу пашкадаваў, што сказаў гэта: жонка павярнула галаву, i бачна стала, што вочы ў яе заплаканыя, а нос падпух i расчырванеўся, як спелая слiўка.

— Ты — чего?..— здзiвiўся Пятро Сямёнавiч.— Галечка!..

А тая заплакала ўголас, ацiраючы вочы тыльным бокам далонi, i прыгаворвала, пацягваючы носам, што сон кепскi бачыла, што нядобрыя гэта людзi i нядобра ўсё можа павярнуцца.

— Ты, Пецiнька, к Алежку схадзi, харашо? Пасматры, што ён там.

Пятро Сямёнавіч, які прыўзняўся быў, акругленым жыватом трохі адсунуўшы кухонны стол з талеркамі, замёр на месцы. Пачухаў стрыжаную патыліцу, незадаволена крэкнуў. Жонка, усхліпваючы і час ад часу ікаючы, глядзела на яго круглымі блакітнымі вачыма.

— Пеціньма,— працягнула жаласна. І прыгадалася чамусьці, як яна вось такая, заплаканая і жаласная, з разгубленымі блакітнымі вачыма, хіба што маладзейшая, праводзіла яго ў войска амаль сорак год таму.

У грудзях чамусьці стала адначасна і балюча, і горача.

— Ладно, чего уж,— паабяцаў Пятро Сямёнавіч, хай і без асаблівай ахвоты.— Схожу, посмотрю. Попозже только.

І збіраўся, можа, амаль да вечара. Зрэшты, ужо па абедзе (з вакенца на кухні добра відаць было) тая дзіўнаватая троіца вярнулася ў машыну і з'ехала пад Тузікава звонкае брэханне. Пятро Сямёнавіч адпрасаваў парадныя штаны — са стрэлачкамі, як любіў — ды сёе-тое з пасцельнай бялізны. Навёў, не спяшаючыся, парадак у скрынцы з інструментам, перасунуў шафку ў вітальні. Пакуль жонка перабірала і раскладала рэчы па паліцах, уключыў тэлевізар. Глядзеў фільм, пасля прагноз надвор'я — і адначасна чуйна прыслухоўваўся да таго, што адбывалася ў суседа за сценкай. Там стаяла цішыня. Хаця так звычайна і было: Маслоўскі, дзякаваць богу, сусед быў няшумны, хай сабе і не дужа ахайны.

Жонка, расклаўшы ўсё ў шафцы, прыйшла ў пакой, села на канапе побач. Паглядзела — і ад яе пагляду Пятро Сямёнавіч раззлаваўся.

— Да схожу я, схожу! Х-хоспади!

Выйшаў, бразнуўшы зашклёнымі дзвярыма. У вітальні сярдзіта соп і доўга чысціў, націраючы чорным крэмам, зімовыя боты — невядома навошта. З вуліцы ў прачыненыя дзверы праслізгнула мокрая котка, мяўкнула, пацерлася аб ногі. Пятро Сямёнавіч пагладзіў пухнаты звярыны бок.

— Проголодалась, берлага?..

Пайшоў, гучна тупаючы, на кухню, і котка вілася ўкруг ягоных ног, раз-пораз сіпла падаючы голас. Пятро Сямёнавіч кінуў ёй у місу колькі шматкоў мяса, што засталося з булёна, любоўна пагладзіў котку па мокрай спінцы. Жонка зазірнула ў кухню.

— Ты штой-та тут, Пітро Сімёнавіч?

Той надзьмуўся.

— А что,— мовіў.— Вот животинка голодает, а тебе и всё равно.

Жонка глянула на котку, якая радасна ўмінала мяса, пасля на мужа. Той скрывіў вусны і праціснуўся паўз сваю Галю ў вітальню. Накінуў плашч-дажджавік паўзверх выцягнутай хатняй майкі, нацягнуў гумовыя боты. Доўга прытупваў, папраўляючы шкарпэтку, і адчуваў жончын пытальны пагляд між лапатак.

— Да иду уже! — буркнуў і выйшаў за дзверы.

Шлях да суседавых дзвярэй быў нечакана доўгі. Быццам расцягваўся, быццам ганак Маслоўскага аддаляўся з кожным крокам ад Пятра Сямёнавіча. Дождж валіў, як і раней, навальваўся адусюль змрок — трохі лілаватага адцення, нібы падфарбаваны бэзам.

Прыступкі адгукаліся на крокі — рып, рып. Пятро Сямёнавіч націснуў на гузік званка, пагрукаў, не дачакаўшыся водгуку. З сілай паторгаў дзверы — і ледзь не страціў раўнавагу, бо тыя лёгка адчыніліся.

Унутры было цёмна, і толькі шапацелі пад ветрам раскіданыя паперы.

— Олежек?..— нерашуча гукнуў Пятро Сямёнавіч. Спалох, які перадаўся яму ад жонкі, зноў накаціў душным цяжарам.

Адказу не было.

## 13.

У чужым горадзе кепска тое, што цяжкавата вось так адразу знайсці зацішны куток, каб спакойна пасядзець і падумаць. У Мінску Зініч часцяком працаваў у кавярнях — асабліва калі спачатку запісваў інтэрв'ю з кім-небудзь цікавым і занятым (а самыя цікавыя людзі зазвычай занятыя). Тады можна было выпіць кавы, адначасна запісваючы гутарку, і тут жа тую гутарку расшыфраваць. Прынамсі, калі не трэба было спяшацца назад у рэдакцыю.

Незнаёмы, чужы Полацк падаваўся нязручным і варожым, і шэрыя курткі маячылі за кожным паваротам. Абачлівы Зініч замовіў таксі — і чакаў яго, стоячы ў цесным тамбуры маленькай прадуктовай крамы. Бабулькі, што заходзілі і выходзілі, пужліва касіліся на ягонае чорнае паліто, было душна і брыдка ад зборышча людзей. Але разам з тым так было больш бяспечна. І Зініч, пакутліва крывячыся і аціраючы пот, трываў.

Спачатку ён думаў вярнуцца ў гатэль і разабрацца са сшыткамі Маслоўскага там. Але, ужо едучы ў таксі пад бубненне дынамікаў (гэты таксіст быў аматарам папсы дзевяностых), Зініч згледзеў ганак кавярні ў псеўданародным стылі.

— Някепскае месца? — спытаўся ў таксіста.

Той паціснуў плячыма.

— Кому как. Но публика приличная, не гопота какая-нибудь.

— Цудоўна,— прамармытаў Зініч.

Вяртацца ў гатэль не дужа хацелася. Ды і адчувалася, што вось так, на людзях, быць усё-такі больш бяспечна. Да таго ж хацелася есці: Зініч, нават мімаходзь згледзеўшы на грыфельнай дошцы ля дзвярэй слова «дранікі», жыва прыгадаў, што не снедаў.

Унутры былі бязладна настаўленыя калаўроты, начоўкі ды маслабойкі, і ўсё гэтае безгустоўнае бязладдзе нечакана — і непрыемна — навяло на думкі пра разгромленую кватэру Маслоўскага. У зале, на шчасце, амаль не было народу — толькі пара пажылых жанчын адзначала нешта за столікам ля ўваходу. Афіцыянт, тонкі зеленаваты хлопчык у доўгім чорным хвартуху, правёў Зініча да аднаго з дальніх столікаў і ўрачыста паклаў перад ім меню ў скураным футарале. Зініч адсунуў ад пляча штучны сланечнік, уторкнуты ў сетку мясцовым дызайнерам, і, амаль не чытаючы, тыкнуў пальцам у некалькі пунктаў з раздзелу «Абед». Падумаўшы, папрасіў яшчэ кавы:

— Каву зараз, калі ласка. Чорную, без цукру.

Зеленаваты хлопчык паківаў і знік. Зініч, кінуўшы паліто і заплечнік на крэсла побач, выцягнуў Алегавы сшыткі, свой журналісцкі нататнік з асадкаю і планшэт. Закасаў рукавы швэдра, акуратна расклаў усё на стале.

Нарэшце ў яго была хоць нейкая зачэпка. Не проста некалькі сканаваных паперчын з размытымі пячаткамі і неразборлівымі подпісамі. Не проста цьмяныя паківанні Маслоўскага на нешта грандыёзнае. Канкрэтыка. Дакладнасць.

Ну альбо трызненне звар'яцелага на глебе беларускай гісторыі дзігера, тут як паглядзець, канечне.

Зініч паправіў рэспіратар і абяцаў сабе — на ўсялякі выпадак — да любых высноваў, зробленых Маслоўскім, ставіцца крытычна.

Ён прагартаў адзін сшытак, другі. Чытаў прафесійна, як чытаюць рэдактары — наўскос, выхопліваючы ключавыя словы і асноўны сэнс. Почырк у Маслоўскага з універсітэцкіх часоў амаль не змяніўся: заставаўся такім жа трохі няўклюдным, хісткім, з нахілам улева. Былі тут, мусіць, для візуалізацыі думак, што апанавалі Алега, і крываватыя

малюнкі, і мапы горада ды ваколіц, накіданыя ад рукі, і схемы асобных будынкаў. Усё, наколькі мог зразумець Зініч, зводзілася выключна да пошукаў адной-адзінай рэліквіі — Крыжа Еўфрасінні Полацкай.

Зініч прысвіснуў. Ведаў асобныя чуткі наконт таго, што Крыж прыхаваны недзе пад Масквою, або закапаны ў ваколіцах Магілёва, або ўвогуле кінуты ў балота непадалёк ад Полацка. Але чуткі былі чуткамі, нават калі распаўсюджвалі іх былыя супрацоўнікі КДБ, гісторыкі ці царкоўнікі. Можа быць, тыя, хто перадаваў чуткі, самі нават шчыра ўва ўсё гэта верылі, але, як ні круці, ніводную з гіпотэз праверыць было немагчыма — з цэлага шэрагу розных прычын.

А вось Маслоўскі ўзяўся за справу з такім жа імпэтам, з якім некалі пісаў студэнцкія даследаванні. Учапіўся, як бульдог. У сваіх сшытках (гэта, мабыць, была толькі частка, самыя познія нататкі) Маслоўскі не проста разважаў — а збіраў па крупінках факты, аналізаваў прыдбаныя архівы і занатоўваў такія-сякія высновы. Цытаваў дзённікі Івянецкага, спасылаўся на пратаколы допытаў, на вопісы экспедыцый БелАН, то бок працаваў скрупулёзна і досыць навукова. Зініч прагортваў сшыткі, то вяртаючыся на колькі старонак назад, то зноў праглядаючы запісы наперад, і спрабаваў ухапіць нітачку разважанняў, логіку даследавання.

Афіцыянт прынёс яму кавы, і Зініч, пачакаўшы, пакуль зеленаваты хлопчык зноў знікне ў чэраве кухні, апусціў рэспіратар на падбароддзе і адпіў з кубка. Кава адразу дадала імпэту думкам, тыя заварушыліся куды ахвотней, і на бледных Зінічавых шчоках з'явіўся цень румянца.

Атрымалася сяк-так усталяваць храналогію запісаў, а ад яе — і сувязі паміж фактамі. Апроч таго Зініч звярнуў увагу, што ў нататках Маслоўскага ў самым познім, ружовым,

сшытку часта згадваецца нехта з ініцыяламі «В. Д.», прычым часта побач змешчаны лічбы. Зініч, рассеяна пацiраючы лоб, дапусціў, што гэта могуць быць грашовыя пазыкі — і, нават калі сумы пададзены ў беларускіх рублях, немалыя. Між тым загадкавыя літары сустракаліся і ў запісах пра абмен інфармацыяй — накшталт «В. Д. мяркуе» або «На думку В. Д.», як быццам Маслоўскі лічыў свайго крэдытора дастаткова абазнаным у пытаннях беларускай гісторыі. Апошняе Зінічу ўявіць было цяжкавата: ён добра памятаў, як Алег на абароне ўласнай дыпломнай работы ўшчэнт пасварыўся з навуковым кіраўніком, загадчыкам кафедры, якога палічыў некампетэнтным. Настолькі пасварыўся, што перспектыўнага і ініцыятыўнага студэнта, ледзьве не надзею беларускай навукі, пазбавілі планаванага месца ў магістратуры.

На апошняе, праўда, Зінічу наракаць было б якраз не варта: месца бунтаўшчыка Маслоўскага дасталося тады яму.

«Хто ж там за "В. Д." такі»,— падумаў Зініч, хмурачыся. Да сваёй сферы ведаў Маслоўскі ставіўся досыць раўніва і прызнаваць кагосьці не проста дастаткова абазнаным, але і вартым увагі суразмоўцам Алег ніколі не спяшаўся. Няўжо адыгралі сваю ролю пазыкі? Маўляў, хто грошы плаціць, той і музыку замаўляе?..

Зініч пахітаў галавою. Маслоўскі быў не з такіх, хто вядзецца на грошы. Прынамсі, раней — але наўрад ці за некалькі гадоў чалавек мог бы змяніцца настолькі карэнным чынам.

Аднак цікавостак у нататках ставала і без загадкавых ініцыялаў. Зініч наторкнуўся на фразачку «Адзін Гаўрыла ў Полацку», шматкроць абведзеную, абкружаную росчыркамі і завітушкамі, смешнымі профілямі ды крываватымі кветачкамі. Наторкнуўся — і фраза падалася яму трохі

знаёмай. Не як вядомая прымаўка, але як словы, што чуў параўнальна нядаўна. Зініч перагарнуў старонку — адно каб пабачыць абкружанае тлустымі клічнікамі слова «ЗВЕСТАВАННЕ!». Побач стэплерам была прымацаваная візітоўка — «Полацкая мастацкая галерэя, Паліна Эдуардаўна Дрыга», гарадскі, пэўна, працоўны тэлефон і часы працы. Сіняй асадкай нехта, хутчэй за ўсё, Алег, абвёў графік працы ў суботы.

Зініч варухнуў бровамі. Сёння якраз была субота. Ён правёў пальцамі па вялікіх, ледзь не на паўстаронкі літарах з нахілам улева. Звеставанне. У памяці нешта заварушылася: докшыцкая бабуля і маленькі Зініч ідуць на Вялікдзень свянціць яйкі ды булку у маленькую цэркаўку. А пасля, пасвянціўшы ежу, заходзяць у адчыненыя нарасхрыст дзверы. Унутры цемнавата і горача, пахне ладанам, так што ў Зініча круціцца ў галаве. Бабуля вядзе яго за руку, другою трымаючы цяжкі кошык з самаробным кулічом, цвёрдай, амаль каменнай каўбасою і фарбаванымі лускай цыбулі яйкамі. Глядзі, Кастусь, глядзі. Абразы. Вось там — Мікалай Цудатворца. Вось там Божая Маці, бачыш, якая прыгожая. А вось там, зірні, Кастусь, табе спадабаецца, бач, які анёл белакрылы? Зірні, Кастусь, дзетка, там...

— Звеставанне,— прамовіў Зініч уголас.

Зеленаваты афіцыянт, што якраз прыцягнуў паднос з гарачым, здзіўлена акругліў вочы. А Зініч, застылы на сваім крэсле, успамінаў: і праўда, белакрылы анёл. І Божая Маці. Анёл прынёс ёй вестку пра будучыню, таму, уласна, і звеставанне. А звалі анёла...

— Ещё что-нибудь? — выхавана пацікавіўся афіцыянт, прыціскаючы паднос да жывата.

Зініч адмоўна пакруціў носам, схаваўшыся за рэспіратарам. Згадка пра дзяцінства, пра докшыцкую бабулю

зрабіла далёкімі і нязначнымі ўсе непрыемныя дэталі сучаснасці, але цяпер сучаснасць вярнулася — вусцішнаю хваляй пандэміі. Зініч мляўка падумаў, ці мог бы падчапіць ад хваравітага з выгляду афіцыянта нейкую дрэнь,— і адначасна прыдзірліва і баязліва зірнуў на змесціва талерак. Ані грыбны суп-пюрэ, ані грэчаская салатка, ані дранікі з мясам асаблівага даверу чамусь не выклікалі.

Згадка пра абраз у докшыцкай царкве не давала спакою. Зініч таропкім дотыкам ажывіў планшэт і ўбіў у пашукавік назву, запісаную і адзначаную Маслоўскім як нешта неймаверна важнае. Прагартаў адзін сайт з вынікаў пошуку Гугла, другі. Учытаўшыся ў адзін з артыкулаў, Зініч варухнуў бровамі: імя анёлу было — Гаўрыіл. Пытанне, канечне, чаму Маслоўскаму раптам прыйшла фантазія фамільярнічаць з анёламі. Зініч ленавата пагартаў іншыя выявы Гаўрыіла і задуменна прыкусіў вусны.

Скласці два і два было нескладана. Калі Алег гаварыў пра нейкае «Звеставанне» і прымацоўваў побач, верагодна, дамовіўшыся пра сустрэчу, візітоўку супрацоўніцы мастацкай галерэі, значыць, размова ішла пра абраз з такім сюжэтам. Абраз з Гаўрыілам. Адзін той абраз у Полацку або не, Зінічу цяжкавата было меркаваць, але дапусціць гэта можна, можна ў гэтым пункце Маслоўскаму (пакуль што) даверыцца.

Зініч пакалупаў лыжкаю грыбны суп. Тут жа пакасіўся на свой смартфон і, рашуча адсунуўшы талерку, набраў нумар з візітоўкі. Адказалі не адразу: першыя два разы было занята, на трэці нібыта паднялі слухаўку і тут жа кінулі. Зініч, аднак, навучаны прафесійным досведам, не адступаў.

І на чацвёрты раз яму пашчасціла. Смартфон адгукнуўся густым жаночым голасам, стомленым, з трохі раздражнёнымі інтанацыямі, і Зініч адразу ж намаляваў у галаве партрэт: немаладая, дзябёлая, з узбітымі светлымі валасамі

і крываватымі стрэлкамі на вачах. Яму шмат даводзілася бачыць вось такіх загадчыц раённых бібліятэк або дамоў культуры, і Зініч метадам спроб і памылак выпрацаваў свой уласны падыход да гэтага чалавечага тыпажу: бессаромная напорыстасць.

— Паліна Эдуардаўна? — дзелавіта спытаў ён. І тут жа, без паўзы працягнуў: — Гэта вас наконт «Звеставання» турбуюць. Памятаеце, можа быць, мы дамаўляліся. На сёння. Я, калі што, зараз вольны. Вам зручна?

Па той бок гэты напор выклікаў збянтэжанасць. Паліна Эдуардаўна, кашлянуўшы, пасля непрацяглага маўчання пагадзілася.

— Толькі давайце ў найбліжэйшыя паўгадзіны,— папрасіла.— Канец месяца. У мяне справаздачнасць гарыць.

Зініч, які не быў да канца ўпэўнены, ці спрацуе ягоны хітрык, з лёгкім сэрцам пагадзіўся. Спахапіўшыся, уставіў пасярод змятага развітання Паліны Эдуардаўны:

— Як вас знайсці толькі, дзе вас шукаць?

— Ідзіце праз галоўны ўваход,— строга загадала Дрыга.— Сустрэнем.

Яго сапраўды сустрэлі — адразу ж за зялёнымі дзвярыма галерэі, прычым, мяркуючы па бэйджы на высокіх грудзях, сама Паліна Эдуардаўна. Зініч не без самазадаволенасці адзначыў, што выглядае яна прыблізна так, як яму ўяўлялася: невысокая, але мажная, з двайным падбароддзем, з цяжкімі залатымі завушніцамі.

— Вы — Маслоўскі? — грозна спытала Паліна Эдуардаўна.

— Ягоны сябар,— Зініч назваўся, нахіліўшы галаву, і адточаным жэстам падаў суразмоўцы сваю візітоўку. Тая пажавала фарбаванымі вуснамі, шэптам прачытаўшы назву выдання. Уважліва зірнула густа падведзенымі вачыма і кіўком запрасіла ісці за сабою.

Пайшлі ўніз, на цокальны паверх з досыць высокімі скляпеністымі столямі. Справа мільганула заспанае аблічча гардэробшчыцы — яны ж рушылі па калідоры ўлева. Праз некалькі дзясяткаў метраў Паліна Эдуардаўна нарэшце прыпынілася, зазвінела ключамі. Адчыніла дзверы ў невялікі пакойчык, застаўлены прыкрытымі прасцінамі квадратамі і прастакутнікамі розных памераў. Зініч увайшоў за ёй следам, паморшчыўся: густы пах фарбы і растваральніка быў досыць адчувальны нават з-пад рэспіратара.

— Глядзіце,— запрасіла Паліна Эдуардаўна, паставіўшы на мальберт у дальнім куце невялікі квадрат і шырокім жэстам сцягнула прасціну. Зініч прыўзняў бровы: перад ім у разной пазалочанай раме на пяшчотным ружовым фоне стаялі аб'ёмныя фігуркі. Злева жанчына, мабыць, Божая Маці, укленчыла перад белакрылым анёлам на чорным воблаку. Анёл выцягваў руку, паказваючы кудысь угару, а над гэтымі дваімі раскідвала крылы птушка, можа, голуб, абкружаны промнямі ззяння. Пазалочаныя промні таксама былі аб'ёмнымі — і часткаю абламанымі.

— Фатаграфаваць будзеце? — спытала Паліна Эдуардаўна.

Зініч, усё яшчэ ўглядаючыся ў абраз, рассеяна кіўнуў.

— Пяць хвілін,— сказала Дрыга.— Я вас тут замкну, а то мала што. Абраз дзевятнаццатага стагоддзя, як-ніяк. І фоткайце на здароўе. А праз пяць хвілін вярнуся і выпушчу. Канец месяца, справаздачнасць.

Яна знікла з нечаканым для сваёй камплекцыі спрытам і абяцанне замкнуць выканала: чуваць было, як павярнуўся ў замку ключ. Зініч, мала зважаючы на гэта, наблізіўся да мальберта з абразом, вывучаючы і звыкла падлічваючы ўсё, што можна было падлічыць.

Падлічыў — і паморшчыўся, бо выразаныя на раме бутоны размяркоўваліся несіметрычна: зверху і знізу па

чатыры, справа пяць, а злева ўвогуле шэсць. Зініч механічна правёў рукою па левым, няправільным баку рамы — і нечакана адчуў, што адзін з бутонаў пад ягонымі пальцамі варухнуўся, правальваючыся ўніз. Зініч націснуў на кожны бутон асобна, уважліва прыслухоўваючыся,— і высветліў, што западае трэці знізу. Гэтага, мабыць, увогуле датыкаліся часцей за іншыя, бо пазалоты тут было меней, чым на іншых частках рамы. Зініч націснуў мацней — але нічога не адбылося.

— Не ўсё так проста,— прамармытаў Зініч.— Канечне.

Ён уважліва зірнуў на фігуру анёла — задужа вялікую, каб рабіць яе рухомай. Гаўрыіл, схіліўшы голаў, паказваў угару, на птушку з раскінутымі крыламі. Зініч зірнуў на галуба больш пільна, пералічыў надламаныя і не надламаныя промні. На некаторых злева заўважыў даўнія неглыбокія барозны, быццам нешта паварочвалі. Зініч перарывіста выдыхнуў і, заціснуўшы адной рукой бутон на раме, другою асцярожна павярнуў фігурку галуба так, як падказвалі драпіны на пазалоце.

У ніжняй частцы рамы нешта суха пстрыкнула, як бы ўздыхнула — быццам з высілкам раскруцілася пражавелая спружынка. Зініч, асцярожна прыўзняўшы абраз, правёў дрыготкай ад хвалявання рукою па нізе рамы, адчуў пальцамі ўдаўліну-паз, націснуў мацней.

На далонь яму ўпала тонкая металічная капсулафутарал.

## 14.

За вокнамі цёмна, круціцца снег. Вецер скуголіць, драпае ледзянымі кіпцямі ў вакенца, быццам спрабуе ўварвацца ў дом.

Людачцы страшна: а раптам сапраўды ўварвецца? А яшчэ ў Людачкі да млосці круціцца ў галаве, і горача, і ўсё

цела баліць і ные, і коўдра невыносна цяжкая, а падушка быццам каменная, ажно ломіць патыліцу.

Цені ў кутках маленькага пакоя падымаюць галовы, і Людачка затрымлівае дыханне, зажмурваецца. Страшна.

Недзе ўздыхаюць пад крокамі масніцы, парыпваюць дзверы. Ходзяць людзі, гавораць паміж сабою: бу-бу-бу. Як бы з-пад вады. Здалёк. А побач раз-пораз уздыхае ландышам — так пахне мама. Ма-ма. Сказаць бы, паклікаць яе, але ў роце перасохла, і вусны не варушацца. Таму ландыш знікае, не затрымаць. Людачка дыхае цяжка, плыве ў хвалях гарачыні, і галава, поўная болю і звону, цягне на самае дно, цягне ўніз, уніз.

Вецер урываўся ў маленькі пакой удзень, рэзка адшоргваў фіранкі, так што балюча рэзала вочы калючым белым святлом. Вецер разгортваў коўдру, мацаў белымі халоднымі рукамі, поўзаў па грудзях блішчастаю трубачкай, трос тэрмометрам. Белы-белы вецер, ад якога пахла шпіталём і ўколамі. Гэтыя пахі Людачка добра ведае — таму, толькі адчуўшы іх скрозь свой паўсон, падціснулася і захныкала.

— Корь,— сказаў вецер, бліснуўшы круглымі акулярамі.— Тэк-с.

Пасля ўсё зноў правалілася, захінулася хвалямі мулкай гарачыні. Людачка кашляла, і боль разрастаўся ў яе ў грудзях, і звінела ў вушах мацней — быццам конікі ў лузе. Людачка смутна, туманнымі ўрыўкамі памятае, як ездзіла да бабулі на вёску, і луг з тых успамінаў раптам падкаціўся бліжэй, расхінуўся вакол, патыхаючы ландышам. Радасны, заліты сонцам зялёны луг.

Але пасля стала ціха і цёмна, і вецер стаў скуголіць і драпаць шкло. Людачка зноў захныкала, задыхаючыся адначасна ад страху і болю ў грудзях. «Бу-бу-бу»,— гэта за сценкай. Крокі наблізіліся, рыпнулі дзверы. Працягнулася

па масніцах дарожка святла, і па тым святле прыйшоў бацька. Сеў, ссутуліўшыся, побач з дзіцячым ложкам.

— Ты чаго, верабей? Ты не плач. Хочаш, я табе што-небудзь раскажу?

Людачка ківае. Калі бацька побач, вецер пабойваецца нахабнічаць і цені ў кутку не такія вусцішныя. Людачка чапляецца за шурпатую бацькаву далонь і, вымяраючы сваёю, сонна дзівіцца: вялікая.

А бацька ўсаджваецца латвей і расказвае шэптам. Людачка плыве і плыве па хвалях гарачыні за гэтымі шэптамі, глядзіць на бацькаў твар, палова якога выхаплена з цемры дарожкаю святла. Сумны твар, стомлены твар, з заўчаснымі зморшчкамі цераз лоб і каля вачэй.

Бацька пахне танным тытунём, і ад гэтага цяжкога паху козытна ў носе.

Бацька расказвае. Шэптам. Быццам нельга, каб нехта ўчуў.

Быццам дзеліцца таямніцай.

Бацька расказвае.

...да рэвалюцыі, Людачка, там кадэты вучыліся. Кадэты — гэта такія маленькія вайскоўцы, будучыя афіцэры. Як юнга на караблі, памятаеш, як у Жуля Верна мы з табою чыталі. Вось. Ну, арыстакраты, канечне, спрэс. Графы ды князі. Але гэта да рэвалюцыі. Пасля рэвалюцыі, ясная рэч, ніякіх кадэтаў там не засталося.

Раней за кадэтаў каго там толькі не было. Збольшага, канечне, царкоўнікі. Манахі розныя. Але тады, Людачка, манахі вучылі дзяцей. Вось былі такія, скажам, езуіты — ад слова Езус, Ісус, значыць, грамада Ісусава. То яны зрабілі там вучэльню, асталяваліся. Даўно-даўно. А да езуітаў?.. Канечне, нешта было і да езуітаў. Мне дзіўныя рэчы некалі расказвалі. Дзіўныя-дзіўныя рэчы. Але ты лепей спі, Людачка. Вочкі заплюшчы і спі. Лепей стане. Не хочаш?

...не, цябе яшчэ тады не было. Гэта — ты пальчыкі загінай, палічыш — раз, два, тры... так, шэсць гадоў да таго, як ты нарадзілася. Болей, чым ты жывеш. Мы тады — тата і іншыя людзі, вучоныя,— былі ў Полацку ад Акадэміі навук. Можна сказаць, скарбы шукалі. Знайшлі, так. І яшчэ якія скарбы, Людачка. І золата, і срэбра. Таксама карціны старых майстроў — там, разумееш, розныя анёлы ды святыя. Называецца — абразы. І кожнай такой карціне па некалькі соцень год. На пальчыках не палічыш. А яшчэ скульптуры знайшлі і ўпрыгожанні самыя розныя. Неймаверныя рэчы, а ўсё зроблена чалавечымі рукамі. Дзівосы. Там каменьчыкі каляровыя ажно свецяцца — і чырвоным, і сіненькім, і зялёным. А вось золата старое толькі паблісквае, не ззяе, яно ад старажытнасці як бы затухае трохі. А былі і людзі, выразаныя з дрэва, пафарбаваныя, амаль як жывыя. Гэта некалі ў цэрквах... там, дзе, Людачка, Богу маліліся, у розных храмах... дык вось, там стаялі такія вось драўляныя людзі. І з крыламі, і проста так сабе. Прыгожа. І твары ў іх жывыя, у каго дабрадушны, у каго сярдзіты, а ўсё адно — жывыя. Каб чалавек у храм зайшоў і адчуваў, што тое, нябёснае, тут, з ім. Побач.

Хто рабіў? А нашыя, беларускія майстры. Старадаўнія. Мы, беларусы, таксама старадаўнія, ведаеш? Мы тут жылі даўным-даўно, і пісалі кнігі, і будавалі храмы. І таму ты сама трошачкі старадаўняя, верабей, хаця пакуль яшчэ дробная зусім. Галоўка баліць? І лоб унь гарачы. Ты спі, Людачка, спі.

...там сярод скарбаў быў Крыж. Наш, беларускі. Некалі ў Полацку жыла князёўна, якая не хацела быць князёўнай, а хацела вучыцца. І пайшла вучыцца ў храм, і там засталася. У храме яна перапісвала кнігі — ведаеш, тады ж не было як надрукаваць, не прыдумалі яшчэ, то ўсё пісалі ад рукі. Гусіным пёркам, чарнілам, у святле свечак. Цяжкая

праца, а яна рабіла. Бо часам, Людачка, цяжкую справу павінен нехта рабіць. Несці на плячах і трываць, не дзеля сябе, дзеля іншых. Еўфрасіння — так яе звалі, князёўну тую. І вось яна папрасіла, каб зрабілі Крыж і паклалі ў тым храме, што яна збудавала. Для людзей, каб бачылі прыгажосць і дзівіліся. І радаваліся. Бо сапраўдная прыгажосць радуе душу і робіць чалавека лепшым. Больш... чалавекам.

А Крыж той, Людачка — з золата і срэбра, і перліны на ім ззяюць, і каляровыя абразкі на канцах. А пад золатам і срэбрам — асаблівае дрэва, кіпарыс. Бачыла, мусіць, на картках з Крыма, што маме дасылалі? Ну вось, з кіпарысу, значыць. Ты спі, дзетка. Галоўцы палепшае, гарачка спадзе. Не?

А яшчэ на Крыжы напісалі закляцце. Каб ніякая злая рука не знесла яго, іначай не будзе таму хціўцу дапамогі, спакою прытулку ўва ўвесь ягоны век, колькі жывецьме. Я, дарэчы, Крыж у руках трымаў. І той надпіс бачыў, на ўласныя вочы, Людачка, нават перакладаў. Тады ж людзі па-іншаму пісалі, а мова... ты што? Ты не плач. Я ж Крыж не зносіў, мяне не зачараваў ніхто, ты што, Людачка. Я ж тут, з табою. Ну? Не плач, дзетка.

Хочаш, лепей раскажу болей пра кадэцкі корпус? Так, дзе маленькія вайскоўцы. Толькі калі я там быў, іх ужо выгналі. А будынкі стаялі сабе. Каменныя ж, цяжкія. На вякі збудаваныя. Іх, можа, хіба што выбухам возьме, і тое пастарацца трэба. А будынкі тыя, ведаеш, дарма што лядашчыя, занядбаныя, а ўсё адно прыгожыя. Сцены таўшчэзныя, так што ўнутры нават у спёку халодна, ажно дрыжыкі прабіраюць. Рэха пад скляпеннямі коціцца. А лесвіцы сцёртыя ад чалавечых крокаў. Ты ўяві, Людачка, гэта колькі часу трэба, каб камень да бляску сцерці. Цяжкі поступ стагоддзяў, так некалькі наш Вацлаў Юстынавіч казаў. Хто ён?.. Харошы быў чалавек. А цяпер,

Людачка... ды ніхто. Ніхто, ясна? Ты лепей слухай, што буду расказваць.

...пад будынкамі калідоры, глыбей і глыбей. Мне казалі — можа, і за раку цягнуцца. Там жа, Людачка, увесь горад на беразе стаіць. Раней, зусім раней, людзі па рачных берагах будаваліся. То вось Полацк, наш самы старажытны горад, ажно на дзвюх рэках: на Палаце і Заходняй Дзвіне. Ад Палаты і назва, нібыта. А можа, і не так. Зараз-та, Людачка, хто разбярэцца.

Дык вось, там, пад езуіцкім былым гняздом, ёсць уваходы ў тыя хады. Калідоры, лёхі. Езуіты, разумееш, не дурныя былі, скемілі, што падземныя хованкі — рэч някепская. Ім і капаць асабліва нічога не трэба было, адно наяўнае вывучыць, панавіць трохі. Ну, можа, кратамі прыкрыць, каб іхнія вучні там асабліва не цягаліся.

А ўваходаў-выхадаў, калі падумаць, можа, і болей. Адно — ты сама падумай — колькі гадоў прайшло. Не гадоў нават, стагоддзяў. Таму сякія-такія з тых уваходаў ды выхадаў заваленыя, нейкія, можа, і наўмысна панішчаныя. Езуіты тыя хады, што ім самім былі патрэбныя, панаўлялі, хай далёка і не заходзілі. Ды ім і патрэбы не было — далёка-та хадзіць, у самыя глыбіні лезці. Але праз езуіцкія хады можна да больш даўніх дабрацца. Да самых даўніх, самых глыбокіх.

І я дабіраўся. Двойчы ў тыя лёхі заходзіў. Першы раз з дурной цікаўнасці, другі... ну, той другі раз — справа іншая.

Спачатку, калі ідзеш, усё спрэс езуіцкая старая цэгла. І трубы цягнуцца, і, скажу я табе, смярдзіць месцамі так, што ажно нос выдзірае. Але трохі далей, калі перацярпець, ёсць хады ўніз. Большаю часткай, канечне, заваленыя ад старасці, а то і езуітамі акуратненька цэглаю закладзеныя. Мы з Міколам, нашым практыкантам, тады сякія-такія планы знайшлі, ну і вырашылі скарыстаць. Мікола, праўда,

зазірнуў толькі — і назад. Чаго, кажа, я там не бачыў. А я пайшоў, бо цікава ж, і тыя старадаўнія хады якраз і разгледзеў. На паперах тых жа езуітаў яны ўжо не пазначаныя, але я пасля па памяці свае планы накідаў. Так пойдзеш, не ведаючы, дык, можа, некалькі дзён блукаць будзеш.

Я тады, першы раз калі быў там, блукаў. Ледзь выбраўся пасля, і зусім не там, дзе ўваходзіў, а ў хмызах за Дзвіною. Гэта я пад ракою прайшоў, уяўляеш? А па беразе ўсё пазарастала, дык, збоку гледзячы, і не скажаш, што ход там. Ды і паўзавалены ён. Зараз вось і не ведаю, ці захаваўся. Дзевяць год прайшло, як-ніяк.

Там, унізе, спачатку цэгла пад нагамі бітая, а то і вада, бо месцамі езуіцкія хады падтаплівае. А далей, як ніжэй спусцішся, то скляпенні вышэйшыя становяцца, ну і халадней робіцца адразу. Вядома ж, пад зямлёю. І адхон такі ледзь заўважны — крочыш і крочыш, усё ўніз ды ўніз. І сцены там не цагляныя болей, а з абчасанага каменю, і толькі й глядзіш, як хады ў розныя бакі разыходзяцца.

...ліхтар, канечне, узяў. Не такі дурны быў. Туды без ліхтара лепей і не сунуцца. Куды там, і не пабачыш, дзе ты ды як ты. А хады ж там хітрыя, каторыя абрываюцца — і бездань. Не ўбачыш — паляціш. Або яшчэ бываюць розныя хітрыкі, усялякія пліты з падвохам. Я на адну такую наступіў быў — а яна ўніз пачала правальвацца. І я праваліўся б, каб у час не адскочыў. Там асцярожна трэба. Хто б ні будаваў, а будаваў з асцярогай. Каб не кожны мог прабрацца ў самую глыбіню. Сям-там вострыя жалезкі раптам паварочваюцца, каб ударыць, дзе-нідзе ржавыя краты ледзь не на галаву падаюць. Страшна? І мне, Людачка, страшна было. Але ты не бойся. Ты дома, і я цябе, верабей, у крыўду не дам.

Бачыў? А шмат чаго бачыў. Там на камянях, дзе глыбей асабліва, усялякага панамалявана. І фарба, Людачка, трохі

свеціцца ў цемры. Падмешана ў яе нешта, ці што? То ідзеш — а яно свеціцца вакол, і знакі там розныя, і выявы людзей. І ўсё быццам у цемры плыве.

А яшчэ, ты толькі не бойся, верабей, яшчэ там магільнікі ёсць. Прарэзаныя хады, а ў сценах выбітыя пячоркі такія. І там дамавіны. Старажытныя, думаю. На некаторых можна знакі адрозніць, але я, як ні біўся, зразумець не мог. Даўнія, бач.

Я ў першы раз ад магільнікаў тых і павярнуў. Дарма што камсамолец ды навукоўца, ні ў чорта, ні ў Бога не верыў. А ўсё адно такая вусціш прабрала, што ледзь не завішчаў ад жаху. Пабег, не разбіраючы дарогі, ну і нейкім цудам, паблукаўшы, наторкнуўся на той выхад за ракою. Думаў — памру, і ніхто не дазнаецца, што са мной сталася, ажно заплакаў. А тады адчуваю — ветрыкам цягне. Пайшоў, пайшоў — і вылез. Абадраны ўвесь, брудны, галодны.

А другі раз я спускаўся ўжо не адзін. Страшна было, канечне. Я, дзетка, і цяпер падзем'і не дужа люблю, задыхацца пачынаю. Накатвае. А трэба было — і пайшоў. Ёсць такія справы, Людачка, цяжкія і страшныя, якія трэба рабіць. Дзеля іншых. Дзеля ўсіх. Вось дзеля цябе таксама.

Тады мы далей зайшлі, за магільнікі. Глыбей, атрымліваецца. Але калі не адзін ідзеш — не так страшна. Страшна — калі поруч нікога няма. І, па вялікім рахунку, баяцца там няма чаго. Горшыя страхі ўсё адно сам з сабою нясеш. Унутры. Ну і галавою, вядома ж, трэба думаць. Але гэта нідзе і ніколі не зашкодзіць, як мяркуеш, верабей?..

Людачка выпускае бацькаву далонь з пальцаў. Павекі цяжэюць, быццам самі сабой, а недзе плятуцца, цягнуцца, быццам карэнне, падземныя хады, і каменнае рэха коціцца, і мерна ўспыхваюць у цемры таемныя знакі.

Дарожка святла з дзвярэй павольна гасне.

# 15.

Унутры былі зжоўклыя разлінаваныя аркушы з крываватымі малюнкамі, з подпісамі ўсхваляваным кучаравістым почыркам. Почырк гэты Зініч пазнаў — і невыразную «к», і дадатковы завіток на малой «а». На ўсялякі выпадак выцягнуў з заплечніка планшэт, вывеў на экран дасланыя Маслоўскім сканы дакументаў. Прагартаў да рукапісных нататак — і задаволена паківаў: почырк быў той самы і, мяркуючы па назве файла, належаў нейкаму Івянецкаму. Відаць, таму ж самаму, якога тычыліся пратаколы допытаў.

Зініч перарывіста ўздыхнуў. Ён ленавата сядзеў, скінуўшы паліто, на нізкай лаве побач з галерэяй (шэсць прыступак на ганку), якраз насупраць металічнай ладдзі з выцягнутымі тонкімі постацямі — «помніка крывічам», калі верыць пашукавіку. Заплечнік ляжаў каля Зінічавых ног, скручанае паліто спачывала на лаве. Сонца прабівалася праз голле клёнаў і таполяў, скакалі па крывіцкай ладдзі сонечныя зайчыкі. Зініч, карыстаючыся момантам, сцягнуў рэспіратар і з задавальненнем дыхаў на поўныя грудзі. Пахла бэзам, а людзей вакол усё адно не было, хіба толькі ў шматпавярховіку па левую руку: выставіўшы галаву з балкона, паглядала на вуліцу сівая бабуля.

Паклаўшы спісаныя аркушы пад планшэт, каб не разляталіся, Зініч вывучыў металічны футарал, здабыты ў галерэі. Быў ён важкі, хай і невялікі, жаўтаватага колеру. Мабыць, больш даўні за лісткі: аўтар нататак, верагодна, проста выкарыстаў існуючы тайнік у раме абраза. Зініч пачухаў патыліцу. Па ўсіх разліках аўтарам схаваных нататак мусіў быць нехта з экспедыцыі БелАН — у іх, верагодна, было дастаткова часу, каб як след вывучыць сабраныя ў фінаддзеле каштоўнасці. І, болей за тое, нават дабрацца да вось такіх хованак. Цікава толькі, з якой мэтай.

З іншага боку, разважаў Зініч, мэта тут відавочная. Калі беланаўцы захацелі б нешта прыхаваць — скажам, хоць бы і той жа Крыж,— ім трэба было прыкласці да гэтага досыць істотныя высілкі. Уласна, трэба было не толькі схаваць як мае быць, але і пакінуць след, каб пасля Крыж атрымалася адшукаць. Але след невідавочны, з загадкамі, з хітрыкамі. Каб пазбегнуць нявартых рук. Каб Крыж не апынуўся ў якім-небудзь музейным запасніку, а адтуль не быў выпраўлены — як цэлы шэраг іншых каштоўнасцей, рэквізаваных бальшавікамі,— на продаж.

Зініч пазяхнуў і пацягнуўся да храбусцення ў суставах. Вызваліў з-пад планшэта спісаныя аркушы, якія ўсё намагаліся зноў скруціцца, асцярожна расправіў. Нечая рука апантана і трохі блытана намалявала тут нешта, аддалена падобнае да каранёвай сістэмы дрэва. А вакол таго перапляцення каранёў пярэсцілі стрэлачкі і грувасціліся подпісы: «лепшы ўваход», «не паварочваць тут», «небяспечна!» і падобныя. Над усім гэтым крыва быў накіданы домік — як малююць дзеці: доўгі дашак трохкутнікам, колькі квадратных вокнаў, касыя дзверы. Гэты домік, праўда, быў названы «Кадэцкі корпус», і побач з надпісам танчыла некалькі смешных чарнільных чалавечкаў, падобных да мурашак. Стрэлачка, падпісаная «лепшы ўваход», крута сыходзіла ад гэтага доміка ўніз, і тут жа выстройваліся адмысловымі танцавальнымі фігурамі драбнейшыя квадраты і прастакутнікі — мабыць, план будынкаў. На баку аднаго прастакутніка паставілі тлусты крыж, а побач танчылі кучаравістыя літаркі: «XVII стагоддзе».

А пад гэтым толькі чатыры літары, шматкроць абведзеныя: «У Н І З».

— Сямнаццатае стагоддзе,— прамармытаў Зініч.

Калі ён зразумеў гэтыя трохі блытаныя нататкі правільна, самаробная мапа Івянецкага вяла кудысь пад колішні

кадэцкі корпус. Прычым ад самых старых забудоў — ці, дакладней сказаць, пад іх. Зініч пакасіўся направа: там за помнікам крывічам падымалася, адкідваючы сыры цень, высокая сцяна. Трохі далей за закратаванымі варотамі бачны быў заліты сонцам дворык. У стыках шэрых плітак тырчэлі травінкі і самотны дзьмухавец, а пад ім патрэсвала хвосцікам тоненькая, быццам з паперы выразаная пліска.

Кадэцкі корпус, колішні езуіцкі калегіум, быў зусім побач. Літаральна за сцяной — адзіным напамінам пра некалі ўзарваныя будынкі. Увогуле, нават і мастацкая галерэя была з гэта самага комплексу забудоў. Можа быць, дзесьці і злучалася з астатнімі. Над зямлёй або пад зямлёй, дадаў сам сабе Зініч, крыва ўхмыльнуўшыся, і зноў зірнуў на саморобную мапу Івянецкага.

Самотная сцяна, што выстаяла пад выбухамі,— у гэтым можна было пераканацца — была таўшчэзная, і забаўна было бачыць, як танюткая пліска паважна вымярае таўшчыню гэтай махіны крокамі. Цяпер жа, наколькі Зініч ведаў, тут месціўся Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт. Што магло дадаць складанасці: як-ніяк чалавек збоку, што вышуквае нешта на тэрыторыі ўстановы адукацыі,— фігура падазроная. Зініч задуменна пастукаў пальцамі па лаве, прыкідваючы ўсе свае варыянты. Загадка, пастаўленая беланаўцамі, яго вабіла, і азарт даследчыка, гэты высакародны сваяк паляўнічага азарту, разгараўся ўнутры мацней і мацней.

Калі Крыж ляжаў блізка, вось тут, дзесь пад універсітэцкімі аўдыторыямі, было б проста ганебна не паспрабаваць яго знайсці.

— Думаеш, усё так вось проста?

Зініч зірнуў улева. На лаве трохі ўводдаль маячыла ўсё тое ж дзяўчо. Крывіла падмаляваныя вусны з'едліва, глядзела з насмешлівым, амаль здзеклівым прыжмурам.

— Калі б усё было так проста,— працягвала цыбатая сцерва.— Крыж знайшлі б падчас адной з перабудоў. А можа, калі на тое, нават і ўзарвалі б разам з якім-небудзь будынкам. Як касцёл святога Стэфана. Тут, Кастусь, быў некалі касцёл. І няма. Можа, і Крыжа ўжо даўно...

Ад апошняга яе слова, якое не прагучала, Зініч падскочыў, злосна сціскаючы кулакі. Глядзеў на гэты спакойны, бледны, амаль празрысты тварык і адчуваў, як закіпае ўнутры проста-такі лютая нянавісць.

— А яшчэ,— працягвала дзяўчо, крывячы вусны ва ўсмешцы,— яшчэ, можа, цябе тут пусцілі па следзе Івянецкага, як ганчака на шворцы, а самі сочаць за табою. І як толькі знойдзеш, што трэба, цябе...

Яна не стала працягваць, толькі шматзначна ўсміхнулася.

— Сціхні, сцерва,— прасычэў раз'юшаны Зініч.

І амаль адначасова ад прыступак галерэі прагучаў іншы голас:

— Даруйце, калі ласка. Вы... карэспандэнт? З Мінска?..

Зініч скалануўся ўсім целам і трохі абмяк. Павярнуўся, сутаргавата нацягваючы рэспіратар, прыгладзіў растрапаныя валасы.

— Я...— загаварыў быў разгублена, з асцярогаю азірнуўшыся на лаву з нягодным дзяўчом. Але тое ўжо збегла, як звычайна. Зініч, набіраючыся ўпэўненасці, кашлянуў. Сабраўся сам — і сабраў унутры сябе словы, акуратна расстаўляючы іх так, як патрэбна.— Я сябар Алега Маслоўскага, дапамагаю яму ў даследаванні. Канстанцін Зініч, карэспандэнт гістарычнага выдання, вельмі прыемна.

— Прыемна,— рэхам адгукнуліся яму.

Па прыступках спусцілася маладая жанчына — невысокая, але ладна збітая і ўціснутая ў строгі шэры касцюм. Напэўна, нават амаль прыгожая — каб не псавала яе твар шырокая цяжкая сківіца і блізкавата пасаджаныя вочы.

Вочы глядзелі пытальна, як бы выпрабоўваючы, і замерла над адным брывом трывожная зморшчынка.

— Вера,— проста назвалася жанчына, трасянуўшы злёгку меліраваным цёмным карэ.— Паліна Эдуардаўна гаварыла, быццам вы фатаграфавалі наша «Звеставанне».

Зініч прамаўчаў, вытрымліваючы паўзу. Журналісцкая інтуіцыя падказвала, што калі гэтая спадарыня выбегла за ім на ганак галерэі, значыць, мае не пусты інтэрас. А значыць, сама ўсё і раскажа.

— Вы, мусіць, па заданні АН? Абразы даследуеце? — загаварыла Вера праз хвіліну-другую, і па напружаным твары зразумела было, што задае не зусім тыя пытанні, якія хацела б.

Зініч няпэўна варухнуў галавою — гэта можна было б трактаваць і як згоду, і як адмову.

— Ці вы... як Алег?

— У якім сэнсе — як Алег? — асцярожна ўдакладніў Зініч.

Вера паціснула плячыма і трохі знервавана паглядзела на правал уваходу. Пасля кіўнула наперад, на дарожку між старых клёнаў, што выводзіла на ціхую вуліцу:

— Пройдземся, Канстанцін?..

Зініч пагадзіўся, таропка сабраў рэчы. Удваіх яны павольна рушылі наперад, плячом да пляча. Калі праміналі лаву, дзе сядзела невыноснае дзяўчо, Зініч не стрымаўся, удакладніў:

— А вы, Вера, не ведаеце маю... суразмоўцу? Можа, яна ў вас працуе?

— Суразмоўцу? — Вера прыўзняла тонкія бровы.

Пэўна, калі яна выйшла на ганак, сцерва паспела збегчы. Зініч паморшчыўся ад аднаго ўспаміну.

— Гадоў дваццаць пяць з выгляду,— апісаў.— Стрыжаная, танклявая, высокая. Радзімка над вуснамі. У белай цішотцы была і джынсах.

— Н-не ведаю,— ніякавата гукнулася Вера, гледзячы кудысь убок, і знервавана ламала белыя пальцы з чырвоным манікюрам. Зініч трасянуў валасамі: манікюр гэты неяк не вязаўся са сціплым шэрым касцюмам і вобразам музейнай супрацоўніцы, а таму бянтэжыў, назаляў.

З іншага боку, вырашыў Зініч, размаўляць пра дурное дзяўчо, якое чамусьці заўжды да яго лезе, зараз не было ніякіх прычын. Ды і гэтая Вера, відаць, хацела гаварыць менавіта пра Маслоўскага. З нейкіх асабістых, можа, прычын?

Не сказаць, што Зінічу асабліва хацелася б падтрымліваць такую размову, але як-ніяк з той жа Палінай Эдуардаўнай Алег меў нейкія дамоўленасці, хай, можа, і выпадковыя. А Вера таксама, здаецца, працуе ў галерэі — то, магчыма, чула ад Алега нешта, важнае для росшукаў.

Яны крочылі па цяністай вуліцы, а за земляным валам на тым баку вуліцы крычалі людзі — дзясяткі гнеўных галасоў. І не разабраць было, што іменна крычаць, і вусціш прабірала: можа, колькі стагоддзяў таму так крычалі, штурмуючы замкавыя сцены, падымаючы даўжэзныя лесвіцы і цягнучы тараны, войскі Івана Крывавага. Зініча прабралі дрыжыкі — дарма што ў сонечны майскі дзень ён быў у тонкім швэдры.

— Стадыён,— ціха патлумачыла Вера, заўважыўшы, як Зініч ускінуў бровы. За валам зноў ускрыкнулі, і радаснае «го-о-о-ол!» раскацілася па вуліцы, панеслася ўніз па некрутым схіле.

Праехала, бліснуўшы лсняным сінім бокам, самотная легкавушка. У кавярні цераз дарогу ля сплеценых з дроту лічбаў «8», «6» і «2» пад столікам драмаў, зрэдку варушачы хвастом, белы кот — адзіны наведвальнік.

— Дык што наконт Маслоўскага? — мякка запытаў Зініч.

Вера, якая ішла побач, апусціўшы голаў і ўсё ламаючы пальцы, быццам збіраючыся з думкамі, рэзка прыпынілася. Зазірнула Зінічу ў твар — вочы ў яе, як выявілася, былі цёмныя, быццам спелыя вішні, з доўгімі веямі. Нават, можа быць, прыгожыя вочы.

«Але манікюр, манікюр!» — білася ў Зінічавай галаве. Непрыемны колер. Востра заточаныя пазногці. Нешта не вяжацца, нешта не так.

— Вам Алег што-небудзь распавядаў пра сваё даследаванне? — ціха спытала Вера. Голас у яе заўважна задрыжаў на імені «Алег», і Зініч паморшчыўся, адчуваючы, што гаворка будзе ўсё-такі пра нешта асабістае. А ён, Зініч, ніколі не быў аматарам меладрамаў.

— Якое іменна даследаванне? — удакладніў Зініч суха, стараючыся не глядзець у вочы-вішні, поўныя насцярожанага чакання. Глядзеў на белыя пальцы з чырвоным манікюрам — і ад гэтага відовішча ўнутры варочаўся неспакой.

— Адзінае,— глуха адгукнулася Вера.— Адзінае важнае для яго.

Зініч паціснуў плячыма. Яны прыпыніліся на бязлюдным скрыжаванні, трохі далей за адчыненыя вароты ўніверсітэта. Леваруч дарога спускалася ўніз, праваруч раскінулася нейкая будоўля. Наперадзе зелянела агароджа, а далей за ёй над шатамі дрэваў узносіліся, працінаючы неба,— Зініч не бачыў, але ведаў, памятаючы па мапе,— белыя вежы Сафіі.

За іх з Верай спінамі за ўніверсітэцкімі варотамі ля статуі дзяўчынкі ў калготах, што з усмешкай трымала цяжэзны стос кніг, сумавала яшчэ адна дзяўчынка, жывая. Апошняя, пухленькая, з хвосцікам цёмных валасоў, распараная ў тоўстым чорным швэдры і джынсах, сумавала пад шыльдаю «Экскурсии по территории университета». Далей стаяў нумар тэлефона.

Гэта было спакусна. Не пухлая потная дзяўчынка, канечне, але магчымасць без асаблівых цяжкасцяў прайсціся па ўніверсітэцкіх кутках. І, можа быць, адшукаць менавіта той самы будынак, які адзначыў на сваім плане Івянецкі. Зініч акінуў пaглядам дворык — колькі альтанак, колькі клумбаў, светлыя сцены. Калі б не гэтая Вера з яе дурной балбатнёй пра Маслоўскага, ён, можа, прыхапіўшы пухлага экскурсавода, рушыў бы наперад па падказках беланаўцаў.

Ценем слізганула міма яшчэ адна машына. Усхліпнулі тармазы.

— Ён расказваў вам,— ціха мовіла Вера,— як шукаў Крыж?..

Зініч трохі раздражнёна зірнуў на яе, чакаючы пабачыць слёзы ў вачах-вішнях. Ён ніколі не выносіў жаночых слёз, увогуле чалавечых перажыванняў,— не ведаў, што з гэтым рабіць. І тут, прадчуваючы меладраму, нават трохі спачуваючы, калі Веру і Маслоўскага звязвалі рамантычныя стасункі, Зініч ужо загадзя напяўся. Мільганула думка пра недарэчны манікюр, які не ўкладаецца, не стасуецца, але Зініч адагнаў яе. Трэба было спачуваць — хаця б вонкава. Хітаць галавою, зрабіць скрушны выраз твару. За ўсё жыццё Зініч навучыўся прыстасоўвацца, хавацца за знешнімі праявамі спачування, зберагаючы ўнутраны спакой.

Адно Вера не плакала. Глядзела з чаканнем, праўда, напружаным і прагным. Гэта было дзіўна і амаль так жа вусцішна, як дзікія крыкі футбольных заўзятараў над залітымі крывёю старажытнымі валамі.

— А... чаму вы хочаце дазнацца? — хмурачыся і ўнутрана халадзеючы, спытаў Зініч. Інстынктыўна зрабіў крок назад, адсоўваючыся ад прагных агеньчыкаў у Верыных вачах. Тут жа спінаю ўляцеў у некага яшчэ — і цяжкая рука легла яму на плячо.

— А ты сам догадайся, умник,— апякло шэптам вуха.
Пад рэбры балюча ткнуўся пагрозлівы металічны халадок рулі.

## 16.

Яго звалі Іаган Крыштоф. Мясцовыя, перакручваючы імя на сваёй дзіўнай мове, знайшлі ўласны адпаведнік нямецкаму найменню — Ян. Ён не пярэчыў: гэта была пазнака свойскасці, блізкасці ім.

Роднасці.

Без гэтага адчування было цяжка жыць. Ён, небагаты выхадзец з Сілезіі, якому ў галоднае юнацтва давялося пабадзяцца па Аўстрыі і Баварыі, ведаў пра гэта як ніхто іншы. У Вільні выйшла затрымацца, зачапіцца карэннем. Стаць сваім. Калі не родным па крыві, дык блізкім па духу.

Ён цаніў гэта.

Ён любіў сваю Вільню, таму страшэнныя пажары, што знішчалі яе — быццам насланнё — балелі яму, як апёкі на ўласным целе. Вільня і была — ягонае цела, плоць ад плоці, жывы працяг. І яе, жывую, трэба было лекаваць, разбіраючы завалы, аднаўляць, упрыгожваць. Каб паўстала з попелу, каб жыла адноўленая, шчаслівая.

Ён быў архітэктар. Не без натхнення, не без Божага дотыку, нібыта. З майстэрствам, якое зарабіў крывёю і потам, бо працаваў некалі і простым мулярам на будоўлях. І ведаў, як паступова расце, выспявае, быццам дзіця ў мацярынскім улонні, каменнае цела будынка, як чалавечая думка, лёгкі накід на паперы, набрыняе цяжарам, становіцца рэчыўнай, узносіцца да неба.

Гэта было шчасце.

Тут, у Вільні, у кутнім доме, арандаваным у лютэранскай абшчыны.

Тут, у гэтым краі, дзікім, пушчанскім, ваўкаватым, недаверлівым, спакутаваным ад войнаў, ад шляхецкіх вольнасцяў, ад слабай улады. Спакутаваным, замучаным, перавучаным гаварыць на чужой мове — і ўсё адно прыгожым.

І ён, Ян Крыштоф, любіў яго, гэты край. Пачуваючыся на самым пачатку Авідзіем, якога выслаў помслівы імператар, ён пасля прырос да гэтай зямлі душою. Душа быццам абрасла ваўчынаю поўсцю, і сны ў кутні віленскі дом прыходзілі дзікія, пушчанскія.

А ў дарозе — яму часта даводзілася ездзіць, выконваючы замовы, бо майстэрства дае хлеб, толькі калі нястомна працуюць рукі,— звычайна не сніліся ніякія сны. Стомлены, ён змыкаў павекі на лаве ў прыдарожнай карчме або на ложку ў магнацкім замку, усё адно,— і правальваўся ў чарнату, у нічога. Толькі пад раніцу з таго нічога на хісткай мяжы сненняў выраслі сцены і вежы, залаціліся світальнымі промнямі ветранікі і крыжы. Тады ён прачынаўся, а вобразы неіснуючых палацаў і храмаў круціліся ў галаве, раставалі павольна, быццам ранішні туман.

Прывіды. Мроі.

Яны пасля вярталіся, адзін за другім ажывалі ад дотыкаў вугалю да паперы, нібы самі сабою выступаючы з белай глыбіні. Заставалася толькі падарыць ім жыццё, даць ім рэчыўнасць, прывесці ў свет пад сонцам, каб сатканыя з туману мроі паўсталі цэглай і каменем.

З некаторымі было складаней: тыя існавалі да яго, жылі ўласным жыццём і раней, але патрабавалі перабудоў, зменаў. Чужая задума, улітая ў каменныя жылы, скаралася не адразу, блытала планы. Абцяжарвала і адначасна прыспешвала працу — загадка, задача, хітрая галаваломка, да якой трэба было падабраць ключык.

Зазвычай яму шчасціла: ён падбіраў ключы — і ў неба ўзносіліся вежы, белыя, быццам ранішні туман, лёгкія і палётныя, быццам застылы ў камені гімн боскай велічы.

І адначасна — гімн гэтаму краю. Блізкаму па духу, свойскаму.

Роднаму, бо ўдзячнае карэнне сілезскага выгнанніка за гады ўрасло ў гэтую зямлю. А зямля ўрасла ў яго, перакроіла, перабудавала на свой лад, па ўласным разуменні, па ўласнай мерцы.

Быццам, перайначыўшы імя, перайначыла і сутнасць.

Ян Глаўбіц.

Ён вітаў заможных кліентаў і падпісваў паперы, як было прынята, па-польску — «*Jan Krzysztof Glaubitz*». Ён гутарыў з лютэранскай абшчынай, дзе ўваходзіў у склад рады, па-нямецку, а з парай шаноўных калег вёў лацінскую перапіску. Але з працаўнікамі на будоўлях, з усімі гэтымі мулярамі, цеслярамі і малярамі, размаўляў на іх мове. Літвінскай. Беларускай. Словы ў яго, праўда, выходзілі кульгавыя, з няпэўным, не нямецкім і не польскім, а нейкім сярэднім акцэнтам, быццам гліна з дамешкам, аднак яго разумелі.

Лаяліся тут адно з адным таксама па-беларуску, перакідваючыся хвосткімі словамі на рыштаваннях. І ён лаяўся, і гаварыў, і смяяўся разам з імі, адчуваючы прысмак дзіўнаватых словаў на вуснах. Бо без гэтага разумення адно аднаго, без адной мовы, што лучыла іх, майстроў, трапяткою напятаю нітачкай, не будоўля была б — а вежа вавілонская. Падсвядома яны ўсе разумелі гэта: нельга ўдала завяршыць вялікую справу, калі думкі абчасаныя на розны капыл.

— Каб цябе ляснула, дурдзель разлезлы!

Тут, у Полацку, дзе ўзнаўлення чакалі парэшткі святой Сафіі, ён упершыню прысніў сон па-беларуску. І ў тым сне

былі стромы рачны бераг, белыя крылы чаек і белыя — быццам крылы — вежы. А ён, Іаган Глаўбіц, Ян Глаўбіц, павольна і ўпэўнена крочыў па беразе да нябачнага белага храма, і рака пад кручай смяялася, залітая сонцам, і ад зыркай белі сценаў ажно рэзала вочы. А ў ветры, што трапаў зялёныя шаты дрэваў, былі галасы — незлічоныя, ціхія, сумныя і радасныя. Словы, што ён выхопліваў раз-пораз з гэтага шматгалосся, былі словамі тых майстроў, што працавалі з ім на будоўлях, але гучалі ўзвышана і магутна, быццам гімн.

Гучалі так, як услаўляюць Царства Нябёснае.

Ён прачнуўся тады сярод ночы — са слязьмі на вачах. Ляжаў да самай раніцы без сну і ўсё думаў, прыгадваючы белыя вежы на высокім беразе, задыхаючыся ад захаплення ўбачанай прыгажосцю. Калі заплюшчваў вочы, то бачыў іх гэтаксама ясна, як і ў сне. А раніцай, сонны, з цяжкою галавой, не апранутым падскочыў з ложка: карцела адразу ж зрабіць некалькі накідаў, не выпусціўшы ані дэталі, ані драбочка. Нецярпліва пераступаў босымі нагамі па халодных масніцах, схіляючыся над паперай. Спяшаўся, лаяўся пад нос, калі ламаўся вугалёк,— як лаяліся тыя, з кім працаваў на будоўлях тут.

А ўнутры яго словы той жа мовы ўсё яшчэ гучалі, быццам гімн.

Пасля выбуху ў 1710 годзе — Пётр Першы загадаў стварыць у прытворы парахавы склад — ад колішняй Сафіі засталося мала. Уся была — як жывая рана, і амаль трыццаць гадоў ляжала ў руінах, зарастала травою, рассыпалася. Памірала павольна і без гонару.

У смерці і тленні ўвогуле мала гонару.

А зараз яна вырастала нанова, як зерне з попелу спаленай нівы. І ад гэтага было радасна — яму, Яну Глаўбіцу.

Бо раны гэтай зямлі былі і ягонымі ранамі.

Бо гэта была яго зямля. Ваўкаватая, дзікая, зарослая пушчамі і легендамі, зацягнутая туманамі і ліхаманкамі, спакутаваная, залітая крывёю, абпаленая войнамі, знявечаная нядбайным гаспадараннем, але ўсё адно моцная і прыгожая. Старадаўняя, вечная і велічная.

Адзіная.

Ён прачнуўся рэзка — у сваім кутнім доме ў Вільні, арандаваным у лютэранскай абшчыны,— таму што ўбачыў той самы сон. Белыя вежы над кручаю, крылы чаек. Быццам тое, адбудаванае, адроджанае ягонымі высілкамі колькі гадоў таму, тарганула за нітачку снення, паклікала.

Ён сеў, спусціўшы сухія старэчыя ногі з высокай пярыны: закалола сэрца, быццам заварушылася за рэбрамі тонкая іголачка. У невялікай душнай спальні было светла. Свечка на століку побач з ложкам захлыналася васкавымі слязьмі, адгарала. А над Вільняй у свінцовай аплётцы вакон рассцілалася бледная сакавіцкая раніца, лёгкім вэлюмам смугі калыхалася над высокімі комінамі.

Холад масніцаў апёк падэшвы. Ён падняўся з высілкам, пакрэхтваючы і расціраючы грудзі пад начною кашуляй, адчуваючы цяжар гадоў кожнаю мышцай. На стале ля вакна грувасціліся паперы, недапісаныя лісты і кнігі. Прыцмокваючы, ён апусціўся на крэсла і са скрыпам адсунуў ніжнюю шуфляду. Там пад спісанымі паперамі навобмацак адшукаў пляскатую шкатулку са сваімі ініцыяламі, дрогкімі пальцамі падняў вечка.

На сіняй падушачцы спачываў ключ — быццам сярэбраная рыбка. Пальцы апякло халадком металу, бліснуў адбітак свечкі на мудрагелістай бародцы. На старэчай сухой далоні ключ асеў цяжарам — важкім і важным адначасова.

— Ключ ад Мудрасці,— прамармытаў Ян Глаўбіц пад нос і крыва ўхмыльнуўся. Тут жа паморшчыўся, схапіўшы-

ся за грудзі: зноў закалола сэрца, ажно паплыла перад вачыма нованароджаная віленская раніца.

На шырокім падваконні побач з вянком з сухіх кветак, ад якога цягнуўся па пакоі ледзь заўважны тонкі пах, стаяла простае распяцце. Жончына. Ён мутна, нават пахмурна зірнуў на драўляны крыж і мацней сціснуў у руцэ ключ. Ён болей не сумняваўся: белая Сафія ўладна паклікала яго да сябе гэтай сакавіцкай раніцай, а значыць, трэба было спяшацца. Завяршыць нясконачаныя справы, пакуль яшчэ можна.

Зашапацелі паперы на стале. Асобныя незакончаныя накіды ён не без шкадавання адкладаў убок: усё жыццё думаў, што яшчэ стане часу і сілы на многае, і вось — не хапіла. З іншым жа распраўляўся з сапраўднай нямецкай рупнасцю, без лішніх сантыментаў. Тэстамент з імёнамі дзяцей, нататка для лютэранскай абшчыны, колькі лістоў, колькі аплачаных рахункаў. Ключ ляжаў перад ім на стале, побач з чарнільніцай, і час ад часу прыемна было дакрануцца да яго самымі кончыкамі пальцаў, каб адчуць на скуры супакойлівы металічны халадок.

Ён задумаўся на імгненне над самым апошнім лістом, нават пасадзіў на аркуш кляксу. Забурчаў, лаючыся па-нямецку і па-беларуску, узяў новую чвэрць аркуша. Пажаваў вуснамі, зноў пагладзіў ключ — і, нечакана натхнёны, накідаў колькі словаў. *Вяртаю ключы ад Галгофы мудрасці, бо хутка спазнаю душою сваёй усю мудрасць Божую.*

Гэта таксама была загадка, галаваломка для неабазнаных. Зрэшты, той, каму ліст адрасаваўся, павінен быў зразумець. І перадаць ключ на захаванне камусьці вартаму.

Бо нявартыя рукі не павінны датыкацца Мудрасці. Бо няварты не павінен дазнацца сакрэт той Галгофы.

Ён цяжка выдыхнуў і абцёр пот з твару. Адчуў, адкідваючы назад рэдкія ссівелыя валасы, як дробна

дрыжыць рука. Ключ, акуратна закручаны ў паперу, схаваўся ў вялікім канверце, а побач легла, чакаючы свайго часу, пячатка з ініцыяламі «J.K.G.» ды палачка чырвонага сургучу.

Ён перавёў дыханне, міжволі прыгадваючы маладосць, калі сам працаваў разам з мулярамі, і падпісаў некалькі крывых радкоў так, як падпісваў лісты толькі аднаму чалавеку: *Ян Глаўбіц.*

## 17.

Зініча, усё яшчэ прытрымліваючы пад локаць, падвялі да серабрыстага красовера і, прыціснуўшы да машыны, абмацалі — з непрыемнай інтымнасцю — кішэні. Пасыпалася, падскокваючы на асфальце, драбяза, пакаціўся, падскокваючы, самотны малінавы жэтон.

— П-поскудзь,— прасіпеў Зініч.

Бліснула пад сонцам сярэбранае цельца ключа, выцягнутае з задняй кішэні ягоных джынсаў.

— Отлично,— спакойна азваўся голас Веры.

А абмяклага Зініча ўвапхнулі ў салон, на задняе сядзенне. Следам, пасопваючы, тут жа ўлез той, з пісталетам. Зініч, скасіўшы вочы, згледзеў знаёмую шэрую куртку і нервова праглынуў сліну. Зірнуў на кіроўцу — была відаць адно шырокая голеная патыліца, мажное плячо ды цяжкія далоні на рулі. Спераду побач з кіроўцам таропка села Вера. Азірнулася, кіўнула Зінічу амаль па-сяброўску, калі шэрая куртка перадала ёй ключ.

— Трогай,— загадала кіроўцы.

Красовер мякка і амаль бязгучна сарваўся з месца, пакаціўся ўніз па схіле. За вокнамі мільгалі, з аднаго боку, дамкі ў аблоках бэзу, з другога — сцены і забудовы універсітэта.

У салоне, абабітым светлаю скурай, трохі задушліва пахла хвояй. Зініч з непрыязнасцю зірнуў на «елачку», што боўталася на люстэрку задняга віду. У люстэрку сустрэўся позіркам з Верай — тая якраз, па-гаспадарску вывудзіўшы з бардачка памаду, фарбавала вусны.

— Вы, Канстанцін, не крыўдуйце,— сказала яна, на свой лад зразумеўшы Зінічаў позірк. І раптам нязмушана перайшла на рускую мову: — Вообще, сами виноваты. Сидели бы себе в Минске, в своей родной редакции, не мешались бы в чужие дела.

У голасе гучала дабрадушнае дакаранне.

— А я замяшаўся ў вашыя справы? — спытаў Зініч ломкім голасам.

Шэрая куртка, што з прафесійнай спрытнасцю схавала пісталет у кабуру пад пахай, выскалілася.

— Именно,— пацвердзіла Вера.— Дела, вообще, запутанные. И важные, так сказать, в международном масштабе.

Шэрая куртка тым часам звыкла падсунула да сябе Зінічаў заплечнік, падчапіла там планшэт і тэлефон. Варухнула кусцістымі бровамі, заўважыўшы каляровыя сшыткі з запісамі Маслоўскага, паслініўшы пальцы, прагартала журалісцкі нататнік.

За ўсім гэтым імправізаваным вобшукам Зініч назіраў з халаднаватай, адчужанай цікаўнасцю даследчыка. Як назіраюць за не самымі прыемнымі стварэннямі кшталту змей або скарпіёнаў. Было брыдка і адначасна дзіўна настолькі, што немагчыма было варухнуцца і запярэчыць. Здранцвенне апаноўвала ўсё цела, і падавалася, што сапраўдны Зініч глядзіць аднекуль збоку, зверху, а тут, у лялечнай машынцы, едзе пластыкавая фігурка.

За пластыкавую фігурку было нястрашна. Пластыкавыя фігуркі не паміраюць і нічога не адчуваюць — ні страху, ні болю.

Зініч сціснуў і расціснуў пальцы, вільготныя пад гумаю пальчатак. Млосць наплывала хвалямі, накрывала з галавою. Прысады і домікі плылі перад вачыма.

— ...но если вы, Константин, будете с нами сотрудничать, всё... обойдётся,— дадала Вера, адмыслова зрабіўшы паўзу перад апошнім словам.

Паўпрытомнага Зініча занудзіла, варухнуўся ў жываце ліпкі камяк.

— Всё обойдётся,— паўтарыла Вера.

Красовер вільнуў улева. За дамамі праваруч мільганула Дзвіна, расцяклася зыркім срэбрам. Удалечыні гарбаціўся напалову разабраны шкілет моста, а тут, над ціхаю вуліцай, над ракою плылі галасы званоў.

Ці то звінела кроў увушшу?

— Як з Алегам — супрацоўнічаць? — ціха спытаў Зініч.

Вера — ён бачыў у люстры — скрывіла вусны.

— А што — Алег? — прагаварыла яна пасля непрацяглага маўчання.

Алег Маслоўскі быў, праўду сказаць, вельмі разумным чалавекам. Задужа, можа быць, разумным. Бо ягоны выключны навуковы розум, на жаль, вельмі часта замінаў яму бачыць непасрэдную выгаду. Для самога сябе, для людзей вакол.

Для сваёй краіны нават. У міжнародным разрэзе.

— А вы — бачыце выгаду, значыць,— прагаварыў Зініч.— Міжнародную.

Ён глядзеў у вакно, сцяўшы зубы і стараючыся не заўважаць, як шэрая куртка з абыякавым тварам вывучае ягоныя перапіскі ў сацсетках. Сшыткі Маслоўскага, паклікаўшы напаўголасу, куртка перадала Веры наперад, і тая цяпер прагортвала іх, манерна адстаўляючы пальцы з крывавым манікюрам.

— Бачу,— рассеяна адгукнулася Вера.

Красовер падкінула на выбоіне, і спісаная Алегавым почыркам старонка разарвалася напалам пад яе рукой. Вера вылаялася пад нос — а кіроўца тым часам выкруціў руль і прыпаркаваў красовер каля двухпавярховага катэджа за чырвоным плотам. Шэрая куртка адпрацаваным рухам згрэбла ўсё змесціва назад у Зінічаў заплечнік і задуменна намацала кабуру пад пахай.

— Всё нормально, не нужно,— сказала шэрай куртцы, азірнуўшыся, Вера. Зірнула на Зініча і не запытала, а сцвердзіла: — Мы ведь с нашим столичным журналистом просто поговорим. Цивилизованно.

— Пагутарым,— змрочна абяцаў Зініч.

А сам думаў з ліхаманкавай хуткасцю, пакуль яго, як мех з бульбай, цягнулі з салона, пакуль вялі праз брамку ў катэдж. Думаў: хто яны? Зразумела, што расшукваюць тое самае, што і Маслоўскі. Іначай не выйшлі б на яго. Іначай яго — дзеля поспеху ўласных росшукаў — не забілі б.

«І цябе заб'юць»,— ясна прагучаў у галаве голас той даўгалыгай сцервы. Зініч скрыпнуў зубамі. Раптам прыгадалася разгромленая кватэра Маслоўскага, у прыватнасці, брыдотная лужына на кухні і мушкі, што віліся над ёю. Уявіўся Алег — жывы. А пасля ён жа — на падлозе, на брудным лінолеуме, у лужыне крыві. І адначасна, як верагоднасць, як задушліва блізкая магчымасць: уласнае цела, пустое і халоднае, быццам пакінуты дом, і ўласная кроў на брудзе, і мушкі, што радасна мітусяцца над лужынай.

Яму чамусьці — можа, праз тое, што так старанна, амаль апантана аберагалі бацькі,— ніколі не верылася ўва ўласную смяротнасць. Але цяпер смерць была блізка, дыхала гніллю на ўпрост у твар. Смяялася — ягоная, Зініча, смерць. Жудасным падавалася чамусьці не ўласна небыццё, але вось гэтая нікчэмнасць чалавечага цела. І мушкі над ім, як над падлінай. І ўсё.

Зініча перасмыкнула. Ён зачапіўся за парог, ледзьве не страціўшы раўнавагу, і шэрай куртцы давялося падштурхнуць яго ў спіну, скіроўваючы наперад.

— Чё ты валишься,— прабурчала куртка.— Доходяга.

Катэдж выглядаў нежылым. Ці неабжытым: свежая фарба і шпалеры, паўпустыя пакоі з новай, але бязладна расстаўленай мэбляй, без фота, без дробязяў, без слядоў утульнага чалавечага побыту. Зініча правялі, раз-пораз падганяючы, цераз вялікую вітальню з грувасткай шафай-купэ, што свяціла ўнутранай пустэчай. Пад аркай збоку бліснуў белы бок халадзільніка, побач караскаліся ўверх рэбры драўляных сходаў.

Бястварае, нічыё жытло. Здымнае, канечне.

— Сюда,— мовіла Вера, якая ішла першаю, быццам гаспадыня гэтага пустога дома, і шырока расчыніла дзверы ў пакой наперадзе. Унутры была цёмная скураная канапа, падобная да выкінутага на бераг кіта, сучасны велізарны тэлевізар проста на падлозе перад ёю і, бліжэй да вокнаў, светлая камода. За вокнамі відаць была стрыжаная траўка і конусы касматых туй, а таксама — высокая агароджа з металічнай сеткі.

— Присаживайтесь, Константин,— запрасіла Вера, кінуўшы на камоду Алегавы сшыткі.— Поговорим.

Зініч завагаўся быў, але яго зноў штурханулі ў плечы, і ён вымушана апусціўся на край канапы.

— Курите? — Вера дастала з кішэні пінжака пачак.

Калі Зініч пакруціў галавою, чмыхнула і прагна запаліла.

— До ста лет жить планируете? — засмяялася, выпусціўшы клубы дыму. Стукаючы абцасамі, стала каля вакна, гледзячы ці то на туі, ці то на сетку агароджы, з асалодай зацягваючыся тонкай дамскай цыгарэтай, безуважна стрэсваючы попел проста на цёмны ламінат. Шэрая куртка і кіроўца, кінуўшы ў кут заплечнік і паліто Зініча,

сышлі, акуратна прычыніўшы за сабою дзверы. Не зніклі, канечне, нікуды: па сапенні і пакашліванні зразумела было, што стаяць побач, падпіраючы мажнымі спінамі сцяну.

Вартуюць, бач ты, падумаў Зініч. Чамусьці стала неймаверна забаўна — і ён парадаваўся, што на ім рэспіратар, які хавае не дужа дарэчную ў такіх абставінах усмешку.

— Паліна Эдуардаўна казала,— пачала Вера, не паварочваючыся,— што вы фатаграфіравалі «Звеставанне». Там, у яе. Унізе. Навошта?

Яна бліснула на Зініча вачыма-вішнямі цераз плячо, трасянула меліраваным карэ. Зноў зацягнулася. Зініч пакруціўся на месцы, збіраючыся з думкамі. Хай ключ з загадкавымі ініцыяламі у яго адабралі, але накіданы Іўянецкім план, здабыты з рамы абраза, здаецца, застаўся ў паліто. Тады, калі Вера выйшла да яго з галерэі і прапанавала прайсціся, ён, збіраючыся, склаў паперы, якія вывучаў, разам і бяздумна сунуў у кішэню складзенага паліто. Зініч коратка зірнуў на свае пажыткі. Самаробная мапа беланаўцаў месцілася там і не трапіла ў рукі ані шэрай курткі, ані гэтай нявысветленай Веры.

Прынамсі, пакуль яшчэ не трапіла. Значыць, можна таргавацца.

— Фатаграфаваў,— сказаў Зініч, падняўшы вочы на Веру.— Менавіта.

— Для чаго?

— Для часопіса,— рахмана гукнуўся Зініч.— Я, нагадаю вам, журналіст.

Вера звяла тонкія бровы.

— Андрей Васильевич,— паклікала голасна, і дзверы ў пакой прачыніліся, паказваючы плячо, абцягнутае шэрай курткай.— У него в телефоне или планшете были фотографии той иконы?

— Нет,— хрыплавата адказаў Андрэй Васільевіч.— Никаких икон. Вообще никаких фото за последние дня три. Тоже мне турист.

— Ясно,— Вера кінула недакурак у попельніцу на падваконні.— Вы, Канстанцін, дарэмна спрабуеце хлусіць. Кепска атрымліваецца. Пачнём яшчэ раз. Вы сустрэліся з Дрыгай у галерэі і засталіся сам-насам з абразом «Звеставанне». Маслоўскі апошнім часам таксама быў гэтым самым абразом апантаны. Можаце патлумачыць, з якой прычыны?

Андрэй Васільевіч за дзвярыма гучна кашлянуў. Верыны цёмныя вочы ўтаропіліся ў Зініча з хцівым чаканнем, а рукі, складзеныя на грудзях, павольна перабіралі пальцамі з вострымі пазногцямі. І ад гэтых ледзь заўважных рухаў тонкіх пальцаў рабілася гідка.

Ім патрэбная інфармацыя, думаў Зініч. Ім патрэбнае ад мяне тое самае, што і ад Маслоўскага. А як толькі даведаюцца, што ім патрэбна, пазбавяцца. Лішнія сведкі замінаюць, як-ніяк.

Яго зноў занудзіла.

Але хто яна, гэтая Вера? Ды і — ці ўвогуле яна Вера? Зініч змерыў яе постаць позіркам спадылба, глянуў за вакно, на рассечанае металічнай сеткай неба, на светлую камоду, дзе валяліся Алегавы сшыткі. І раптам здагадка працяла, быццам маланкаю ўдарыла: «В. Д.», тыя незразумелыя ініцыялы са сшытка Маслоўскага. Ініцыялы — а побач лічбы. Мабыць, сумы. «В.» — Вера, «Д.» — пэўна, прозвішча. Ці магчыма, каб Алег працаваў з імі... ці, можа быць, на іх, выконваючы канкрэтную замову? Атрымліваў, апроч усяго іншага, ад іх грошы для сваіх даследаванняў, а пасля... пасля, верагодна, не пажадаў выканаць нейкае іх патрабаванне. Паказаў прынцыпы, так бы мовіць,— як тады, на абароне дыплома, з уласным навуковым кіраўніком.

— В. Д.,— сказаў Зініч уголас. І не без задавальнення заўважыў, як злёгку скаланулася Вера.— Алег... пісаў пра вас.

— Пісаў?..— нахмурылася Вера.

Зініч кіўнуў, мудра вырашыўшы не ўдакладняць, дзе менавіта — у прыватнай перапісцы ці асабістым дзённіку.

— І што яшчэ ён пісаў?

— Сумы,— коратка мовіў Зініч.

Твар у Веры пабялеў і выцягнуўся, але яна досыць хутка ўзяла сябе ў рукі. У некалькі крокаў апынулася ля дзвярэй і пра нешта зашапталася праз шчыліну з шэрым Андрэем Васільевічам. Пасля павольна павярнулася да Зініча, звузіўшы вочы-вішні.

— Вы не так проста загаварылі пра грошы,— яна падышла бліжэй.— Ёсць нейкія думкі, Канстанцін? Мы — я і наш заказчык — да прапаноў адкрытыя. Я слухаю.

«Заказчык»,— паўтарыў сам сабе Зініч. Заказчык з грашыма, канечне ж, бо наняць такіх вось гарыл з пісталетамі, прафесіяналаў ад забойстваў,— штука няпростая і нятанная. Прычым заказчык не з простых смяротных, так бы мовіць. Іначай ягоныя найміты не адважыліся б на забойства.

Справа была дрэнь. Зініч удыхнуў і выдыхнуў, падбіраючы патрэбныя словы, хапаючыся за саломінкі.

— Вам з заказчыкам,— мовіў, гледзячы ў кут, на ўласнае скручанае паліто,— не стае даследчыка. Навукоўца. Вы таму і нанялі Маслоўскага. Мабыць, найміты ў заказчыка зусім бескарысныя.

— Обижаете,— Вера саркастычна прыўзняла куткі вуснаў.— Я сама — кандыдат гістарычных навук, між іншым. Маскоўскі дзяржаўны, калі што.

— Але гэтага мала,— гнуў сваё Зініч.— Мала абараніць дысертацыю. Талент даследчыка, сапраўднага,— гэта як

паэтычны дар: або ёсць, або няма. І ў Маслоўскага ён якраз-такі быў. Але вы яго забілі.

Апошняе слова вырвалася знянацку, неабдумана, і Зініч асёкся. Паправіў рэспіратар, што ўжо даўно муляў на потным твары, і адчуваў, як гараць шчокі. Андрэй Васільевіч за дзвярыма гучна кашлянуў.

— Я ўсё яшчэ чакаю прапаноў,— суха сказала Вера. На скроні ў яе заўважна пазначылася напружаная жылка.

— Я магу замяніць вам Маслоўскага,— Зініч падняў на яе вочы.— Я... мне здаецца, што я амаль разгадаў гэтую галаваломку. Амаль зразумеў, як знайсці тайнік. Вы ж тайнік з Крыжам Еўфрасінні шукаеце? Для заказчыка?

Вера недаверліва варухнула брывом.

— І дзе ж той тайнік? — спытала.

Зініч пакруціў галавой.

— Ну не,— сказаў.— Усе адказы да пары будуць толькі ў маёй галаве. Каб не выйшла так, як з Алегам Маслоўскім.

— А дзе гарантыя,— мякка пацікавілася Вера,— што ў вашай цудоўнай галаве ўвогуле ёсць якія-кольвек адказы?

Зініч, які чакаў гэтага пытання, развёў рукамі.

— Ніякіх,— сказаў.— Апроч таго, што я літаральна зараз магу прывесці вас да тайніка. Дакладней, да шляху да яго. Маслоўскі абяцаў вам такое?

— Не,— Вера акінула яго паглядам, як бы ацэньваючы. Пасля ўсміхнулася і працягнула яму руку з учэпістымі кіпцямі: — Калі так, то ўсё проста: вы наводзіце нас на патрэбны шлях, а самі спакойна едзеце дамоў, і ўся гэтая лухта вас болей не тычыцца. Згода?..

Напружаная жылка білася ў яе на скроні. Што б яна ні казала пра сваё кандыдацтва, як бы ні цаніў няшчасны Маслоўскі меркаванне гэтай «В. Д.», а клёку для задачкі ад беланаўцаў ёй не ставала. Ці, можа, не ставала натхнення? Хаця, канечне, яна і не бачыла ані абраза, ані мапы

Івянецкага. З архівам, хутчэй за ўсё, была знаёмая, таму загадала сваім гарылам яго вынесці. А вось ключ яны ў мітусні згубілі.

Галаварэзы, нават і прафесійныя, увогуле кепскія выканаўцы. Калі справа тычыцца не толькі іх непасрэднай спецыяльнасці, канечне.

Яны прагнуць знайсці Крыж, гэта было ясна як дзень. А як толькі знойдуць, то чалавек, што ведае дэталі забойства Маслоўскага і чуў пра іх загадкавага «заказчыка», будзе ім толькі перашкаджаць. Значыць, абяцанні Веры каштуюць вельмі танна. Таму яна і раздае іх з такою ахвотай.

Зрэшты, калі шчыра, то і сам Зініч не ўяўляў з абсалютнай дакладнасцю шлях да тайніка. Была, канечне, мапа лёхаў, створаная Івянецкім, але вызначанасці, яснасці ў гэтай справе крытычна не ставала. З іншага боку, гэта, напэўна, быў адзіны шанец, за які яшчэ можна было зачапіцца, каб выжыць.

Закончыць, як Алег Маслоўскі, адчайна не хацелася.

Зініч падняўся на ногі, робячы выгляд, што працягнутай яму рукі не заўважае.

— Згода,— сказаў ціха.

## 18.

— Юрка!..

Зверху пасыпалася дробнае каменне, мільганулі цені. Хтосьці прайшоў міма, гукаючы яшчэ і яшчэ раз, расцягваючы галосныя: «Ю-у-у-урка-а-а-а!» Ажно сырое рэха кацілася вакол, драбнілася, падскокваючы.

Цяпер вось занепакоіліся, забегалі, бач ты.

Юрка прыціснуўся да схілу, каб не заўважылі. Заплюшчыўшы вочы, удыхаў густы пах сырой зямлі, ажно пакуль крокі і галасы зверху не сціхлі. Пасля асцярожна

выпрастаўся, абтрос камякі зямлі з кашулькі і шортаў. Падазрона зірнуў угару, закінуўшы круглую стрыжаную галаву,— але там усё было ціха. Мусіць, калі яго і шукалі, дык у іншым месцы.

Юрка з палёгкаю выдыхнуў. Пацёр абдзёрты падзеннем локаць, паспрабаваў сягнуць ружовай ранкі языком. Пачухаў адну нагу другою — з разбітай каленкай. Агледзеўся з асцярогаю — бо пакуль бег ад цётчынай хаты, не бачыў нічога перад сабою. Зачапіўся за корань на сцежцы, пакаціўся праз кустоўе кудысь уніз. І ўпаў — вось сюды, у гэтую яміну, на кучу гнілога лісця.

Яміна была досыць глыбокай — Юрка, нават прыўзняўшыся на дыбачкі, не здолеў крануцца края кончыкамі пальцаў. Уверсе недасяжна сінела ў аблямаванні асінніка чэрвеньскае неба з чорнымі маладзікамі ластавак і салодкаю ватай аблокаў. З крутога землянога схілу ад Юркава дотыку пасыпаліся вільготныя камякі, варухнуліся, льсняна ружавеючы, цельцы дажджавых чарвякоў. Юрка адступіў ад схілу, падцёр нос бруднаю рукой. Вусны ў яго задрыжалі. Толькі цяпер ён адчуў, што застаўся зусім адзін, што, нават калі закрычыць, ніхто, хутчэй за ўсё, не пачуе. Ніхто не прыйдзе і не дапаможа.

Стала вусцішна — ажно зайшлося, затрапяталася сэрца. Падземная сырасць караскалася па скуры, лезла пад тонкую тканіну кашулькі, халадзіла падэшвы зношаных сандалікаў. Горла сціснулася ад плачу, вочы знутры разанула слязьмі. Юрка шумна ўсхліпнуў, глытаючы слёзы.

— Тётьсоня!..

Голас прагучаў слабенька, быццам мышыны піск, і бездапаможна ўпаў на дно яміны. Цётка Соня, белая, пухлая, калі і шукала яго па ваколіцы, была дзесьці далёка.

Увогуле, Юрка зусім не хацеў ехаць у Полацк, да паўзнаёмай цёткі. Дома быў вялікі, на дваццаць пад’ездаў двор,

кірпаты Гапеенка, з якім разам будавалі плот, і новыя рыбкі ў акварыуме на вакне. І яшчэ цыбаты Дзімка Корсак, дарослы, амаль што шасцікласнік, абяцаў вечарамі вучыць граць на гітары. Гітары ў Корсака не было, але да іх мусіла прыехаць стрыечная матчына сястра, і ў той нібыта можна было пазычыць.

Дома ўсё было знаёмае і свойскае, дома былі планы на лета. А тут, у сіняй Цёцьсонінай хаце, толькі нудна цікалі ходзікі і дзед, зусім малады, у гімнасцёрцы з медалямі, глядзеў з чорна-белага здымку на сцяне. Цёцьсонін муж, смуглы, гарбаносы, шумна кашляў раніцамі і паліў моцныя папіросы, ад якіх шчыпала вочы і горла. А ўвечары Цёцьсоня, прасуючы бялізну, спявала тонкім фальшывым голасам даўно і навечна абрыдлае:

— Ландыши, ландыши-и-и, светлого мая приве-е-ет...

Яшчэ ў Цёцьсоні быў Сашка, таксама белы і пухлы, як і яна сама, з соннымі шэрымі вачыма. Быў Сашка нудны, як тыя ходзікі на сцяне: ён гадзінамі мог сядзець на адным месцы, не рухаючыся, толькі гартаючы старыя часопісы. Мухі кружылі за белым цюлем, біліся аб шкло, ніяк не знаходзячы адчыненую фортку. А за вокнамі быў палісад з Цёцьсонінымі півонямі, маленькі гарод і сіняя аблупленая агароджа.

— Мы вось хутка на рэчку пойдзем,— абяцала Цёцьсоня ў першы вечар. Паказала рукой кудысь за сінія штыкеціны, за белыя аблокі чаромхі ля сцежкі, што караскалася ўгару, на касматую спіну пагорка.

Абяцала — і не пайшлі.

Цёцьсонін муж моўчкі сыходзіў раніцай, моўчкі прыходзіў і моўчкі еў боршч. Балбатала радыё, Цёцьсоня спявала пра свае ландышы, белы Сашка гартаў старонкі даўным-даўно па сто разоў перагледжаных часопісаў. Юрка нудзіўся — у доме і на гародзе. Падыходзіў да агароджы,

браўся за сінія штыкецціны, ад якіх на далонях заставалася калючая луска старой фарбы. Глядзеў на пагорак, пра які Цёцьсоня неяк казала, быццам там стаяў замак, глядзеў на сцежку, якая караскалася кудысьці між дрэваў.

Хацелася дадому — да слёз.

У першыя дні яго трохі вадзілі па Полацку. Паказвалі — здалёк — Дзвіну і краязнаўчы музей, дзе пахла пылам. У музей нават зайшлі. Юрка слухмяна хадзіў за Цёцьсоняй, якая мёртва ўчапілася ў рукі яму і абыякаваму Сашку, і пазяхаў. Ажывіўся толькі раз — калі цёценька экскурсавод штосьці сказала пра старажытныя падзем'і тут, пад горадам. Але пасля зноў было ўсякае нуднае, і Юрка, калупаючы сандалікам падлогу, не слухаў, проста разглядаў забаўных людзей, выразаных з дрэва.

Хацелася дадому.

У Полацк яго прывезлі цягніком. Бацькі, пагасцяваўшы пару дзён, з'ехалі, а яго пакінулі тут. Юрка, узважыўшы ўсё, вырашыў вярнуцца дамоў самастойна. Як-ніяк дома ў яго з кірпатым Гапеенкам амаль гатовы плот, а тут толькі нудны пухлы Сашка і Цёцьсоніна гнюсавае «ла-а-андышы-ы-ы». Хто можа такое доўга вытрымаць?

План быў просты: пасля сняданку, калі Цёцьсонін муж возьме партфель і сыдзе на працу, Цёцьсоня будзе на гародзе, а Сашка зноў возьмецца за свае часопісы, збегчы праз веснічкі. Па сцежцы, па мастку, пад якім цурчэла чырванаватая вада, можна было па стромым схіле дайсці да белага будынка з пекнымі вежамі, а адтуль, праз насып — у горад. Дарогу да вакзала Юрка памятаў не надта добра, але спадзяваўся, у выпадку чаго, спытаць у мінакоў.

Ён так аднойчы дома хадзіў гуляць: ад самай іх новай кватэры на Героях абароны да старой кватэры на Камсамольскай. І нічога, усё знайшоў і назад вярнуўся. Нават у дзядзенькі міліцыянера пытаўся, як прайсці. Але

бацька, праўда, увечары ўсыпаў як мае быць, ажно сядзець было нязручна.

— Хадок які, паглядзіце на яго! — сярдзіта сказала маці за вячэрай. А працаўная Светка, якая на дзевяць гадоў старэйшая і таму думае, што ведае ўсё на свеце, яшчэ й пасмяялася.

Але ісці вось так, як дарослы, было прыемна. І зусім не страшна, нават на пераходах праз ажыўленыя вуліцы. І чаго яму баяцца? Яго ў гонар Гагарына назвалі, як-ніяк, а той у ракеце, нябось, не баяўся. І ўсёй справы той: проста ідзеш сабе разам з чалавечаю плынню — і ідзеш. З людзьмі не страшна.

А вось тут, у цёмнай сырой яміне,— вельмі.

Юрка, прысеўшы пад сценкай, нават трохі паплакаў ад самоты і адчаю, абняўшы каленкі. Аблокі павольна плылі па сіняй латцы неба над ягонай галавой, насіліся імклівыя ластаўкі, хапаючы жамяру. Там, звонку, патроху падымалася спёка, але тут амаль не рухаліся хвалі ліпкага ад сырасці паветра.

Амаль — калі не лічыць ледзь заўважны скразнячок, што караскаўся па Юркавай назе. Юрка, сяк-так абцершы слёзы, зірнуў у той бок, у зеленаваты змрок падзем'я. Скразнячок зрабіўся мацнейшым, сцяліўся па дне, аплеценым вільготным карэннем. Трохі далей — Юрку падалося — у паўзмроку нешта паблісквала.

Юрка пацягнуў носам і падняўся на ногі. Зрабіў крок, другі, наступаючы на сплаценне каранёў. Па пляміне святла прабег успуджаны рухам даўгалыгі павук, патрэсваючы касматым брушкам. Юрка прысеў на кукішкі побач з бліскучай кропкай, нерашуча пакалупаў земляную сцяну.

Зямля зыбанулася, пайшла трэшчынкамі ад дотыку. Асыпалася — рэзка, цяжка бухнуўшы, як падалося, кавалкамі

старой цэглы, ажно Юрка спуджана падаўся назад, упаў на спіну. Падумаў, зажмурваючыся і сціскаючыся ў камячок, што — засыпле, і нават заўчасна пачаў задыхацца.

Але прайшло імгненне-другое — і нічога не змянілася, і зямля болей не зыбалася. Юрка расплюшчыў вочы і пабачыў далёка над сабою ластавак і аблокі. Сеў, абапіраючыся на руку, здзіўлена лупаючы вачыма.

Перад ім дыхаў свежасцю з чарнаты невялікі лаз — быццам адмыслова для шасцігадовага дзіцёнка. Тое, што бліскала і вабіла ў паўзмроку, аказалася кавалачкам металу не болей за пяцікапеечную манету. Юрка на карачках падпоўз бліжэй, узважыў манетку на далоні, асцярожна прыбраўшы цеpуху. Відаць было не дужа добра, але ў сцёртым, з няроўнымі краямі метале праступалі нейкія літаркі ды значкі.

— Старая,— прашаптаў Юрка.

Падумалася адразу, што такой манеткі ні ў кога ў двары няма — хоць на Герояў абароны, хоць на Камсамольскай. Гапеенка хваліцца, быццам дзядзька-геолаг яму прывозіў манеткі з Індыі, але Гапеенка — хлус вядомы, і тых ягоных індыйскіх манетак ніхто ніколі не бачыў.

А гэта была, мусіць, сапраўдная. Можа быць, старажытны скарб. Юрка прыгадаў, як Цёцьсоня казала пра замак, які стаяў недзе тут, і ласкава пагладзіў манетку бруднымі пальцамі. Падумаў пяшчотна, што, магчыма, тую манетку згубілі якія-небудзь рыцары. У даспехах. І з мячамі.

Ён паглядзеў на чорны правал у невядомае. Страх і самота апалі, саступіўшы месца жывой дзіцячай цікаўнасці. Юрка, сунуўшы манетку ў кішэню, да ліпкай барбарыскі і металічнага свістка на вяровачцы, падпоўз бліжэй, зазірнуў у лаз.

Там было суха — сушэй, чым у яміне. А трохі далей, можа, праз крокі тры-чатыры, міргала белае святло. Юрка

пацягнуў носам, зноў нагадаўшы сабе пра свайго славутага цёзку, і папоўз праз лаз на жываце, падцягваючыся рукамі. Было цеснавата і спякотна, і клятчастая кашулька няхораша трэснула дзесьці на баку.

Юрка высунуў галаву па той бок, хапануў ротам паветра — і на яго дыхнула каменным халадком. Ён, моршчачы нос ад высілку, з сапеннем прапоўз яшчэ трохі далей, адчуваючы пад сабою роўныя сухія пліты, іываліўся з цеснага лаза.

Гэта быў доўгі скляпеністы калідор, і сям-там аднекуль успыхвала цьмянае святло. У святле круціліся, пабліскваючы, дробныя пылінкі.

Сцены і падлога былі складзеныя з каменных плітаў, ружавата-шэрых, з тонкімі жылкамі слюды, падагнаных шчыльна, з ледзь заўважнымі стыкамі. Адна пліта, мусіць, вывалілася, адкрыўшы лаз у пашкоджанай сцяне. Той самы, праз які сюды забраўся Юрка.

Вакол было ціха, і ціш гэтая, для Юркава гарадскога вуха, трохі межавала з вусцішшу. Калідор спакойна разыходзіўся ўлева і ўправа, камяні патыхалі прыемным халадком, але паветра было сухое, без задушлівай сырасці ямы.

Юрка нерашуча пераступіў з нагі на нагу. Калідор быў яўна зроблены чалавечымі рукамі, значыць — падказваў клёк — дзесь непадалёк людзі. З іншага боку, каменныя пліты, на некаторых з якіх месціліся дзіўныя значкі і малюнкі, выглядалі дужа старажытнымі. Занадта старажытнымі нават, каб побач быў нехта жывы. Рыцары і замкі, як-ніяк, разважыў Юрка, былі вельмі даўно. І калі гэты калідор захаваўся з тых часоў, то наўрад ці тут ёсць хоць хто-небудзь.

Але, верагодна, недзе тут ёсць выхад.

Апошняя думка Юрку трохі ўзбадзёрыла. Ён пакруціў галавою, прыглядаючыся. Прыслухаўся да скразнякоў.

Падалося, быццам свежым ветрыкам цягне аднекуль справа,— і Юрка, яшчэ трохі павагаўшыся, павольна рушыў у той бок. Сціскаў у кішэні манетку, цёплую ад цеплыні ягонай далоні, аглядаўся.

На камянях паблісквалі вастраносыя знакі, разыходзіліся спіралі, разбягаліся васьміпраменныя зоркі. Рэзы на плітах паблісквалі фосфарным бляскам, і Юрку часам нават падавалася, быццам лініі знакаў танчаць, мяняюцца. А тым часам калідор спускаўся ўніз з лёгкім, ледзьве заўважным нахілам. Раз-пораз то з аднаго, то з другога боку з'яўляліся высокія аркі, за якімі пляліся новыя калідоры. Юрка, зазірнуўшы ў адну, у другую, вырашыў з курса не збівацца, ісці за скразнячком, які то амаль ацiхаў, то ўзмацняўся, халадзіў пабітую каленку.

Знакі на сценах большалі: каціліся там дзіўныя касматыя сонцы, а да іх дробныя чалавечкі малітоўна цягнулі ручкі. Скакалі, пакутліва закінуўшы рагатыя галовы, алені, беглі зубастыя ваўкі. Малюнкі былі прыгожыя, трохі падобныя на тыя, што бацька паказваў у кніжцы пра зусім даўніх людзей, якія ў пячорах жылі. Юрка дзівіўся на малюнкі, разявіўшы рот, і забыўся і пра свае ўцёкі, і пра Цёцьсоню. Пра ўсё на свеце забыўся.

Калідор тым часам скончыўся, уліўся, як рака ўліваецца ў возера, у невялікую круглую залу, поўную цурчання вады, са сценамі, густа аплеценымі зелянінай. Юрка пераступіў цераз парог і пабачыў чалавечую постаць. Нейкі стары, высокі і сівы, з доўгаю барадой, трохі праз яе падобны да Дзеда Мароза, стаяў пасярод залы, абапіраючыся на кій. Стаяў і глядзеў, звузіўшы вочы. Юрка замёр на месцы, азадачаны.

— Падыдзі-тка, малец,— сказаў дзядуля дабрадушна.

Юрка засоп, сціскаючы ў кішэні манетку, і, ніякавеючы, зрабіў пару няўпэўненых крокаў.

— Я сейчас в яму упал,— прамовіў Юрка, паказваючы абдзёрты локаць.— Там яма, а в ней лаз. А тут ходы и всякое такое. И рисунки ещё. А вы, дедушка, тут живёте?..

Стары мякка ўсміхнуўся.

— Вядома, малец,— адказаў.— Мясцовыя мы. Туташнія. Спрадвечныя.

Пагладзіў цяжкай спрацаванай рукою Юрку па галаве.

— І ты, малец, наш, калі сам прыйшоў. Тут не кожны зможа прайсці. Не кожнага прапусцяць.

Юрка зазірнуў старому ў твар знізу ўверх. Пасля зазірнуў за спіну, туды, дзе з-за хваляў зеляніны лілося радаснае залацістае ззянне.

— А там — что?

Стары ўсміхнуўся. Працягнуў Юрку руку, падобную да старога кораня.

— Хочаш ведаць, малец? То — хадзем.

## 19.

— ...я вас правільна зразумела, Канстанцін? — спытала Вера, нервова страсянуўшы попел з тонкай цыгарэты. Паліла яна шмат, і ад густога дыму, што запаўняў пакой, у Зініча трохі круцілася галава.— Вы хочаце сказаць, Канстанцін, што праход да тайніка — у падвалах Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта? І дасюль яго ніхто не знайшоў?

У голасе Веры гучаў здаровы скепсіс. Зінічу і самому не дужа верылася, што падчас усіх перабудоў, якія напаткалі колішні езуіцкі калегіум, маглі застацца нейкія таямніцы пад ім. Івянецкі маляваў сваю саматужную мапу напрыканцы дваццатых гадоў мінулага стагоддзя, а за гэты час чаго толькі не адбывалася з тымі будынкамі.

— Адзіная зачэпка,— глуха адказаў Зініч, крывячыся.

Яму нядаўна далі магчымасць умыцца і замяніць рэспіратар ды пальчаткі на чыстыя. Гігіенічныя працэдуры трохі нават прымірылі яго з сітуацыяй. Але густы цыгарэтны дым ён цяпер амаль што адчуваў на скуры, і адчуванне гэтае было надзвычай непрыемнае, а горла пачынала сціскацца. Зініч не быў астматыкам — прынамсі, гэтак сцвярджалі ў лякарнях,— проста рэчывы, якія замглялі свядомасць, выклікалі ў ім нястрымную, амаль ірацыянальную гідлівасць. Зініч ненавідзеў п’яных, здалёк абыходзіў курцоў і грэбаваў наркаманамі, што б тыя ні ўжывалі. Бо, меркаваў Зініч, адзінае, на што чалавек можа пакладацца ў гэтым свеце,— гэта ясны розум. І чалавек, які сам адкідвае гэтае адзінае апірышча дзеля сумнеўнага задавальнення,— слабы чалавек.

Зініч заўжды лічыў сябе моцным.

Зноў адчайна захацелася ўмыцца, аддзерці дробныя, незаўважныя воку часцінкі табакі ад скуры. Зініч гідліва скасіў вочы на Веру, якая зноў трохі нервова зацягнулася цыгарэтай. Яна, гэтая выпускніца МДУ, заўважна пачала непакоіцца пасля таго, як Зініч, асабліва не ўваходзячы ў дэталі, агучыў свае здагадкі наконт месцазнаходжання хованкі БелАН. Вера, учуўшы гэта, тут жа выйшла, на хаду выцягваючы з кішэні айфон. Тэлефануе заказчыку, скеміў Зініч. Наконт далейшых інструкцый.

Пытанне з заказчыкам займала яго, як галаваломка. Зініч круціў у галаве гэты кубік Рубіка, складваючы адно да аднаго. Дэталяў, праўда, не ставала — але тым больш займальна было разважаць, выбудоўваць здагадкі.

Сам ён, як ні дзіўна, супакоіўся і нават адчуваў сябе, выкладаючы Веры некаторыя факты, досыць упэўнена. Адзінае, што Зініча турбавала,— гэта магчымасць прайсці на тэрыторыю ўніверсітэта. Доступ да падвальных ярусаў, як ён разумеў, мусіў быць абмежаваны. Ды і сам універсітэт праз эпідэмію, верагодней за ўсё, абязлюдзеў,

і наўрад ці лёгка было б прабрацца туды незаўважна, ды яшчэ ў выхадныя.

— Ёсць спосаб,— заявіла Вера, калі Зініч, ужо ўмыты і супакоены, вываліў ёй гэтыя свае сумневы.

Зініч прыўзняў брыво, зноў чамусьці прыгадваючы разгромленую кватэру Маслоўскага. Спосабы, якімі карысталася Вера, былі яму не дужа пад густ. Не столькі таму, што нехта мог пацярпець, колькі таму, што ўвесь гэты гвалт — выбітыя дзверы, раскіданыя паперы, кроў на лінолеуме — быў такі выродлівы, такі да ванітаў гідкі. Ад сузірання гвалту над чалавекам або жывёлай адчуваеш кволасць і безабароннасць уласнага цела, гэтага крохкага змесціва. Чуеш водгалас уласнага паміранне.

— Толькі без...— хрыпла папрасіў Зініч, стараючыся не думаць пра кружэнне мушкі над ліпкаю лужынай. Вера толькі ўхмыльнулася, зацягваючыся чарговаю цыгарэтай, і Зінічу чарговы раз падумалася, што твар у яе, з гэтай цяжкай, амаль квадратнай сківіцай, надзвычай непрыгожы.

Праз адчыненыя дзверы — Вера, вяртаючыся, пакінула іх наросхрыст — было відаць, як Андрэй Васільевіч са сваім калегам спрытна пакуюць турыстычныя заплечнікі. Зініч заўважыў нават нейкія тросы, карабіны — увогуле, альпінісцкі рыштунак.

— У архівах БелАН,— нехаця мовіла Вера, заўважыўшы ягоны пытальны пагляд,— былі асобныя згадкі пра лабірынты з пасткамі. І бездані.

— Лабірынты?..— перапытаў Зініч насцярожана.

Вера коратка кіўнула. Так, менавіта лабірынты, ніяк інакш. Увогуле, досыць блытанае апісанне, больш падобнае да фантастыкі.

— Асобныя старонкі спаленага дзённіка,— дадала Вера.— Калі пажадаеце, можаце азнаёміцца. Гадзіна-другая ў нас яшчэ ёсць.

Зініч, падумаўшы, пажадаў — і Андрэй Васільевіч пакорліва прыцягнуў з іншага пакоя пластыкавую тэчку з акуратна складзенымі аркушамі. Частка архіва, знойдзенага Алегам, падумаў Зініч, прабягаючы вачыма па рукапісных радках. У нейкі момант падалося, што плямінка на адной старонцы — гэта кроў, і Зінічу заняло дыханне. Але пад звон увушшу ён, перасільваючы сябе, упэўніўся: то быў парыжэлы ад часу атрамант, нічога болей. Зініч глыбока ўдыхнуў і выдыхнуў. Зноў прыгледзеўся да старонак, і почырк падаўся яму знаёмым: тыя самыя кучаравістыя няроўныя літары, што і на самаробнай мапе.

Гэта сапраўды быў адзін з экспедыцыі БелАН. Івянецкі, калі Зініч правільна памятаў прозвішча. І гэты самы Івянецкі на ўласныя вочы бачыў і Крыж, і падземныя хады пад Полацкам. Такое дадатковае сведчанне Зініча ўзрадавала: то быў яшчэ адзін, хай сабе і ўскосны доказ таго, што Крыж недзе тут, паблізу. З іншага боку, прачытаўшы тое-сёе на разрозненых старонках, кранутых агнём, Зініч засумняваўся ў праўдзівасці аўтара дзённіка. Ці — у ягоным клёку. Сівыя чарадзеі, старажытныя могільнікі пад горадам, вогненныя рэзы, што складваюцца ў словы забытай мовы... Усё гэта гучала не тое што непраўдападобна, а наўпрост па-вар'яцку.

Зініч, вядома, дапускаў, што пад настолькі старажытным горадам, як Полацк, меліся нейкія даўнія збудаванні. Гэта было хутчэй натуральна: скляпенні пад замкам, нейкія хованкі пад храмамі і дамамі. Але то маглі быць нейкія асобныя пабудовы, а не цэлая сістэма. Ды і збудаваць іх прасцей было б з цэглы, а не з камення. Апроч таго, наўрад нейкія падземныя збудаванні часоў хоць тых жа езуітаў маглі б захавацца ў такім выдатным стане, як апісваў звар'яцелы паплечнік Ластоўскага. А ўсялякія паст-

кі, дошкі, што абрынаюцца ў бездань, шыпастыя краты, якія падаюць зверху,— гэта і ўвогуле штукі з прыгодніцкіх раманаў.

Сам Зініч ніколі не быў аматарам фантастыкі.

Больш лагічна было б дапусціць, што беланаўцы ў свой час адшукалі парэшткі нейкіх хадоў пад былым калегіумам, можа быць, часткі якіх гаспадарчых скляпенняў і схавалі Крыж там. Напрыклад, апячатаўшы адну з секцый такога калідора.

А ўся гэтая няўцямная лухта — трызненне псіхічна хворага чалавека.

— Вы ж гэтаму не верыце? — спытаў, памахваючы абпаленымі старонкамі, Зініч у Веры.

Тая зноў камусь тэлефанавала, нешта высвятляючы, нечага ўпарта дамагаючыся. Гаварыла па тэлефоне іншым, не зусім сваім голасам — вышэйшым на тон і надзвычай прыязным. Паліла, змінала недакуркі ў попельніцы дрогкімі ад хвалявання пальцамі, і на Верыным твары ні драбочка той прыязнасці не адбівалася.

— ...ці — верыце ўсё ж?

— Не дужа,— Вера паціснула плячыма.— Але перастрахавацца варта. На ўсялякі выпадак.

За адчыненымі дзвярыма прайшоў, несучы на плячы кувалду, засяроджаны Андрэй Васільевіч. Кувалду, відаць, таксама прыхапілі «на ўсялякі выпадак».

На дварэ за пару гадзін настоялася гарачыня. Зініч, выйшаўшы разам з Верай на ганак, акунуўся ў хвалі цёплага паветра, напоенага бэзавым водарам, быццам у раку, ажно заняло дыханне. Ён зірнуў на нясцерпна сіняе неба, дзе насіліся цёмныя цені ластавак і плылі падсіненыя вільгаццю аблокі. Ад Дзвіны — відаць было над дахам здымнага катэджа — ішла цяжкая хмара, поўная грымотаў. Вецер з таго боку налятаў неласкавы, трапаў халоднымі

пальцамі валасы, і прыемна было падставіць яму разгарачаны лоб.

Зініч мімаходзь зірнуў на вуліцу за агароджай — і там, падалося яму, прайшла знаёмая постаць у белай цішотцы. Ён праглынуў лаянку, выцягваючы шыю, прыглядаючыся больш уважліва, але постаць — калі яна і была — надзейна схавалася ад яго за кустоўем бэзу, што апанавала суседскі ўчастак.

— Сцерва,— працадзіў Зініч шэптам.

А сэрца чамусьці занила, быццам сколатае тоненькай іголачкай, і з'едлівы голас клятай стрыжанай зноў прагучаў у галаве:

— ...і цябе заб'юць.

Зініч абхапіў пальцамі скроні і сагнуўся напалам: галаву быццам сціснула металічнымі абцугамі. Паплыла перад вачыма чырвоная плітка на ганку, рассечанае агароджаю неба. Усё мулялася, усё плыло, і цені ластавак мітусіліся перад вачыма, і навальнічная хмара навальвалася на горад нясцерпным цяжарам.

А сцяна была халодная і надзейная. Зініч, прытуліўшыся да яе бокам, цяжка дыхаў праз рот. Хацеў нават сцягнуць рэспіратар, ад якога кожны ўдых станавіўся адрывістым, як бы няпоўным,— і не мог. Бо вакол хадзілі і выдыхалі мікробаў людзі. Бо Вера агідна смярдзела тытунём, а яе гарылы — потам і порахам.

Бо дзесьці тут хадзіла ягоная, Зінічава, смерць.

— Ща как влупит,— сплюнуў Андрэй Васільевіч, прамінаючы.

Вера кіўнула, не адрываючыся ад айфона.

— Ничего,— мовіла спакойна.— Нас не замочит.

І дадала, павярнуўшыся да скурчанага Зініча, які калаціўся і ніяк не мог аддыхацца:

— Хадзем, Канстанцін.

Ён заківаў, механічна папраўляючы рэспіратар. Трэба было ісці. Хацелася думаць, што ўсё гэта хутка скончыцца, што праз якую гадзіну ён, можа, будзе ў гатэлі мыцца пад душам. А пасля паедзе дамоў. І ўсё гэта знікне, быццам насланнё, усё забудзецца, быццам і не было ніколі.

Але думаць пра гэта не атрымлівалася. Думалася — блытана, мутна — пра скляпеністыя лёхі, што сплятаюцца, быццам карані, пра Крыж, схаваны недзе зусім блізка. І яшчэ — пра Маслоўскага.

Майскі перадналвальнічны вецер ад такіх думак патыхаў горыччу.

Яго зноў увапхнулі ў салон, быццам мех з бульбай. Гэтым разам, праўда, таму, што сам Зініч чапляўся за сценку і аніяк не мог скрануцца з месца. У салоне, дзе брыдотна смярдзела хвояй, Зініч заплюшчыў вочы, адкінуўшыся на спінку сядзення. Думаў, узнаўляючы перад вачыма мапу Івянецкага — яе атрымалася пацішку выцягнуць з кішэні паліто і прыхаваць за пазухай. Думаў пра пасткі і бездані дзесь пад зямлёю, міжвольна прыгадваючы дзікія казкі са спаленага дзённіка.

Івянецкі пісаў пра выпрабаванні, пра нявартых, ад якіх замкнёныя складзеныя з камення залы. Пра таемныя знакі на сценах, што складваюцца ў падказкі для абазнаных. Апошні абзац мог быць цікавым хаця б дзеля пошуку арыенціраў у тых самых «лабірынтах» — але нічога канкрэтнага Івянецкі не пісаў. Ці, можа, пісаў, але тыя старонкі былі спаленыя. На тым жа аркушы, што захаваўся, далей ішоў верш — такі сабе верш, калі падумаць:

...Усе мы цягнем па ношы Сізіфавай,
Прыпынісся — і скоцішся каменем.
У адным толькі лёс нас літаваў:
**Уласны крыж абіраем самі мы.**

— Лухта,— уголас сказаў Зініч сам сабе, не размыкаючы павекаў.

Андрэй Васільевіч з падазрэннем зірнуў на яго.

— Чё-о?..— працягнуў, паморшчыўшыся.— А по-нормальному сказать не судьба?

Бледны разамлелы Зініч не адказаў яму — і Верын найміт, скрывіўшыся, адвярнуўся. Тым часам серабрысты красовер, пакруціўшыся па полацкіх вуліцах, прывёз іх да ўніверсітэта. Негаваркі кіроўца прыпаркаваўся побач з невялічкай кавярняй, за якой паказваўся з-за землянога вала край стадыёна. Між таполяў уніз па вуліцы з радасным віскатам насіліся малыя на самакатах. За столікам ля кавярні размясцілася парачка, што цалавалася над кубкамі з кавай.

Зініч, адваліўшыся з салона, мутна паглядзеў на гадзіннік на руцэ. Было блізка паловы на сёмую, брама ўніверсітэта ўсё яшчэ была адчынена. Пухлая дзяўчынка, праўда, болей не падпірала статую — але Зініч амаль адразу згледзеў яе прыземістую фігурку за альтанкамі. За дзяўчынкай ленавата цягнуліся, быццам качаняты за качкай, некалькі распараных чалавек, верагодна, экскурсанты. Качаняты перасеклі дворык і адзін за адным зніклі ў будынку.

Вера кіўнула сваім наймітам, і ўчатырох яны рушылі пад брамку — Зініча, які адстаў быў, Андрэй Васільевіч лёгкім штуршком скіраваў у патрэбны бок.

Дворык універсітэта быў досыць прасторны, з лавамі і альтанкамі, з чорнымі старасвецкімі ліхтарамі і кветнікамі, з зялёнымі газонамі і зялёнымі дахамі. За ўжо вядомай статуяй дзяўчынкі ў калготах Зініч заўважыў прыступкі, што вялі ўніз, пад дашчаны зялёны дашак на слупках, і запаволіў хаду, прыгадваючы намаляваныя Івянецкім прастакутнікі і квадраты. Ці можа гэты вось жоўты будынак, шматкроць перабудаваны, датавацца сямнаццатым ста-

годдзем? Калі так, то дзесьці пад ім мусіць быць уваход у скляпенні, у тыя самыя загадкавыя лабірынты.

І Крыж, верагодна, таксама недзе там. Можа быць, літаральна ў яго пад нагамі. Проста ляжыць амаль стагоддзе і чакае.

Задуменнага Зініча зноў бесцырымонна падштурхнулі, прыспешваючы.

— Іду, іду,— агрызнуўся ён і суха пацікавіўся ў Веры, якая вельмі ўпэўнена крочыла да галоўнага ўваходу ва ўніверсітэцкі корпус:

— У вас ёсць нейкі план?

— У мяне — дамоўленасць,— працадзіла Вера скрозь зубы.

Зініч варухнуў бровамі.

Па прыступках, што досыць крута ўзыходзілі да вялікіх дзвярэй, паважна хадзіла, патрэсваючы тонкім хвосцікам, серабрыстая пліска. Пабачыла прыхадняў — і тут жа пужліва ўзвілася, упала ў траву на газоне. Паўз газон з пліскай прамінула некалькі пажылых жанчын у ласінах, занятых ажыўленай размовай пра расцяжкі ды дыеты,— да суровых Верыных наймітаў, бледнага Зініча або лёхаў з крыжамі справы ім было мала.

За дзвярыма быў паўзмрок, з якога выплывала зашклёная, быццам акварыум, вахта. З акварыума пужліва паглядала жанчына ў тоўстым швэдры: у памяшканні было досыць прахалодна. Зініч разгледзеў дыспенсар для антысептыка з раздрукаванымі рэкамендацыямі па мыцці рук, колькі шыльдаў з універсітэцкімі навінамі і раскладам. У канцы калідора злева відаць былі пакручастыя чорныя краты з надпісам «Бібліятэка», з перпендыкулярнага калідора лілося, не прыносячы цеплыні, дзённае святло.

— К завхозу,— безуважна кінула Вера ў акварыум, прамінаючы побач.

У акварыуме моўчкі заківалі, пачалі нешта казаць, але Вера адмахнулася:

— Дорогу знаем.

Дарогу яна сапраўды ведала: упэўнена павярнула налева, дайшла да дзвярэй гардэроба — выцягнутай залы са скляпеністай столлю, з калонамі. З-за пустой стойкі відаць былі пустыя шэрагі металічных вешалак, падобных да парэштак нейкіх агромністых жывёлін. Зініча перасмыкнула, бо прыгадалася пісаніна Івянецкага пра падземныя могільнікі. Вера ж зноў павярнула налева і пагрукала ў цёмныя дзверы. На грукат з-за дзвярэй слаба гукнуліся, і Вера ўвайшла, жэстам загадаўшы астатнім пачакаць звонку.

— ...я вам звонила...— данёсся Верын «тэлефонны», да саладжавасці прыязны голас, і дзверы зачыніліся.

Андрэй Васільевіч і кіроўца, скінуўшы цяжкія заплечнікі, звыкла прыселі на кукішкі. Кіроўца выцягнуў з кішэні каляровы пачак семак, і на тыльным баку далоні ў яго Зініч згледзеў сіні, паўсцёрты ад часу якар.

— Марак?..— спытаў Зініч ціха.

Кіроўца варухнуў рэдкімі светлымі бровамі. Твар у яго быў пляскаты і белы, вусны пульхныя, капрызлівыя, вочы з-пад светлых веек глядзелі сонна і незадаволена. Пабачыш такую вось фізіяномію — і ў наступную хвіліну не прыгадаеш ніводнай адметнасці, ніводнай выключнай рысы.

— Было дело,— адказаў кіроўца.

Яны з Андрэем Васільевічам цішком пачалі лузаць семкі, косячыся на скурчаную постаць вахцёркі, якую было відаць праз арку.

Зініч адышоў ад іх, сеў на лаву ў адной з нішаў. Падазрона зірнуў на Верыных наймітаў — але тыя мірна жавалі семкі, паплёўваючы шалупінне проста на падлогу. Андрэй Васільевіч, праўда, не паварочваючы галавы

ў Зінічаў бок, трохі пасунуўся ўправа, быццам наўмысна блакіруючы сабою выхад. «Гэта каб я не збег»,— падумаў Зініч. Чмыхнуў у рэспіратар: збягаць ён якраз-такі не планаваў. Прынамсі, пакуль што.

— Пакуль што,— прамармытаў Зініч уголас.

Ён асцярожна выцягнуў з-за пазухі накіданыя рукою Івянецкага планы, разгладзіў іх на каленцы. Прастакутнікі і квадраты перамешваліся ў ягонай галаве, круціліся, штурхаліся, вышукваючы свае месцы на плане — і не знаходзячы іх.

Вера, нарэшце, выйшла з нейкім пажылым сіваватым мужчынам, што моцна прыпадаў на адну нагу. Вакол іх круціліся яшчэ абрыўкі размовы — штосьці пра эксклюзіўны допуск для кінагрупы. Сіваваты, пагладжваючы рэдкую бараду, задаволена пасмейваўся, і ў кішэні ягонага заношанага пінжака выразна храбуснулі купюры.

— ...почему же ж нет,— казаў сіваваты, перадаючы звязку з ключамі.— Где ж ещё исторический фильм снимать, как не у нас. Здание, наши историки говорят, семнадцатого столетия, сохранилось неплохо, н-дэ-э...

Зініч міжвольна выпрастаўся, пачуўшы пра гэта, і няпэўнае кружэнне прастакутнікаў у ягонай галаве прыпынілася — усе складнікі з храбусценнем сталі на належныя месцы. А гэты жоўты будынак пад зялёнай дахоўкай раптам стаў дыбка і, пакруціўшыся па-сабачы, апусціўся на чарнільны прастакутнік з крыжам на баку і подпісам «У Н І З».

Канечне, многіх забудоў, якія застаў у свой час Івянецкі, болей не існавала, але гэта быў ён, той самы корпус. Зініч сутаргавата варухнуў плячыма, скуру пад тонкім швэдрам прадрала марозам. Вера заўважыла Зінічаў рэзкі рух, павярнулася да яго, гледзячы недаверліва і пытальна.

— Ён тут,— гучным шэптам прагаварыў Зініч. Калі па шчырасці, дык ён і сам сабе не дужа верыў. Не дазваляў сабе верыць.

— К-кто?..— здзівіўся сіваваты. Згледзеў наймітаў з семкамі, нахмурыўся, надзьмуўся і пачырванеў. Ліслівая ўсмешка патроху згасала ў яго на вуснах.

— Так мы пойдём... работать,— сказала Вера паспешліва.— Большое спасибо. Приятно с вами сотрудничать.

Яна ўчапілася ў Зінічава плячо цвёрдымі халоднымі пальцамі з крывавым манікюрам і пацягнула за сабою. Верыны найміты, пакашліваючы, закінулі заплечнікі на спіны і з тупатам рушылі следам.

— А ещё «Беларусьфильм»!..— слаба крыкнуў ім у патыліцы сіваваты.

— Ну, то куды нам ісці?..— прашыпела Вера, калі яны зноў апынуліся ў прахалодным паўзмроку каля апусцелага акварыума вахты.

Зініч слаба ўсміхнуўся і паказаў уніз.

## 20.

*У лета шэсць тысяч і шэсцьсот шэсцьдзясят дзявятае пакладае Еўфрасіння святы Крыж у манастыры сваім у царкве Святога Спаса. Святы Крыж цаны не мае, а абкаваны ён золатам, і срэбрам, і каменнем, і перлінамі ў сто грыўнаў, а дрэва пайшло на сорак грыўнаў.*

*Хай не знясе з манастыра ніхто і ніколі Крыж той, не ўздумае прадаць або аддаць. А калі не паслухае хто, знясе з манастыра, хай не будзе таму памагатым святы Крыж ані ў гэтым жыцці, ані за магілаю. Хай пракляты будзе той Святою Жыватворнаю Тройцай і святымі айцамі. Будзе яму доля Юдзіна, што Хрыста прадаў.*

*Хто ж насмеліцца здзейнісць такое, хай уладар будзе, або князь, або біскуп, або ігуменння, або іншы які чалавек, падзе на таго праклён гэты.*

*Еўфрасіння ж, раба Хрыстова, што прыдбала Крыж гэты, няхай займее вечнае жыццё з усімі святымі.*

## 21.

...Унізе было халодна — заўважна, істотна халадней, чым на вуліцы, распаленай цеплынёю бэзавага мая. І нават больш халодна, чым пад гулкімі скляпеннямі ўніверсітэта.

Яны яшчэ з паўгадзіны пакруціліся па ўнутраным дворыку, пакуль Зініч, мружачыся на сонцы, звяраў арыенціры з мапай Івянецкага. Беланавец, верагодней за ўсё, меў на ўвазе спуск у падвальныя памяшканні, што быў злева ад брамы. Прынамсі, Зініч вельмі спадзяваўся, што расчытаў заўвагі на плане Івянецкага правільна.

Пасля Вера доўга трэсла звязкам ключэй, падбіраючы патрэбны. Сонца патроху апускалася ніжэй, вершаліны таполяў залаціліся ззяннем. За агароджай універсітэта ехалі на роварах, на машынах, ішлі пехатою людзі. Зініч, які чакаў у цяньку, пакуль потная і сярдзітая Вера адчыніць-такі, злавіў сябе на тым, што ўважліва прыглядаецца да кожнага з мінакоў. Быццам шукае прычыну, зачэпку. Роднасць і еднасць.

Хоць нешта — сваё.

А яны ўсе былі розныя, адчужаныя, пагружаныя ў свае думкі, быццам сцяною аддзеленыя. Са старымі, маршчыністымі або свежымі і румянымі тварамі. Дарослыя і дзеці, жанчыны і мужчыны. Радасныя і сумныя, але аднолькава безуважныя, занятыя сваімі надзённымі справамі, сваімі прыватнымі жыццямі, клопатамі, турботамі.

Цягнучы на плячах уласны крыж, праміналі, не звяртаючы аніякай увагі на жоўты будынак пад зялёнай бляхай. Цікава, прамінулі б вось так сама абыякава, каб ведалі, што схавана ў сутарэннях?..

Зініч сутаргавата павёў плячыма. Вера і яе найміты, падумаў ён раптам. Яны вышукваюць Крыж для свайго заказчыка. За грошы, канечне. Цалкам уцямная матывацыя, калі на тое: хто ж не любіць грошы. Грошы ўсім патрэбныя. А заможнаму заказчыку патрэбны Крыж… хто яго ведае нашто. Ёсць такія апантаныя калекцыянеры, асабліва за мяжою. Ды і ў нас таксама. Нацягваюць да сябе ўсё старажытнае, усё каштоўнае. Абы было. Грошы гэтак укладаюць, у творы мастацтва. А можа, справа яшчэ і ў культавым значэнні: як-ніяк, паводле апісання, унутры мошчы святых. Рэлігія, палітыка — усё гэта побач стаіць.

Толькі вось дзеля чаго Маслоўскі шукаў Крыж — пытанне. Алег ніколі не быў апантаным калекцыянерам, усе знойдзеныя артэфакты ў яго надоўга не затрымліваліся: ішлі ў музеі або добрыя рукі. Да рэлігіі Маслоўскі быў абыякавы, да палітыкі таксама. І да грошай, наколькі Зініч памятаў, ставіўся па-філасофску: няма — і чорт з імі.

То — дзеля чаго тады? Каб вярнуць Крыж народу? Зініч з сумневам зірнуў за агароджу, на занятых сваімі справамі гараджан. Вось ён, народ. Кожнага б вось зараз спыніць ды спытаць: ці яму, народу, увогуле той Крыж патрэбны? Менавіта як духоўны скарб, а не сукупнасць каштоўных камянёў і металаў. Ды пляваць яны хацелі, збольшага.

Зініч паморшчыўся, трасянуў валасамі. Стаў глядзець, каб абстрагавацца ад бязрадасных думак, на вясёлую пліску. Тая паважна ішла па дашку бліжэйшай альтанкі і задуменна замірала на самым краі, патрэсваючы хвосцікам. Узвівалася ўгару, зноў сядала на дашак, зноў ішла на край,

зноў узлятала. Па плітцы ўніверсітэцкага дворыка вецер ганяў таполевы пух.

Замок пад Верынымі пальцамі нарэшце здаўся і смачна пстрыкнуў, зялёныя дзверы са слабым стогнам павярнуліся на завесах.

— Прашу,— мовіла Вера, пільна гледзячы на Зініча.— Пасля вас.

Ён падняўся на ногі, зноў назіраючы за сабою нібы збоку, як за лялькай на нітачках. Найміты з хмыканнем падаліся ўбок, прапускаючы Зініча да прыступак, і ён рушыў да адчыненых дзвярэй у падвалы былога калегіума, кадэцкага корпуса, шпіталя — а цяпер універсітэта.

«Раз, два, тры…» — кожны крок механічна пазначаўся ў галаве лічбай. На дванаццатым Зініч стаў побач з Верай і не без дрыжыкаў зазірнуў у цемру за парогам. Цемра дыхала холадам і сырасцю, пад столлю цьмяна пабліскваў, адбіваючы дзённае святло, шкляны плафон. Зініч наўдачу правёў рукою па вушаку з аднаго і другога боку, намацаў злева ліпкаваты пластыкавы квадрат выключальніка. Пстрыкнуў — але цемра не паддалася.

— Канстанцін,— паклікала Вера.

Зініч павярнуўся, і яна падала яму невялікі ручны ліхтарык. Зініч узважыў яго на руцэ і зрабіў крок за парог, у сырую цемру падзем’я.

Унізе было халодна. Гукі вуліцы, ад шапацення шынаў па асфальце да радаснага віскату дзяцей, адразу заглухлі, адступілі. Кола святла Зінічава ліхтарыка прапаўзло па бетоннай падлозе, ускараскалася, расплываючыся, па сцяне, выгнулася на абкручанай анучамі трубе, падобнай на цела агромністай змяі. Яшчэ тры жоўтыя колы, адно за другім, з’явіліся на сценах і падлозе: гэта Вера і яе найміты таксама ўключылі ліхтары. Дзверы за імі з трэскам прычыніліся, ажно прачнулася і завохкала па цёмных кутах палахлівае рэха.

— Пасля вас, Канстанцін,— паўтарыла Вера, і ў голасе яе Зініч адчуў ноткі насмешкі.

«Думае, што мне ў любым выпадку ад іх не збегчы,— расшыфраваў для сябе Зініч.— І загадзя злараднічае».

У жываце разрасталася халодная пустэча. Раптам зрабілася зразумела: яго не збіраюцца адсюль выпускаць, незалежна ад паспяховасці росшукаў.

Ён мацней сціснуў пальцы на ліхтарыку і павольна пайшоў наперад, намацваючы шлях падэшвамі. Падлога была параўнальна роўная, бетонная, мабыць, залітая адносна нядаўна, але вакол ставала бязладна раскіданых аскепкаў цэглы, металічных абрэзкаў, няўцямных анучаў ды іншых непрыбраных парэшткаў рамонту. Раз-пораз калідор перасякалі трубы, якія даводзілася пераступаць. У чэраве трубаў нешта гуло, і ад стыкаў, перацягнутых металічнымі палосамі, падымаліся струменьчыкі пары. Пара патыхала гнілаватай вільгаццю.

Сцены тут былі складзены з цэглы — яна паказвалася пад слаямі пабелкі, упарта праступаючы шурпатай чырванню з-пад гладкай белі. Сям-там бела мільгалі закратаваныя вузкія акенцы пад самай столлю — але святла ад іх бракавала. Відаць было толькі пачарнелае ад пылу павуцінне з высахлымі цельцамі мух ды пляценне трэшчынак на тынку.

Зініч ішоў, падглядаючы час ад часу ў нататкі Івянецкага, адлічваў павароты. Аднаго разу збіўся быў — і жоўтае кола святла слізганула па зялёных дзвярах з вялізным замком і надпісам «Электрощитовая». Зініч раздражнёна чартыхнуўся, адступіў на пару крокаў назад, наляцеўшы спінай ці то на потнага Андрэя Васільевіча, ці то на кіроўцу. Яшчэ раз зверыўся з мапай Івянецкага, вярнуўся трохі назад, гадаючы, дзе мог бы памыліцца. Пералічыў павароты яшчэ раз, водзячы пальцам па паперчыне з планам Івянецкага, задуменна пацёр лоб. Нешта не сыходзілася.

У спіну яму ўдарыла святлом з чужых ліхтарыкаў.

— Чё стоим? — глуха азваўся з цемры Андрэй Васільевіч.

Верын голас гукнуў Зініча па імені, але ён не чуў ні першага, ні другую.

Лініі крэсліліся не на паперы, а ў Зінічавай галаве, складваліся ў калідоры і залы, абрасталі аб'ёмам, цаглянаю скурай. Павароты, як крокі фігур на шахматнай дошцы, у вальсавым рытме: раз-два-тры. Вось тут, тут і тут. Вось гэтую залу яны перасяклі, вось тут былі вузкія прыступкі.

Зініч, мармычучы пад нос, прайшоў шляхам, які ўявіў, змерыўшы калідоры перш думкамі, пасля — крокамі. Павярнуў, пераступіўшы гарачае чэрава трубы, прайшоў уздоўж сырой сцяны. Але ў святло ліхтара зноў нахабна выпаўзла «Электрощитовая», уся ў плямінках пабелкі. Гэта было дзіўна, гэта было няправільна. Гэтага не магло быць.

— Свистит фраерок,— глуха сказаў кіроўца.— Ни хрена он не знает.

Словы слізганулі па паверхні Зінічавай свядомасці, не закранаючы,— быццам па ледзяной корцы. Зініч, той коркаю ад усяго і ўсіх надзейна аддзелены, тым часам крануўся сцяны злева ад зялёных дзвярэй, правёў даланёю ўгару і ўніз, прыслухоўваючыся да адчуванняў.

Некалькі слаёў пабелкі так і не змаглі прыхаваць удаўліну аркі з шурпатай чырвонай цэглы. Арку нейкі час таму, параўнальна даўно, заклалі цэглай іншай якасці — сілікатнай, гладкай і святлейшай. Зініч адляпіўся ад сцяны, сціскаючы ў кулак руку ў перапэцканай пальчатцы.

— Тут быў праход,— здзіўлена прамовіў ён уголас. Зініч не надта спадзяваўся на мапу Івянецкага, як і на сведчанні беланаўца наконт полацкіх лёхаў. Але цяпер, калі мапа аказалася-такі праўдзівай, не мог не адчуць хвалявання, ажно да дрыжыкаў.

І ўсё-такі не дазваляў сабе паверыць, не мог дазволіць сабе паверыць.

— Слышали? — раздражнёна спытала Вера.— Проход был вон там.

— Сделаем, чё,— нехаця азваўся Андрэй Васільевіч.

Зініча, які ўсё глядзеў на закладзенае цэглай адгалінаванне калідора, адсунулі ўбок, як мэблю. Верыны найміты адшукалі ў заплечніках кувалды і, рассыпаючы лаянку і аскепкі цэглы, узяліся за пазнейшую кладку. Тая натужна ўздыхнула, задрыжала і праз колькі хвілін паддалася, праламілася ўнутр. Пасыпаліся нітачкі павуціння, пацягнула цагляным пылам, так што Вера, якая свяціла сваім наймітам, закашлялася.

Зініч, назіраючы за тым, як разрастаецца правал, перарывіста выдыхнуў. Найміты адступіліся, прапускаючы Веру, якая, хмурачыся, свяціла ў прабітую ў кладцы адтуліну.

— Далёка яшчэ? — спытала ў Зініча.

Той няпэўна павёў плячыма. Пад тонкі швэдар запаўзала павучынымі лапамі халодная сырасць сутарэнняў, і Зініч не без шкадавання згадваў пакінутае ў серабрыстым красоверы паліто.

— Цяжка сказаць.

Ён пасвяціў на нататкі Івянецкага, вывучаючы крываватыя лініі і амаль нечытэльныя пазнакі. Вера, звузіўшы вочы, працягнула руку з доўгімі кіпцямі і рванула паперы з Зінічавых пальцаў. Паднесла да твару, разгледзела.

— Гэта нешта з архіваў Маслоўскага? — спытала сярдзіта.— Але там не было мапы. Я б заўважыла!

— Гэта не з архіваў Маслоўскага,— адказаў Зініч.

Вера выскалілася і раптам з сілай прыперла яго да сцяны, локцем умела заціснуўшы горла. Зініч захрыпеў, гледзячы, як варушацца Верыны вусны. Звінела кроў увушшу, і словы не чуліся, а бачыліся.

— Што яшчэ ты, падла, знайшоў такога, пра што вырашыў не расказваць? Што яшчэ, ну?

— Ні... нічога,— прасіпеў Зініч.

Вера вылаялася не горш за сваіх наймітаў і адышла, пахруставаючы пад абцасамі цаглянымі аскепкамі. Зініч, сагнуўшыся напалам, душыўся кашлем і цёр кадык. Вочы слязіліся, і цемра вакол, падавалася, слаба пульсавала.

— Мы тут не в игрушки играем,— сказала Вера дзесьці збоку, раптоўна страціўшы і выхаванасць, і беларускамоўнасць, і кінула скамечаныя нататкі Івянецкага Зінічу пад ногі.— Ты это усёк, журналюга? И только попробуй ещё недоговаривать. Тут тебя не скоро найдут.

— *...і цябе заб'юць*,— шапянула стрыжаная зусім побач. Зініч скалануўся: яму падалося, што знаёмая белая цішотка мільганула ў змроку за разбуранай кладкай. Асабліва прыглядацца, праўда, не было калі: яго з сілай падштурхнулі наперад, да правала, з якога адчувальна цягнула скразняком.

Пад нагамі была навалена бітая цэгла, нейкая храбусткая драбяза, аскепкі каляровага шкла, якое заблішчэла ў святле Зінічава ліхтарыка. Недзе побач капала вада, а на сцяне справа, ужо без слядоў пабелкі, па аголенай старой цэгле цягнуліся плямы сырасці, зацярушаныя чорнаю плесняй. Зініч прайшоў далей, дзівячыся, як хутка змяніліся калідоры: столь тут была ніжэйшай ледзь не ўдвая, а падлога няроўнай, з пясчанымі наносамі. Сам калідор ледзь прыкметна спускаўся, і гэта якраз-такі ўсцешыла: накірунак, зададзены Івянецкім, быў, як-ніяк, «уніз».

План беланаўца тут рабіўся больш блытаным, нібы пісаным наспех. Зініч часта прыпыняўся, каб разабраць пазнакі і лініі больш уважліва, крочыў павольна, без упэўненасці. Калі-некалі яму падавалася, што побач з ім, плячом да пляча, крочыць тая стрыжаная, і тады Зініч заміраў

на месцы і зажмурваўся, пакуль не праходзіла насланнё. Следам цяжка ступалі, пасопваючы, найміты, а за імі, трохі адстаючы на абцасах, Вера.

Рэзка стала душнавата, сырасць абляпляла твар. Калідоры плылі, пляліся, падобныя адзін да аднаго, і ўсе няўхільна спускаліся ўніз, уніз. Часам справа і злева святло ліхтара выхоплівала заржавелыя краты, што засланялі вузкія лазы, або закладзеныя бакавыя праходы. З арак, якія зеўралі побач, адкрываючы адгалінаванні калідора, патыхала то каналізацыяй, то холадам. Зініч, механічна падлічваючы такія ходы, паспрабаваў быў уявіць сістэму лёхаў пад калегіумам — і праз нейкі час кінуў, бо шматлікія калідоры, вялікія і малыя, пляліся і блыталіся, быццам старое карэнне.

Нататкі Івянецкага нарэшце вывелі іх у адносна невялікі пакой, засыпаны пяском і бітай цэглай. У сцяне наперадзе між ліпкіх мохавых плямін чарнелі тры праходы, у куце валялася нейкае падгнілае ламачча — можа, парэшткі мэблі ці бочак, не было як разабраць. Зініч спыніўся, вагаючыся. Нерашуча пасвяціў ліхтарыкам пад адну, другую, трэцюю арку.

— Ну? — змрочна спытала Вера.

— ...не разумею,— прамовіў Зініч, кусаючы вусны.

У планах, накіданых Івянецкім, надалей не было ніякіх тлумачэнняў. Толькі побач з квадрацікам, што абазначаў гэты пакой, быў намаляваны — па меры здольнасцяў — мініяцюрны Крыж Еўфрасінні. Прынамсі, Зініч думаў, што то быў той самы артэфакт, а не штосьці іншае: якніяк у Крыжа Еўфрасінні досыць адметная форма. Побач з малюнкам кучаравістым почыркам Івянецкага было паспешліва дапісана: «*Уласны крыж абіраем самі мы*».

То была, напэўна, чарговая загадка. Зініч перачытаў радок, водзячы пальцам па крываватых літарках.

— Ну?..— зноў падала голас Вера, і гэтым разам у ім выразна гучалі пагрозлівыя ноткі.

— Тут мапа абрываецца,— суха прагаварыў Зініч, праглядаючы план Івянецкага ў пошуках дадатковых падказак. Але іх не было. Увогуле больш не было нічога, што тычылася б гэтай невялікай цаглянай каробачкі пад старажытным калегіумам.

Вера, неразборліва вылаяўшыся, наблізілася і выхапіла паперы. Вывучыла сама, свецячы сабе ліхтарыкам, прачытала апошні радок, варушачы вуснамі. Скрывілася, падняла сярдзітыя вочы-вішні на Зініча.

— И что же это значит?

— Н-не разумею,— паўтарыў Зініч.

Святло ягонага ліхтарыка замітусілася па сцяне ад адной аркі да другой. Вера закаціла вочы і гукнула сваіх наймітаў. Утраіх яны нешта напаўголасу абмяркоўвалі — з раздражненнем, са злосцю. Меркавалі проста прайсціся па калідорах, як на экскурсіі, падумаў Зініч. А ў канцы экскурсіі іх мусіў чакаць дарагі (ува ўсіх сэнсах) артэфакт.

Ён падступіў бліжэй да адной з арак, выхапіўшы святлом ліхтара шчарбатую цэглу. Агледзеў уважліва, крануўся рукою. Вільготная сцяна з плямінамі моху халадзіла далонь скрозь гумовую пальчатку. Пашарпаныя часам цагліны былі пакладзеныя шчыльна, утваралі роўны выгін аркі. Зініч па даўняе звычцы пералічыў іх, пераскокваючы позіркам з адной на адну. І на сярэдзіне спатыкнуўся: над самым уваходам адна з цаглінаў трохі выступала наперад. На ёй былі глыбока прадрапаныя лініі малюнка: прыземісты чатырохканцовы...

— Крыж!..— здзіўлена выгукнуў Зініч.

Па бітай цэгле і пяску да яго захрабусцелі крокі: лягчэйшыя Верыны, цяжкі тупат наймітаў. Зініч стаяў, закінуўшы галаву, дзівячыся лёгкасці, з якой адшукалася рашэнне.

Гэтая занадтая лёгкасць яму дужа не падабалася, і адчуванне было такое, быццам раскусіў пусты гарэх. «Не так,— білася ў скронях.— Нешта не так. Пасля ўсіх хітрыкаў, на якія пайшлі беланаўцы, пасля ўсяго гэтага кружэння па слядах экспедыцыі Ластоўскага — вось такая развязка?»

— И правда, крест,— задуменна прагаварыла Вера, пасвяціўшы на самы верх аркі.— Вот оно, значит.

Яна, мабыць, казала нешта яшчэ, але Зініч не слухаў — рушыў да наступнай аркі і падсвяціў сцяну над ёю.

Як ён і меркаваў, на цагліне, што выступала над астатняю кладкай, таксама быў надрапаны крыж — толькі цяпер праваслаўны васьміканцовы, з касою перакладзінай. Зініч варухнуў бровамі і задуменна пацёр лоб — здаецца, якраз тою рукою, што выпацкаў у пабелцы.

— Что там? — насцярожана гукнула яго Вера. Зініч тым часам караскаўся, аслізгаючыся, на кучу пяску перад трэцяю аркай.

— Крыж,— адказаў суха.— Яшчэ адзін.

— Что?! — ахнула Вера.

Святло Зінічава ліхтарыка выхапіла цагліну над трэцяю аркай. Глыбокія драпіны на ёй таксама складваліся ў знак крыжа — адно тут гэта быў чатырохканцовы крыж, што ляжаў на баку.

Зініч пачухаў патыліцу. «Уласны крыж абіраем самі мы»,— так жа пісаў Івянецкі? Нават калі ў Зініча і былі сумневы ў клёку беланаўца, наўрад ці той стаў бы проста так змяшчаць на самаробнай мапе радок з уласнага верша. Крыж, выбар крыжа... нешта ў гэтым ёсць. Выбраць уласны крыж — і пайсці пад адпаведную арку. Таксама, нібыта, усё нескладана, калі прыняць гэта за падказку — досыць элегантную, трэба адзначыць.

Але нешта насцярожвала — Зініч пакуль не мог скеміць, што менавіта.

— Да чё тут рассусоливать,— загаварыў Андрэй Васільевіч.— Эта, как её там, святая, она ж православная. Вон нормальный крест,— ён тыцнуў тоўстым пальцам убок цэнтральнай аркі,— значит, туда, блин.

— Логично,— азвалася Вера. Яе ліхтарык асвятліў Зінічавы плечы і патыліцу: — Логично же, журналист?

Зініч пахістаў галавою.

— Няправільна,— адказаў глуха.— Нешта няправільна. Нешта… не так.

— Усё не так,— сказаў знаёмы змрочны голас.

Зініч падняў вочы — і задрыжаў, бо ў трэцяй арцы, асветленая ліхтарыкам, стаяла тая стрыжаная, адцягваючы долу куткі нафарбаваных вуснаў. Яна чамусьці была жудасная, гэтая звыклая цыбатая дзяўчына ў белай цішотцы. «Знікні,— гэта вырвалася само па сабе, зусім нават не Зінічавым голасам.— Знікні, знікні, сыдзі. Сыдзі! Адкуль ты тут узялася, не можа цябе тут быць. Не можа цябе тут быць, не павінна цябе тут…»

— Уласны крыж,— варухнуліся цёмныя вусны.— Выбірай, каторы твой, Кастусь. Ты хоць ведаеш, каторы — твой? Ведаеш, Кастусь?

Пад яе крокамі ўздыхаў пясок: бліжэй, бліжэй. Зініч ускрыкнуў і падаўся назад. Аступіўся — і ўпаў спінай на бітую цэглу і шкло, прыклаўшыся патыліцай аб згнілае ламачча. Ліхтарык ягоны міргануў, адкаціўшыся ўбок.

— Шизик,— аўтарытэтна заявіў кіроўца.

Зініч, якога прабіў халодны пот, ляжаў на спіне, цяжка дыхаючы, і не меў сілы падняцца. Вера стала над ім, пільна гледзячы вачыма-вішнямі.

— Яна… тут была,— ледзьве выціснуў Зініч, скаланаючыся.— Белая цішотка. Белая…

— Да нет тут никого,— адрэзала Вера.— Кроме нас.

І кпліва дадала, звяртаючыся кудысь за кола святла:

— И правда, шизик.

Яны не бачылі, скеміў Зініч. І пахаладзеў унутрана, бо прыгадаў, што апроч яго самога стрыжаную ніколі ніхто не бачыў: ані малады ўчастковы, ані Вера або яе найміты. Ніхто і ніколі.

Ён, дрыжучы і прыкрываючы твар далонямі, нібы хаваючыся ад нечаканай здагадкі, не адчуў, як Вера лёгенька пнула яго пад рэбры:

— Не встанет, похоже.

— Не, ну его на хрен,— сярдзіта сказаў Андрэй Васільевіч.— Ещё на себе эту падаль тащить. Пусть валяется. Вернёмся — так и разберёмся, чё.

— Точно,— пагадзілася Вера, чмыхнуўшы, і яшчэ раз пнула агаломшанага Зініча.— Разберёмся.

Утраіх яны, адзін за другім, рушылі пад цэнтральную арку — і зніклі, быццам расталі. Зініч, усё яшчэ скаланаючыся, застаўся ў цемры адзін, сам-насам з ёю і голасам вады, што тачылася па сценах, жывячы мох і плесню.

Зініч, хапаючы ротам паветра, павольна сеў, абапіраючыся на руку. Глуха вохнуў: паспеў дзесьці добра прыкласціся локцем, і з-пад прадранага швэдра праступала кроў. Кінуты ліхтарык ляжаў за паўтузіна крокаў ад Зініча, залiваючы святлом гнілыя дошкі і ржавыя палосы металу,— самотная кропачка сярод пераможнай цемры падзем’я.

— ...цябе заб’юць,— выдыхнула цемра над вухам.

Зініч задушыў ускрык даланёю і імкліва падхапіўся, закруціў галавою, азіраючыся. Яе не існавала — але яна была побач. Блізка. Тут.

Цемра, якая шаптала яе голасам, падалася невыноснай. Зініч, падцягваючы адну нагу, пакрочыў да выратавальнага ліхтарыка. Нагнуўся, каб падняць, паморшчыўшыся ад

болю ў пабітай спіне,— і раптам на ўзроўні сваіх вачэй над гнілымі дошкамі пабачыў яшчэ адну цагліну з рэзамі.

Крыж, старанна надрапаны на ёй, быў шасціканцовы — як і той, што насіў імя Еўфрасінні.

— Уласны крыж,— прагаварыў Зініч. І раптам зарагатаў, захлынаючыся, звонка і радасна. Таму што гэта сапраўды было забаўна: падкінуць пад самы нос відавочнае рашэнне, а сапраўдны адказ на загадку прыхаваць. Выбірай, маўляў, каторы табе больш даспадобы, як заўгодна. Але сапраўдны — толькі адзін.

Ён закашляўся і рэзка, адным рашучым жэстам рвануў з твару рэспіратар. Дыхаць стала вальней, хаця ад гнілі, якою патыхала адусюль, на імгненне заняло дух. Зініч, кульгаючы, падабраўся бліжэй да накіданых дошак і адцягнуў некалькі ўбок.

Пад ламаччам, як ён і чакаў, чарнеў круглы лаз.

Праход уніз.

## 22.

...У пакоі зноў павісла маўчанне. Важкае, вусцішнае, задушлівае, яно рэзка смярдзела табакай і потам. За вокнамі сыпаў дробны восеньскі дождж.

Чалавек, які скурчыўся на зэдліку перад масіўным сталом з зыркаю лямпай, утаропіўся ў масніцы пад нагамі. Ён сядзеў спінаю да ўвахода і ведаў: там, за парогам — кепска асветлены доўгі калідор з безліччу дзвярэй. А за калідорам, далей, далей — выхад на вуліцу, залітую дажджом. Там падаюць галасы трамваі і ходзяць людзі. Свабодныя, вясёлыя людзі.

Ён ведаў гэта, але сэрца верыць адмаўлялася. Бо пасля доўгіх трох тыдняў зняволення падавалася, быццам там, за калідорамі, за мурамі і кратамі, болей нічога няма.

Што ўвесь свет — гэта бетонная каробачка з электрычнай іскрай пад столлю.

Ён стаміўся. Ад кратаў, ад вокрыкаў, ад рэзкага святла, скіраванага ў твар, ад папер — машынапісных і спісаных ягоным уласным почыркам. І ўсе гэтыя паперы нешта значылі, нешта даводзілі, нешта — або некага — выкрывалі.

Калі яго арыштавалі ўпершыню, гадоў сем таму, было страшна. Цяпер страху не засталося — толькі стомленасць, нечалавечая, невыносная. І адчайна хацелася вызвалення.

Смерць таксама была б вызваленнем.

Ён трасянуў галавою з заўчаснаю сівізной і спадылба паглядзеў на чалавека за сталом. Той чыркаў запалкай і чартыхаўся пад нос, бо папяроса аніяк не жадала падпальвацца. І ад твару таго, за сталом, рассечанага святлом настольнай лямпы, засталося адно падбароддзе са слядамі няўдалага галення ды рот з папяросаю ў зубах.

Усё гэта было занадта знаёма: і суровыя партрэты за плячыма чалавека за сталом, і сіняе сукно, на якім бялелі, выкрываючы, спісаныя аркушы. І сам чалавек за сталом — не канкрэтна гэты, канечне. Розныя, іншыя. Але ўсе — аднолькавыя ў перакананасці ўва ўласнай праўдзе, бо за іх спінамі былі зашклёныя партрэты.

Таму што большасць заўжды мае рацыю, праўда?

Тады, сем гадоў таму, ён баяўся. Не самога зняволення або пакутаў нават. Баяўся пагалоскі, баяўся асуджэння і шэпцікаў за спінай. Баяўся, што яго — невінаватага, шчырага камсамольца — запішуць у злачынцы. Баяўся няпраўды адносна сябе і іншых, як здаровыя людзі баяцца і спрабуюць унікнуць заразы, эпідэміі.

За апошнія тры тыдні ён даведаўся, што праўда не мае значэння. Прынамсі, не для тых, хто сурова і недаверліва глядзіць на яго з-за стала. Ім не хацелася чуць праўду —

толькі тое, што ім было патрэбна для новых папер. А тыя зноў выкрывалі б, абвінавачвалі б.

Тады, сем гадоў таму, ён хваляваўся за незакончаную, неадлюбленую працу болей, чым за сябе або маці з сястрою ў вёсцы пад Полацкам. Цяпер ён не хваляваўся: у ноч арышту абыякава назіраў, як падчас вобшуку раскідваюць па падлозе аркушы ягоных артыкулаў. Тытульнік манаграфіі, якую днямі меўся дасылаць у выдавецтва, ляжаў каля самага ўваходу з выразным адбіткам нечага бота.

Усё тое, папяровае, падавалася мёртвым, быццам ніколі і не любімым. І ўсё падавалася мёртвым, нават ён сам.

Але сэрца па-ранейшаму сціскалася ад згадкі пра малую. Дачка, якую разам з усімі пабудзілі ноччу, не плакала, толькі ўважліва глядзела. Стоячы на ложку, вельмі сур'ёзна назірала, як чужыя людзі перасоўваюць нешматлікую мэблю ў іх пакоі ды перабіраюць небагатыя пажыткі. Лямпачка патрэсквала пад столлю, а за кепска прычыненымі дзвярыма шапталіся суседзі па камуналцы.

— Людачка! — паклікаў ён яе тады шэптам. Малая павярнулася да яго і толькі тады ціхутка захныкала, быццам адчуўшы бацькаву напружанасць.

Ён паглядзеў на зашклёных правадыроў, прыгадваючы даччын круглы заспаны тварык і мяккія льняныя кудзеры. Завагаўся на імгненне, ажно затрымцела сэрца: запомніць або не? І тут жа падумаў, што — лепей бы не помніла зусім. Лепей бы не цягнула ўвесь век гэтыя ўспаміны на плячах, быццам крыж.

— Крыж...

Крыж прыгадаўся жыва, стаў перад вачыма, быццам наяве,— у ззянні металічных пласцінаў, у жаўтаватым бляску перлін. З Крыжа глядзелі, схопленыя ў каляровай эмалі, Хрыстос і Божая маці, святыя і анёлы. Ззялі камяні, ззяла

срэбра і золата, і страшныя словы закручваліся спіраллю на пласцінах: «*...будзе яму доля Юдзіна...*»

Дужа хацелася піць. Ён прачысціў горла кашлем, аблізнуў пасмяглыя вусны, марна спрабуючы падмануць смагу.

Ён добра ведаў, што будзе далей. Той, за сталом, запаліць чарговую папяросу і, кідаючы касыя пагляды на паперы перад сабою, пачне пытацца ўсё тое самае. Адно і тое ж, адно і тое ж. Усе пытанні заўжды круцяцца вакол аднаго імені — Вацлаў Ластоўскі. У якіх стасунках былі, над чым працавалі разам. Раскажыце больш падрабязна пра полацкую экспедыцыю БелАН. Што вы адшукалі ў сховішчах мясцовага фінаддзела, што надалей сталася з артэфактамі. Тым, за сталом, неабходна ведаць усё ў падрабязнасцях. Канечне, дзеля справы. А справа няпростая, справа, можна сказаць, міжнароднага значэння. Важная для ўсяго народа справа.

Якая менавіта справа — яны ніколі не ўдакладнялі. Можа, таму, што гэта павінна быць зразумела апрыёры. Можа, і самі не ведалі. А можа, за гучнымі словамі насамрэч нічога не стаяла. Таму, што іх «вялікая няпростая справа» была фікцыяй, хітрыкам, пасткай.Ваўчынай ямай, у якую яго неўпрыкмет заганялі.

Загналі.

Той, за сталом, ахутаны папяросным дымам, нарэшце, загаварыў — чытаючы ўголас з аднаго з аркушаў:

— *Андрей Павлович Ивенецкий, одна тысяча девятьсот десятого года рождения, происхождение крестьянское...*

Ён слухаў безуважна, тупа гледзячы сабе пад ногі. Ён так часта пісаў гэта ў шматлікіх анкетах, што словы пачыналі страцваць сэнс. Нават уласнае імя станавілася найперш літарамі на паперы і толькі пасля — ягоным найменнем.

— В каких отношениях вы были с гражданином Ластовским?

— У працоўных стасунках. Рабочих. У якіх жа яшчэ? — Ён паўтараў гэтыя словы, як закляцце. Ён проста працаваў асістэнтам у экспедыцыі. Займаўся дакументацыяй, не болей і не меней.

— Я нічога не ведаю. Ничего не знаю.

Ён паўтараў гэта зацята, адчуваючы гаркоту на вуснах, бо было ў гэтым евангельскае «Кажу табе, не прапяе яшчэ певень сёння, а ты тройчы вырачашся мяне». Хаця гэта святы Пётр выракся тройчы. Ён жа — выракаўся сотню, тысячу разоў, паўтараючы адно і тое ж, адно і тое ж.

Але яму не верылі, ніколі не верылі.

— Касательно так называемого креста Ефросиньи что можете сказать?

У іх былі пералікі каштоўнасцяў, перапісаныя ягоным почыркам. Ягоны пераклад надпісу на Крыжы. Ягоны ўласнаручны подпіс на паперах БелАН побач з пячаткамі і подпісам Вацлава Юстынавіча. І, само сабою, пратаколы допытаў першага арышту.

— Не знаю. Н-не ведаю.

Што ён павінен быў сказаць? Што ён увогуле мог сказаць?

Але ён ведаў дакладна, што пасля аднаго з «не ведаю» — усё адно, якога, насамрэч,— цярплівасць у таго, за сталом, закончыцца. Будзе глухі ўдар кулаком па сінім сукне, і рыпне, ад'язджаючы назад, крэсла. А пасля ўдарыць яго — кулаком, прыкладам, няважна. Чакаючы ўдару, ён уцягне галаву ў плечы, але ўдарыць усё адно нечакана, і пакой кульнецца дагары нагамі, і падлога падсцеліцца пад змучанае, скалечанае цела.

— К-контра!.. Проклятая! Чтоб! Тебя!

На кожнае слова — па ўдары пад рэбры. Той, з-за стала, будзе цяжка аддыхвацца, і на барвовым твары расою выступіць блішчасты пот: біць людзей, як-ніяк,— работа нялёгкая. На шчасце для тых, каго б'юць, бо катам таксама трэба адпачываць.

І, пакуль адпачываюць, яго кінуць назад у халоднае сутарэнне з плямінамі вільгаці на сценах. Там можна будзе спакойна ляжаць, не думаючы ні пра што, не падбіраючы правільныя словы, не выракаючыся бясконца мёртвага чалавека і жывой краіны. Ляжаць, выцягнуўшыся так, каб сырая цэгла халадзіла разбіты лоб, і слухаць, слухаць...

Засынаць, правальваючыся ў бездань.

На дварэ сыплецца дробная імжачка верасня, жоўтая поўня, рассечаная кратамі, зазірае ў камеру дапытлівым вокам. Глядзіць, як неспакойна спіць чалавек, што выцягнуўся на бруднай падлозе.

Яго завуць Андрэй Івянецкі, яму амаль дваццаць дзевяць, і сны ён сніць неспакойныя, цяжкія. Сны пра цёмныя лабірынты пад былым кадэцкім корпусам, праз якія давялося прайсці далёка ўніз, пакідаючы паметы на паперы і пазнакі на старой цэгле. Бо некалі — аднойчы — тое, што хавае Мудрасць, можна будзе вярнуць людзям.

Трэба будзе вярнуць людзям.

Плятуцца калідоры, блытаюцца, быццам старое карэнне ў зямлі. Крыжы над праходамі, шасціканцовы крыж над непрыкметным лазам. Спуск глыбей, у старыя лёхі, немаведама кім тут пабудаваныя. Даўным-даўно. Глыбока-глыбока. Дзесьці ўнізе струменіць вада і караскаецца па камянях зелянiна. І стары, белавалосы і белабароды, у доўгай шэрай світцы, з крывым кіем у руках, крочыць па ціхім падзем'і, і вусны старога варушацца.

Мы — спрадвечныя. Мы кроў ад крыві гэтай зямлі і плоць ад плоці яе.

Плятуцца калідоры, звіваюцца, быццам змяіныя целы. Завязваюцца ў вузел пад стромым пагоркам над ракой. І вузел пульсуе, як жывое сэрца.

Тою вераснёваю ноччу Андрэй Івянецкі бачыў дзіўны сон: стромы бераг, белыя вежы, а ў сінім небе над вежамі — белыя крылы чаек і белыя аблокі. А сам ён, лёгкі і здаровы, ішоў па зялёным беразе да белага храма, і смяялася рака, уся быццам з расплаўленага металу, і дрыжала бярозавае лісце пад ветрам. І паўсюль гучалі галасы. Дзіўныя, незлічоныя, напеўныя. Гаварылі і спявалі, смяяліся і плакалі.

Па-беларуску.

Ён прачнуўся ад грукату жалезных дзвярэй. Заміргаў, асляплены палоскаю святла, усё яшчэ напоўнены тымі цудоўнымі галасамі, тым далёкім поклічам белага храма над ракой.

Павекі набрынялі слязьмі, і ён хутка абцёр вочы тыльным бокам далоні.

— Ивенецкий, на выход,— сказалі яму сурова.

І другі голас дадаў кпліва:

— Собирайся, интеллигенция. На прогулку поедем. За город.

## 23.

Гэта было дужа падобна да нутра коміна.

Прынамсі, Зініч прыблізна так заўжды ўяўляў сабе ўнутранасць комінаў: няроўныя сцены вузкага праходу, шурпатыя бакі цаглін. Адно што не было сажы — але замест яе паўсюль разыходзіліся пляміны сырога моху, ад якога гумовыя пальчаткі фарбаваліся ліпкаю зелянінай, і плесні. Спускацца даводзілася, чапляючыся за металічныя пруты, што сям-там вытыркалі з

кладкі, за вострыя выступы. Зініч, паклаўшы ўключаны ліхтарык у кішэню, поўз уніз, расставіўшы ногі і рукі, уяўляючы сябе агромністаю мухай на сцяне. Кола святла мітусілася ўверсе, а вакол была задушлівая ліпкая цемрадзь.

Час цягнуўся павольна. Зініч, да фізічных высілкаў даўно нязвыклы, хутка распарыўся і стаміўся. Пот струменіў з яго цурком, і здрадліва дрыжалі калені, шукаючы новае апірышча, і пальцы штораз рызыкавалі слізгануць з вільготнай цэглы. Зініч часам заміраў на месцы, пераводзячы дыханне, зберагаючы сілы. Жмурыўся тады і вельмі жыва ўяўляў сабе імклівае падзенне, што завяршылася б цяжкім ударам ды храбусценнем костак. Пасля выдыхаў і працягваў спуск. Нешта ўнутры ўпарта штурхала яго наперад. Штурхала, нягледзячы на боязь, боль у пабітым замучаным целе, знясіленасць, дый нават прыродную гідлівасць, якая звычайна пераважвала ў Зінічы ўсё астатняе. То была, можа, зацятасць даследчыка, а можа, звычайная чалавечая цікаўнасць.

А можа, і нешта яшчэ, незразумелае, няўцямнае, што ўскіпала ў жылах радаснымі бурбалкамі, п’яніла і туманіла галаву. Даўняя таямніца апынулася зусім побач, так, што можна было дакрануцца. Даўніна вабіла — як, мусіць, матылёў вабіць полымя. І проста немагчыма было спыніцца.

У нейкі момант Зінічу падалося: болей не вытрымае. Ён перарывіста ўздыхнуў, з жахам адчуваючы, як праходзіць дрыготка па зняможаным целе. Зноў яскрава, у непрыемных падрабязнасцях уявілася, як ён падае, абдзіраючы калені і локці аб выступы, як яго засыпае вострым каменнем. Як ляжыць — зламаная, ненатуральна вывернутая лялька — у цемры падзем’я.

Зініча пацягнула на ваніты, але тут ён адчуў пад сабою пустку: левая нага ў чарговы раз не знайшла навобмацак апірышча, а павісла ў паветры. Зініч, сціснуўшы зубы, прыпаў да сырой кладкі жыватом і адной рукой, ледзьве паварочваючыся ў вузкім праходзе, выцягнуў з кішэні ліхтарык. Святло ўдарыла ў твар, разанула па вачах. Праміргаўшыся, Зініч змог разгледзець перад сабою цёмныя цагліны, апушаныя плесняй і мохам. Ліхтарык пужліва заміргаў, і давялося злёгку трасянуць яго, каб свяціў роўна.

— З-зараза,— дадаў Зініч здушана. І, упёршыся локцем ў вільготную сцяну лаза, выпусціў ліхтарык з пальцаў.

Святло мірганула, амаль адразу пачуўся глухі стук. Зініч, пакрэхтваючы, вывернуўся і зірнуў долу. На каменных плітах мірна расцякалася пляміна жоўтага святла. Зініч змрочна засоп, наўскідку ацэньваючы адлегласць да падлогі. Было, мабыць, метры два, не болей — не так страшна, як яму падавалася спачатку.

Ён зноў зажмурыўся і прыціснуўся ўсім целам, пэцкаючыся ў зеляніне, да сырой цэглы. Павіс, стрымліваючы дрыготку ў стомленых руках. І раптам адчуў — скрозь старую кладку, скрозь нутро старога лаза,— як праходзіцца па падзем'і ледзь заўважны, але пэўны гуд, як яно трымціць, скаланаецца раз за разам, раз за разам. Быццам цячэ ў каменных жылах жывая кроў.

Быццам б'ецца дзесь побач жывое сэрца.

«Можа быць,— падумаў азадачаны Зініч,— дзесь побач бруіць крыніца. Ці падземная рака пракладае сабе шлях». Нешта падобнае — рух у падзем'і — яму даводзілася адчуваць у Мінску. Ідзеш у падземным пераходзе і нечакана падэшвамі адчуваеш трымценне бетону. А ўсё таму, што пад табою цяжка рухаюцца нястомныя стрэлы метро.

Але тут, ясная справа, не было электрычак — толькі старая цэгла, тонкая і шурпатая, абпаленая да цёмнага барвовага колеру.

Зрэшты, высветліць, што тут гудзіць, варта было пасля, выбавіўшыся з душнаватага лаза. Зініч спусціўся яшчэ трохі ніжэй і павіс на руках, хапаючы ротам паветра. Перад вачыма заскакалі вогненныя колы, мышцы праця-ла рэзкім болем ад высілку. Зініч адчайна забоўтаў нагамі, адчуваючы, як патроху саслізгваюць пальцы ў падраных пальчатках, сціснуў зубы — і скочыў долу.

Дакладней, абрынуўся долу, упаўшы не дужа ўдала на бок і зноў прыклаўшыся аб камень збітым локцем. Падзенне, праўда, было нядоўгае, але Зініч колькі часу ля-жаў на плітах побач з надтрэснутым ліхтарыкам і цяж-ка дыхаў. Каменная падлога прыемна халадзіла скронь і садраныя далоні. Зініч сцягнуў з сябе парэшткі пальчатак і дрогкімі пальцамі правёў рукою па валасах.

Ён спусціўся тым шляхам, на які ўказваў Івянецкі, і ўсё яшчэ быў жывы. А яшчэ дзесьці тут спачывала грандыёз-ная таямніца, якая чакала. Якая клікала. І гэты покліч таямніцы падняў змучанага Зініча на ногі, змусіў падха-піць ліхтарык ды агледзецца.

То быў досыць шырокі калідор, складзены з ружава-та-шэрых каменных пліт, і цягнуўся ён управа ды ўле-ва. Зініч пасвяціў угару — і ўбачыў чорны правал лаза, з якогаываліўся, ды скляпеністую столь, пад якою клубіўся змрок. Тут было досыць суха, без ліпкай віль-гаці, і на камянях не відаць было ані сырых падцёкаў, ані плесні. Праваруч па калідоры — Зініч азадачана звузіў вочы — у аддаленні відаць было белаватае свят-ло, што разгаралася то ярчэй, то слабей. Лёгкі скраз-няк ціхутка прабег па падлозе, пакусваючы Зініча за лыткі ў падраных джынсах. Зініч, прыгадаўшы пісаніну

Івянецкага пра падземныя лабірынты, нагою падсунуў у цэнтр калідора брудныя камячкі пальчатак, каб быў хоць нейкі арыенцір, і, трасянуўшы ліхтаром, рушыў за скразняком, да святла. Меркаваў так: скразняк мусіць цягнуцца да выхаду на вольнае паветра, а святло можа падаць аднекуль зверху, з праломаў у скляпеннях. Тым шляхам ішлі некалі беланаўцы або не, а ўсё-такі някепска было б адшукаць выхад. Паветра тут ставала, столь была высокая, але сама думка пра зямлю і каменне над галавою непрыемна ціснула на Зінічава ўяўленне.

Калідор цягнуўся роўна, з ледзь заўважным нахілам. Праз колькі часу Зініч быў упэўнены, што спускаецца, а не падымаецца, і ад гэтага зрабілася трохі мулкавата, дарма што разумеў: загадку беланаўцы хавалі б у глыбіні, а не блізка паверхні. Ён прайшоў па каменных сходах, што давалі нырца пад нізкаватую арку, адолеў яшчэ колькі метраў — і замёр на месцы, агаломшаны.

Бо сцены вакол пярэсцілі нябачанымі вастраносымі знакамі, падобнымі да клінапісу, завіткамі ды спіралямі. Тут жа ўкліньваліся ў надпісы і грубаватыя малюнкі, і Зініч, не верачы ўласным вачам, пабачыў намаляваных вохраю мамантаў, аточаных фігуркамі людзей са зброяй. І беглі ваўкі, і несліся алені, і ляцелі за імі апераныя белымі і чырвонымі пёркамі стрэлы.

Ліхтарык зноў мігрануў — і згас. Зініч патрос яго, вылаяўся, калі зразумеў, што ўсё марна і ён застанецца ў цемры. Але цемры, насуперак ягоным чаканням, не было: знакі і малюнкі быццам толькі і чакалі, пакуль згасне электрычнае святло, і зараз набрынялі зеленавата-жоўтым ззяннем. Так свеціцца фосфар, падумаў Зініч. Наблізіўся да сцяны, з асцярогаю кранууўся камянёў побач са ззяйкімі знакамі. Фосфарам, насуперак яго чаканням, не пахла —

верагодна, то было нейкае іншае люмінесцэнтнае рэчыва ці нейкая адмысловая сумесь.

Доўга здзіўляцца, аднак, не атрымалася: дзесьці наперадзе закрычаў чалавек. Спачатку коратка, пасля даўжэй і грамчэй, і столькі жаху было ў гэтым ляманце, што Зініча прабралі дрыжыкі. Ён, прыпадаючы на адну нагу, рушыў далей па калідоры, туды, дзе нехта заходзіўся крыкам і дзе радасна пазвоньвала вада.

І ўбачыў, ніякавеючы: у падлогу калідора, асветленага ззяннем знакаў, былі ўмураваныя заіржаўленыя краты. А пад імі ў круглым калодзежы, дарэмна цягнучыся ўгару, да недасяжных кратаў, стаяў Андрэй Васільевіч. Быў ён бледны, нечакана ўспуджаны і нібы прыплюснуты ракурсам. Стаяў па калена ў бруднай вадзе, якой большала з кожным імгненнем.

— Журналист! — крыкнуў, згледзеўшы над сабою Зініча.— Слышь, журналист! Помоги!.. Христом Богом прошу!

Зініч апусціўся на калені побач з кратамі і паторгаў іх, цягнучы на сябе. Тыя былі ўмураваныя намёртва. Андрэй Васільевіч унізе, дрыжучы, назіраў за Зінічавымі спробамі з надзеяй. І раптам здрыгануўся, адскочыў, прыціснуўся спінаю да сцяны.

— Там в воде что-то,— вымавіў вусцішным хрыплым шэптам. Вада тым часам падабралася яму да пояса.— Серёгу сожрало... Ты это, ты меня не бросай только. Помоги, журналист. Это... калі ласка? Там... в воде...

Ён запнуўся і ўтаропіўся ў нешта перад сабою. Выцягнуў руку, паказваючы кудысь у бруднае цёмнае зыбанне. Вось там, вось там! Ты бачыў, журналіст? Ты ж гэта таксама бачыў?..

Зініч пакруціў галавой. У калодзежы, наколькі ён мог разгледзець, быў толькі Андрэй Васільевіч. А той зноў за-

крычаў — дзіка і страшна — і паспрабаваў, ламаючы пазногці, ускараскацца па камянях угару, абы ўнікнуць нечага жудаснага, абы выратавацца.

— Журнали-и-ист!..

— Я нічога не...— пачаў быў Зініч і асёкся, бо нешта, бліснуўшы лсняным бокам, мільганула зусім побач з ашалелым ад жаху галаварэзам. І абвілося ўкруг яго, і сцягнула за сабой у цёмнае зыбанне. Андрэй Васільевіч, вырачыўшы вочы, неяк смешна ўзмахнуў рукамі, выдыхнуў, пад храбусценне ўласных рэбраў выпускаючы з сябе апошняе паветра, і схаваўся пад вадою. На нейкі момант яшчэ раз паказалася над паверхняй ягоная галава, страшная, белая, з мутнымі вачыма і разяўленым у бязгучным крыку ротам, з якога тачылася штосьці цёмнае. З'явілася — і схавалася, адно пабеглі бурбалкі.

І толькі радасна пазвоньвала вада.

Зініч падаўся назад усім целам, адпоўз да сцяны, заціскаючы рот рукамі. Колькі імгненняў пасядзеў нерухома, выстукваючы зубамі імперскі марш, і ўсё чакаў, што тое, з вады, адчуе і ягоную, Зініча, прысутнасць побач. Але ўсё было ціха, адно шалёна білася сэрца.

Ён змог варухнуцца толькі хвілін праз пяць. Трымаючыся за сцяну, патроху выпрастаўся. Галава круцілася, сцены і падлога зыбаліся, а голас вады ўнізе падаваўся злавесным.

— Ты таксама памрэш,— мовіў знаёмы голас.

Зініч падняў вочы і згледзеў перад сабою, па той бок заржаўленых кратаў, стрыжаную.

— Ты таксама памрэш,— паўтарыла тая, адцягваючы долу куткі нафарбаваных вуснаў.— Калі будзеш тут стаяць. Гэта кепскае месца, Кастусь.

— Сам ведаю,— агрызнуўся Зініч і запозненна скеміў, што падтрымлівае гутарку з мрояй, галюцынацыяй.

— З часткай уласнай свядомасці,— ахвотна працягнула стрыжаная, чытаючы ягоныя думкі.— З уласным клёкам. З інтуіцыяй.

— Адчапіся ад мяне,— ціха папрасіў Зініч, абхапіўшы рукамі скроні, у якіх, пульсуючы, набіраў сілы боль.

Стрыжаная здзекліва засмяялася, паказваючы дробныя зубы.

— Але ты мяне сам захацеў. Ты сам мяне выдумаў, Кастусь. А тое, што мы выдумляем, назаўжды застаецца часткаю нас, хочам мы таго або не.

Зініч схаваў твар у брудных далонях. Паўтараў, быццам малітву: «Сыдзі, сыдзі. Знікні, знікні». Усё зыбалася вакол, і смяялася стрыжаная, і нешта на дне калодзежа рвала плоць Андрэя Васільевіча.

А пасля ўсё спынілася. Зініч адняў рукі ад твару — і нікога побач не было. Ззялі таемныя знакі, падавала голас вада. Ён зрабіў колькі сутаргаватых удыхаў і выдыхаў і, кульгаючы, пакрочыў далей, абапіраючыся адною рукой на шурпатае цела сцяны.

Наперадзе раз або два мільганула белая цішотка. Зініч скрыпнуў зубамі, але стрыжаная не з'яўлялася. І вальней было дыхаць і думаць.

То па адзін, то па другі бок выраслі ў белым ззянні знакаў цёмныя аркі. Адны дыхалі гарачынёй, ажно даводзілася прыкрываць твар рукою. З іншых цягнула магільным холадам. Ні ў хвалі гарачыні, ні ў марозную стынь Зініч зайсці не адважыўся і рухаўся за скразнячком, які то аціхаў, то мацнеў. Кацілася па камянях рэха Зінічавых крокаў, множылася, і падавалася: ён ідзе не адзін, разам з ім, поруч, ідуць многія, многія.

І ад гэтага на сэрцы рабілася трохі лягчэй.

Ён не ведаў, колькі мінула часу. Памятаў толькі, што аднаго разу аднекуль зверху пасыпаўся сухі мох і нейкія

аскепкі. Рэха зараўло чалавечымі галасамі — пакутлівымі, страшнымі. Зініч падаўся назад, закінуў галаву, прыглядаючыся. А дзесьці наверсе пераможна загрукатаў метал — і нешта цяжкае і бясформеннае з уханнем павалілася амаль што Зінічу пад ногі. У бляклым святле, які давалі насценныя знакі, відаць было кепска. Але Зініч, стрымліваючы млосць, што падкаціла да горла, пазнаў у пераламаных, быццам праз жорны прапушчаных парэштках Веру. Рука з крывавым манікюрам засталася цэлай і ўсё яшчэ сціскала ключ, злёгку крануты ржою, са знаёмымі ініцыяламі і лічбамі на галоўцы: «ANNO 1760 JKG».

Той самы.

Зініч, хіснуўшыся на няпэўных нагах, задыхнуўся ад гідлівасці, але запаветны ключ з упартых мёртвых пальцаў выцягнуў. Пераступіў цёмную лужыну на плітах, рушыў далей, адчуваючы металічны цяжар у далоні. Думаў, баючыся азірнуцца, што Алегавы забойцы знайшлі тут толькі сваю смерць, а не скарбы.

Ён быў далёкі ад хрысціянскага даравання ворагам і памятаў, што гэтыя людзі без задняй думкі забілі б і яго, як забілі Маслоўскага. Проста таму, што ён замінаў ім. Праўда, усё гэта не дужа суцяшала, бо смерць зноў дыхала Зінічу ў патыліцу, бо ўласнае цела было такім самым кволым і ненадзейным, такім жа безабаронным. То была справядлівасць у яе колішнім, старажытным і страшным аблічча. Вока за вока, жыццё за жыццё.

Гэтае месца — лабірынты, як іх назваў Івянецкі,— таксама не даравала тым, каго лічыла нявартым. І Зініч уцягваў галаву ў плечы, штохвіліны чакаючы пасткі. Прыгадваў напісанае беланаўцам, усе гэтыя згадкі пра прыхаваныя пласціны і дошкі, што паварочваюцца ад неасцярожнага дотыку. Блытаныя апісанні Івянецкага не падаваліся болей

фантастычнымі, бо ява, жудасная ў сваёй рэчыўнасці, акаляла з усіх бакоў. Бо свяціліся незразумелыя знакі, бо прывідна ззялі выявы жывёлаў і людзей, сузор'яў і планет. Бо рэха раскатвалася па старых камянях, бо выраслі і множыліся шматлікія аркі, а за імі цягнуліся новыя і новыя калідоры.

Гэта і праўда былі Лабірынты.

Зініч прайшоў праз доўгую халодную залу з маўклівымі шэрагамі каменных дамавін. Вакол, колькі можна было сягнуць вокам, жаўцелі старыя косткі са спарахнелымі парэшткамі адзення, з цьмяным бляскам упрыгажэнняў. Зноў падала голас вада, і сям-там між каменных шэрагаў падымаліся абрыўкамі савана туманныя лахманы. Краем вока Зініч бачыў, як вырастаюць з тых лахманоў паўпразрыстыя фігуры, як цягнуцца кашчавыя рукі, каб ухапіць, затрымаць.

«Падаецца,— паўтараў сам сабе Зініч,— проста падаецца. У цябе расхісталіся нервы. Табе падаецца, толькі і ўсяго».

Але, нават паўтараючы сабе гэта, ён лічыў за лепшае не азірацца.

Цямнелі на камянях рэзы, падобныя да клінапісу на сценах, а высока на скляпеннях ззялі, то гаснучы, то разгараючыся, намаляваныя нечай умелай рукою сузор'і. Зініч мімаходзь разглядзеў іх, але не пазнаў аніводнага. Плыло ўсё перад вачыма, старыя косткі патыхалі пылам і тхланню, а намаляваныя на камянях зоры, падавалася, кружыліся, вальсіравалі пад бязгучную музыку. І ад гэтага накатвала неўтаймаваная, нерацыянальная вусціш — хоць, быццам дзіцёнак, забіся ў куточак і заплач ад бездапаможнасці.

З маўклівай залы мёртвых Зініч амаль выбег і ўжо за парогам стаяў, упёршыся рукамі ў дрыготкія калені. Ён ніколі не верыў ні ў Бога, ні ў чорта, але доўга яшчэ адчуваў на спіне халодныя пагляды.

Быццам самі сцены сачылі, выпрабоўвалі.

«І ты памрэш»,— мільганула падступная думка, а можа, стрыжаная зноў гаварыла, гаварыла, гаварыла. Зініч заціскаў вушы рукамі і ішоў наперад, выбіваючыся з сіл, дранцвеючы не столькі ад фізічнага, колькі ад душэўнага напружання. Раз або два на плітах падлогі з'яўляліся пазнакі крэйдай — мабыць, даўнія. Шасціканцовы крыжык і стрэлка наперад. Гэта падбадзёрвала і падганяла, і Зініч, як ні спрабаваў асцярожнічаць, усё ж міжвольна прыспешваўся.

Адна з пліт павольна паплыла ўніз пад ягонай нагой — і ён адскочыў як апечаны, чакаючы чаго заўгодна, чакаючы небяспекі адусюль. Сапраўды, аднекуль зверху ўпала з сухім усхліпваннем ржавае лязо, а пасля зноў усё сціхла. Аддыхаўшыся, Зініч заўважыў пазнаку крэйдай, зробленую на сцяне побач з небяспечнай плітой,— вялікі клічнік.

Івянецкі, а мо' і не адзін ён, некалі прайшоў тут, пазначаючы пасткі, варта было толькі лепей прыглядацца. Зініч, трохі падбадзёраны, пакрочыў далей, адмыслова выглядаючы ў слабым святле знакаў паметы крэйдай. І сапраўды згледзеў яшчэ адзін, другі, трэці клічнік. Чацвёртага не заўважыў — і валасы заварушыліся ў яго на галаве, бо зусім побач праляцела па калідоры нешта цяжкае. Зініч прыціснуўся да сцяны, нібы абдымаючы вастраносыя знакі, а тое нешта з грукатам увабралася ў столь над ім і прыціхла да пары.

Зініч удыхнуў і выдыхнуў, увесь абліты халодным потам, знясілены, і ледзь адліп ад сцяны, бо ногі не трымалі. Узважыў на руцэ цяжкі ключ ад таямніцы.

У калідоры наперадзе мільганула белае, і Зініч унутрана сціснуўся, чакаючы новага з'яўлення стрыжанай.

Але то быў высокі барадаты стары ў доўгім светлым адзенні. Ішоў, абапіраючыся на кій, не зважаючы ні на што. Быццам яшчэ адна здань.

— Гэй...— слаба гукнуў Зініч, але стары нават не павярнуў галавы, мармычучы нешта сабе пад нос. Рушыў наперад, ступаючы бязгучна, быццам кот, і Зініч, павагаўшыся, пайшоў следам.

Яны мінулі адну арку, з-пад якой ззяла пералівістае святло і гучала вада. Зініч мімаходзь згледзеў каменны мост над плынню і звівы зяляніны на сценах, але прыпыніцца не было як: стары нястомна ішоў наперад, як заведзены. Зініч гукаў яго яшчэ пару разоў, але той толькі прыстукваў кіем і працягваў свой шлях, усё паўтараючы нешта пад нос. І калідоры плылі вакол іх, і плылі вогненныя знакі, і множыліся крокі, быццам ішлі не двое, а безліч.

— Той, хто ідзе да Галгофы Мудрасці,— нараспеў гаварыў стары,— каго хады прапусцілі, мусіць кіравацца гэтым шляхам. Такая была дамоўленасць з Ключнікам. Такая была ягоная воля.

— Хто вы такі?..— выціснуў Зініч, калі стары, паўтараючы адно і тое ж, прыпыніўся-такі ля вузкіх прыступак. Тыя караскаліся ўгару, сыходзячы ў цемрадзь, і цемрадзь дыхала рачною свежасцю.

Стары павярнуўся павольна, сціскаючы кій з бляклым агеньчыкам бліскучага каменя на навершы. Уважліва ўтаропіўся Зінічу ў твар зацягнутымі бельмамі сляпымі вачыма, быццам мог імі нешта бачыць, трасянуў галавой. На зжоўклай кашулі на запалых грудзях варухнуўся шнурок з круглай бліскучай манеткай — быццам дзіцячы талісман.

— Хто... вы? — паўтарыў Зініч, не ўпэўнены да канца, што ў чарговы раз не гутарыць з галюцынацыяй.

Стары квола ўсміхнуўся і раптам растаў, развеяўся лахманамі туману. Па калідоры за спінай пахаладзелага Зініча прабеглі звонкія дзіцячыя крокі — і ўсё сціхла.

Зініч правёў рукою па твары, збіраючыся з думкамі.

На сцяне побач з прыступкамі тая ж рука, ужо знаёмая рука кучаравіста напісала крэйдаю: «*Руш на Галгофу Мудрасьці. За вячэрай сядзелі трынаццаць. Колькі з іх панесьлі Слова надалей?*»

То быў не адказ — але новая загадка ад беланаўцаў. Зініч сутаргавата павёў плячыма. «Галгофа Мудрасці»,— паўтараў сам сабе, варочаючы словы на ўсе лады, разам і паасобку. Крыж і Галгофа. Шлях на Галгофу — гэта шлях да Крыжа, відавочна. Што тычыцца Мудрасці... тут Зініч не быў упэўнены.

Прыступкі ўздымаліся крута, ажно займала дыханне, і столь была нізкая, так што высокаму Зінічу даводзілася прыгінацца. На шчасце, пад'ём досыць хутка скончыўся, і ўпрост над Зінічам вырас з цемры пакрэслены святлом прастакутнік. Зініч з надзеяй штурхануў — але той не паддаўся, і тады давялося прыналегчы, сабраўшы ўсе сілы, што засталіся:

— Ух!..

Дзесь шумна пасыпалася драбяза, з драўляным грукатам штосьці звалілася. Зініч, не ўтрымаўшы раўнавагу, кулём выкаціўся наперад, паваліўся на нешта, што з перапуду падалося яму застылым трупам.

Калыхалася зялёная фіранка, пахла музейным пылам, старым дрэвам і вапнай. Вакол у паўзмроку грувасцілася нейкае пыльнае ламачча, а труп пад Зінічам аказаўся драўлянай фігурай, кранутай шашалем, з рэшткамі крыжа за плячыма.

Зініч павольна падняўся на ногі — і ледзь не прыклаўся макаўкай аб нізкую столь. Прайшоў, згінаючыся, рэзка адшоргнуў фіранку, што боўталася на металічным карнізе. Зажмурыўся, аслеплены электрычным святлом, і ледзьве не паваліўся зноў, за агароджу з пазнакай «Службовыя памяшканні».

Ён, акрываўлены і брудны, вельмі недарэчны тут, апынуўся побач з акуратнымі зашклёнымі вітрынамі, уладкаванымі побач са старажытнай кладкай. Нізкую столь падтрымлівалі драўляныя слупы, а на сцяне насупраць былі развешаныя выявы сабораў з розных гарадоў Кіеўскай Русі.

— Сафія,— хрыпла сказаў Зініч.

## 24.

*...золата на баку пярэднім, апроч двух крыжыкаў з таго ж металу,— дванаццаць, на адваротным баку — адзінаццаць частак. На іх мазаіка, ды сапсаваная ўся. На заднім баку часткі адной бракуе: верагодна, з выяваю святога Грыгорыя, папы Рымскага. Тое месца заведзена тушшу.*

*У частцы з надпісам «ад труны Найсвятой Маці Божай» не ведаю, чаго не стае, думаю — каменя. Срэбра пакрывае крыж пад пазалотаю (на ім выпісаны той надпіс-праклён), ёсць камяні (надзвычай каштоўных, відаць, было восем, з іх аднаго не стае). З меней каштоўных камянёў, апроч карбункула, ёсць халкідоны ды крышталь. Перлін вялікіх па баках крыжыкаў урыянскіх было па восем, і краі Крыжа пакрытыя перлінамі.*

*Д. І. Даўгяла,*
*15 мая 1895 г. Віцебск*

## 25.

Мудрасць, пісалі яны.

Зразумець загадку беланаўцаў — хаця б напалову — было, па вялікім рахунку, не так складана. На старажыт-

нагрэчаскай мове «σοφία» літаральна значыць «мудрасць». Цяпер, калі лёхі вывелі Зініча на ўпрост у Сафійскі сабор, гэта было відавочна.

Значыць, экспедыцыя БелАН сапраўды схавала Крыж недзе тут. Заставалася толькі адшукаць, дзе менавіта.

Але ў падказкі з падзем'я было яшчэ два складнікі. Беланаўцы адсылалі шукальнікаў Крыжа не проста да Мудрасці, але да яе Галгофы, і вось на гэтым моманце Зініч трохі губляўся. Можна было, вядома, дадумацца, што біблейскай метафарай апісана канкрэтнае месца ў саборы — прычым досыць заўважнае, у нечым нават выключнае. Гісторыю полацкай Сафіі Зініч ведаў слабавата, але памятаў пра шматлікія перабудовы ды рэстаўрацыі. Калі Крыж не знайшлі падчас іх (а калі б знайшлі-такі, рэзананс быў бы грандыёзны), значыць, тая самая «Галгофа» карэнных зменаў не зазнала, хіба што касметычныя. Да таго ж ключ ад гэтай самай «Галгофы» датаваўся васямнаццатым стагоддзем і меў на сабе ініцыялы не абы-каго, а самога Яна Глаўбіца. У сувязі ключа і тайніка з Глаўбіцам Зініч быў упэўнены: віленскі архітэктар, які займаўся перабудовамі сабора ў васямнаццатым стагоддзі, быў бадай што адзіным чалавекам, які меў і фантазію, і магчымасць зладзіць у Сафіі надзейную хованку.

Такім чынам, сам тайнік быў створаны раней, хто яго ведае, для якіх мэтаў. А беланаўцы, дазнаўшыся ад некага пра таямніцу сабора, скарысталі Глаўбіцаву працу.

Зініч, разважаючы так, прайшоў па турыстычным шляху, разглядаючы вітрыны з каменнымі аскепкамі ды рэшткі роспісаў на сценах. Вакол было ціха, святло прыглушылі: музей ужо зачыніўся. Зініч зірнуў быў на наручны гадзіннік, але марна: стрэлкі на ім не рухаліся, замерлі на палове на шостую.

Вузкі нізкаваты калідор павярнуў і вывеў яго да прыступак угору, якія ўзыходзілі — Зініч нават ухмыльнуўся, ацаніўшы іранічнасць сітуацыі,— да драўлянай фігуры ўкрыжаванага Хрыста.

Шлях да крыжа быў у дванаццаць крокаў — дванаццаць прыступак, кожная з уласным рыпучым голасам, з уласнымі скаргамі на жыццё. Скаргі прыступак падаваліся аглушальнымі, і Зініч, ідучы, абліваўся халодным потам. Але супрацоўнікаў музея, якія засталі б позняга наведвальніка, побач не аказалася — толькі ўкрыжаваны за барвовым шнурам.

Справа і злева ў нішах таксама месціліся скульптуры: драўляныя Езусы розных памераў, гіпсавыя анёлкі з хітрымі пухлымі тварыкамі. Парыпвалі пад нагамі масніцы, і трохі вусцішна было ісці аднаму па бязлюдных залах між маўклівых скульптур.

Гэта быў былы алтар. Зініч пабачыў з-за барвовай гардзіны паўцёмную залу з шэрагамі лаваў, з ледзяным бляскам аргана над калонамі ўдалечыні. Паблісквала золата на белых сценах, нізкамі ледзяшоў віселі ўрачыстыя жырандолі. З вакна над вежамі аргана цікаваў тоненькі маладзік.

З-пад дзвярэй праваруч, над якімі зелянела шыльда «Выхад», прабівалася святло і гнюсава балбатала радыё. Перад дзвярыма стаяла крэсла з раздрукаванай забаронай заходзіць наведвальнікам. Зініч мудра вырашыў тую забарону не парушаць — і прайшоў міма, стараючыся ступаць як мага цішэй. Тлумачыцца з вартаўнікамі яму не дужа хацелася.

За гардзінай было невялікае ўзвышэнне кшталту сцэны, і тут пад белай прасцінай спачываў раяль ды грувасціліся дадатковыя крэслы. Зініч закінуў галаву — і ўбачыў над сабою на блакітным лапіку абкружанага залатым ззян-

нем белага галуба, які вечна падаў з аблокаў, расставіўшы крылы.

Зініч прайшоўся па сцэне, з цікавасцю аглядаючыся. Полацкую Сафію ён бачыў хіба што на фота, і першае ўражанне было дзіўнае. Зініч, праўда, пакуль не мог даць гэтаму ўражанню якога-кольвек наймення, але чыстыя светлыя сцены, суладдзе золата, чырвані і блакіту не пакідалі абыякавым, прымушалі нешта варушыцца на самым дне душы. Ён азірнуўся на арку, што вывела яго з былога алтара, і над ёю ў залатой раме ўбачыў фрэску.

Мусіць, копія вядомай карціны да Вінчы, фрэска паказвала доўгі стол з застылымі фігурамі. Падавалася: толькі што ўпалі важкія словы, сказаныя тым, што сядзеў у цэнтры, у блакітным і чырвоным адзенні,— і нібы хваля пранеслася па абедзеннай зале. Хтосьці ўсплёскваў рукамі, хтосьці пакорліва схіляў галаву, хтосьці глядзеў з абурэннем.

Тых, за сталом, было трынаццаць.

Зініч звузіў вочы, прыгадваючы адшуканую ў падзем'і падказку. «*За вячэрай сядзелі трынаццаць. Колькі з іх панесьлі Слова надалей?*»

Івянецкі, відавочна, паківаў на сюжэт «Апошняй вячэры». Верагодна, для таго, каб дадаць да падказкі лічбу. За сталом у той вечар было трынаццаць чалавек: сам Хрыстос і дванаццаць ягоных паплечнікаў, самых блізкіх вучняў. Апосталаў. Слова веры надалей яны і распаўсюджвалі сярод люду — ці, паводле Івянецкага, «неслі надалей».

Усе апосталы, што былі на «Апошняй вячэры». Апроч аднаго — Іуды Іскарыёта, які, калі верыць Бібліі, павесіўся, не вытрымаўшы цяжару віны.

Гэтыя няхітрыя разлікі давалі ў выніку лічбу адзінаццаць. Зініч азадачана пацёр лоб: у задачцы Івянецкага незразумелым заставаўся адно элемент з Галгофай.

Ён прайшоў паўз шэрагі складзеных крэслаў і ацалелую палову фрэскі з укрыжаваннем Хрыста на сцяне справа. У нішы пад акном святы Юры ў шаломе з плюмажам забіваў цмока, а той касіўся на Зініча пакутлівымі вачыма. Побач вырастала з падлогі магутная калона, абкружаная шэрагам драбнейшых, што падтрымлівалі блакітны шчыт з залатым вензелем. Зініч абышоў яе кругам, нават асцярожна пастукаў па белым баку калоны касцяшкамі пальцаў. Незадаволена пахітаў галавой.

Хованка магла быць дзе заўгодна, зусім блізка ад яго, але незаўважная, па-ранейшаму недасяжная. І гэтая недасяжнасць знясільвала болей за шлях пад зямлёю, бо Зініч надзвычай моцна адчуў уласную бездапаможнасць.

Яму заўжды верылася ў пераможнасць чалавечага розуму. У прыватнасці, свайго ўласнага розуму. Тым больш балюча было адчуць зараз недахоп уласных ведаў і кемлівасці.

Злуючыся на сябе, Зініч пакружляў па зале яшчэ раз, з канца ў канец, і яшчэ раз. Спыніўся на нейкі час побач з рэканструкцыяй старажытнай падлогі, аддзеленай драўлянымі парэнчамі. Турысты паспелі накідаць на жоўтыя і зялёныя пліткі грошай — збольшага расійскіх рублёў. Зініч мутна паглядзеў на патрэсканыя квадрацікі сучаснай кафлі, на захаваныя за шклом даўнія пліткі. Сеў на край бліжняй лавы, змрочна аглядаючы музейную залу з макетам колішняй Сафіі, з экспазіцыяй старадаўніх упрыгажэнняў, з акуратнымі шыльдачкамі перад экспанатамі. Усё гэта нагадвала, што з часоў экспедыцыі БелАН прайшло незваротна шмат часу — амаль сто гадоў. Сабор з той пары змяніўся досыць істотна, і беланаўцы, калі ўтваралі сваю хованку ды ўкладалі свае падказкі, бачылі зусім іншую Сафію.

Зініч выцягнуў ногі, якія ажно гулі ад стомы. Хацелася піць, нылі пабітыя локаць і спіна, пахруствала нешта ў

калене. Хіліла ў сон: само цела бунтавала і вымагала адпачынку. Але Зініч яшчэ ўпарціўся, не дазваляючы сабе расслабіцца, з зацятасцю перабіраючы вядомыя факты. Металічны цяжар ключа ў руцэ дадаваў упэўненасці і трохі падбадзёрваў, але роспач падкатвала бліжэй і бліжэй. І ўсё мацней хацелася кінуць усё гэта ды выправіцца дамоў.

Думка была спакуслівая і радасная ў лёгкасці вырашэння. Сапраўды, як проста: кінуць усю гэтую лухту, усе гэтыя росшукі, лабірынты, якія вядуць у нікуды. Кінуць і забыць.

Але муляла адно: Алег бы не здаўся вось так проста. Алег бы што-небудзь абавязкова прыдумаў, бо гэта ж ён, Маслоўскі, скеміў, што беланавец паківае на «Звеставанне». Маслоўскі ніколі не быў разумнейшым — прынамсі, не меў такой эрудыцыі або логікі, як Зініч. Упартасці ім абодвум было не займаць. Аднак Маслоўскі валодаў іншай асаблівасцю, не менш важнай для таленавітага даследчыка.

Натхненнем.

Выснова была нечаканая і горкая. Зініч, раздражнёна торгаючы краем рота, падняўся на ногі, захадзіў пабач з парэнчамі — тры крокі туды, тры назад. Чаго-чаго, а натхнення яму не ставала. Асабліва цяпер.

Трэба разважаць найперш лагічна, меркаваў Зініч, спрабуючы супакоіцца. Беланаўцы не былі ідыётамі і хавалі сапраўды Крыж з такім разлікам, каб аднойчы можна было яго адшукаць. Значыць, павінны былі разумець, што будынкі, як і людзі, змяняюцца з часам. Значыць, адмыслова выбіралі б такую хованку і такі арыенцір, якія з часам засталіся б нязменнымі. Якія кідаліся б у вочы. Але пры ўсім тым выбітны арыенцір беланаўцаў асабліва не чапалі б пры перабудовах.

Штосьці адметнае і трывалае адначасна.

Зініч спыніўся, раздумваючы, рассеяна паціраючы бруднай рукою падбароддзе. Старажытныя сцены і падмуркі ўнізе, напэўна ж, мусілі ўважліва пераглядаць падчас кансервацыі для таго, каб пракласці там ацяпленне ды турыстычны шлях з вітрынамі і падсветкай. Звонку хаваць нешта таксама не мела сэнсу, ды і было небяспечна як для захаванасці Крыжа, так і для саміх беланаўцаў: нехта б абавязкова заўважыў іх побач. У алтары змясціць тайнік няма дзе, а размешчаныя там скульптуры былі прынесеныя для экспанавання значна пазней. Значыць, заставалася цяперашняя музейная зала. Калоны, магчыма? Ці каторая з нішаў?

Вагаючыся, Зініч мутна зірнуў перад сабою, на прыступкі амбону з шыльдай, якая рашуча забараняла ўваход. Механічна, па даўняе звычцы пералічыў прыступкі. Адна, дзве, тры... адзінаццаць з драўлянымі накрыўкамі, сцертымі часам, і дзве зверху каменныя, як і падлога.

Трынаццаць.

Лічба агніста ўспыхнула перад унутраным зрокам, і заінтрыгаваны Зініч ускінуў бровы. Наблізіўся да вузкага праходу, пералічыў яшчэ раз, ніякавеючы, баючыся памыліцца.

Трынаццаць.

Зініч прысвіснуў. Прыгадаў: па-старажытнагрэчаску «амбон» — узвышэнне. Галгофа, на якой Хрыстос быў укрыжаваны, таксама ўзвышэнне. Сімвалічна было б схаваць Крыж у хованцы на амбоне — сапраўднай Галгофе Мудрасці, узвышэнні ўнутры Сафіі.

Шлях на Галгофу — таксама шлях да Крыжа.

Пальцы пахаладзелі ад хвалявання, і Зініч пацёр рукі, пахукаў на далоні. Падняўся, акуратна пераступіўшы раздрукаваную забарону, на амбон. Тут на маленькім дашку

ў латцы блакіту таксама завіс голуб — як увасабленне Святога Духа, што сыходзіў на святароў падчас казаняў. Зініч агледзеў з амбона паўасветленую залу і павярнуўся да сходаў. Калі ён правільна зразумеў падказку Івянецкага, тайнік месціўся ў адзінаццатай прыступцы — апошняй з тых, што былі паўзверх каменя ўкрытыя пацямнелымі дошкамі.

Зініч, пакрэхтваючы, прысеў на перадапошняй прыступцы, амаль ласкава правёў пальцамі па гладкай дошцы знізу. Ніякай зачэпкі, ніводнай адтуліны, ніводнага паза. Ён спусціўся ніжэй, прысеў бокам, старанна прастукаў дошку, прыклаўшы да яе вуха. Насуперак ягоным чаканням, гулкая пустка ўнутры не адгукнулася — і Зініч адваліўся назад, расчараваны. Зачапіў локцем пабеленую сцяну побач з прыступкай, вылаяўся, абтрасаючы з дранага рукава лускавінкі сухой пабелкі.

Адчуванне было такое, быццам раскусіў пусты гарэх.

Лускавінкі пабелкі чапляліся да швэдра, сыпаліся на паліраванае дрэва. На тынку — Зініч уважліва прыгледзеўся, забыўшыся на рукаў,— былі надрапаныя тры літары лацінкі: «JKG».

Зініч выдыхнуў, умомант забыўшыся на смагу, стому і боль. Абціраючы ініцыялы Глаўбіца на сцяне рукавом, ён выпадкова абапёрся на самы край прыступкі рукою, перанёсшы на яе ўвесь свой цяжар. І раптам радасна задрыжаў: на дошцы выступілі неглыбокія лініі пазоў, а з глыбіні амбона ціха, але яўна пачулася «пстрык».

Быццам павярнулася, устаючы на належнае месца, шасцярэнька.

Прыкусіўшы вусны, Зініч зноў правёў рукой па цёмнай паверхні прыступкі — і зноў не адшукаў адтуліну для ключа. Зініч, нахмурыўшыся, абмацаў край прыступкі, там, дзе старое дрэва судакраналася з каменем.

Сэрца ў яго адразу ж прапусціла ўдар, бо акурат пасярэдзіне стаў дубка прастакутны кавалак драўніны, а за ім пахаладзіў пальцы метал пласціны з замочнай шчылінай.

Зініч дрогкай рукой паднёс да яе ключ. На імгненне зажмурыўся, бо закруцілася галава і Сафія, уся ў залатым бляску, у чырвані і блакіце, у гіпсавых ружах ды лісці, паплыла перад ім. Але Зініч амаль адразу з млосцю справіўся. І ўставіў ключ Глаўбіца, і павярнуў тройчы супраць сонца, адчуваючы, як павольна рухаюцца металічныя зубцы, як неахвотна паварочваецца заспаны за гады механізм.

Паліраваная дошка распалася напалам уздоўж, і верхняя палова, вохнуўшы, паднялася, быццам вечка куфэрка.

Зініч, баючыся нават уздыхнуць, зазірнуў у тайнік.

У прыглушаным святле зачыненага музея на золаце і срэбры радасна бліснулі жаўтаватыя перліны.

*красавік — ліпень 2020,*
*Полацк*

# ТРЫСНЁГ ПАД ВЕТРАМ

*Аповесць-фэнтэзі*

Гольша нічога пэўнага не ведаў.

Гэта стала зразумела яшчэ ўдзень, калі выпраўляліся разам са Старой Хальчы, мястэчка, слыннага сваймі сталяварамі. Выехалі з гарадскіх варотаў пад шэрай імжачкай. Гольша круціўся ў сядле, моршчыўся, крывячы тонкія вусны, аглядаўся на чарацяныя стрэхі — быццам сумняваўся, ці варта ўвогуле ехаць. Эгле, праўда, не сказаў ні слова — насуперак звыклай сваёй завядзёнцы, маўчаў. І тое маўчанне, што павісла паміж імі, паміж параю гнядых коней, якія ўпарта мясілі дарожны бруд капытамі, тое маўчанне не было разняволеным, утульным.

Было — змушаным.

Гольша не ведаў нічога пэўнага, і таму хваляваўся. І таму — каб хвалявання не выдаць — упарта падціскаючы вусны, маўчаў.

Гольша страшэнна не любіў хвалявацца. Зрэшты, як і заставацца ў мулкім няведанні.

Эгла вывучыла яго за гэтыя тры гады досыць няблага. Таму кеміла, чаго можна чакаць ад гэтага жылістага невысокага чалавека з рудаватымі кудзерамі, што пачыналі радчэць на макаўцы, з рудаватым жа шчаціннем на запалых шчоках. Аднаго з пярэдніх зубоў у яго бракавала, Гольшаў нос, некалі перабіты, глядзеў трохі набок, а з-пад густых броваў бліскалі халодным блакітам разважлівыя вочы.

Каб не гэтая ледзяная разважлівасць, касаваты Гольша — захутаны ў свой стары плашч, у заслужанай скуранай куртцы ды пацёртых нагавіцах, у шнураваных дарожных

ботах, цяжкіх, як чалавечая доля,— быў бы падобны да самага звычайнага валацугі.

Хаця ў звычайных валацуг на поясе не бывае важкіх ад мяча ножнаў. Або залатой княжай пячаткі ў кашалі за пазухай.

Гольшавы чырвоныя пальцы, азяблыя ад імжачкі, мацней сціскалі аброць, а сам ён пахмурна, амаль з нянавісцю глядзеў на прыдарожныя асіннікі. Чарацяныя стрэхі чарговай вёскі даўно схаваліся за пагоркамі, і вакол шырока раскінулася бязлюддзе. Дарога спускалася ў вільготную нізіну, якую трохі падтапіла нядаўняя паводка, і сям-там між тонкіх асін праблісквала вада. Пафырквалі коні, на гнядых баках жалезам пагруквалі шчыльна запакаваныя седлавыя торбы.

Вецер нёс водар прэлага лісця і сырасці — мірныя пахі позняй восені. Эгла, патрэсваючы касамі, сабранымі на патыліцы, пазяхала. Можа, нават задрамала б у сядле, як прызвычаілася падчас доўгіх падарожжаў верхам, але Гольшаў неспакой патроху перадаваўся і ёй. Вязкае маўчанне прыгнятала, бо ажыўляла дзесь глыбока ўнутры няясную трывогу, а тая, патроху разрастаючыся, афарбоўвала сабою шэранькі дзень.

— ...добра,— працадзіў Гольша скрозь зубы на Эгліна кароткае — паміж пазяханнямі — пытанне.— Добра ўсё.

Доўгае маўчанне падказвала: «добра» насамрэч не было. Але націскаць на яго, хітрасцю вывуджваючы адказ, Эгла не стала. Тры гады побач з Гольшам, слізкім, як тхор, навучылі яе цярплівасці. Таму, прыслухоўваючыся да трывогі, якая варочалася на дне свядомасці, сонная Эгла моўчкі глядзела на асінкі. Усялякая дарога — так вучаць дзяцей у горных плямёнах — заканчваецца, раней або пазней. Мусіла закончыцца і гэтая.

Да таго ж, і не распытваючы ўстрывожанага Гольшу, можна было пра тое-сёе здагадацца. Скажам, з княжымі даручэннямі, аб якія камусьці з вяльможных не хацелася пэцкаць рукі, яны звычайна выпраўляліся ўтраіх. Значыць, Лагода, мажны і змрочны, наўмысна паехаў наперад, каб падрыхтаваць штосьці важнае для іх новага падарожжа. Пераняць якога балбатуна, зазірнуць у чарговы патайнік, выбіць з даўжніка патрэбныя грошы. Сам Гольша, па даўняй завядзёнцы, атрымаў яшчэ заўчора ліст з княжым наказам ды мапамі, аднак выглядаў настолькі няўпэўненым, амаль што разгубленым, быццам выпраўляўся зусім усляпую. Значыць, справа была — дрэнь. Нават калі параўноўваць з тымі ранейшымі.

Але, праўду сказаць, за дрэнь і бруд шаноўны князь звычайна плаціць някепска. Эгла зноў пазяхнула, хаваючы рот даланёю. Звыкла правяла другою рукою па левым сцягне, крануўшыся апярэння стрэл у калчане. Гэта трохі супакойвала — як усведамленне ўласнай сілы.

Як усведамленне самасці — тонкі шрам цераз левае брыво, улітая пад скуру фарба знакаў Роду на твары, светлыя косы, сцягнутыя шнуркам на патыліцы, вочы колеру хмурнага неба над гарамі.

Адчуванне сябе.

Бо яе вучылі абыходзіцца з лукам ледзь не столькі, колькі яна сябе памятала. Цеціва пакідала сляды на Эглiных пальцах, плечы лукаў — маленькага дзіцячага, старога матчынага, першага баявога, розных, многіх — суха парыпвалі, згінаючыся, і ўздыхалі, выпускаючы імклівы цяжар стралы. Стрэлы раз за разам цалялі ў галіны дрэваў, у яблыкі, у саламяныя і гліняныя мішэні. Цалялі ў целы, звярыныя і чалавечыя,— і ўяўная нітачка стрэлу абрывалася толькі тады. Адгукалася ўнутры самой Эглы не адчуван-

нем нават — ледзь чутным рэхам удару. Так разыходзіцца ад усплёску сярэбранага плаўніка рабізна на вадзе.

Добра жыць — як страла. Ляцець простым і ясным шляхам да акрэслененай мэты, да мішэні. Біць без промаху ў дрэва, у салому, у плоць, быць — вастрыём развażлівай волі.

Не спыняцца і не задумвацца.

У родным племені, праўда, на княжых наймітаў пазіралі скоса: горцы заўжды былі нібы самі па сабе, па-за сталічнаю ўладай, па-за вугеркаўскім законам. Маці, з пасіўленымі гадамі цяжкімі косамі, усё яшчэ станістая, хіба што трохі высахлая, заўжды бурчыць — знайшла, маўляў, занятак. Бурчанне, канечне, нікольки не замінае ёй браць ад Эглы вугеркаўскае золата. Есці, як ні круці, трэба — і ёй, і малому.

Пра гэта маці таксама ніколі не забывае прыгадаць.

— Гэта ж твой сын.

Яму ўсяго чатыры, яго завуць Гэдмінам, як і бацьку, і вочы ў яго бацькавы — цёплыя сінія, і зусім такія ж цёмныя бровы ўразлёт. Маленькі сінявокі Гэдмін досыць прахалодна сустракае Эглу, якая на некалькі дзён прыязджае, з грашыма ды падарункамі, раз на месяц-два. Нібы забывае штораз, пакуль яе няма побач. Бацьку, які загінуў яшчэ да яго нараджэння, вядома, ён увогуле не можа помніць. Затое помніць Эгла — і не можа глядзець на сур'ёзны дзіцячы тварык. Таму стараецца не спыняцца, не задумвацца.

Не ўспамінаць.

Але ў маленькага Гэдміна ёсць бурклівая старая, касматы ганчак і дзіцячы лук, з якім некалі забаўлялася Эгла.

Маленькаму Гэдміну — дастаткова.

Узгадваючы сынаў тварык, Эгла глядзела на асіннікі і хмурылася. Ад маленькага Гэдміна нітачкі памяці няўмольна цягнуліся да ягонага бацькі, усмешлівага, моцнага,

парывістага ў рухах і словах. Сыходзіў тады — цяпер, ва ўспамінах, заўсёды сыходзіў,— цаляючы ўсмешкаю цераз плячо. Раставаў у зімовай раніцы, у завеі.

Добра быць стралою, бо стрэлы не сумняюцца, не аглядаюцца. Лятуць, не абцяжараныя памяццю. А памяць крышыцца, ломкая, як падступны азёрны лёд, і халодная, быццам вада ў горным возеры.

Ад холаду памяці заўжды перахоплівае дыханне.

Эгла таропка, нібы похапкам, ацерла край вока кулаком. Пахмурны Гольша на яе не зважаў — сам утаропіўся ў зараснікі, думаў пра сваё. Так і ехалі па дарозе між асіннікаў, з ценем гор на засмужаным даляглядзе, з ценем памяці, які навісаў, нябачны, над імі. Імжачка прыціхла, пасля зноў пачалася, набіраючы сілы. Падтопленая нізіна, зарослая асінамі, мінула, саступаючы месца камяністаму перадгор'ю, усё яшчэ зялёнаму, быццам і не кранутаму восенню. І тут на раздарожжы яны, нарэшце, прыпыніліся.

Дарога, выгінаючыся, быццам плечы баявога лука, распадалася надвое, плыла на захад і ўсход, абмінаючы наплывы скал. Хвоі ўзбягалі па касматы баках узвышшаў, чапляючыся карэннем за скалы. А далеч, захутаная смугой, накладвалася на неба слаямі: цёмны грэбень суровай скальнай грады, за ёй — частыя падсіненыя ўзгоркі, а за імі хісткія хвалі сырых туманаў. Над туманамі, схаваўшы вяршыню ў хмарным чэраве, быццам у шапцы, узвышаўся магутны Буй-тур.

Пад самотным разложыстым дубам, што высіўся над скрыжаваннем, пасвілася пара коней. Тут жа стаяў, сплёўшы на грудзях цяжкія рукі, Лагода. Наскрозь мокры дарожны плашч, добра патрапаны, як і ў Гольшы, абляпіў яго шырокія плечы — мусіць, Лагода быў вымушаны чакаць тут досыць доўга.

— Раней, бач, справіўся,— гукнуўся волат, стрымана ківаючы Гольшы і Эгле.

Цела ў яго было магутнае, непаваротлівае, настолькі налітае сілай, што падавалася, быццам яму цеснавата ў адзенні. Праўда, чыста паголеная галава з дрогкімі пухлаватымі шчокамі з гэтым целам не дужа стасавалася. Бясколерныя вочкі глядзелі з-пад белых броваў непрыязна, сурова, без ценю якой-кольвек лагоднасці. А на левай шчацэ вусцішна барвовеў росчырк даўняга шрама, які адцягваў долу вугал тоўстых вуснаў.

Мянушка Лагоды, вядома, была жартоўнаю, і прыліпла да яго ці то ў княжай дружыне, ці то яшчэ раней. Сапраўднага яго імя Эгла не ведала — ды і не дужа пра тое клапацілася. Выкрутлівы Гольша, мабыць, ведаць мусіў, бо любіў ведаць такія рэчы пра тых, з кім працаваў. Але калі і ведаў, дык не ўжываў, ці то па звычцы, ці то назнарок. Самому Лагодзе, падобна, было ўсё адно, як да яго звярталіся,— а можа, і сам паспеў да мянушкі прызвычаіцца.

— Даставілі, значыць?..— глуха спытаў Гольша, прытрымліваючы каня.

Лагода ўхмыльнуўся правым краем рота.

— У найлепшым выглядзе,— працадзіў гнюсава.

І адступіў трохі ўбок, адкрываючы нешта — дакладней, некага між дубовых каранёў. Прыўзняўшыся на страмёнах, Эгла разгледзела толькі захутаную ў плашч скурчаную постаць. Таму здзівілася, пабачыўшы, як напяўся Гольша — быццам на вузкай лясной сцежцы напаткаў цмока. Лагода ж, азірнуўшыся на таго, між каранёў, коратка і ўладна кіўнуў — і ў адказ, нібы зразумеўшы без слоў, постаць паднялася на ногі.

Мажнога Лагоду досыць хутка пачыналі разумець без слоў. Таму Гольша часцяком выкарыстоўваў гэты рэдкі талент падначаленага, збольшага, вядома, каб паразумецца з даўжнікамі вяльможных.

Эгла грэбліва паморшчылася: заўважыла, як хіснулася постаць, вымушана выпростваючыся пад змрочным паглядам Лагоды. Пачула таксама слабы голас металу — так гучаць кайданы.

— Брыда якая,— сярдзіта мовіла Эгла, адразу склаўшы ў розуме адно і другое.— Што, цяпер і закладнікаў бяром? Не хапала яшчэ людзей выкрадаць.

Яны паперакідалі — за княжае золата — нямала бруду, але да непасрэдных забойстваў ды выкраданняў яшчэ не даходзіла. Прынамсі, наколькі тое было вядома Эгле — хаця яна, вядома ж, не распытвала. Гольша коратка зірнуў на яе, прыўзняўшы кусцістыя бровы, і нечакана ўсміхнуўся.

— Ат, мілая,— махнуў на яе рукою, спешыўшыся.— Не пераймайся ты так, да душы. Гэта ж — не чалавек.

— Чаго?..— недаверліва працягнула Эгла.

Лагода насмешліва чмыхнуў.

Усё яшчэ ўсміхаючыся, Гольша пругкім упэўненым крокам наблізіўся да маўклівай постаці пад капюшонам, паспешліва абабег паглядам і напаўголасу дзелавіта ўдакладніў у Лагоды:

— Халоднае жалеза?..

— Казалі, так,— абыякава гукнуўся волат.— Чары свае смярдзючыя плесці не зможа, казалі. Галовы не затлуміць, як што. І не ўцячэ, нябось.

— Добра,— прамармытаў Гольша і, кашлянуўшы, звярнуўся да постаці перад сабою: — Разумееш, што мы тут кажам, га, нелюдзь?

— Разумее,— адказаў за таго Лагода, храбуснуўшы кулакамі.

— Разумею,— глуха гукнуўся палонны.

— На якога чорта ён вам увогуле здаўся? — не сцярпела Эгла.

Пра не-людзей яна, вядома, чула пару-другую вусцішных казак пра Дзікі Гон, пра Курганова Поле і бязлітаснага Белага Князя, але ў казкі ды байкі не дужа верыла. Вопыт вучыў, што людзі куды страшнейшыя за ўсялякія казкі.

— Такі вось княжы загад, мілая,— адказаў Гольша, не паварочваючыся, і ўсё, закінуўшы галаву, вывучаў таго, хто стаяў перад ім.— Там, куды мы сунемся, нелюдзь нам можа прыдасца. Прыдашся ж, га, нелюдзь?

Гэтым разам не-чалавек прамаўчаў. Гольша, чмыхнуўшы, рэзкім рухам сцягнуў з галавы палоннага капюшон:

— Паглядзець бы хоць, што за пачвару такую нам падсунулі.

Адно толькі ніякай пачвары там не аказалася, і ўхмылка ў Гольшы патроху паблякла. З выродлівай пачварай без чалавечага падабенства, напэўна, было б прасцей.

Але твар у не-чалавека, бледны, з крывападцёкам на скуле ды падбітымі вуснамі, быў юначы, з точаным носам, з вострым падбароддзем. Можа, нават гожы, каб не быў такі змучаны. Вочы, абведзеныя цёмнымі коламі, глядзелі ўбок і слаба свяціліся травяной зелянінай — у колер сырога перадгор'я. З-пад зблытаных светлых валасоў відаць быў сіні агеньчык доўгай завушніцы.

— Саплівы зусім,— ацаніла Эгла з сядла, цокнуўшы языком.— І дзе, як ён табе прыдасца, доўбня? Яго ж ветрам хістае.

— Не твайго розуму справа! — нечакана віскліва агрызнуўся Гольша і тут жа закашляўся, быццам саромеючыся віскату. Зірнуў спадылба незадаволена на не-чалавека, пасля на Лагоду, выбухнуў гнеўна: — Чаго стаім, братачка? Не за стаянне плоцяць, так, ці не?

Лагода чмыхнуў і нетаропка, перавальваючыся скіраваўся да коней.

— Байкі ўсё,— прагнюсіў на хаду, сплюнуўшы сабе пад ногі.— Што гэтыя ваяры ды чарадзеі. Падумаць — дык як людзі зусім. Занадта нават.

Апошняе прагучала адначасна з расчараваннем і сама-задаволенасцю. Не-чалавека заўважна перасмыкнула. Хаця і любы чалавек, які з Лагодай сутыкаўся, звычайна з тых сутыкненняў выносіў такія самыя ўражанні.

— Пагавары мне тут,— працадзіў Гольша, косячыся на волата. Зноў кашлянуў, кіўнуў не-чалавеку: — Знакі-та вашыя разбіраеш?..

Той варухнуў бровамі, але прамаўчаў. Гольша прычакаў трохі, пакуль не стала зразумела, што адказу не будзе, махнуў рукой.

— Жыць захоча — разбярэ,— спакойна заўважыў Лагода, падводзячы коней. Аднаго з гнядых з любасцю патрапаў па шыі, пстрыкнуў другога па цікаўнай храпе: коней Лагода заўжды шанаваў.

— Ёлуп,— злосна працадзіў Гольша.— А калі князевы шпегі нам падсунулі такога ж разумніка, як ты, адно нелюдскага? І якой халеры ты з ім... настолькі блізка знаёміўся? Галава яго пакуль што патрэбная, кеміш, не?

Гаворачы, Гольша, барвовы ад злосці, нават падскочыў да Лагоды. Гаварыў злосна, сціскаючы кулакі. Волат уважліва глядзеў на сухарлявага рудаватага чалавечка зверху ўніз, і на нейкі момант Эгле падалося, што цяжкі чырвоны кулак зараз абрынецца на Гольшаву лысаватую макаўку. Таму Эгла па-кашэчы мякка саскочыла на зямлю і стала ля каня, з рукою на прытарочаным да сядла луку. Лагода, слізгануўшы халодным паглядам паўзверх Гольшавай галавы, гэты асцярожны, амаль бязгучны рух заўважыў. Ухмыльнуўся, пасля кароткай замінкі адступіў на крок.

Бясколёрныя Лагодавы вочкі сустрэліся з Эглінымі.

— Ну, ты...— вымавіла Эгла змрочна — аднымі вуснамі.

— Ну,— мовіў Лагода прымірэнча.— Хай нелюдзь ведае, хто галоўны.

— Гэта і табе не пашкодзіць,— сурова адрэзаў Гольша.— Ведаць, хто тут галоўны. Так ці не?

Лагода крыва ўхмыльнуўся і ажно занадта пакорліва нахіліў галаву. Звадка, здаецца, развеялася сама сабою, гэтак жа імкліва, як і выбухнула, і Эгла з палёгкаю перавяла дыханне. Той, нелюдскі хлопчык, па-ранейшаму абыякава глядзеў убок. Гольша пакасіўся на яго, зноў кашлянуў і загадаў сярдзіта, звяртаючыся адразу да ўсіх:

— Няма як час марнаваць. Ходу.

І напаўголасу, адной Эгле:

— А ты... ты прыглядзі за...

Дагаворваць не стаў, толькі выразна пакруціў носам. Эгла адказала адно кароткім кіўком: за тры гады звыкла выконваць ягоныя распараджэнні. І разумець без слоў таксама нейк прывучылася. Так што яна падвяла аднаго з Лагодавых гнядых да не-чалавека, запытала з сумневам:

— Сама ехаць зможаш?..

Той зноў не адказаў. Па твары незразумела было нават, ці пачуў увогуле, настолькі адсутным позіркам глядзеў у сырую траву. Эгла, павагаўшыся, злёгку кранулася ягонага локця. І толькі тады заўважыла, як нехта з князевых умельцаў прымудрыўся закаваць не-чалавеку рукі — ажно пад металам спрэс былі незагоеныя раны. Скура на тонкіх запясцях, наколькі відаць было, патрэскалася і крывіла, і рукі, усе ў цёмных пацёках, дрыжалі.

Яна злосна тарганула ротам — і так жа злосна гукнула Гольшу.

— Зня-аць? — працягнуў той, паўтараючы Эгліну прыдушаную ад гневу просьбу. Азадачана пачухаў рудаватую патыліцу.

— Усе горцы дурныя такія, ці толькі ты адна? — насмешліва пацікавіўся Лагода, які паспеў ўссесці верхам.— То ж самае сапраўднае халоднае жалеза, адзіная ад іхніх чараў абарона. Здымі, ага.

— Нам, калі на тое, ягоная галава патрэбная, не рукі,— дадаў Гольша суха і падціснуў вусны, усім выглядам паказваючы, што гаварыць болей няма пра што.

Эгла вылаялася шэптам, прыгадаўшы старых горных боствaў. Лагода на яе бездапаможную лаянку адказаў кароткім сытым смяшком.

— Пяшчотная якая,— заўважыў.— Не раўнуючы, пані вяльможная.

Давялося акуратна ўсаджваць не-чалавека ў сядло, спадзеючыся, што той утрымае-такі павады ў скалечаных руках і не паляціць носам у зямлю на бліжэйшай купіне. Падумаўшы, свайго каня Эгла наўмысна пусціла побач, каб сачыць і, калі што, падхапіць.

Нарэшце, рушылі, цяпер ужо — учатырох. Праўда, нядобрае маўчанне, якое атачала Гольшу і Эглу па дарозе са Старой Хальчы, нікуды не падзелася, толькі разраслося, умацавалася. Кусаў вусны задуменны Гольша, уважліва прыглядаючыся да ваколіцы, нібы параўноўваючы скалы ды ўзгоркі з тым, што бачыў на князевай мапе. Эгла хмурылася, а не-чалавек невідушчымі вачыма глядзеў на дарогу перад сабою. Бадай, адзін Лагода пачуваўся досыць няблага, нават пачаў ціхутка насвістваць легкадумную песеньку. Праўда, Гольша, азірнуўшыся, сярдзіта шыкнуў на яго, і волат, ухмыльнуўшыся, сціх.

Справа і сапраўды была дрэнь, не дарэмна Гольшу па дарозе з Хальчы так курчыла. Адна рэч, калі князь загадвае перахапіць ганца з весткамі ад аднаго з выкрутлівых магнатаў, ці вытрасці з нахабнага войта належныя грошы, ці прыстрашыць каго з гандлярскай гільдыі. А вось цягацца

па бязлюддзі з не-чалавекам, і хто яшчэ ведае дзеля якой патрэбы,— гэта ж зусім іншае. Ды і кайданы з халоднага жалеза, спрактыкаваны кат кшталту Лагоды, прыстаўлены да палоннага... Эгла паморшчылася, сутаргавата павяла плячыма.

Чалавек гэта ці не, а — неяк занадта.

Спахмурнелая, Эгла раз-пораз паглядала на не-чалавека і ўсё думала пра раны ў яго на запясцях. Пра халоднае жалеза ёй некалі даводзілася чуць, быццам яно выцягвае ў не-людзей і чары, і сілы, нават само жыццё. І кайданы ўяўляліся ёй агромністымі надзьмутымі п'яўкамі, прыстаўленымі да — як ні круці — жывой істоты.

Яшчэ месяц таму яна сварылася, адбіраючы ў малога Гэдміна сініцу. Малы знайшоў тую, мабыць, памятую коткай, ачмурэлую, дзесь у кустоўі ля хаты і пасадзіў пад кошык — каб была свая, каб жыла дома. Так захапіўся думкаю, што тупаў нагамі і сярдзіта роў, пакуль Эгла выпускала птушку і строга выгаворвала:

— Нельга жывое дыханне мучыць.

Той, хто адвечна сыходзіў у завею ўспамінаў, сказаў бы менавіта так.

А цяпер вось выходзіла, быццам тады нахлусіла — і маленькаму сур'ёзнаму хлопчыку, і таму, хто цяпер жыў адно ва ўспамінах, і самой сабе.

І Эгла крывілася і напаўголасу згадвала старых горных боствaў.

А дарога ішла далей, працінала змятыя прымаразкамі травы перадгор'я. Гольша, на дзіва засяроджаны, вёў іх досыць упэўнена — да аднаго раздарожжа, да другога, між абветраных скал, між сцен стромкіх хваін. Князевы мапы Гольша, вывучыўшы як след, заўжды спальваў і кіраваўся заўжды па памяці — але, на Эглінай памяці, не памыляўся ні разу.

Туманная далеч раздавалася ўшыркі, абрастала новымі і новымі даляглядамі, не набліжаючыся, адвечна ўнікаючы. Доўга цягнуліся закінутыя прасёлкі — а пасля пацягнулася бездарожжа. Сонца ўжо даўно прамінула поўдзень, калі каляіны пад капытамі коней змяніліся травамі, касматымі купінамі, на якіх спачывалі пярэстыя ястрабкі, ды рэдкімі россыпамі камянёў. Рачулка, заглушаная рыжым трысняговым, несла свае хвалі насустрач ім, то набліжаючыся, то аддаляючыся, хаваючыся за частым асіннікам. Агромністы Буй-тур амаль цалкам схаваўся пад хмарным радном, за пералівістай заслонаю ліўняў, адно цень вялікай гары яшчэ вымалёўваўся над сінімі грэбнямі горных пушчаў.

Прыглядаючыся да гэтай далёкай сіні, Эгла прыгадвала, што пачула ад Гольшы яшчэ заўчора — драбязу, крупінкі, абрыўкі вестак ды распараджэнняў ад князя. Ані ёй, ані Лагодзе, ані яшчэ каму з наймітаў Гольша ніколі не раскрываў дэталяў такіх загадаў:

— Меней ведаеш — лепей спіш, так ці не?

За тры гады Эгла звыкла ў гэта верыць. Звыкла быць зброяю ў чужых руках, стралой, спушчанай з цеціва. А зараз задумалася, напружвала памяць, спрабуючы скласці хоць нешта з Гольшавых абмовак ды паківанняў. Спрабуючы зразумець, што можа чакаць наперадзе і навошта князю ды Гольшы здаўся не-чалавек.

Але сцяміць не атрымлівалася, як яна ні намагалася.

Хутка рачулка ў трысняговай поўсці заступіла ім шлях па бездарожжы. Тут, у сырой лагчыне яна спускалася, імкліва падаючы, са скалістых горных адрогаў. На беразе яны прыпыніліся, селі адпачыць на пляскатых камянях, слухаючы, як шэпчуцца пад дотыкамі ветру сухія трысягі. Эгла, гледзячы на рыжыя хвалі сцяблін над воднаю рабізнай, згадвала маці. Не цяперашнюю, старую, ссохлую, з горкімі складкамі ля рота, а колішнюю, маладую. Маці

вучыла Эглу, зусім яшчэ дзяўчо, паляваць з лукам, і яны такім жа восеньскім днём ішлі па беразе далёкай ракі, і так жа хваляваўся трыснёг. Паляўнічы чытае знакі паўсюль, гаварыла маці. Шолах трысця пад ветрам — таксама знак. Папярэджанне.

Тады, быццам сатканы з шолахаў і шэптаў трысця, насустрач ім выйшаў, цяжка пераступаючы тонкімі нагамі, гарбаты лось.

Эгла зірнула на рыжыя трыснягі пад пясчанымі абрывамі — і здрыганулася ад нечаканасці: з хістання і шолахаў вынырнулі і імкліва сталі на крыло дзве ці тры качкі.

— Тлустыя,— заўважыў Лагода, прасачыўшы, як птушкі знікаюць за шатамі хвой.— Іншым разам падстрэлілі б, можа. На поліўку.

— Можа,— без асаблівай ахвоты гукнулася Эгла, а сама зноў глядзела на сцяну трыснягу, глядзела з нейкім дзіўным, вусцішным нават, не зразумелым ёй самой чаканнем. Гольша тым часам прайшоў трохі вышэй па цячэнні, учэпістым позіркам акідваючы наваколле — валуны і абточаныя вадою скалы, сцяну хвояў на тым беразе, рэдкія сырыя карчажыны. Па гэтым, ніжэйшым беразе сям-там бачныя былі вастраверхія каменныя пірамідкі — быццам пазначалі пракладзеную некалі, а цяпер даўно забытую сцежку ўздоўж гаманкой вады.

Сякая-такая сцежка, зарослая, закінутая, сапраўды знайшлася: з берага караскалася вышэй, доўга кружыла сярод рыжай ігліцы, сярод барвовага кустоўя бружмелю. Коні пафырквалі, прынюхваліся да сырога ветру, неспакойна закідвалі галовы — мабыць, прадчувалі блізкую непагадзь. Увабранае ў хмарнае радно неба патроху згасала, змрок паступова напаўзаў, сачыўся між хвояў ды буралому, між сухіх калючых зараснікаў, між рыжых хваляў трыснягу над стылай вадой.

— Ранавата для начлегу,— стрымана адказаў Гольша на Лагодава пытанне, калі вярнуўся.— Яшчэ колькі вёрстаў да захаду паспеем зрабіць.

Лагода скрывіўся незадаволена, але змоўчаў: таксама звык з Гольшам не спрачацца. Адно зірнуў на Эглу, звузіўшы бясколёрныя вочкі,— маўляў, а ты што скажаш? Эгла, пацiснуўшы плячыма, каўтнула вады з біклажкі на поясе. Павагаўшыся, працягнула біклажку не-чалавеку.

— Клапатлівая, бач ты,— гнюсава прагаварыў Лагода, скалячыся.

— Цябе не спытала,— адрэзала Эгла і злёгку штурханула біклажкай не-чалавека ў плячо: — Выпі, ну. Як там цябе. Палепшае.

Не-чалавек здрыгануўся, быццам вярнуўся ў прытомнасць. Часта заміргаў, зірнуў на біклажку, на Эглу. Ледзь заўважна пахітаў галавой.

— Грэбуе, бач,— пераклаў Лагода і засмяяўся.

Гольша ўзяў Эгліну біклагу, адпіў, ацёр вусны даланёю. І тут жа, збялеўшы, выпусціў біклажку з рук на камяністы рачны бераг.

Над ракою, над хвоямі, над зацягнутымі непагаддзю далячынямі разнёсся пранізлівы, з хрыпам і віскатам адначасна крык. Пакаціўся, множачыся, каменным рэхам. Сціх.

— Гэта... што яшчэ?..— гучным шэптам спытаў Гольша ў густой і вусцішнай цішы, што атачыла іх.

Лагода, рэзка падскочыўшы з валуна, аглядаўся, і тоўстыя пальцы яго сцяліся на дзяржальне агромністай булавы.

— Жывёла якая,— працадзіў волат.— Можа, рысь. Ці... ці, можа...

Лагодавы згадкі перарваў мяккі смяшок. Эгла, якая падбірала сваю біклажку з каляровага жвіру ля вады, здзіўлена падняла вочы на не-чалавека. Той, усміхаючыся падбітымі вуснамі, хітаў галавою.

— Што смешнага знайшоў, нелюдзь?..— вызверыўся Лагода, надзьмуваючы дрогкія шчокі, наліваючыся злоснаю барваю.

— Гэта не жывёла,— мовіў не-чалавек глуха.

Лагода, вылаяўшыся, рвануўся наперад, схапіў таго за каўнер і трасянуў, як шчаня.

— Што ты тут яшчэ вярзеш, суччын ты...

Крык прагучаў зноў — і ўспуджана заржалі, забіліся коні. Эгла, выпрастаўшыся, трывожна прыслухоўвалася да наваколля — і, падалося ёй, пачула, як з натугаю патрэскваюць дальнія зараснікі. Быццам таропка прадзіраецца скрозь іх штось вялікае і моцнае.

— Здаецца, гэтым разам... бліжэй,— прагаварыў зніякавелы Гольша.

Лагода, які так і замёр, толькі вылаяўся і адштурхнуў ад сябе не-чалавека. Той адляцеў на крок-два, але ўтрымаўся на нагах. Зірнуў на бледнага Лагоду, усё яшчэ мякка ўсміхаючыся. Ведае, падумала Эгла, утаропіўшыся ў вусцішна спакойнага не-чалавека. Ён ведае, што тут блукае ды крычыць.

Ведае, што гэта — не жывёла.

Ведае напэўна.

І ад усведамлення гэтага ўпэўненага ведання ажно дрыжыкі прабіралі. Болей нават, чым ад пранізлівага крыку, які захлынаўся хрыпамі ды стогнамі.

— Няма часу,— ломкім голасам мовіў Гольша.— У нас князева даручэнне, так ці не? Варушыся, Лагода. Эгла?..

Яна згодна кіўнула, неслухмянымі пальцамі прымацоўваючы біклажку на пояс: жудасны лямант усё яшчэ перакатваўся ўнутры яе. Лагода рыкнуў штось неразборлівае, але напамін пра князя, ягоныя даручэнні ды княжае золата вярнулі волата ў прытомнасць.

— Ды гэта рысь, нябось,— мовіў ён, падазрона косячы вокам на не-чалавека.— Чуў я, тут трапляюцца такія. Агромністыя. Людажэры.

І коратка, без замаху ўдарыў булавою паветра, нібы паказваючы, што будзе з любым людажэрам, калі толькі насмеліцца да іх сунуцца.

— Калі не жывёла,— няголасна пацікавілася Эгла, калі яны ўчатырох рушылі верхам уздоўж ракі,— калі не жывёла, дык... што?

Як і раней, яны з не-чалавекам ехалі плячо ў плячо. Ён, абвёўшы абыякавымі вачыма камяністы бераг, зірнуў на Эглу з-пад зблытаных светлых валасоў.

— Штосьці не жывое,— адказаў ціха.— І... не мёртвае.

Эгла чмыхнула недаверліва і болей распытваць не стала. Куды больш зручна было меркаваць, што вакол блукае агромністая горная рысь. Маці калісьці расказвала, быццам некалі толькі такія і вяліся — велічэзныя, іклатыя. Цяпер, калі людзі шырэй рассяліліся, горныя рысі сышлі вышэй, ледзь не пад самыя снегавыя шапкі, але ў галодныя гады спускаліся амаль што да самых сяліб, зносілі авечак з пашаў. Год таму і пастушка загрызлі.

Сцежка, што цягнулася ад ракі, раней ледзь заўважная і пазначаная толькі грубымі каменнымі пірамідкамі, патроху станавілася ўсё больш выразнай, падымалася вышэй, караскаючыся на гару. З'яўляліся на скалах крэсы і дзіўныя знакі, выявы касматых зорак, звяроў і птушак, глыбока ўрэзаныя ў заімшэлыя камяні. Сонца апускалася ўсё ніжэй, над вадою павольна ўздымалася, цякла, быццам малочная рака, мулкая смуга.

Гольша, не спыняючыся, загадаў запаліць паясныя ліхтары — і сам тут жа зачыркаў крэсівам. Эгла, асцярожна запаліўшы свечку за шклом, прымацавала ліхтар да пояса. Коні раздзьмувалі трапяткія ноздры, стрыглі вушамі.

Успуджана прыглядаліся да туманных хваляў, касілі вільготнымі вачыма кудысьці за дрогкімі коламі святла. Эгла таксама зірнула туды — і няголасна ўскрыкнула: над бліжняю каменнаю пірамідкай успыхнуў і затанчыў у паветры яркі зялёны агеньчык. А за ім — яшчэ адзін і яшчэ, праразаючы туманнае покрыва, пазначаючы сцежку. Быццам агні перагукаліся між сабою, устрывожана перагаворваліся.

— Усё маці наша літасцівая,— забабонна гукнуўся Лагода, які ехаў апошнім.— Гэта ж агні мёртвых! Самае, значыць, праклятае месца!..

Эгла кашлянула ў кулак, хаваючы смяшок. Ёй ніколі не прыйшло б у галаву, што Лагода, аказваецца, набожны і ў патрэбе стане звяртацца да каго-кольвек са светлых боставаў.

— Ціха там,— змрочна кінуў цераз плячо Гольша. Гэты не верыў ні ў Неба, ні ў Бездань.— Што ты як баба, дальбог. Падумаеш, агні. Не з'ядуць жа яны цябе. Так ці не?

Прысаромлены, Лагода адно прабурчаў неразборлівую лаянку. Эгла крадком зірнула на не-чалавека. Хто-хто, а адзін з кургановага люду, думалася ёй, мусіў бы радавацца рухомым драбочкам святла. Такія агеньчыкі, маці Эгле расказвала, то агні чараў, агні не-людзей, пастаўленыя імі, каб бараніць іхнія святыні. Але не-чалавек, як ні дзіўна, хмурыўся і паглядаў на агні ля сцежкі насцярожана, ледзь не ўспуджана. А можа, нават і падазрона.

— Што ж ты,— мовіла Эгла да яго,— святыні свае не шануеш, ці што?

— Гэта не святыня,— глуха адказаў не-чалавек.

Эгла, якая на адказ зусім не разлічвала, прыўзняла бровы.

— А што ж тады?..

Не-чалавек адказаў словам на сваёй мове і апусціў павекі. З-пад капытоў Эглінага каня вынырнуў новы агень-

чык, дзынкнуў, ускараскаўся, расплёскваючы зялёныя іскры, на вяршыню каменнай пірамідкі. Лагода ззаду зноў горача паклікаў Усёмацці — праўда, цяпер шэптам.

Ужо добра сцямнела, калі з туману паступова выплылі няясныя абрысы стрэхаў ды частаколу, скажоныя змрокам. Эгла спачатку ўзрадавалася, бо тое было хоць нейкае сведчанне чалавечай прысутнасці ў гэтым дзікім краі. А пасля зразумела: гэта не селішча, не вёска або хутар. Проста колькі кінутых паўразбураных пабудоў, пачарнелых ад часу і сырасці, густа зарослых кустоўем ды маладымі хвойкамі.

Калі тут некалі і жылі людзі, дык даўно сышлі, і лес адваёўваў сваё.

— Шахта калісь была,— патлумачыў Гольша, калі яны прыпыніліся ля аднаго з перакошаных хлеўчыкаў.— Яшчэ за часам старога князя, да вайны.

— Няўжо? — недаверліва працягнуў Лагода, не без цікаўнасці аглядаючыся.— І што здабывалі? Золата?..

Апошняе слова Лагода вымавіў з салодкім прыдыханнем — як маладзенькае дзяўчо імя каханага. Гольша засмяяўся.

— Можа быць, і золата, хто тут скажа,— адказаў, пацiснуўшы плячыма.

Па тоне ягонага голасу было зразумела: хто-хто, а Гольша якраз-такі ведае, што гэта за шахта. Гольша заўжды быў аматар ведаць болей за іншых. Эгла паморшчылася, трасянула косамі, а Гольша працягваў, паўсур’ёзна, паўнасмешліва:

— Заўважай, Лагода, заўважай. Раптам усё-такі адшукаеш што цікавае. Бо нашая справа — якраз шахту і праверыць. Нешта ж там ёсць, напэўна.

Лагода, не ўражаны ні на дробачку, расчаравана сплюнуў сабе пад ногі. Лезці пад зямлю яму, падобна, не дужа хацелася, нават дзеля золата.

Ды і не яму аднаму, калі на тое.

— Хіба мы землякопы? — хмурна падала голас Эгла.

Гольша зноў засмяяўся і спешыўся, пачаў сцягваць з каня груvасткія седлавыя торбы. Жэстам загадаў Лагодзе дапамагчы.

— Мы, мілая,— прагаварыў Гольша стрымана.— Княжыя выведнікі, так ці не? Нашая справа — даведвацца. А капаць іншыя будуць, не сумнявайся.

— Дзіцячая справа,— бурчаў Лагода, цягаючы торбы.— Прыйсці, паглядзець. Грошы атрымаць.

Гучала, на Эглін густ, сапраўды неяк ажно занадта проста — дабрацца да шахты ды зрабіць агледзіны. Звычайна шаноўны князь прыдумляў нешта больш складанае. Але распытаць не было як. Да таго ж, Гольша, як ні прыспешваўся дзеля князева загаду, не рызыкнуў лезці ў шахту ў цемры:

— Ступіш не туды, паляціш — дык і костак не збярэш. Так ці не?

Спрачацца з ім ані Лагода, ані Эгла, вядома, не сталі. Таму, параіўшыся, вырашылі заначаваць у адной з адрын, што выглядала больш надзейна,— непадалёк ад цёмнага зруба студні. Дашчаныя сцены або дзіравы дах, вядома, не давалі асаблівай абароны ад холаду ды дажджу. Ад земляной падлогі, ад ляжалага сена, ад нагрувашчаных бочак і зламаных скрыняў цягнула сырасцю, гніллю. Занядбанасцю і павольным паміраннем. Але будынак, які б ні быў лядашчы, а ўсё-такі адмяжоўваў ад хвояў і дзікіх скал са старадаўнімі малюнкамі. Адмяжоўваў і ад таго, што блукала між іх — чым бы яно насамрэч ні было.

Найперш уладкавалі коней — тут жа, за зручнаю загарадкай. Пакуль Эгла і Гольша, паскідаўшы плашчы, разбіралі збрую ды сякія-такія прыпасы, Лагода спрабаваў

запаліць вогнішча. Спрабаваў — і на ўсе коркі лаяўся, бо адсырэлыя дошкі з бліжняга плоту гарэлі кепска, адно густа дымілі.

— К-каб цябе...— працадзіў Лагода, падымаючыся на ногі.— Пайсці хіба ламачча пазбіраць. Ці лапніку хоць. Пакалеем тут уночы.

— Далёка не адыходзь,— папярэдзіў Гольша.— Тут, кажуць, вакол розныя ахвотнікі капаліся пасля таго, як шахту замкнулі. Звалішся ў яміну якую — да раніцы шукаць не будзем.

— А мо' і зусім не будзем,— з'едліва чмыхнула Эгла.

Лагода, скрывіўшыся ў кіслай усмешцы, адмахнуўся. Паправіўшы ліхтар на поясе, сышоў, і ў два-тры крокі знік у цемры. Эгла паглядзела на густы змрок за варотамі адрыны і міжволі прыгадала той вусцішны крык, што пачулі на рачным беразе. Ад аднаго ўспаміну зрабілася надзіва няўтульна, і Эгла кранулася апярэння стрэл у калчане — нібы шукаючы падтрымкі.

Не-чалавек сядзеў трохі ўводдаль і таксама ўглядаўся ў змрок за варотамі. Твар у яго быў белы, а на скулах з'явіліся пляміны нядобрага румянцу, быццам ад гарачкі. Эгла імгненна ўспомніла пра жалезныя кайданы і скалечаныя запясці і нахмурылася.

Гольша якраз чухаў патыліцу над вядром з вадой, прынесеным ад студні,— прынюхваўся, спрабуючы зразумець, ці можна яе піць. Вады ў біклагах у іх пакуль ставала, але разважлівы Гольша, як звычайна, хацеў прыберагчы назапашанае.

— Ён табе, кажаш, патрэбны? — спытала Эгла, узяўшыся ў бокі.— Не-чалавек гэты? Каб знакі разбіраць розныя?

— Вядома, мілая,— рассеяна адказаў Гольша і, таргануўшы вуснамі, змесціва вядра выліў: — Ат, халера! Уяві: мярцвячынай смярдзіць...

— Ён памрэ,— мовіла Эгла.— Калі не зняць жалеза. Ты гэтага хочаш?

Гольша закаціў быў вочы, але Эгла паўтарыла яшчэ раз, з націскам:

— Ён памрэ.

За ўсе тры гады яна досыць рэдка настойвала на нечым так упарта, таму Гольша, прыкінуўшы нешта ў галаве, пагадзіўся прыгледзецца да не-чалавека сам. І, прыгледзеўшыся, застаўся незадаволены. Яму абяцалі, быццам халоднае жалеза толькі нелюдскія чары адсячэ. Яму абяцалі! Каб для бяспекі толькі! Не ставала яшчэ, каб нелюдзь падох, так і не прыдаўшыся. Не ставала яшчэ, каб яны дарэмна сюды цягнуліся. Каб пасля галовы паляцелі — і яго, Гольшы, галава першаю тады зваліцца. У вяльможнага князя расправа кароткая, шусь — і няма чалавека.

Эгла змрочна слухала ягоныя скаргі ды праклёны, скрыжаваўшы на грудзях рукі, і адказала адным словам:

— Ключ.

Сярдзіты Гольша таргануў ротам, абмацаў сябе і, вывудзіўшы з-за пазухі дробны жалезны ключык, з сілай шпульнуў ёй.

— І... і глядзі мне,— мовіў злосна.— Калі такі падохне — з цябе спытаю, што раней нічога не сказала. Ясна, мілая? Так ці не?

— Ясна,— азвалася Эгла і прысела на кукішкі побач з не-чалавекам.

Той зірнуў мутна і злёгку паморшчыўся, калі Эгла асцярожна ўзяла яго за руку, нацягнуўшы жалезны ланцуг. Ключ павярнуўся ў замку раз, другі — і кайданы ўпалі на земляную падлогу. Эгла таропка растрыбушыла паясную торбу, выбраўшы тое-сёе са звычайных сваіх дарожных запасаў. Зубамі выцягнула корак з пляшачкі, поўнай матчыных зёлак, пацягнула са скрутку палосы

чыстага палатна. Не-чалавек прыкусіў вусны, каб не ўскрыкнуць, калі Эгла абцерла зеллем яго скалечаныя запясці.

— Зажыве,— паабяцала яму Эгла дабрадушна, зацягваючы вузлы на перавязках.— Нішто.

Не-чалавек паглядзеў на перавязаныя рукі і варухнуў бровамі — здаецца, сумняваўся. І тут жа войкнуў, збольшага, напэўна, ад нечаканасці, калі няўмольная Эгла кранула намочаным у зеллі палатном ягонай скулы і падбітых вуснаў.

— Пячэ, ясная справа,— паразумела кіўнула Эгла, прыбіраючы свае няхітрыя запасы.— Ведаю, што пячэ, як трасца. Значыць, лечыць.

Асабліва лепей чалавек не выглядаў, і плямiны нядобрага румянца па-ранейшаму гарэлі ў яго на шчоках. Але дыхаць стаў вальней і нават, звузіўшы вочы, зазірнуў Эгле ў твар. Быццам толькі заўважыў. З высілкам разляпіў вусны і спытаў ціхутка, так, каб не пачуў заняты пакункамі з жалезам Гольша:

— Чаму... чаму ты ўвогуле тут? З... з гэтымі?

— Таму,— нехаця адказала Эгла, падымаючыся на ногі.— Нам князь хораша плаціць. Толькі і ўсяго.

Не-чалавек няпэўна пахітаў галавой.

— Ад таго,— ён вачыма паказаў на Гольшу,— пахне хлуснёй. Ад іншага — смерцю. Лепей бы табе вярнуцца дамоў, да старой і малога. Пакуль можна.

Эгла задыхнулася, міжвольна адступіла назад. Сэрца ў яе прапусціла ўдар. Хіба згадвала яна вось цяпер, пакуль ехалі, пра маці або маленькага Гэдміна? Што з Гольшам, што з Лагодам яны добра калі параю слоў абмяняліся па дарозе сюды. Ды сяброўскай гутаркі паміж імі і быць не магло.

Але тады...

— ...адкуль ты можаш ведаць?..— разгублена прамармытала Эгла, углядаючыся ў ясныя зялёныя вочы.

Гольша гукнуў яе па імені, нешта спытаў — і толькі тады яна сабралася з думкамі, павярнулася няўклюдна, непаваротліва, быццам драўляная лялька. Гольша паўтарыў пытанне, але Эгла чула яго нібы з-пад вады, і ўсё думала і не магла зразумець, і замест якога-кольвек адказу толькі бездапаможна разявала рот.

Вароты адрыны, што стаялі прачыненымі, раптам са скрыгатам раз'ехаліся ўбакі, ляпнулі так, што задрыжалі сцены сырой будыніны. Захваляваліся, захраплі, патрэсваючы галовамі, уладкаваныя ў дальнім куце коні. Гольшаў ліхтар, які той паставіў на падлогу, каб лацвей было ўладкоўвацца на ноч ды разбіраць торбы, перакуліўся і пагас. Трывожна забіўся агеньчык у ліхтары на Эгліным поясе, затанчыла няўстойлівае кола святла вакол яе, а Гольшаў твар на самай мяжы гэтага кола выцягнуўся, завастрыўся. Скамянеў.

— З-зараза...— Гольша дарэмна спрабаваў выкрасаць агонь, і ягоныя рукі раз-пораз выхоплівала рэзкаю ўспышкаю святла, якая тут жа згасала.

Вароты зноў зайшліся скрыпам — і ў адрыну ўляцела нешта захаканае і велічэзнае. Гольша імгненна адкінуў крэсіва і пацягнуўся быў да ножнаў, але Эглін ліхтар выхапіў з цемры постаць Лагоды — бледнага і раззлаванага, без плашча і без ламачча. Булаву, якая зазвычай спачывала ў волата на поясе, ён зараз сціскаў у руцэ. Другая рука ў яго бездапаможна абвісла, і парваны рукаў адсырэлай падшыванай курткі набрыняў ільснянаю чарнатой.

— Гэта... не рысь!..— выгукнуў Лагода і па-ваўчынаму ляснуў зубамі. Абвёў круглымі вачыма прыціхлых Гольшу і Эглу і паўтарыў, аблізнуўшы ссохлыя вусны, цішэй: — Гэта не рысь.

У Гольшы тарганууся кадык — гэта ён шумна пракаўтнуў камяк у горле. Пасля пакасіўся на Эглу, і паразумеліся яны без слоў. Удваіх, не згаворваючыся, кінуліся да варотаў адрыны, звялі створкі разам ды замкнулі на цяжкую драўляную засаўку. Гольша правёў па засаўцы рукою — быццам упэўніваўся ў яе трываласці. Лагода, усё не выпускаючы булаву з рукі, цяжка апусціўся на бочку побач з уваходам. Сядзеў, аддыхваючыся, глядзеў круглымі вачыма ў цёмны кут. Нават не міргаў, здаецца.

Хваляваліся і падавалі тоненькія ўспуджаныя галасы коні. Кола святла ад Эглінага ліхтара ўсё яшчэ злёгку хісталася, і ад гэтага падавалася, быццам ходырам ходзяць сцены. Імжачка, што перарасла ў дождж, драпала тонкімі кіпцямі кропель па даху, і сям-там на падлозе пачалі збірацца лужыны.

— Не,— хрыпла адказаў Лагода на Гольшаў асцярожны роспыт.— Не, Усёмаці літасцівая, не рысь. Не... не ведаю, што гэта. Не ведаю.

— Што ты бачыў? — паўтарыў Гольша павольней, ледзьве не па складах.

Голас у яго зрабіўся іншы — сталёвы, халодны. І ў твары таксама звычайнай уяўнай мяккасці не засталося. Эгла запаліла свечку ў кінутым ліхтары, паставіла ля ног Лагоды. Зноў выцягнула з паясной торбы разрэзанае палатно ды зёлкі, кранулася толькі пляча волата — і той адхіснуўся, падскочыў.

— Ты лепей спытай,— загаварыў горача, паказваючы на азадачанага не-чалавека булавою.— Ты лепей у яго спытай. Спытай у яго, пра што такое ён гаварыў. А ён жа гаварыў, Гольша. Тады, ля рэчкі. Ён...

Эгла азірнулася на не-чалавека — але той сядзеў моўчкі, прыплюшчыўшы вочы. Можа, спаў.

— Ён жа гаварыў! Гаварыў!..

— Сціхся, дурань,— перарваў Лагоду Гольша і гідліва паморшчыўся. Злавіў Эглін азадачаны позірк і спытаў, варушачы адно самым краем вуснаў: — Ёсць жа ў цябе, напэўна, штосьці, каб...

Гольша звузіў вочы і коратка зірнуў на Лагоду, які зноў пляснуўся на бочку і цяжка дыхаў праз разяўлены рот. Эгла ледзь заўважна нахіліла галаву на знак згоды, і напружаны Гольшаў твар трохі паяснеў. Эгла выцягнула з таемнай кішэнькі ў торбе дробную, з мезенны палец, пляшачку, крадком уклала ў заведзеную за спіну далонь Гольшы.

— Стаміўся ты, братачка,— казаў тым часам той. Спачувальна паляпаўшы Лагоду па плячы, падчапіў з пояса біклажку з вадой, працягнуў Лагодзе, трохі памарудзіўшы з коркам: — Аддыхайся, вадзічкі папі. Ну?

Бледны Лагода, усё яшчэ мармычучы штось няўцямнае, папіць вадзічкі пагадзіўся. Гольша, сунуўшы яму ваду, асцярожна, нібы мімаходзь вынуў з рукі Лагоды булаву. А волат паднёс біклажку да рота, зрабіў колькі глыткоў, стукаючы рыльцам біклагі аб зубы.

— Сапраўды... стаміўся,— спакайней і цішэй прагаварыў Лагода, прыціскаючы біклагу да жывата. Эгла, дастаўшы з-за пояса нож, акуратна разрэзала рукаў Лагодавай курткі. Прысвіснула — так, што Гольша, уладкаваўшы аднятую булаву між старых бочак у куце, падышоў, каб таксама зірнуць.

— І праўда,— працадзіў Гольша задуменна.— Не... рысь. Напэўна.

Рана была глыбокая, з рваным краем, відавочна не ад зброі. Ды і наўрад ці які збройны чалавек здолеў бы не тое што адолець, а і проста дастаць Лагоду. Але Эгле цяжкавата было ўявіць істоту, кіпці якой маглі пакінуць такі след. Перавязваючы соннаму Лагодзе плячо, яна пазірала

на не-чалавека ля дальняй сцяны. Думала пра штосьці не жывое і не мёртвае, пра чароўныя агні, якія нешта вартуюць тут — нешта такое, што не з'яўляецца святыняй, што трывожыць саміх не-людзей.

Ад гэтых няўцешных думак холад разліваўся па жылах, слабелі рукі. Эгла прыкусіла вусны, каб незнарок не ўскрыкнуць, бо ўсё вакол зрабілася нядобрым, варожым. Быццам яны, не ведаючы, увайшлі ў бярлог лютага драпежніка, і той назірае аднекуль з цемры, перш чым кінуцца.

— Не... рысь,— прамармытаў, слабеючы, Лагода, і павекі ў яго заплюшчыліся. Звычайна дурман-трава, сабраная пад поўняю, дзейнічае адразу, але мажны Лагода соннаму зеллю пэўны час прымудрыўся супраціўляцца. Або зелле вытхнулася: Эгла, здаецца, з год не ўжывала яго.

Эгла ўздыхнула. Ці то ад набранай яшчэ за падарожжа ў Хальчу стомы, ці то ад адчування амаль рэчыўнай варожасці, разлітай вакол, заламіла скроні. У нейкі момант Эгла нават завагалася — ці не выпіць і самой трохі дурман-травы, каб адразу ж забыцца сном,— але ўсё-такі перадумала.

Трывога, што варочалася ўнутры, быццам шэпты трыснягу пад ветрам, падказвала: тут і цяпер лепей заставацца ў сваім розуме. Эгла з некаторай зайздрасцю паглядзела на заспакоены твар Лагоды і рашуча трасянула косамі.

Гольша, праходжваючыся туды-сюды побач, гаварыў досыць бадзёра. Заўтра, пераначаваўшы і адпачыўшы, яны пойдуць да шахты, агледзяць там усё, што трэба, дазнаюцца пра ўсё. Нічога такога, насамрэч. А Лагодзе — прымроілася нешта, гэты ёлуп і раней асаблівым клёкам не вызначаўся.

— Мяснік жа,— Гольша развёў рукамі.— Але такія таксама патрэбныя.

І дадаў тонам ніжэй:

— Ты, як грошы атрымаеш, да... да сваіх адразу паедзеш?..

Эгла нахмурылася, і Гольша неяк сунеўся, паглядзеў вінавата. Ён, зразумела, любіць ведаць такое пра тых, з кім працуе. Любіць ведаць усё, чым можна націснуць на чалавека — ад сапраўднага імені да месца, дзе жывуць родныя.

— А табе што? — рэзка спытала Эгла.

Гольша такой рэзкасці, мабыць, не чакаў, бо зусім абмяк і зачасціў трохі вінавата:

— Нічога, нічога. Н-нічога.

Ён кашлянуў і заўважыў, гледзячы ўбок, што, як бы там ні было, а без варты заставацца не выпадае. Прымроілася нешта Лагодзе ці не, але мясціны вакол дзікія, і вартавога на ноч выставіць усё-такі трэба. Эгла кіўнула: самой досыць няўтульна было ўяўляць, што можа прыдарыцца, калі яны ўсе адначасна паснуць. Таму дамовіліся вартаваць па чарзе, удваіх — на Лагоду пасля дурман-травы можна было нават і не спадзявацца.

Гольша падахвоціўся вартаваць першым — уладкаваўся непадалёк ад Лагоды, які спаў седзячы, адно апусціўшы лысую галаву на грудзі. Пад мернае Лагодава сапенне Гольша не страчваў надзеі зладзіць-такі вогнішча з сырых дошак — можа, не столькі дзеля цяпла ды святла, колькі дзеля баўлення часу.

Паставіўшы ліхтар побач, Эгла ўлеглася на свой плашч трохі далей, з рукою пад шчакой — як спала з маленства. Лук паклала блізка, каб кончыкамі пальцаў адчуваць выгін яго пляча скрозь сон. Так — адчувалася — бяспечна. Думала, уладкоўваючыся на цвёрдай халоднай падлозе, што аніяк не здолее заснуць. Але, як ні дзіўна, амаль адразу ж задрамала, быццам раптоўна правалілася ў цёмную ваду.

І плыла, плыла ў цёмнай вадзе, апускаючыся на самае дно, да выгінастых ніцяў водарасцей, што калыхаліся побач, спавівалі цела. Паветра не ставала, трэба было ўсплываць, і яна, пускаючы ротам чародкі сярэбраных бурбалак, біла рукамі і нагамі, падымалася ўверх, уверх. Падымалася адно для таго, каб наторкнуцца на лёд, з-за якога прабівалася святло зімовага ранку. Эгла, задыхаючыся, дарма спрабавала зачапіцца, прабіцца, вызваліцца. Лёд, непарушны, толькі слаба патрэскваў пад яе рукамі, і зімовая раніца згасала за ім, і дыханне перахоплівала, дыхання не ставала.

...плакала жанчына. Плач разліваўся ракою, магутнай і пагрозлівай, глушыў гукі, сціраў колеры. Нёс за сабою, як бездапаможную трэску. Абвіваў тонкімі ніцямі, высмоктваў сілы. Ледзяное лязо варочалася пад сэрцам. Плакала жанчына, і ад любові яе было душна, як пад вечкам труны, і ад волі яе, непарушнай, быццам магільны камень, не заставалася сілы.

Плакала жанчына...

Эгла, слепнучы і глухнучы, сутаргавата ўцягнула ў сябе ваду і адчула, як невыносны холад ліецца ўнутр, запаўняе сабою лёгкія. Задыхнулася, працятая болем, закашлялася, схапіўшыся за горла.

Прачнулася, лежачы на ўласным плашчы, гледзячы ў дзіравую столь. Правяла рукою па твары, па валасах — і рэзка села: уся была наскрозь мокрая, быццам сапраўды толькі што дала нырца ў возера. Дрыготкімі пальцамі сцягнула з касы слізкую плець водарасці, задрыжала, ад холаду і вусціішы адначасна. Агледзелася, шукаючы вачыма Гольшу, які мусіў не спаць,— але нікога не было, толькі Эгла, холад і цемра — густая, непраглядная.

Ды яшчэ скрозь цемру прабіўся тоненькі дзіцячы галасок:

— Мамачка?..

Яна падскочыла, забыўшыся пра нядаўні кашмар, гукнула малога па імені. Слепа рынулася наперад, замерла, працягваючы рукі. Цемра вакол паслужліва раздалася ўбакі, і Эгла, мружачы вочы, пабачыла падсветленыя месяцам вароты адрыны. За зведзенымі створкамі няўпэўнена рухаўся слабы маленькі цень — быццам згубленае, заплаканае дзіця павольна ішло, дарэмна шукаючы ўваход.

— Мамачка?

— Гэдмін!..— ускрыкнула Эгла. Не думала ні пра што болей, толькі пра маленькага хлопчыка, які зараз плача там, у халоднае цемры, які зусім адзін, які кліча яе. Пачакай, пачакай крышачку, зашаптала яна, намацваючы засаўку. Рукі не слухаліся, перад вачыма білася шэрая каламуць, ногі падгіналіся, а галава была цяжкая. І думкі блыталіся, і падавалася, быццам рухаецца яна скрозь цёмную ваду, адольваючы супраціўленне халодных хваляў, спрабуючы выблытацца з ліпкіх водарасцяў, якія цягнуць на дно.

— Зараз, зараз...— горача шаптала Эгла. Тоненькі дзіцячы плач падганяў яе, біўся ў скронях, вёў за сабою няўклюднае, стомленае цела, быццам нітачка.

І раптам гэтая, як падавалася, такая надзейная нітачка перарвалася са слабым незадаволеным уздыхам, быццам лопнула струна.

Бо на плячо Эгле мякка легла цёплая рука — і пацягнула за сабою, з халоднай цёмнай вады, з жаласнага покліча маленькага ценю за створкамі варотаў. Эгла задыхнулася, закашлялася і нібы ў адно імгненне працверазілася. Яна стаяла ля варотаў цёмнай адрыны, у шчыліны ў столі і сценах прасочвалася месяцовае святло. Валасы яе і адзенне былі зусім сухія — Эгла толькі зараз гэта зразумела. Быццам раней нешта не дазваляла ёй чуць і бачыць, засцілала зрок, прытупляла слых.

А зараз яна пачула, як успуджана хрыпяць коні ў дальнім куце за загарадкай, як сапіць Лагода, як ціхутка храпіць Гольша. Пабачыла халодную закінутую будыніну, кволыя агеньчыкі ліхтароў, дзе адгаралі свечкі. Павуцінне, ляжалае сена, нагрувашчаныя бочкі ды скрыні. І, за сабою, з перавязанай рукою на яе плячы — не-чалавека. Той, звузіўшы вочы, прыглядаўся да варотаў, а вочы ў яго зараз свяціліся ярчэй.

— Хто...— прагаварыла Эгла сіпла і адразу ж асеклася. Ёй толькі прыйшло ў галаву, што маленькі Гэдмін зараз за некалькі дзясяткаў вёрстаў і, вядома, аніяк не можа з'явіцца тут і выклікаць яе. Зрэшты, у яе малога і няма завядзёнкі называць яе «мамай», адно па імені.

— Хто ж тады...

Не-чалавек з асцярогаю пахітаў галавою і прыклаў палец да вуснаў — маўляў, змоўч. Эгла, ледзь стрымліваючы дрыготку, глядзела — не магла не глядзець — як цень за варотамі варухнуўся, загусцеў, перасунуўся на колькі крокаў. Бліжэй, яшчэ бліжэй.

Вароты раптам скалануліся: нешта прыпала да іх звонку, навальваючыся ўсёю вагою, спрабуючы адчыніць штуршком.

— Мамачка! — зноў жаласна і патрабавальна паклікаў голас, але да малога Гэдміна гэта цяпер было падобна мала. Ды і да чалавека ўвогуле падобна было не дужа. Тое, што прагнула ўвайсці, шыпела, павісквала і палясквала, прагна ўцягвала ў сябе паветра, прыціскаючыся да старых дошак, вынюхваючы.

Эгла заляпіла рот далонямі: ёй раптам вельмі жыва ўявілася, што б адбылося, калі б тое прагнае сюды зайшло. Калі б яна, змушаная сонным насланнём, сама адчыніла б, упускаючы сюды... нешта.

Не-чалавек, лёгка адштурхнуўшы Эглу ўбок, бязгучна наблізіўся да варотаў, пракрэсліў рукою ў паветры перад сабою нейкі знак. Эгле, можа, ад страху, падалося, быццам на кончыках пальцаў у яго бліснула зялёным агнём. Зрэшты, паветраны знак на імгненне саткаўся з вогненных рысаў — адно каб павольна ўпасці на дрэва, пакінуўшы на ім чорны абвуглены след.

Тое, за варотамі, адхіснулася, засапло і заляскала з пагрозай. І нечакана знікла: Эгла не магла б сказаць, чаму, але была ўпэўнена, што за варотамі больш нікога няма. Коні, якія толькі што непакоіліся, таксама адчуваючы нядобрую прысутнасць побач, паступова супакойваліся. Не-чалавек, што замёр перад уваходам, насцярожаны і напяты, нарэшце супакоена выдыхнуў. Мабыць, і сам да канца не быў упэўнены, ці ўсё атрымаецца.

— Што гэта такое? — спытала Эгла, калі ён, адкінуўшы валасы з твару, павярнуўся да яе.— Тое... тое, што ты вось зараз зрабіў?

Не-чалавек варухнуў бровамі і зірнуў на выпалены ў дрэве знак.

— Абярэг,— патлумачыў.— Пра істоту за парогам не спытаеш?

Паморшчыўшыся, Эгла пакруціла галавой:

— Нават і чуць не хачу.

— Добра,— азваўся не-чалавек.— Бо, шчыра, я і сам не ведаю, што гэта.

— Яно вернецца? — Эгла звузіла вочы.

Не-чалавек пацінуў плячыма.

— Наўрад ці тут можна казаць напэўна,— заўважыў няголасна.— Звычайна Старыя Звяры так лёгка ад ахвяр не адступаюцца. А гэты пачуяў жывую кроў. Да таго ж,— не-чалавек уважліва паглядзеў на Эглу,— сумняюся, што тут толькі адзін Звер.

Эгла задуменна трасянула косамі. Пры словах пра Старых Звяроў ёй прыгадаліся даўнія паўзабытыя казкі — пра страшэнных пачвар, што некалі хадзілі па зямлі, а цяпер, пераможаныя, загнаныя ў спракаветную чарнату, спяць без сноў. Нідзе ў тых казках не распавядалася пра Старых Звяроў, што блукалі б па княстве ў нашыя часы,— толькі пра невымерную сівую даўніну. Тую даўніну, катораяя як бы і Ніколі.

Хаця, тут жа ўспомніла Эгла, папаўзлі ў самым пачатку восені показкі пра пачвар, якія нібыта з'явіліся ў Парэччы. Але адсюль да Парэчча занадта далёка, нават для нейкіх там казачных пачвар.

— ...не пабудзіш,— сказаў ёй не-чалавек, калі Эгла паспрабавала расштурхаць соннага Гольшу.

Той скурчыўся па-сабачы проста на халоднай падлозе, і спаў, разявіўшы рот, як мёртвы. Не-чалавек, заўважыўшы непаразуменне ў Эглы на твары, цярпліва патлумачыў:

— Сонныя чары. Пакуль не спадуць, не пабудзіш. Ён, думаю, і сам прахопіцца праз нейкую гадзіну, не турбуйся.

— Мяне ж ты адразу пабудзіў,— заўважыла Эгла.

— З цяжкасцю,— не-чалавек падняў перавязаныя рукі, колькі разоў варухнуў тонкімі пальцамі. Тыя слухаліся кепскавата, і Эгле стала няёмка.

— А кашмар,— спытала яна, гледзячы ўбок,— кашмар, пра ваду, пра жанчыну, якая плакала... аплаквала... гэта — праз тыя сонныя чары?

— Пра ваду? — шчыра здзівіўся не-чалавек, хутаючыся ў плашч.

Эгла, пачырванеўшы, пераказала, што бачыла да таго, як яе пацягнула да варотаў зманлівым галасам пачвары.

— Часам,— сказаў не-чалавек задуменна,— сны прыходзяць з Ніколі-і-Нідзе. Прысненыя некалі кімсьці. Цені

чужых розумаў. Ніці чужых думак, уплеценыя ў агульнае прадзіва сноў.

— Значыць, гэта не чары?..

Не-чалавек квола ўсміхнуўся.

— Сны заўсёды трошачкі чары,— заўважыў.

— Але ты мяне пабудзіў — закляццем?..

— Можа, і не будзіў бы, калі б Звер не вырашыў цябе выкарыстаць.

Эгла сутаргавата павяла плячыма: зноў уявіла, што сталася б з імі ўсімі, калі б тая істота ўсё-такі здолела сюды ўвайсці. Зірнула на не-чалавека, няўпэўнена пераступіла з нагі на нагу.

— То, значыць,— мовіла глуха,— ты нас выратаваў. Нам... нам усім трэба быць табе ўдзячнымі.

Не-чалавек нечакана выдаў сухаваты смяшок.

— Не трэба, калі ласка,— папрасіў.— Мне вашай чалавечай удзячнасці ўжо з лішкам хапіла.

Эгла нахмурылася, і не-чалавеку давялося, хай сабе і нехаця, патлумачыцца:

— Заўчора якраз хацеў дапамагчы аднаму з вас, а выйшла з гэтага...

Ён красамоўна зірнуў на перавязаныя запясці. І дадаў, падумаўшы трохі: увогуле, не ўпускаць сюды Старога Звера было і ў ягоных асабістых інтарэсах таксама.

— Не аматар пачвар. Звяроў. Паляванняў.

І людзей, працягнула сама сабе Эгла. Апошняе, зрэшты, з досыць натуральных, вытлумачальных прычын. Пастасуешся з кімсьці кшталту Лагоды задоўга — і сам пачнеш людзей ненавідзець.

— Не паляўнічы сам, значыць? — спытала Эгла. Матчыны казкі пра Дзікі Гон і бязлітасных княжых вояў, што лятуць на крылах завеяў, адступілі, развеяліся. Казкі ёсць казкі, што тут зробіш.

А не-чалавек паморшчыўся — здаецца, грэбліва.

— Не паляўнічы,— адрэзаў рашуча.— Паэт.

Сказаўшы так, трохі паружавеў, так што вярнуліся на бледныя шчокі пляміны нездаровага румянцу. І ўдакладніў: амаль-што-паэт. Падмайстра.

Вучань.

— Паэт? — недаверліва перапытала Эгла.

Пачуць такое было трохі нечакана, асабліва тут і цяпер, цёмнай ноччу пасярод дзікай пушчы, у сырой паўцёмнай адрыне. Ды і, калі на тое, Эгле ніколі ў жыцці не даводзілася бачыць паэтаў, не тое што кургановага люду, але і звычайных, чалавечых. Вядома, сама яна, як і ўсе ў бліжэйшых княствах, магла прыгадаць па памяці радок-два са слыннага Галляша Залатавуста. Але той Залатавуст памёр некалькі стагоддзяў таму, існаваў толькі ў тых радках і, можа, з той прычыны быў нечым звыклым, рэчыўным, паўсядзённым. Не асобай, не жывою істотай, а сукупнасцю некалі напісаных песень, рэхам уласных слоў у чалавечай памяці.

А тут яснавокі хлопчык — ён усё яшчэ падаваўся Эгле хлопчыкам, дарма што ўмеў выпісваць у паветры вогненныя знакі,— аказваецца, паэт. Ці амаль што. Прычым кажа пра гэта так паважна, з гонарам, быццам гэта значыць — князь, ніяк не меней. Эгла агучыла гэтую апошнюю сваю думку, а не-чалавек насмешліва чмыхнуў.

— А можа,— сказаў ён,— паэт вышэйшы за любога князя, бо той уладарыць над сваімі падданымі, а паэт, калі ён сапраўдны, над усім светам. Бо паэт сам стварае светы, бясконца множачы іх, быццам крышталь, які рассыпае ў сваіх гранях сонечны прамень.

Ён прамовіў гэта з самым шчырым замілаваннем, з кранальнай перакананасцю. Быццам узнаўляў па памяці нечыя дарагія яму словы. Быццам гэтыя словы гучалі

ўнутры яго, некалі пачутыя, кіравалі, паказваючы шлях, дорачы надзею.

Нават цяпер.

— Зразумела, зразумела,— паківала Эгла.— Ну, ты ж яшчэ не паэт. Сам казаў.

І не-чалавек надзьмуўся — зусім па-хлапечы.

Чары там або не, але Гольшы не было як дабудзіцца. Таму Эгла вырашыла рэшту ночы вартаваць сама. Пасля нядаўніх кашмараў страшнавата было заснуць, ды і трывожна было: а раптам вернецца тое, што клікала дзіцячым голасам з-за варотаў. Яна замяніла свечкі ў ліхтарах, праверыла коней — тыя, супакоеныя, адпачывалі. Соп Лагода, прысвістваў носам Гольша. Дождж аціх. Месяц, які вылузаўся з хмар, ліў святло праз шчыліны ў даху адрыны.

— Палепшала трохі? — спытала Эгла ў не-чалавека, калі абышла з ліхтаром усю пыльную будыніну.

Не-чалавек усё-такі таксама не спаў, а бавіць начную варту ў размовах, Эгла мела з досведа, куды прасцей. Ды і было пра што яго распытаць, калі задумацца.

Не-чалавек кіўнуў. Варухнуў бровамі, нешта абдумваючы.

— Дзякуй,— сказаў-такі, заўважна павагаўшыся. Сумняваўся, мабыць, наконт дарэчнасці падзякі. І правільна сумняваўся, дадала сама сабе Эгла.

— Вось калі ты паэт,— мовіла яна, абы не маўчаць,— значыць, мусіш ведаць сякія-такія гісторыі? Ці там, можа, песні?

— Я і ведаю,— рэзкавата гукнуўся не-чалавек.— Сякія-такія.

— І што ж, нават і спяваць можаш?

Ён падняў на яе вочы з такім адначасна здзіўленым і недаверлівым выглядам, што Эгла пырснула смяшком:

— Даруйце, спадар паэт, болей не сумняюся.

— Лютні шкада,— заўважыў не-чалавек, гледзячы на свае перавязаныя запясці.— Харошая была лютня.

Эгла прыкусіла вусны: шкадаванне ў ягоным голасе было самае горкае. Быццам лютні яму было болей шкада, чым самога сябе.

— Я думаў, я памру,— прагаварыў не-чалавек ціха.— Было б досыць сумна паміраць вось так, павольна і страшна, ад атруты халоднага жалеза. Сярод людзей. Кропля па кроплі губляць сябе, вар'яцець і не магчы выбавіцца, ажно пакуль зусім нічога не засталося б, апроч пустой абалонкі.

Не-чалавека перасмыкнула.

— Ты не памрэш,— выгукнула Эгла. І паўтарыла мякчэй: — Ты не памрэш, абяцаю. Толькі вось закончым тут — і...

Яна не закончыла — толькі шырока павяла рукою.

— І вы адпусціце мяне, ты хочаш сказаць? — не-чалавек з недаверам звузіў вочы.— Нават калі я не змагу ці... ці нават калі я не захачу зрабіць тое, што той руды запатрабуе?

Эгла кашлянула і схавала пагляд. Ёй цяжкавата было ўявіць, якія планы меў Гольша на не-чалавека і дзеля чаго ўвогуле пацягнуў яго сюды. А вось развязка — хаця няўтульна было пра гэта думаць — бачылася куды ясней. За тры гады яна цвёрда паспела вывучыць: Гольша ніколі не пакідае справу няскончанай. Гэтае ж правіла тычыцца і непатрэбных сведкаў.

— Магу я спытаць? — не-чалавек кашлянуў.— Нашто вы ўвогуле сюды прыйшлі? Тут жа ні скарбаў няма, ні... нічога. Толькі смерць.

Эгла зладзеявата зірнула на нерухомага Гольшу, на Лагоду, які соп на ўсю адрыну. Прысела, паставіўшы ліхтар ля ног, на адну са старых скрыняў.

— Княжы загад,— патлумачыла.— Робім, што нам скажуць.

— А, «бо князь хораша плаціць»,— тут жа ўзгадаў не-чалавек Эгліны словы. Прагучала не тое каб з'едліва, хутчэй сумна. Ён уздыхнуў і рассеяна адкінуў назад валасы. Па востраму рукаву камзола, што вынырнуў з-пад плашча, расцякалася вышыўка: хвалі хмарнага радна, у якім раз-пораз праблісквала радасная сінь. Эгла мірганула: ёй падалося, быццам вышыўка жыве, быццам хмарныя хвалі варушацца, плывуць, зменлівыя і няспынныя.

— Сумняюся, аднак,— дадаў не-чалавек, зноў хваравіта хутаючыся ў плашч,— што ваш князь за падарожжа сюды плаціць дастаткова.

— Ты ведаеш, што гэта за месца,— мовіла Эгла змрочна. Не спытала — сцвердзіла.

Не-чалавек, хмурачыся, адвёў пагляд. Зноў вымавіў тое слова на сваёй мове і, пакасіўшыся на Эглу, стрымана патлумачыў:

— Тут спяць Бяссонныя.

За сцяною нешта аглушальна грымнула, пакацілася розгаласамі рэха. Мабыць, сарвалася з даху адсырэлая гонціна-другая. Ад нечаканасці Эгла скаланулася і падскочыла на месцы. Міжвольна найперш паглядзела на вароты адрыны, упэўніваючыся, ці на месцы засаўка, ці не з'явіўся зноў драпежны цень, які прагне ўвайсці.

— Хто... спіць? — спытала Эгла дрогкім голасам.

Яны былі спрадвеку, адказаў не-чалавек. Хіжыя, драпежныя, ахвочыя да гарачай крыві. Выпладкі цемры, яны песціліся і раіліся ў ценях, апляталі жывых сваімі чарамі, як павуціннем. Палявалі ўночы, балявалі ў кашмарах, і ўдзень панавалі таксама — бо люты жах жыве і пад сонцам.

Ды прыйшоў Белы Князь, вой і ўладар. Скаваў іх, Бяссонных, чарамі, кінуў у Нябыт, замкнуў загавораным срэбрам, сілаю Зімы.

Перад Белым Князем яны адступілі, яны скарыліся. Яны спяць — цемра, цёмная вада, аддзеленая тонкай ледзяной коркай.

Эгла зябка павяла плячыма. Жыва ўзгадала свой нядаўні кашмар: няўмольная сцяна лёду, сярэбраныя бурбалкі, з якімі вырывалася апошняе дыханне, пругкасць цёмнай вады і плёць водарасцей, што цягнулі долу.

— Яны спяць без сноў,— закончыў не-чалавек.— І чакаюць.

— І яны... тут? — Эгла прачысціла горла.

Не-чалавек павольна кіўнуў.

— Лепей было б сысці адсюль, як развіднее,— сказаў ён ціха.— Гэта не месца для жывых. Так мяне вучылі.

Калі б можна было пераканаць Гольшу, падумала Эгла, трасянуўшы косамі. Казка, якую вучань паэта сплёў перад ёю зараз, магла быць праўдаю — а магла, вядома, і не быць. Але тое, што з гэтым месцам нешта не так, сумневаў у яе якраз-такі не выклікала. Пачвары, што блукалі тут, не былі казачнымі і пагрозу ўяўлялі самую сапраўдную.

— Ён не захоча сыходзіць,— сказаў не-чалавек, быццам нязмушана прачытаў Эгліны думкі.— Той, руды. Ад яго пахне хлуснёю, а ад вашай паклажы — халодным жалезам. Ажно зубы ломіць.

Эгла нахмурылася. Пра цяжкія торбы, якія яны везлі з сабою, Гольша нічога не гаварыў. Зрэшты, ён не меў звычкі ці, лепей сказаць, патрэбы вытлумачвацца. Само сабою разумелася: усё, што б ён ні рабіў, робіцца па загадзе не каго-небудзь, а самога князя, а таму аспрэчана быць не можа.

Праўду кажучы, і самой Эгле нават у галаву не прыходзіла нешта ставіць пад пытанне або спрачацца.

— Я нічога не ведаю пра халоднае жалеза,— сказала яна.— На... нашто б нам везці з сабою ў гэтую глуш халоднае жалеза?..

Гэта не мела сэнсу. Выдаткаваць грошы на гэта, цягнуць сюды ад майстроў-сталявараў Старой Хальчы. Яна амаль што сказала «ты памыляешся», але асеклася. Зразумела, што якраз тут не-чалавек памыліцца не можа: мусіць жа адчуваць атрутны для яго метал здаля.

— Я нічога не...

— Ён ведае,— не-чалавек кіўнуў на Гольшу, усё яшчэ скурчанага, скаванага сном на падлозе.

Эгла зірнула на Гольшу, пасля на пакункі, акуратна складзеныя тым за загарадкаю, дзе яны ўладкавалі коней. Паднялася на ногі, знямелай рукою падчапіўшы ліхтар, наблізілася да стоса пакункаў у некалькі рашучых крокаў. На нейкі момант завагалася, ці варта сунуць нос не ў сваю справу. Але тут жа перасіліла сябе і асцярожна расхінула прамасленыя анучы, у якія завярнулі змесціва.

Унутры быў дробны цёмны парашок, і драбочкі яго ў святле Эгліната ліхтара злёгку пабліскалі. Эгла кранулася парашку рукой, працерла колькі шорсткіх, нечакана цяжкіх шчыпацей у пальцах. Азірнулася на не-чалавека, які сачыў за ёй з асцярогай, не набліжаючыся.

— Я... не разумею,— разгубілася Эгла і зноў паглядзела на непрытомнага Гольшу. Ёй падалося, быццам той варухнуўся.— Гэта проста пясок нейкі. Што за...

Па шчырасці, яна чакала ад Гольшы чаго заўгодна, толькі не гэтага вось. Чым бы яно ні было насамрэч.

— Пясок?..— паўтарыў не-чалавек, прыўзняўшы бровы. І раптам твар у яго выцягнуўся: — Не пясок, не. Парашок. З заклятага жалеза.

Ён павольна падняўся на ногі.

— З халоднага жалеза? — шчыра здзівілася Эгла, разглядаючы цёмныя крупінкі ў сябе на далоні.

Не-чалавек злёгку паківаў, агаломшана гледзячы сабе пад ногі.

— Гэта ж усё вытлумачвае,— прашаптаў.— Гэтак нават дужа зручна, праўда ж,— прагаварыў ён глуха.— Хочаш надзейна злавіць кагось з не-людзей — проста ўтвары вакол яго кола з гэтага парашку, не вырвецца. Проста падкінь у ваду, каб атруціць. Усіх. Усё. Каб выцягнуць чары не толькі з народу курганаў, але і з самой зямлі.

— Ажно пакуль... зусім нічога не застанецца.

Яго заўважна забіла дрыготкай, не-чалавек сцепануўся і абхапіў сябе за плечы.

— Кола з халоднага жалеза,— гаварыў ён.— Так і мяне злавілі.

Эгла, уладкаваўшы ліхтар на пакунках, засяроджана абтрасала цёмныя ззяйкія крупінкі з далоняў. Не хацелася пакідаць ніводнай — быццам кожны драбочак таго парашку ў яе на руках быў сведчаннем непасрэднай спрычыненасці да атручванняў, забойстваў і выкраданняў.

Князевы выведнікі завабілі ў пастку з гэтай дрэні хлопчыка, які проста хацеў камусьці дапамагчы. Пасля, яшчэ дадаткова скалечыўшы, кінулі ў лапы Лагодзе. Пасля Гольша зацягнуў яго да пачвар.

«Мы зацягнулі яго да пачвар»,— выправіла сябе Эгла.

Яна, як ні круці, таксама была часткаю гэтага ўсяго, ад пачатку. Часткаю таго, што задумаў князь у чырвоным сталічным замку. Таго, што меркаваў тут здзейсніць Гольша. Што мы тут меркавалі здзейсніць.

— Але... чаму сюды? — не-чалавек пахітаў галавой і пытальна зірнуў на Эглу: — Чаму, дзеля чаго вы прынеслі сваю атруту менавіта сюды?..

Калі б я толькі ведала, падумала Эгла скрушна. Я ніколі такога не хацела. Нічога такога не хацела. Проста не пытала лішняга, лішняга не заўважала. Лішняга не думала. Проста рабіла тое, што казалі, што загадвалі. Не падымаючы галавы, не зважаючы болей ні на што. Добра ж быць — як страла. Добра — зручна слухмяна ісці па нітачцы чужой волі... праўда ж?..

Яна зірнула на абуранага не-чалавека, каб сказаць гэта,— і пабачыла, як, пакрэхтваючы, падымаецца з падлогі Гольша. Багі яго ведаюць, колькі часу ён насамрэч не спаў, а нерухома ляжаў і прыслухоўваўся.

— А я табе скажу,— мовіў Гольша, размінаючы шыю.— Я табе скажу, нелюдзь. Калі ўжо вы тут з маёй мілай Эглай так пасябравалі, я скажу.

Гольша наблізіўся да не-чалавека ледзь не ўсутыч, так что той падаўся назад, зачапіўшы нагрувашчаныя дошкі ды скрыні ў сябе за спінаю.

— Таму што,— цадзіў Гольша, ускінуўшы падбароддзе, з непрыхаванай непрыязню ўтаропіўшыся ў не-чалавека,— нашаму, бачыш, князю дужа цікава, ці можна выкурыць вашу пароду з нашых земляў. У яго мосці, бачыш, адзін ваш некалі бабу звёў, от і не можа супакоіцца яго мосць. І яго мосць, як чалавек разумны і прадпрымальны, справядліва мяркуе, што калі падрубіць вам карэнне, панішчыўшы вашыя «святыні», камяні гэтыя ды такое ўсё рознае, як тут...

— Але тут не...— пачаў быў не-чалавек, але Гольша, раз’юшаны, расчырванелы, перарваў яго сярдзітым ускрыкам:

— Змоўч!.. Ведаю я вас, нелюдзей. Зараз будзеш заліваць, што месца праклятае, што нам трэба сысці. Проста каб абараніць сваё. Ведаю вас.

Эгла злосна гукнула Гольшу па імені — але той адно адмахнуўся.

— Гэта вы бабам можаце галовы затлуміць,— працягваў ён.— Бабы ж жаласлівыя, ім, дурніцам, нямнога патрэбна — тварык гожанькі, казачка хітранькая. А са мною гэтыя вашыя выкрунтасы не пройдуць, навалач.

— Гольша!..— сярдзіта крыкнула Эгла.

Ён, быццам толькі што пачуў яе голас, неяк абмяк, адхіснуўся ад не-чалавека. Паглядзеў, мякка і трохі дакорліва ўсміхаючыся.

— Нелюдзю нейкаму верыш,— сказаў Гольша.— Нелюдзю нейкаму верыш, а таму, каго тры гады ведаеш,— не.

— Таму і не веру,— адказала Эгла.— Што ведаю тры гады. Хлопчык праўду кажа. Каб ты толькі пабачыў, што тут было, пакуль ты дрыхнуў!..

Яна з асцярогаю зірнула на вароты адрыны, баючыся зноў пабачыць пад імі цень, ад якога пляліся, быццам плеці водарасцей, ніці цяжкага наслання. Але месяцовае святло лілося вольна, без перашкод, так што Эгла супакоена перавяла дух.

— А што было? — Гольша скрыжаваў рукі на грудзях.— І скуль ведаеш, што гэта не ён, не ён сам учыніў? Нелюдзі выкрутлівыя, чэрці. Толькі так тлумяць добрым людзям галовы, а ты з яго жалезкі-та зняла!

— Я не стаў бы,— рэзка сказаў не-чалавек. Пальцы ягоных перавязаных рук ледзь прыкметна дрыжалі.— Нават калі б мог... цяпер. Я не...

— Так ты кажаш,— працягнуў Гольша, наморшчыўшы крывы нос.

Ён гаварыў яшчэ — зноў паўтараючы ўжо сказанае, пра падступных нелюдзяў і дурных баб, пра мудрага князя, які цвёрда вырашыў вывесці гэтае племя, абараніць просты люд ад паскуднага чарадзейства. Эгла яго не слухала — бо пачула, за голасам Гольшы, за мерным сапеннем Лагоды, за ўсхрапваннем коней і парыпваннем сырых бэлек, нешта яшчэ.

— Цішэй...— прагаварыла яна, засяроджана прыслухоўваючыся, і, напэўна, было ў яе голасе нешта такое, што змусіла змоўчаць нават распаленага, раззлаванага Гольшу.

І тады Эгла зразумела: яна чула крокі. Аддаленыя, цяжкія. Чуваць іх было не слыхам нават, а — усім целам, бо ад цяжару тых крокаў скаланалася зямля і парыпвалі дошкі закінутай будыніны. А крокі набліжаліся, цяжэлі, гучнелі. Гольша, які таксама пачуў іх, нахмурыўся, і ягоная далонь легла на дзяржальна мяча.

— ...н-не рысь,— страшным сонным голасам прамовіў Лагода.

Гольша пацягнуў носам і на паўсагнутых нагах падышоў да варот, зірнуў у шчыліну між дошак. Рука ягоная, што ляжала на дзяржальне, рэзка напружылася, пальцы сціснуліся.

Цяжкія крокі прайшлі зусім блізка, і нешта, праміналючы, мабыць, зачапіла сцяну, бо ўся падгнілая будыніна затрэслася, з бэлек пасыпалася церуха. Эгла замерла, прырастаючы да месца, бо цені вакол зноў загусцелі, узварухнуліся. А дзесь зусім побач — і адначасна адусюль — прагучаў той страшэнны лямант, які яны пачулі на рачным беразе. Эгла, аглушаная, ажно прысела, заціскаючы рукамі вушы, а Лагода хіснуўся на сваёй бочцы і паваліўся на падлогу. І абудзіўся, хапаючы ротам паветра, лыпаючы ашалелымі каламутнымі вачыма.

Коні зайшліся ўспуджаным іржаннем, забіліся, кідаючыся на загарадку. Крык раптоўна сціх, перарос у нізкі задаволены клёкат. Адрына застагнала, дальняя сцяна прасела пад страшэнным цяжарам — і тут жа з вохканнем гукнулася, пагрозліва зарыпела гонта на даху.

— Яно... там? — голасным шэптам спытаў Гольша, падымаючы ліхтар над галавою.

Цёмныя бэлькі, аблытаныя павуціннем, патроху прагіналіся, а зверху клекатала і булькала нешта агромністае, цяжкое. Нешта прагнае, што пачула ўспуджанае ржанне коней. Лагода, патрэсваючы галавою, усё яшчэ паўпрытомны ад дурману, сяк-так падняўся на ногі і абмацваў свой пояс, дарма шукаючы булаву.

Твар у яго быў бледны, аслабелыя рукі дрыжалі, і калі Лагода адшукаў-такі сваю зброю, пакінутую Гольшам ля сцяны, то не адразу нават здолеў падняць.

— Усёмаці бачыць,— мармытаў ён, прыстукваючы зубамі.— Усёмаці абароніць. Усёмаці бачыць. Усёмаці абароніць.

Не-чалавек нешта мармытаў таксама — праўда, хутчэй не малітвы, а закляцці. Зялёныя іскры ўспыхвалі на кончыках ягоных пальцаў, ды згасалі, а сам ён пакутліва моршчыўся: плесці чары яму было ўсё яшчэ цяжка.

— Усёмаці бачыць, Усёмаці...

— Змоўч, д-дубіна,— працадзіў Гольша, не адводзячы напружанага пагляду ад бэлек.

Тое, што поўзала і вынюхвала на даху адрыны, зноў віскліва падало голас — і ашалелыя ад жаху коні зноў забіліся, нацягваючы павады, рвучыся вонкі.

— Эгла,— голасна шапнуў Гольша.— Як толькі яно... як толькі яно пралезе і зоймецца коньмі... хапаем па колькі пакункаў і сыходзім. Зразумела?

— Усёмаці бачыць. Усёмаці абароніць. Усёмаці бачыць. Усёмаці...

Тое, на даху, пачало імпэтна рваць гонціны кіпцюрамі.

— Зразумела, Эгла?..

Яна адказала кароткім кіўком. Сам Гольша тут жа ўхапіў пад паху два скруткі з жалезным парашком і, прыглядаючыся да бэлек, задам адступіў даваротаў. Эгла таропка падчапіла з свайго рассцеленага на падлозе плашча баявы

лук, звыкла правяла даланёю па апярэнні стрэлаў у калчане на сцягне. Штурханула да выхаду Лагоду, які ўсё ўсхліпваў, заклінаючы Адзіную, пацягнула за локаць не-чалавека.

— Пакункі! — сказаў ёй адnымі вуснамі нахмураны Гольша.

Эгла тарганула ротам і адвяла пагляд, быццам не зразумела, пра што ён. Разам яны з Гольшам вызвалілі засаўку на варотах — і амаль адначасна зверху ў адрыну ўварвалася нешта агромністае, касматае. Уварвалася не з подыхам начнога дажджу — але са смуродам мярцвячыны, з цяжкім гніласным дыханнем драпежніка. Тут жа пасыпалася ў правал раскрышаная пачварнымі кіпцямі гонта, з грукатам падалі разламаныя бэлькі. Крычалі — амаль што па-чалавечы, з жахам, з адчаем — коні. І тое, драпежнае, крычала таксама, і рвалася плоць, і храбусцелі косткі.

Яны выбеглі прэч, не аглядваючыся, і з апошніх сіл беглі скрозь ноч — чатыры цені, два агеньчыкі на паясах у Гольшы і Эглы. Лагода паспяваў бязладна мармытаць малітвы і ўсхліпваць, блытаўся ўва ўласных нагах, быццам п'яны. Падштурхоўваючы паўсоннага Лагоду ў спіну, не-чалавека Эгла цягнула за сабою за локаць — і адчувала, як той дрыжыць.

Лямант, ад якога стыла ў жылах кроў, падганяў іх, не даваў прыпыніцца. Поўня зноў схавалася за хмарамі, а тыя асыпаліся долу калючым мокрым снегам. Раз або два Эгла апыналася, ледзь не страчваючы раўнавагу, на краі глыбокіх ямін, дзе ў святле яе ліхтара паблісквала каламутная вада. Верагодна, некалі выкапаныя шукальнікамі мясцовых скарбаў, зараз яны выраслі на іх шляху пасткамі, воўчымі ямамі.

Праз начную цемру, абмінаючы яміны ды хісткія цені ад раскіданых між хвояў паўразбураных адрын ды перакошаных платаў, яны нейкім цудам выбраліся на бітую даро-

гу. Прынамсі, Эгла, адчуўшы пад нагамі не гразкую глебу, падмытую дажджом, а нешта больш надзейнае, падумала пра дарогу. Колькі разоў яна спатыкнулася на нешта, што цалкам магло б быць старою кладкай — значыць, людзі некалі хадзілі гэтым шляхам. Значыць, тым самым шляхам можна было б і выйсці.

Адно, па Эгліных разліках, каб выбрацца адсюль, ім трэба было б спускацца — да засыпанага каменным ломам рачнога берага, да зялёнага перадгор'я. Гольша ж, аддыхваючыся, упарта вёў іх угару — спачатку нахіл быў не дужа заўважны, а пасля ўсё болей і болей круты. Цемра, страх, бег ды пагрозлівыя ўскрыкі драпежніка, што насіліся над закінутымі будынкамі, вядома, круцілі галаву, не давалі як след засяродзіцца. Але зблытаць сцежку ў гару ды пад гару ўсё адно наўрад ці атрымалася б. Калі, канечне, Гольша не выбраў гэты шлях асэнсавана, наўмысна.

— Счакай!..— крыкнула яму ў спіну Эгла пад усхліпванні і маленні Лагоды.— Нам жа трэба спускацца!..

Яна прыпынілася, цяжка дыхаючы, ацерла тыльным бокам далані разгарачаны лоб. Скаланулася: дзесь за цемраю зноў прагучаў той знаёмы ўжо звярыны лямант, і, што самае жудаснае, такі самы пранізлівы пачварны голас адгукнуўся на гэты покліч з іншага боку.

— Ходу! — гукнуўся Гольша, зірнуўшы на яе цераз плячо.— У шахту нам трэба, зразумела? Прынамсі, пакуль не развіднее. Там і адседзімся.

— Нельга спускацца, дурніца,— выцiснуў з сябе, сагнуўшыся напалам і ўпёршыся рукамі ў калені, захаканы Лагода.— Нельга, кажу табе! Там жа — яно. Дажарэ коней... і тады нас... нас, кеміш?..

Гольша, ухмыльнуўшыся, утаропіўся калючымі вачыма ў не-чалавека. Пасля паглядзеў на Эглу, паправіў скруткі з халодным жалезам пад пахаю.

— Можаш, вядома, ісці, мілая,— сказаў амаль ласкава.— Адна. Калі так хочаш. Твайго новага сябра мы будзем вымушаны папрасіць застацца.

Эгла паморшчылася і напаўголасу прыгадала горных боствяў. Ёй не дужа карцела спускацца па горным схіле адной, а ў кожным цені бачыўся той, што прыйшоў па нітачцы месяцовага святла ў аблічны малога Гэдміна.

— Так я і думаў,— задаволена адгукнуўся Гольша і паўтарыў: — Ходу!

Яны рушылі далей, выбіваючыся з сіл, а лямант пачвараў бег за імі следам, кружыў вакол. Нешта захлыналася рогатам, і ўскрыквала, і хрыпела, клекатала, уцягваючы ў сябе халоднае паветра, ловячы сярод мокрага снегу след ахвяраў. І наганяла, бегла, мкнула — так, што скаланалася зямля.

Святло Гольшава ліхтара выхапіла ў павольным снежным кружэнні нагрувашчаныя цёмныя дошкі, вышку, што патроху пачынала асыпацца, закураныя печы плавільняў. А за імі пазначыўся пад агромністай каменнаю плітою ўваход, які зеўраў чарнатою і адгукаўся рэхам іх крокаў і дыханняў. Тут жа ад дрыготкага святла ліхтароў папаўзлі па зямлі цені ржавых кратаў, што, уплаўленыя ў камень, надзейна засланялі ўваход у шахту. Сплеценыя з металічных прутоў вароты, аднак, не былі замкнёныя, а, даўным-даўно збітыя з завес, зараслі сухой травою побач.

З чэрава гары патыхала сырасцю, і капала ўнутры вада, і шаптала слабае каменнае рэха. Варушылі крыламі і папісквалі кажаны, якія, падобна, даўно адзінаўладна гаспадарылі тут. Побач з уваходам грувасцілася колькі заіржаўленых кірак ды рыдлёвак, а ў перакуленай набок тачцы дасюль месцілася здабытая руда. На той кучы руды паспелі прарасці танюткія сеянцы — багі ведаюць як занесеныя сюды хваравітыя клёны.

— Адседзімся да світання,— няголасна мовіў Гольша, пасвяціўшы ў правал за кратамі. Прагучала, праўда, ужо не так упэўнена, як раней. Але Гольша, сціснуўшы зубы, першым увайшоў у шахту, і кола жоўтага святла легла на заімшэлыя дошкі на падлозе ды каменныя сцены. Лагода, часта дыхаючы, выскаліў зубы і, успуджана азіраючыся, рушыў следам. Эгла ж застыла ля самага ўваходу, і толькі новы ўскрык пачвары, што бегла за імі па пятах, змусіў яе ўвайсці за краты.

— Ён... мае рацыю,— шапянуў Эгле не-чалавек.— Галоўнае — датрываць да світання. Сонца змусіць іх знікнуць. Прынамсі, я так думаю.

— А ты... бачыў іх раней? — гэтаксама шэптам пацікавілася Эгла, свецячы сабе пад ногі.— Ну, Звяроў гэтых? Многа пра іх ведаеш?

— ...не,— вінавата адказаў не-чалавек на абодва яе пытанні адразу.

Пад нагамі глуха адгукнулася старое дрэва, пасля мякка зашапацеў сыры жвір. Пачвара ўскрыкнула дзесьці зусім побач, так што лямант яе забіўся пад каменнай столлю ў каляровых наплывах солі. Гэта змусіла іх, не згаворваючыся, прайсці далей ад уваходу, далей ад небяспекі. Хаця Гольша тут жа празмерна бадзёрым голасам заўважыў, што кляты звер паміж кратаў не праціснецца, халера яго забяры.

Яны прамінулі адным калідорам, другім, паўсюль заўважаючы занядбаныя сляды чалавечай працы: бэлькі ды распоркі з бярвення, даўно ўкрытага мохам, слізкія пазелянелыя масткі там, дзе падымалася вада, убітыя ў камень крукі, часам нават з забытымі, ужо наскрозь іржавымі ліхтарамі. Спыніцца асабліва не было дзе — і яны ішлі наперад, вышукваючы больш-менш зручнае месца для адпачынку. Раз-пораз Эгле падавалася, быццам Гольша перасоўваецца ажно занадта ўпэўнена і задужа ўважліва

прыглядаецца да рукавоў шахты. Быццам не больш-менш сухое ды бяспечнае месца для адпачынку вышуквае, а выглядае нешта яшчэ. Пакункі, прывезеныя са Старой Хальчы, ён не кінуў таксама, дарма што тыя былі, нягледзячы на невялікі памер, цяжэзныя.

Ішоў Гольша досыць хутка, нібы спяшаючыся. Пакрэхтваючы, часам латвей уладкоўваў скруткі пад пахай і быццам не зважаў, што Лагода крочыў усё павольней, моршчыўся, паціраючы перавязаную руку, трос галавою. Эгла раз-пораз прыпынялася, каб прычакаць волата: Лагодаў ліхтар застаўся ў разбуранай пачварай адрыне, а пакідаць яго ў цемры не выпадала. Дурман-трава мусіла яшчэ дзейнічаць на яго, і рухі ў Лагоды былі запаволеныя, няўклюдныя. Пераступаючы з кладкі на кладку ў падтопленым калідоры, ён спатыкнуўся, няўдала абаперся на слізкі ад вільгаці камень — і ўляцеў па калена ў ржавую ваду.

— Гольша! — гукнула Эгла, зноў прыпыніўшыся, каб пасвяціць Лагодзе.

Той, лаячы паганыя шахты ўвогуле і гэтую ў прыватнасці, не без высілкаў улез на слізкую кладку, ажно вохнулі пад ягоным цяжарам старыя дошкі.

— Ботам карачун,— Лагода незадаволена цокнуў языком, вывучаючы шчыльна аблепленыя ржою ды брудам ногі.— Навалач. А новыя ж. Эх!

— Варушыцеся!..— сярдзіта крыкнуў ім Гольша з дальняга канца калідора.

Эгла, павярнуўшыся на ягоны голас, пабачыла адно бляск ліхтара ды цёмную постаць, што працягвала аддаляцца. Лагода, цяжка дыхаючы, таксама зірнуў туды, крывячы тоўстыя вусны, абцёр потны лоб.

— Куды гэта ён нас вядзе, га? — мовіў Лагода напаўголасу.

Эгла пацiснула плячыма і паўпытальна пакасілася на не-чалавека.

— Тут няма нашых святынь,— адказаў той ціха.— Гэта край Бяссонных. Старых Звяроў. Тут толькі...

Ён не вымавіў апошняе слова — асёкся, змоўчаў. Эгла міжволі мацней сцяла пальцы на ягоным локці. Абяцала ж, што гэты хлопчык тут не памрэ.

Лагода пацягнуў носам і сплюнуў у ваду ля кладкі. Зірнуў на цёмны калідор за імі, адкуль яны прыйшлі, асяніў сябе знакам светлых бостваў.

— Усёмацi бачыць,— прамармытаў, але цяпер без колішняй абнадзеенасці.— Усёмаці... дапаможа.

І са злосным адчаем дадаў, махнуўшы магутнай рукою:

— Ат, паскудства!..

Гольша зноў гукнуў іх здаля — настойлівым, злосным ад нецярплівасці голасам. І яны рушылі да яго, асцярожна ступаючы па рыплівых кладках, цiснучыся адно да аднаго, да кола святла. Час ад часу Эгле чуліся за імі ціхуткія лёгкія крокі. Можа быць, утвораныя рэхам ад іх уласных рухаў, тыя крокі множыліся, драбіліся. Праз нейкі час Эгла магла б адрозніць адны, больш плаўныя і лёгкія, другія, больш цяжкія, трохі сутаргаватыя. А да іх дадаваліся новыя і новыя, не падобныя да іншых, болей і болей. І па спіне ад гэтых ледзь чутных, але надзвычай настойлівых рухаў прабягаў халадок.

— Не азірайся, ідзі наперад,— выдыхнуў не-чалавек Эгле ў скронь.

Эгла, якая ўжо амаль што наважылася была азірнуцца, коратка кіўнула і толькі злёгку прыспешыла хаду. Тыя, што ішлі за імі пад покрывам цемры, аніяк не адставалі — хаця і трымаліся на адлегласці.

— Хто... гэта? — таксама на выдыху спытала Эгла.

Не-чалавек няпэўна павёў бровамі.

— Не ведаю,— адказаў.— Зразумела толькі, што святло ім не даспадобы.

Таму ўвесь час, пакуль яны вось так даганялі нечакана жвавага Гольшу, Эгла глядзела на агеньчык за шклом свайго ліхтара. Глядзела — і напружана падлічвала ў галаве, колькі свечак магло застацца ў яе ў паясных торбах. Ад гэтых падлікаў рабілася ніякавата: калі ўцякалі ад пачвары, што прабівалася ў адрыну, пра свечы для ліхтара яна не ўзгадала. А нават калі б і ўзгадала ў апошні момант — наўрад ці паспела б прыхапіць. Яна спытала пра свечы ў Лагоды — той абмацаў кішэні ды пояс і выцягнуў адзін агарак, пасля другі, даўжэйшы, але надламаны амаль пасярэдзіне.

— Лепш, чым нічога,— прамармытала Эгла, хаваючы Лагодавы свечы побач са сваімі. Агулам, калі не лічыць тую, што гарэла ў ліхтары зараз, іх засталося тры. Па Эгліных разліках, да світання павінна было б хапіць — адно, канечне, калі яны не залезуць у самую глыбіню, у самае чэрава гары.

Яны нагналі Гольшу досыць хутка. Можа, таму, што той сам пачынаў стамляцца і крочыў куды павольней. Кладка закончылася, вада адступіла, хаця чарговы вузкаваты калідор павольна ішоў пад адхон. У святле ліхтароў відаць была чырвоная гліна пад нагамі ды на сценах, паўпразрыстыя наплывы солі, што ікламі ўздымаліся ўгару ці спускаліся з нябачнай пячорнай столі. Сям-там цямнелі пляміны мхоў, а ў хрусткім жвіры мільгалі ці то выбеленыя карані, ці то дробныя косткі.

Кажаноў, заўважыла Эгла, не стала — хаця яна не магла сказаць дакладна, калі перастала чуць над галавою здушаны піск, валтузню ды ляпанне крылаў. Сляды людзей, што некалі працавалі тут, усё яшчэ трапляліся: там замшэлыя бэлькі падпіралі столь, там сцяна пароды была сколатая кіркамі. Гэтая чалавечая прысутнасць, хай сабе і

досыць даўняя, трохі цешыла, багі ведаюць чаму. Быццам яны ўсё яшчэ знаходзіліся на зямлі людзей, а не ў забытым краі старажытных пачвар. Ці — Старых Звяроў, ці як там яшчэ называў іх хлопчык з кургановага люду.

Калідор, якім яны крочылі, досыць нечакана раздаўся ўшыркі і ўгару, і неабдымная гулкая цемра з усіх бакоў навалілася, ціснучы, на дробныя колы святла ад двух ліхтароў. Гольша, занепакоена азіраючыся, наторкнуўся на кінутую пустую тачку, з грукатам перакуліў яе, тут жа адскочыў, вылаяўшыся. Скруткі з жалезным пылам ён выпусціў з рук — і тыя цяжка грымнуліся долу, ажно ўспуджанае рэха пракацілася па цемры.

— Шэпт,— ціха прагаварыў не-чалавек.— Не... не чуеш? Нехта шэпча.

— Не чую,— шчыра адказала Эгла, прыслухаўшыся.— Толькі рэха.

— Н-не,— не-чалавек пахітаў галавой, нахмурыўся, углядаючыся кудысьці наперад.— Не рэха. Проста голас... глуха, нібы з-пад вады. Ці здалёк. Амаль магу разабраць словы... амаль што...

Ён замаўчаў, прыслухоўваючыся, і праз імгненне расчаравана выдыхнуў, адкінуў з твару светлыя валасы. Эгла паглядзела на яго трохі занепакоена: на яе памяці чуць галасы, якіх няма, нікому не ішло на карысць. Наўрад ці ў не-людзей з гэтым неяк іначай.

— Табе... трэба адпачыць,— мовіла яна.— Нам усім не пашкодзіць.

— Твае б словы,— прабурчаў Лагода,— ды багам бы ў вушы.

Мусіць, некалі тут быў уладкаваны забой — або, верагодней за ўсё, вышукваючы руду ў падгорных нетрах, рабочыя наторкнуліся на пячору з багатымі жыламі і сталі працаваць тут.

Эгла, зрабіўшы колькі крокаў наперад, пабачыла грубую мэблю, укрытую слоем пылу, заржаўлены метал працоўнага інструменту, падгнілыя бочкі ды скрыні, наваленыя ўздоўж каменных сцен. Далей у цемру сыходзілі вузкія кладкі, што ўтваралі нешта накшталт крытай галерэі, якую, напэўна, для зручнасці гарнякі працягнулі над прадоннем.

— Зараза! — злосна працадзіў Гольша, скрывіўшыся. І, паказваючы на кінутыя скруткі, сурова кіўнуў Лагодзе, які спрабаваў аддыхацца: — Ну, не стой жа, падбяры!

Лагода, пачуўшыся, без асаблівай ахвоты наблізіўся і скруткі, крэкнуўшы, падабраў. За гэты вось раз, прабурчаў волат, князю трэба будзе ўдвая плаціць супраць звычайнага. А мо' нават і ўтрая.

— Нелюдзі, пачвары,— ён пакруціў носам.— А далей-та што?

— Не твая справа,— раздражнёна адказаў Гольша.

Ён хмурыўся, азадачана пазіраючы па баках, быццам заблытаўся ў падземных калідорах, быццам не мог цяміць, куды ісці далей. Эгла насмешліва фыркнула, і Гольша рэзка крутануўся да яе, укалоў непрыязным позіркам.

— Наша справа,— выправіла Эгла пахмурна.— Мы ў гэтай дрэні па самыя вушы. І калі не патлумачыш, што тут вынюхваеш, нікуды не пойдзем.

— Як загаварыла, бач ты,— мовіў Гольша, узяўшыся ў бокі.— Меней ведаеш, лепей спіш. Так ці не, мілая?

Ён пранізліва паглядзеў на яе з-пад кусцістых броваў — але Эгла, скрыжаваўшы рукі на грудзях, пагляд не адвяла, і Гольша часта заміргаў. Лагода кашлянуў у кулак, з пагрозлівай нязмушанасцю навісаючы над сухарлявым Гольшам. Той зябка павёў плячыма і паморшчыўся.

— Добра! — гаркнуў Гольша, здаўшыся.— Добра. Ваша справа — рабіць, што кажуць, і атрымаць княжыя дукаты, але калі так хочацца... Добра!

Тады, загаварыў ён нехаця, тады, значыцца, яшчэ да апошняй вайны з Навіполем, рабочыя адшукалі тут нейкую дзіўную штуку. Прабілі сцяну ў адным з забояў, а там — ход, спуск яшчэ глыбей. Залы запячатаныя, значыцца, у глыбіні. Знакі на сценах нелюдскія, камяні з рэзамі, статуі. Усё вось такое. Казалі, нават сякое-такое золата знайшлі — упрыгожанні нейкія, ці што.

— Золата?..— імгненна ажывіўся Лагода.

Гольша закаціў вочы і паківаў. Золата, золата. Але цымус не ў тым зусім. Цымус у тым, што тады якраз вайна прыдарылася. Старому князю напісалі пра ўсё, што тут знайшлі, вядома, ды яму трохі не да таго было, от і не выправіў сюды сваіх людзей, ні венаў, ні знаўцаў даўніны, нікога ўвогуле. Толькі і засталося, што ліст адсюль, ад старшыні рудніка, ды колькі залатых дрындушак нелюдскіх, якія да ліста прыклалі. І нават тое падчас вайны забылася.

— А зараз во ўспомнілася,— мовіла Эгла з недаверам.— Раптам.

— Ну, і ўспомнілася,— адказаў Гольша сварліва.— Вось так раптам і ўспомнілася. А можа, і не раптам зусім. Бо разумныя людзі адшукалі-такі ў сталічных архівах той першы ліст, ды, апроч таго, і іншыя такія-сякія звесткі адшукалі таксама. Не з рудніка ўжо, праўда. Са Старой Хальчы, куды рэшткі шахцёраў збеглі. Недзе так праз тыдзень пасля таго, як той спуск адкрылі. І вось там...

Гольша кашлянуў і змоўк. Лагода, паціраючы падбароддзе, падобна, ужо і не слухаў — яму дастаткова было пачуць пра золата.

— Ну?..— прыспешыла Эгла.

— І там... ну, там зусім няўцямныя нейкія рэчы,— загаварыў Гольша далей, зноў кашлянуўшы.— Пра дзівы і страхі, што выпаўзаюць уночы. Тыя, што здолелі збегчы,

бачыце, не ў розуме былі, параненыя, і хальчаўскі войт пытаўся, што рабіць. А вайна ж была. То ліст і не дайшоў.

— Ды вайна тая з паўвеку таму закончылася,— рэзка сказала Эгла, трасянуўшы касамі.

Гольша ўхмыльнуўся.

— Вайна-та закончылася, мілая,— заўважыў.— Але тое, што тут ёсць, хованка нелюдская, ці што... дык яно ж нікуды не падзелася.

— І золата, значыць, таксама,— дзелавіта закончыў Лагода, пазяхаючы і размінаючы тоўстую шыю. Згадка пра мясцовыя скарбы, падобна, натхняла і абнадзейвала яго болей, чым імёны ўсіх светлых багоў, разам узятых.

— Таму, калі ўжо мы ўсё адно тут,— Гольша развёў рукамі,— чаму б не зірнуць? Пачварына сюды не пралезе. Мы нічога не губляем. Так ці не?

Няўпэўненая, Эгла трасянула касамі і з маўклівым пытаннем зірнула на не-чалавека. Той стаяў на краі святла ліхтароў, абхапіўшы сябе за плечы і пацепваючыся, быццам ад сцюжы. А можа, і сапраўды азябнуў: Эгла, разгарачаная беганінай, толькі цяпер пачынала заўважаць, як холадна тут, унізе. Без плашча, кінутага ў адрыне, ёй самой было не дужа ўтульна.

— Што тут можа быць? — спытала Эгла голасна.

Не-чалавек скалануўся і зірнуў на яе з-пад зблытаных валасоў. Пахітаў галавою, паўтарыў цвёрда:

— Тут няма нашых святынь. Так... так мяне вучылі.

— А калі цябе вучылі няправільна, нелюдзь? — азваўся Гольша.

Не-чалавек прыўзняў бровы, а Гольша, аблізнуўшы вусны, працягваў:

— Сам падумай. Вашыя пра гэтае месца нават не памятаюць, выходзіць. Значыць, нешта сапраўды даўняе. А ты — пабачыш. І нам значкі вашыя расчытаеш. Ну?

Не-чалавек заўважна задумаўся, апусціўшы вочы. На нейкі момант Эгле падалося, быццам той зноў да нечага напружана прыслухоўваецца — але ён раптам слаба кіўнуў.

— Я… хачу пабачыць,— прагаварыў ціха.— Так.

Гольша салодка ўсміхнуўся і павярнуўся да Эглы.

— Бачыш, мілая,— сказаў.— Як мы з ім пасябравалі. У выніку — трое супраць аднаго, так ці не? Ідзі з намі або заставайся тут, як пажадаеш.

Гольшавы вочкі ажно пераможна заззялі. Эгла рассеяна кранулася апярэння стрэл у калчане на сцягне. Падумала блытана, мутна пра свечкі ў торбе на поясе, пра ледзь чутныя крокі, што суправаджалі ўсе іх перасоўванні па калідорах. Пасля чамусьці — пра цень, што настойліва клікаў яе за замкнёныя вароты голасам маленькага Гэдміна. Пра трысцё, што шаптала пад ветрам — тады, даўным-даўно, калі яна была дзяўчом і толькі вучылася абыходзіцца з лукам.

Эгла ледзь стрымала дрыготку. А здаецца ж, яна ніколі не была баязлівай: гадоў з васьмі сама палявала, першага свайго мядзведзя здабыла яшчэ дванаццацігадовым дзяўчом. Прыдаралася і блукаць па глыбокіх пячорах побач з родным селішчам, аднаго разу нават апынулася пад завалам. Але нават тады не было так неспакойна на сэрцы.

«Штосьці з гэтым месцам не так»,— гаварыла Эгла сама сабе, пакуль яны, трохі перадыхнуўшы, зноў пайшлі ланцугом у цемру за Гольшам. Той сунуўся першым, з ліхтаром у руцэ, намацваючы дошкі хісткай галерэяй, падвешанай над безданню. За Гольшам крочыў Лагода, усё яшчэ час ад часу пазяхаючы, праціраючы вочы чырвонымі кулакамі, з булавою на поясе. Эгла, пусціўшы не-чалавека на крок-два перад сабою, замыкала ланцуг. Свой ліхтар яна ўладкавала на поясе, каб пакінуць рукі свабоднымі, і

час ад часу краналася пыльных парэнчаў. Старыя дошкі незадаволена гулі, прагіналіся, уздыхаючы, пад іх цяжарам, і ўсё гэтае збудаванне, прылепленае шахцёрамі да скалы, падавалася нягеглым, ненадзейным. І ад кожнага асабліва гучнага скрыпу ажно падскоквала сэрца, а бездань, прыхаваная цемраю падзем'я, падступала бліжэй, раскрывала абдоймы.

Адчуваючы гэтую бездань пад нагамі, бездань, аддзеленую парай ненадзейных старых дошак, Эгла старанна ўтаропівалася ў не-чалавекаву патыліцу, пазбягаючы глядзець убок і ўніз. Але зірнула-такі: спачатку незнарок, мімаходзь.

Пасля прыгледзелася — і міжвольна вохнула, абудзіўшы рэха.

Там, за межамі кола святла з яе ліхтара, у прадонні, што цягнулася з цемрадзі, белым бляскам пазначаліся ніці руд, уплаўленых у камень, і наплывы скальных парод успыхвалі бляклымі каляровымі агнямі. Халодны бляск плёўся вострымі ўзорамі шэрані, высцілаўся пакручастымі плецямі водарасцей, разгараючыся ў далёкай глыбіні і марнеючы ад святла ліхтароў. Эгла перарывіста выдыхнула, выпусціўшы з рота аблачынку марознай пары.

— Што ж гэта за месца?..— прашаптала.

За спінай, падалося ёй, зноў з'явіліся лёгкія асцярожныя крокі — хаця гэта маглі проста парыпваць старыя дошкі, распраўляючы спіны. Эгла не азірнулася, адно асцярожна праверыла, як гарыць свечка ў яе ліхтары і ці не трэба папрвіць фіціль. Застацца без святла тут, пасярэдзіне хісткіх масткоў над безданню, ёй не дужа хацелася.

Правяраючы ліхтар, яна ледзь не наскочыла на не-чалавека: той застыў на месцы, напружаны, засяроджаны. Эгла асцярожна патрэсла яго за плячо, вяртаючы да прытомнасці.

— Шэпт,— патлумачыўся не-чалавек.— Не чуеш? Зрабіўся мацнейшым. Той самы голас, тыя самыя словы, толькі больш выразна.

— Што ён там вярзе? — гукнуўся спераду занепакоены Лагода.— Які яшчэ... голас? Што за голас-та?

— Ціхі,— адказаў не-чалавек, хаця, канечне, Лагода звяртаўся зусім не да яго.— Ціхі, быццам скрозь... сон?

Лагода напаўголасу вылаяўся і заўважыў, што нават і не ведае, што горш: нейкі дзівосны нячутны голас або звар'яцелы нелюдзь.

— Я не звар'яцеў,— абурыўся не-чалавек, нахмурыўшыся.— То бок... я думаю, што не. Пакуль яшчэ не, ва ўсякім разе.

Вочы ў яго былі ясныя, і да вар'ята ён быў не дужа падобны. Але Эгле даводзілася сустракаць вар'ятаў самых розных гатункаў, нават і такіх, што ніяк вонкава не праяўлялі сваё шаленства. Прынамсі, да пары.

— Хіба ты не чуеш?.. Вы ўсе? Не чуеце?

— Я не чую, не,— мякка сказала Эгла не-чалавеку, злёгку падштурхоўваючы яго наперад.— Хадзем-ка. Няма чаго тут затрымлівацца.

Хісткія масткі ўрэшце вывелі іх на больш-менш надзейны скальны выступ, а адтуль — у новы забой. Тут таксама ржавеў кінуты гарняцкі інструмент, пылілася перакуленая грубая мэбля ды колькі скрыняў, поўных цэрухі. Лагода, прамінаючы адну такую скрыню, бяздумна пнуў нейкі пыльны круглы камень — і той, нечакана гулка пакаціўшыся па камянях, зірнуў на Эглу чорнымі праваламі вачніцаў.

— Што ж,— холадна мовіў Гольша, калі яны прыпыніліся, вывучаючы знаходку,— у лісце з Хальчы так і было сказана: выбраліся не ўсе.

— А мы-та выберамся? — змрочна пацікавілася Эгла.

Гольша засяроджана пачухаў крывы нос, пакасіўся на скруткі ў Лагодавых руках.

— Што б ні зжэрла некалі гэтых дурняў,— разважліва сказаў ён,— дык даўно павінна было сысці адсюль. Новых... шукаць.

Гольша нават здолеў выдушыць з сябе кароткі смяшок, але болей ніхто не засмяяўся. Лагода сплюнуў сабе пад ногі.

— Ага,— працадзіла Эгла.— А мы самі прыйшлі, нас і шукаць не трэба.

— Схопім золата, якое ёсць,— змрочна выгукнуў Лагода,— і назад. І нічога, нябось, не здарыцца. Усёмаці бачыць. Усёмаці абароніць.

Ён паўтарыў апошнія словы шэптам, сціскаючы ў руцэ дзяржальна булавы. Выгляд у яго быў зусім не такі бадзёры, як тады, калі Лагода толькі пачуў пра знойдзенае тут золата. Мабыць, хмель ад выпітай дурман-травы патроху адыходзіў, а таму сустрэча з пачвараю, што пакінула рану ў яго на плячы, успаміналася ярчэй.

— Нішто, нішто,— падбадзёрваў Гольша.— І не такое дзярмо варочалі.

Сам ён рваўся наперад, як апантаны, быццам не адчуваў стомы, быццам вусціш і цемра, што панавалі вакол, зусім на яго не ціснулі. Зрэшты, пралом у сцяне, пра які Гольша расказваў, яны адшукалі досыць хутка. Спачатку адчулі сцюдзёнае паветра, што хвалямі наплывала з цемры, а пасля ў святле ліхтароў вырасла цёмная скальная арка, якая дыхала холадам. Асабліва моцны павеў змусіў агеньчыкі свечак за шклом затанчыць, і ліхтар Гольшы заміргаў і згас. Увесь час, пакуль той папраўляў фіціль у кароткім агарку і высякаў агонь крэсівам, Эгла прыслухоўвалася да ўздыхаў і шоргатаў за спінаю і змагалася з настойлівым жаданнем азірнуцца.

— Яны чуюць таксама,— прагаварыў не-чалавек ціха, быццам самому сабе.

Эгла, праўда, пачула, непаразумела ўскінула на яго вочы.

— Яны чуюць таксама,— паўтарыў не-чалавек трохі нараспеў.— Голас, што вядзе скрозь сон. Яны чуюць і ідуць. І не могуць прабіцца скрозь лёд.

Ён раптоўна задыхнуўся, мацней абхапіўшы сябе за плечы, і на вачах у яго паказаліся слёзы.

— Што?..— перапытала Эгла насцярожана.

Словы, што ліліся, нібы міжвольна, з не-чалавека, былі нейкімі бязглуздымі, няскладнымі — але ўсё-такі дзіўным чынам адгукаліся ўнутры. Бы ўспамін пра паўзабытае сненне.

— Я не ведаю, што гэта за месца,— мовіў не-чалавек, а слёзы пракрэслівалі барозны ў яго на бледных шчоках.— Але... можа быць, яно... сапраўды наша. Яно гаворыць са мной. Як са сваім. І я... амаль разумею. І...

Не-чалавек задрыжаў мацней і дадаў, ледзь варушачы вуснамі:

— І я баюся зразумець яго. Як быццам тады не стане — мяне.

Эгла затрымала далонь у не-чалавека на плячы, раскрыла была рот, спрабуючы — хоць неяк — суцешыць. І тут ёй прыйшло ў галаву, што яна нават не ведае ягонага імені, каб звярнуцца.

— Ілмар,— з некаторай замінкаю адказаў ён на Эгліна пытанне. Гучанне ўласнага імені быццам супакоіла яго, і не-чалавек паўтарыў цішэй: — Ілмар.

— Ну што там з ім зноў? — гучна і незадаволена спытаў Гольша. Ліхтар ужо свяціўся ў яго на поясе.— Ды пхні яго, нарэшце, каб узяўся ў бокі!

— Адчапіся,— рэзка азвалася Эгла.— Не ўцячэ ад цябе твой правал.

Гольша пацягнуў носам і звузіў на яе вочы, падбачыўшыся.

— Нелюдзь з'ехаў з глузду,— прабасіў Лагода.— Шэпты чуе ды галасы.

— Цудоўна,— паморшчыўся Гольша. Наблізіўся спружыністай хадою, змерыў Ілмара непрыязным паглядам і, учэпіста схапіўшы пад руку, жвава пацягнуў за сабою пад каменную арку: — Вось разам тады і паслухаем — і шэпты, і галасы. Так, нелюдзь?

— З'ехаў з глузду,— зноў сказаў Лагода, не ўдакладняючы, пра каго кажа. І, змушана нахіліўшыся, сам палез у правал, які дыхаў сцюжаю. Эгла рушыла следам, раздражнёна прыгадаўшы імёны старых горных бостваў.

Цемра ў правале пахла каменнай крошкай і сырасцю. Дзесьці мерна, кропля па кроплі, тачылася вада. Храбусцела пад нагамі штось белае — ці то жвір, ці то параскіданыя чарапкі, ці то дробныя аскепкі касцей. Эгла краем вока заўважыла збоку ад сябе размыты водбліск і няясны рух, скаланулася ад нечаканасці. Пасля сцяміла: то быў яе ўласны адбітак у ледзяных наплывах, што караскаліся па каменных сценах. Але за адбіткам, калі застыць, затрымаўшы дыханне, і прыгледзецца, можна было пабачыць нешта яшчэ — слабы ледзьве заўважны цень. І цень цягнуў да сябе, цягнуў у мутную застылую глыбіню, і плакала жанчына, усхліпваючы, заломліваючы рукі, плакала, спяваючы сваёй любоўю і сваймі слязьмі, помстаю сваёю, плакала...

Эгла задыхнулася, адчуўшы, што падае наяве — падае насустрач вострым ледзяным іклам, што падымаліся ад падлогі. Утрымалася за дрогкія драўляныя парэнчы, абцерла даланёю ўвільгатнелы лоб.

Лёд быў паўсюль: застываў нерухомымі хвалямі, маўклівымі вадаспадамі. Іскрыўся ў агромністых, падобных

да калонаў ледзяшах, што спускаліся з нябачнай пячорнай столі. Дашчаная лесвіца, напэўна, некалі пастаўленая тут гарнякамі, серабрылася ад інеістых узораў і дзе-нідзе абрастала, умацоўваючыся, ледзяным панцырам. Лёд зіхацеў вакол, адбіваючы святло ліхтароў, рассыпаў на іх здзіўленыя твары каляровыя іскры. Раскрывалі крылы, разявалі пашчы празрыстыя нябачаныя пачвары, вусцішна ўтвораныя лютай сцюжай, і адбіткі людзей унутры гэтых пагрозлівых статуй скажаліся, самі рабіліся пачварнымі, вусцішнымі.

А яны спускаліся ўсё далей, усё ніжэй па гэтым ледзяным калідоры, крочылі ў суправаджэнні ўласных знявечаных адлюстраванняў. Праз колькі часу зладжаная гарнякамі дашчаная лесвіца закончылася, і замест яе паплылі каменныя прыступкі. Лёд паблісквў у нішах, ці то прыродных, ці то выразаных нечымі ўмелымі рукамі, і пад ледзяным покрывам паказваліся абрысы статуй. Эгла, цікуючы, паглядала па баках, спрабавала хоць неяк разгледзець сляпыя каменныя твары, але рысы ў іх былі збольшага невыразныя, зацертыя часам ды няўмольнаю сцюжай.

— Можа,— няўпэўненым шэптам прапанаваў Лагода, які таксама, круцячы галавою, паглядаў на зацягнутыя льдом нішы,— можа, выдзерам якую-каторую стуль, а? Колькі такая каштаваць будзе?..

— Лухты не вярзі,— раздражнёна адказала Эгла.

Задуменны Лагода ўздыхнуў, ахутаўшыся на імгненне марознаю парай, і нечакана пагадзіўся:

— І праўда. Выцягні такую дуру-та з гары. Каб залатая была, а так...

Эгла закаціла вочы — і нечакана аступілася. Падэшва мяккага бота слізганула па ледзяной корцы, Эгла страціла раўнавагу, павалілася на бок, праехаўшыся рэбрамі

па абледзянелых прыступках. Падаючы, яшчэ падумала ўстрывожана: абы толькі не згас ліхтар. І мо' таму неяк прымудрылася не ўпасці ўсім цяжарам на яго. Шкло ў ліхтары, аднак, тут жа адазвалася нядобрым трэскам, а свечка ўнутры мірганула і згасла.

Цемра навалілася адначасна з усіх бакоў, загучала шэптамі, уздыхамі, крокамі. Эгла неслухмянымі пальцамі намацвала крэсіва. І, халадзеючы, чула, як усё больш рэчыўнымі, усё больш мэтанакіраванымі робяцца крокі, што пераследавалі іх ад пачатку. Чула, як патрэсквае векавы лёд, як цяжка ўздыхае ў яго абдымках стылы камень. Як струменіць па таемных пратоках у сэрцы скал гаваркая вада, як гучаць рудныя жылы ля самых каранёў гор.

Усё гучала, пранізанае плачам. Скрухаю, любоўю і помстаю.

Таксама Эгла пачула — быццам слабае рэха — голас, які клікаў, які спяваў, працягваючыся аднекуль здавён і здалёк, быццам тонкая сярэбраная ніць. Рэха чужога розуму, водбліск чужой думкі, цень чужога сну. Працягваўся, пракладаючы свой шлях праз сцюжу і цемрадзь.

Лагодаў устрывожаны бас амаль адразу перакрыў гэты сцішаны шэпт, а пад Эглінымі пальцамі заквітнелі гарачыя іскры, і свечка зноў успыхнула, рассяваючы вакол мяккае святло. Абапіраючыся на Лагодаву руку, Эгла паднялася на ногі. Патрэсвала галавою, быццам толькі што вынырнула з-пад вады, і аніяк не магла сабрацца з думкамі.

— ...добра з табою? Што здарылася?

— Добра,— глуха гукнулася Эгла, марна спрабуючы зноў ухапіць тую бязважкую ніць далёкага голасу.— Нічога не...

Яна выдыхнула, правяла рукою па твары — і нібы апрытомнела.

— Нічога не здарылася,— сказала амаль што спакойна.— Аступілася.

— Дык пад ногі ж глядзі, мілая,— прагаварыў Гольша, хмурачыся. Ён, усё яшчэ трымаючы не-чалавека пад локаць, паспеў вярнуцца на некалькі прыступак. Эгла кіўнула і паглядзела на Ілмара.

— Ты пачула,— вымавіў той аднымі вуснамі.

Эгла пацiснула плячыма. Яна не была асабліва ўпэўнена, што іменна пачула — і ці насамрэч пачула хоць нешта. Падзем'е, нагадала Эгла сабе, часта тлуміць людзям галаву. Не-людзям, мабыць, таксама.

— Ты пачула,— паўтарыў Ілмар.

Гольша зірнуў на яго непаразумела, таргануў за локаць, шыкнуў — маўляў, змоўч.

— Яна ўсё яшчэ аплаквае,— прашаптаў Ілмар, не зважаючы на Гольшу.

І Эгла, дзівячыся самой сабе, згодна кіўнула.

Бо ведала, згледзеўшы водбліск чужога ўспаміну: жанчына плакала. Плакала, шалеючы ад скрухі, любові і помсты, што спляталіся трыма каляровымі ніцямі ўнутры яе. Жанчына плакала — і слёзы яе бруілі ўпартаю вадою, тачылі камень, надавалі скалам вакол форму і мэту. І скруха, раствораная паўсюль, адгукалася ўнутры Эглы, будзіла нітачку ўспаміну: Гэдмін сыходзіў у сваю апошнюю раніцу, усміхаючыся ёй.

І ад горычы, уласнай і чужой, перахоплівала дыханне.

Тым часам яны зноў сталі спускацца — і холад зноў набраў сілы, абляпляў твары, быццам мокрае палатно, прыдушваў дыханні. А па сценах цяпер разыходзіліся знакі — дзіўныя вастраносыя знакі, што нанізваліся адзін за другім, складваліся ў абрыўкі слоў. Глыбока ўрэзаныя ў пароду танканогія ваўкі даганялі касматыя сонцы, збройныя вершнікі мкнулі за ўспуджанымі аленямі,

распраўлялі крылы сокалы. Раз ці два паказваліся з-пад наплываў лёду скурыстыя крылы ды грэбні, змяіная луска, і фігуркі конных паляўнічых кружылі вакол, замыкаючы кола, уздымаючы зброю. А прыступкі спускаліся ўсё далей, і вершнікаў на сценах паступова меншала, а ў нішах замест сумных статуй з'яўляліся цяпер каменныя пірамідкі — падобныя на тыя, што стаялі на рачным беразе. Побач з імі грувасціліся то блюда з пацямнелага металу, то надколаты ўзорысты збан з рыжай гліны. Раз-пораз цьмяна бліскала і золата: у рассыпаных каралях, плеценых паясах, шыйных грыўнах ці зламаных запясцях. Лагода распаліўся быў, але пасля зразумеў, што золата намёртва ўплаўлена ў лёд — і трохі астыў.

А вось жывыя агні над гэтымі ахвярнікамі не гарэлі, і праз гэта Эгле чамусьці зрабілася ніякавата. Быццам гэтыя маўклівыя, цёмныя кучы камянёў былі нечым няправільным. Быццам так не павінна быць.

Шырокія прыступкі, урэшце, уліліся ў невялікую вузкую залу з двума шэрагамі стромкіх калон з паліраванага цёмнага камня. Тыя, таксама ледзь не да паловы закаваныя ў лёд, былі спярэшчаныя дробнымі рунамі, што складваліся ў мудрагелістыя ўзоры, пляліся, быццам карані ці галіны, апаясваючы камень. За калонамі ў дальняй сцяне між ледзяных наплываў цямнела нешта накшталт вялізарных варотаў, высечаных з такога самага каменю, што і калоны, і таксама шчыльна ўкрытых шэрагамі таемных знакаў.

Перад гэтымі варотамі Гольша, нарэшце, спыніўся. Паглядзеў угару, закінуўшы галаву, няголасна фыркнуў.

— Нелюдская дрэнь,— заключыў грэбліва.— Тут можна не сумнявацца.

І з сілай штурхануў Ілмара наперад:

— Разбірай, нелюдзь. Гэтую вось дрэнь табе трэба адчыніць.

Не-чалавек пралядзеў колькі крокаў, утрымаўся на нагах, абапершыся рукою на вароты. Дыхаў ён цяжка, сутуліўся неяк зусім хваравіта, быццам згінаючыся пад нябачным цяжарам. Эгла зрабіла была рух наперад, але Гольша, ухмыляючыся, выставіў перад ёй руку, прыпыніў.

— Лягчэй, мілая,— сказаў.— Годзе апекавацца. Хай разбіраецца.

— І хутка,— дадаў Лагода, прытанцоўваючы на месцы.— Холад люты!..

Ілмар, быццам не чуючы, ціха шаптаў нешта сабе пад нос, кранаючыся рунаў на варотах тонкімі пальцамі. Адступіў на крок, правёў рукою, адсочваючы нейкі асобны радок, засяроджана пацёр вострае падбароддзе. Пальцы яго спыніліся на адной асабліва важкай гронцы знакаў, пасля папаўзлі ніжэй, замерлі бездапаможна.

— Ну? — патрабавальна працягнуў Гольша.— Варушыся, нелюдзь. Іначай, багі сведкі, заб'ю табе столькі жалезнага пылу ў глотку, колькі ўлезе.

— ...н-не разумею,— азадачана прамармытаў Ілмар, усё яшчэ ўважліва разглядаючы знакі на варотах. Пакруціў галавою, адкінуў з твару валасы. Развярнуўся і, не зважаючы, ледзь не зачапіўшы Гольшу плячом, рушыў да бліжняй калоны, завадзіў пальцамі па шэрагах рун. Эгла здагадалася паднесці ліхтар, каб падсвяціць знакі ў камені.

— Не разумею,— сказаў Ілмар ёй.— Гэта... гэта месца памяці. Усыпальня, напэўна. Страшэнна даўняя. Але частка рэзаў — ахоўныя чары.

— Каб не ўвайшлі нявартыя? — удакладніла Эгла напаўголасу. І дадала пра сябе — «нявартыя кшталту нас». Але Ілмар, хмурачыся, пахітаў галавою.

— Каб... утрымаць,— выправіў. Пастукаў па рунах: — Гэта... амаль усе рэзы вакол нас — ланцугі, сплеценыя з чараў. Настолькі магутных, што я нават не магу ўявіць...

Ён замёр і сцішыўся. Сказаў нейкае слоўца па-свойму, паважліва апусціўся перад знакамі на калені, апусціў галаву.

— А рэшта рэзаў? — пацікавілася Эгла, не ўпэўненая, што ён адкажа.

— ...імёны,— проста адказаў Ілмар, зноў падымаючыся на ногі.

Эгла зябка павяла плячыма. Паспрабавала ўявіць, што нелюдзі маглі палічыць небяспечным і вартым ланцугоў і забыцця — ды не здолела. А Ілмар, водзячы рукою па рэзах, пераходзячы ад калоны да калоны, слаба варушыў вуснамі, час ад часу губляючы словы сваёй мовы, і змрачнеў, і хмурыўся ўсё болей.

— То што, нелюдзь? — Гольша, патроху губляючы цярплівасць, наблізіўся, коратка зірнуў на руны, якія спрабаваў расчытаць не-чалавек.

— Нам трэба ўвайсці, кеміш ты, не? Адчыняй давай, чары свае чаруй.

Ілмар здрыгануўся, быццам толькі што прыгадаў пра Гольшава існаванне. Твар у яго ў адно імгненне пасуровеў, зрабіўся як бы сталейшым, і павярнуўся да Гольшы не-чалавек вельмі павольна.

— Не буду,— сказаў ён.

Гольша, натапыраны і раззлаваны, узяўся ў бокі. Праўда, цяжкавата было захоўваць пагрозлівасць, пазіраючы знізу ўгару.

— Што яшчэ за «не буду»? — падзівіўся Гольша.— Адзіная ад цябе карысць, паскуднае ты стварэнне, гэта адчыніць для нас гэтыя смярдзючыя вароты. І ты іх адчыніш,

зразумела табе? Або здохнеш. Мяне і тое, і другое задаволіць, як што.

Лагода, які сумаваў непадалёк, прытупваючы і хукаючы на далоні, пацягнуў носам і падышоў бліжэй. Варта было сюды цягнуць, прабасіў сярдзіта. Адно каб прыкончыць. Клопату яшчэ столькі, не каб ужо адразу...

— Цябе не спытаў,— прашыпеў Гольша і, наліваючыся злоснаю барвай, спытаў яшчэ раз: — Ты мне тут не жартуй. Адчыняй, ну?..

— Нельга! — мовіў Ілмар.— Усё гэтае месца... Няўжо не разумееш? Тое, што там схавана, трывожыць нельга. Гэта забарона. Ад Той, з якой не спрачаюцца. «Хто парушыць Яе волю — паспытае Яе гнеў, выкрасліць сябе з ліку жывых». Так тут напісана.

— Ага, то сысці нам, значыцца? — пальцы ў Гольшы сутаргавата сцяліся на дзяржальне мяча — ажно касцяшкі пабялелі.

Эгла, заўважыўшы гэта, паспрабавала ўціснуцца паміж гэтымі дваімі, загаварыла супакойліва: кажуць жа табе, дурань, што адчыняць — нельга. Кажуць табе — забаронена. Кепскае гэта месца, дрэнь месца, ад пачатку было зразумела. Паслухай разумнага чала... не-чалавека. Павярні назад. Вернемся. А калі князь хоча... што ён там з гэтага магільніка хоча-та?..

Тут Эгла асяклася, бо злосна ўскрыкнула сталь — гэта Гольша выцягнуў меч з ножнаў і наставіў на не-чалавека.

— Я ведаю,— прашыпеў Гольша злосна, і ў кутку вуснаў у яго успенілася сліна.— Я-та ведаю. Ты, поскудзь, затлуміў галаву гэтай дурніцы, во яна цябе й выгароджвае. Ты і мне спрабуеш у галаву ўлезці. Няварта, маўляў, і сунуцца сюды. Проста каб мы сышлі. І чытаеш-та няправільна, нябось.

— Лухты не вярзі,— умяшалася Эгла.— Сам хоць чуеш, што кажаш?..

— Змоўч! — выскаліўся на яе Гольша.— Ты... ты ж сама зняла з нелюдзя халоднае жалеза. Сама. Добранькая такая, бач. А яны, як гадзіны, адной прысутнасцю... атручваюць. Чары свае плятуць, засцілаюць вочы...

Па-над ягонаю галавой Эгла сустрэлася паглядам з Лагодам — той толькі носам пакруціў. Гольшу абое ведалі за чалавека стрыманага, разважлівага і досыць халоднага. Таму гарачнасці ад яго аніяк не чакалі — і разам, адначасна, збянтэжыліся.

— З'ехаў з глузду,— гучным шэптам сказаў Лагода, паморшчыўся і сплюнуў.

Эгла няпэўна трасянула косамі. Калі так далей пойдзе, падумала, усе там будзем.

— Лухты не вярзі,— паўтарыла яна ўголас.— І меч апусці, ашаломак. Яшчэ каму вока выткнеш.

Гольша выдыхнуў скрозь зубы са злосным прысвістам, але меч апусціў-такі. Ілмар у Эглы за плячом суцішана выдыхнуў.

— Размаўляеш, як вар'ят,— сказала Эгла, хмурачыся.— Кажуць табе: нядобрае месца. Кажуць табе: няма чаго туды лезці. Што ж, за дзясятак дукатаў ад князя — пачварыне ў зубы? «Выкрасаць сябе з ліку жывых»?

— «Выкрасліць з ліку жывых»,— выправіў Ілмар ціха.

— Я на такое не падпісваўся,— сярдзіта мовіў Лагода. Нібы прыпячатваючы ўласныя словы, апусціў цяжкія скруткі з жалезным пылам на абледзянелыя пліты падлогі, нават злосна пнуў верхні выпацканым у гліне ботам.— Адна рэч, калі золата. А калі яшчэ якая зубастая дрэнь там сядзіць, выкрасанні там нейкія — то й халера з гэтым усім.

— Х-халера,— выдыхнуў Гольша.

Зірнуў скоса на кінутыя Лагодам пакункі, адзін з якіх прарваўся і цяпер тачыўся металічным струменьчыкам.

Над імі на колькі імгненняў павісла маўчанне — быццам сцюдзёнае марыва.

І, можа, якраз-такі дзякуючы таму нечаканаму маўчанню Эгла пачула: крокі плылі да іх, набліжаючыся, шматлікія, ціхія, але — несумненна рэчыўныя, сапраўдныя. Эгла злёгку павярнула галаву, каб згледзець праход між шэрагаў калон. Святла ліхтара, вядома, не ставала, і пабачыць атрымалася адно цемру, што зыбалася, клубілася, курылася марознаю смугою. Крокі, памножаныя гулкім рэхам, раскатваліся па камянях, і ў цёмным праходзе нібы варочалася нешта да вусцішы агромністае, шматногае, шматрукае.

Варожае.

— Там нешта ёсць,— глуха прагаварыла Эгла, звыклым рухам здымаючы з-за спіны лук і выцягваючы з калчана стралу.

— Стой у мяне за спінай і не высоўвайся,— строга наказала не-чалавеку, які, можа, ад цікаўнасці, па-хлапечы варухнуўся быў наперад. Лагода вылаяўся і зняў з пояса булаву, прыжмурыў вочы, прыглядаючыся. Хай палезуць, прамармытаў, крывячы вусны. Хай толькі палезуць, гадаўцы смярдзючыя, ён-та ім пакажа.

— Усёмаці... бачыць,— дадаў здушаным шэптам. І, мусіць, зноў прыгадаў тое, што параніла яго ў закінутым селішчы гарнякоў, бо вусны ў Лагоды дробненька задрыжалі.

— Што яшчэ за...— пачаў быў Гольша незадаволена, ды не дагаварыў. Бо ў густой цемры, рухомай, нібы жывой, з'явіліся ззяйкія кропкі — адна, другая, дзясятая. Безліч уважлівых кропак, што сыходзілі халодным драпежным бляскам, што сачылі дзясяткамі непрыязных позіркаў.

— Яны пачулі,— прашаптаў Ілмар.

Эгла трасянула косамі, хмурачыся.

Крокі — шлёпанне, шарканне — зноў наблізіліся, і да іх па-ранейшаму дамешваліся невыразныя шэпты, уздыхі і хрыпы. Цемра адначасна шаптала, узрыдвала і задыхалася, шумна глытала сліну і адплёўвалася, прыцмоквала і пасопвала. І, павольна распадаючыся на асобныя хісткія цені, цягнулася наперад — упарта, няспынна, драпежна.

Эгла злажылася, стрэліла, цаляючы паміж адной пары ззяйкіх кропак. Нітачка стрэлу нацягнулася, як звычайна, адгукаючыся ўнутры яе. Цемра, рассечаная стрэлам, гнеўна засычэла — але не спынілася. Хістаючыся, ад яе адкалоўся адзін цень, пайшоў бокам, узрыкваючы, узрыдваючы. Затрымаўся на мяжы кола святла з Эглінага ліхтара — і стала відаць ссушаная кашчавая постаць, прыкрытая амаль спарахнелым рыззём. Доўгія счарнелыя рукі, што матляліся па баках згорбленага тулава, заграбалі паветра драпежнымі кіпцямі, а твар быў тварам мерцвяка — са згнілым носам, з невідушчымі бельмамі. Лагода шумна выдыхнуў, выпусціўшы з рота аблачынку марознай пары — і мярцвяк на мяжы святла неймаверна шырока раззявіў запалы рот, адкрываючы частыя тонкія, быццам іголкі, іклы.

Голасу, крыку, віскату Эгла не пачула — толькі адчула яго: яе нібы з сілаю ўдарыла па галаве, адштурхнула трохі назад. Яна стрэліла зноў, сціснуўшы зубы, і адчула сухі ўсхліп стралы, якая прабіла мёртвую плоць і затрымцела. Мярцвяк захрыпеў і адступіў, зноў зліваючыся з цемраю. І тая парыквала, наступаючы, з шарканнем абмінаючы змрочныя шэрагі калон, наплываючы няўмольнымі хвалямі, як марскі прыбой.

І, як прыбой, цемра гучала. Розныя, розныя галасы гаварылі адначасна, настолькі няўмольна, настолькі галасна, што ажно звінела ўвушшу. І ў гэтым гармідары цяжка было сабрацца, засяродзіцца на ўласных думках, на

ўласным целе, дзе так успуджана, так часта, так адчайна трапяталася сэрца: удар-удар-удар!

Эгла стрэліла зноў, яшчэ раз і яшчэ, і цемра штораз адгукалася — пагрозлівым сычэннем, якое хутчэй адчувалася скураю, быццам ледзяны павеў. Бо ўвушшу вішчала і нема раўла цемра. І штосьці халоднае павольна плыло ў Эглы з вуха на шыю, тачылася слабым струменьчыкам, ад якога пахла жалезам,— і адначасна білася, люцела, захлыналася жахам у жылах.

Лагода штосьці бязгучна крычаў ёй, шалёна адмахваючыся булавою ад сутаргаватых лап, што цягнуліся да яго з цемрадзі. Кола святла хісталася — як ліхтар у Эглы на поясе. Кола святла міргала, паступова слабеючы. «Свечка!» — складваліся вусны Лагоды, з адцяжкаю барвовага шрама на галосных. Свечка, Эгла. Яна сцяміла, заківала, з апошніх сіл змагаючыся з цяжарам у галаве, ад якога разам з колам святла хісталася і ўся пранізаная ледзяною сцюжаю зала. Свечка, Эгла!..

Яна паспешліва намацала торбу на поясе і амаль што супакоілася, адчуўшы пад пальцамі халаднаватую гладкасць воску. Але дастаць не паспела: прыбой цемры наваліўся на яе збоку, пацягнуў за сабою, паўз акрываўленага Лагоду, што з бязгучнымі праклёнамі размахваў булавою. Паўз бледнага Гольшу, які прырастаў спінаю да калоны і злосна крычаў камусьці, таксама бязгучна: адчыняй жа, хіба ты не бачыш, адчыняй жа, у Бездань усё, адчыняй!..

Цемра шпульнула Эглу на камень, ляскала зубамі, наскоквала, спрабуючы дабрацца да горла. Вернага выгіна лука побач не было, не было і нажа. Таму Эгла, адной рукою адштурхоўваючы ад сябе хіжую смуродлівую пашчу, другою ў бяздумнай надзеі абмацвала каменныя пліты побач з сабою. Пальцы ўвязлі ў нечым дробным, шорсткім, і Эгла, набраўшы прыгаршчай, сыпанула тое нешта цемры ў вочы.

І цемра жаласна завішчала ад болю, баязліва адкацілася, адпаўзла, марнеючы і здыхаючы, нібы аплаўляючыся, нібы згараючы.

Свечка часта заміргала ў яе ліхтары. Эгла, цяжка дыхаючы, зірнула на ўласную далонь з прысталымі драбочкамі жалезнага пылу — і свечка згасла. Цемра зарычала збоку — і на гэты рык Эгла, ужо больш упэўнена, адказала новай прыгаршчай пылу, так што цемра віскнула ад болю і прыціхла. Халоднае жалеза, падобна, было выратаваннем, і Эгла, не раздумваючы, падпаўзла бліжэй да кінутых скруткаў, ухапілася за бліжэйшы. Тут жа пачула, нібы з-пад вады, уласнае імя, паднялася, прыціскаючы да сябе скрутак адной рукою, аслізгаючыся на ледзяных наплывах. Тут жа сагнулася напалам: болем разанула пад рэбрамі, там, дзе ўспоратая паляўнічая куртка набрыняла цёмнай барвай. Эгла пахіснулася, абаперлася на спярэшчаны рунамі камень. І нібы скрозь руны пачула, як прарастаюць скрозь камень словы — як увесну цягнецца ў неба новымі парасткамі стары корань.

Бура і Сцюжа, Трыснёг пад Ветрам, Паўночнае Сонца і Вастрыё.

Імёны, ён казаў, мутна падумала Эгла, не разумеючы, але адчуваючы — скураю, самасцю. Ёй падалося, быццам задрыжалі самі камяні, затрэслася ліхаманкава сама гара вакол. Эгла на імгненне зажмурылася. Знекуль уладна дыхнула сцюжаю — ажно іней асеў у Эглы на веях і косах.

І плакала жанчына, і скруха, любоў і помста звіваліся ў адно цэлае, каляровымі шыўкамі плылі па палатне. І не было як выбавіцца, не было як вырвацца з абдымкаў гэтых чар, з-пад ледзяной коркі.

Яе ўласнае імя пранеслася стралою, працягнулася, быццам сярэбраная нітачка — тонкая, але надзейная. Зачапіла,

нацягнулася, тарганула. I па гэтай нітачцы Эгла пайшла, чуючы вакол прыглушаныя крыкі, і хрыпы, і бульканне. Збялелы Лагода знянацку вынырнуў з душных хваляў цемры — заліты барваю, знямелы і аслеплы,— і гэтак жа знянацку знік у мільгаценні, кружэнні, у сквапным храбусценні і чвяканні.

А Эглу нечакана ўхапілі за руку, утрымалі, з высілкам вырвалі з ліпкіх абдымкаў хіжай цемрадзі. Камень зноў цяжка ўздыхнуў, быццам замыкаўся ў яе за спінаю, і зноў выплыла трохі ўводдаль — вінавата — кола жывога святла. Эгла, трымаючыся за нечы рукаў, спінай спаўзла па камені долу, на падлогу, і выпусціла з аслабелых пальцаў важкі скрутак з жалезным пылам.

Ілмар, пераводзячы дыханне, апусціўся на калені побач з ёю. На далоні ў яго нетаропка распускаўся, быццам агністая кветка, дробны згустак яснага зялёнага святла. У тым мігатлівым святле відаць былі цёмныя пліты, што разыходзіліся вакол, паблісквaючы серабрыстымі ўзорамі, як вокам ахапіць. Халодны камень, на які Эгла абапіралася спінаю, аказаўся варотамі: нават праз куртку адчуваліся старажытныя рэзы ды знакі на іх. А за надзейным каменем, аддзеленая, адсечаная ад іх, шалела і білася, як прыбой, прагная ненажэрная цемра. Эгла прыгадала белы Лагодаў твар, што вынырнуў з гэтага драпежнага прыбою на адно імгненне, і часта задрыжала, мацней сціснула ў пальцах Ілмараў акрываўлены рукаў.

— Адчыніў,— мовіла сіпла.— Не варта было. Га?..

I загаварыла горача, спяшаючыся, стараючыся паспець: яна замкнула яго тут, замкнула, абвёўшы колам са скрухі, помсты і любові. I плакала, плакала, разлівалася ракою.

— ...яна плакала,— казала Эгла, скаланаючыся, бо зноў поўнілася чужою, старажытнаю, невымернаю скрухаю.— Яна... усё яшчэ...

Эгла задыхнулася, не здольная падабраць словы. Усё яшчэ плача? Усё яшчэ любіць?

Ці — усё яшчэ помсціць?

— Ты паміраеш,— шэптам сказаў Ілмар.

Эгла прыўзняла руку, якую прыціскала да жывата, коратка зірнула на цёмную барву, што выступала, усё болей і болей, праз падшываную куртку.

— Падобна на тое,— адгукнулася Эгла спакойна, зноў прыціскаючы рану рукой. Пачула, як не-чалавек перарывіста, адчайна выдыхнуў, і без слоў зразумела: хацеў дапамагчы. Хоць неяк. Пераступіўшы цераз сябе, цераз уласны страх, цераз лютую старадаўнюю забарону, што спавівала ўсё гэтае месца чарамі, быццам ланцугамі.

І зараз пакутуе, што ўсё-такі — не дапамог.

— Кінь, малец,— папрасіла Эгла ласкава.— Лепей... заспявай мне. Страшна паміраць — вось так. Вось тут.

Яна абвяла вачыма густы паўзмрок, што курыўся сцюдзёнаю парай. Спатыкнулася позіркам аб кола жывога святла ўводдаль, трасянула косамі. Ілмар шумна выдыхнуў — і на нейкі момант ёй падалося, быццам адмовіцца. Але ён заплюшчыў вочы і сапраўды заспяваў — ціхім чыстым голасам.

Спяваў пра тры ніці, чорную, белую і чырвоную, што сустракаюцца разам у вышыўцы пад іглою Усёмаці, адзінай у трох тварах, спрадвечнай, магутнай. Пра россыпы ліўняў над курганамі і бруенне ручаёў пад касматаю поўсцю пушчаў. Пра пужлівых аленяў, што ідуць да вадапою, чуючы покліч гаваркой вады. Спрадвечнай, магутнай.

— Гэта песня пра яе,— мовіла Эгла, калі Ілмар замаўчаў, усё не размыкаючы павекаў.— Пра тую, што плакала.

Ілмар кіўнуў.

— Пра тую, што дасюль плача,— сказаў ён ціха.

І слёзы яе застылі ледзяной коркаю.

— А той...— шапнула Эгла.— Той, каго яна аплаквае?..

— Тут,— проста адказаў Ілмар.

Кончыкі пальцаў пачыналі халадзець, і Эгла стала засяроджана перабіраць у памяці зёлкі, якія засталіся ў яе паясной торбе. Штосьці крывятворнае. Корань бадану, амяла, стрэлкі. Як маці вучыла. Як маці...

Кола жывога святла, нарэшце, варухнулася і падплыло да іх — гэта Гольша, цэлы і здаровы, з ліхтаром на поясе, асцярожна наблізіўся. Сеў на кукішкі насупраць, неяк дзівосна, нябачана разгублены, з круглымі бліскучымі вачыма. Глядзеў, прыкрываючы рот брудную даланёю.

— Лагода мёртвы,— прагаварыла Эгла, зноў прыгадаўшы бледнага волата, які патанаў у хвалях кіпцюрастых лап. Вусны ў яе рухаліся ленавата, павекі цяжэлі, але гэта трэба было сказаць.

— ...мёртвы.

Гольша прахрыпеў штосьці невыразнае і адразу ж сцяў зубы. Кашлянуў раз, другі, спрабуючы ўзяць сябе ў рукі. Ён, Гольша, хадзіў тут, аглядаўся. Спрабаваў знайсці выхад. Мусіць жа быць другі выхад.

— А ты...— мовіў ён.— Ты... што з табою? Паранена? Моцна? Што...

Эгла колькі разоў кіўнула, рассеяна адказваючы на кожнае яго трапяткое, заклапочанае, успуджанае пытанне. Глядзела, як дрыжыць Гольшава сківіца, а сама ўслухоўвалася ў сцюдзёную густую цішу.

Ціша гаварыла з ёю — ціхім паўзнаёмым голасам, голасам жывога срэбра. Рэхам чужых думак, ценем чужых сноў. Словы нанізваліся адно за адным, як пацеркі, на сярэбраныя ніці, барва, якой цесна зрабілася ўнутры Эглы, афарбоўвала, наталяючы, рэзы на камянях падлогі. І тыя выбухалі льдзістым металам, усплыхвалі халодным ззян-

нем — і ззянне разыходзілася хвалямі, далей і далей, ад руны да руны, пераскокваючы з пліты на пліту.

«Імёны»,— думала Эгла, гледзячы за спіну скрушнаму Гольшы. Гледзячы на хвалі халоднага ззяння, што запальваліся, абуджаныя балючаю барвай. Імёны таго, што спавіты льдом і слязьмі, скрухаю, помстаю і любоўю. Імёны цягнуцца, быццам сярэбраныя ніці, да закаванага ў лёд сэрца. Цягнуцца, уразаюцца. Пакліч — тарганеш. Пабудзіш. Вызваліш — ад скрухі, помсты і любові адразу.

Яна злёгку сціснула пальцы, што па-ранейшаму трымалі не-чалавека за рукаў. Ілмар падняў на яе вочы — і Эгла зразумела, што ён чуе таксама, чуе ўсё гэта: голас жывога срэбра, імёны, застылыя пад ільдом, як рака, скаваная зімою, галасы рун, абуджаных важкімі кроплямі барвы.

Можа быць, увесь час чуў менавіта гэта. І баяўся, нарэшце, зразумець.

— Я разумею,— прагаварыла Эгла, і бровы ў Ілмара варухнуліся.

«Я разумею,— думала Эгла.— Вечнае зняволенне, вечны трывожны сон пад душным прыгнётам усёмагутнай любові і памяці — гэта пакута. Вечная, страшная ў сваёй бясконцасці пакута.

Я разумею».

Эгла, Эгла. Вусны ў Гольшы зноў затрэсліся, і імя зляцела з іх — пацеркай. І, такімі ж пацеркамі, кроплямі мутнай дажджавой вады, россыпам — іншыя словы, паспешлівыя. Толькі не памірай. Тры гады... толькі цябе. Эгла. Толькі не... Мы яшчэ можам зрабіць тое, што хацеў князь. Зробім, выбавімся — і дукаты на дваіх. І — разам, і — усё на дваіх. Эгла. Давай жа, яшчэ трошачкі. Эгла!..

Гольша, гаворачы, настойліва цягнуў да сябе скрутак з жалезным пылам. Эгла паспрабавала была затрымаць безуважнаю рукой — але Гольша рвануў яго на сябе трохі

мацней. Дробныя часцінкі пылу сыпанулі Эгле на калені, на паліраваныя пліты падлогі. Агеньчык, што песціўся ў Ілмара на далоні, пужліва зазвінеў і змарнеў, нібы выцвіў.

— Я ўсё зраблю,— мовіў Гольша, падымаючыся на ногі.— Я сам усё зраблю. Як трэба. І пашукаю выхад. Адно патрывай, Эгла. Ты толькі не...

Ён задыхнуўся тым апошнім словам і не сказаў яго ўголас. Эгла слухала яго — і амаль не чула, занятая ціхім голасам срэбра, што пранізваў усё вакол, нават яе саму.

— Я за табою... вярнуся,— паабяцаў Гольша і, адступіўшы колькі крокаў спінаю, паспешліва размыўся ў марозным паўзмроку.

— Ён хоча пакінуць тут атруту,— мовіў Ілмар.— Ваш князь загадаў яму зрабіць гэта, атруціць нашыя чары, нашыя песні. І ён хоча зрабіць гэта. Дзеля дукатаў.

— Дзеля... цябе,— ціха дадаў не-чалавек.

Паглядзеў на Эглу яснымі зялёнымі вачыма. Таго, што спачывае тут, таго, хто замкнёны тут усёмагутнаю воляй, нельга трывожыць. Халоднае жалеза задушыць чары, заб’е загаворанае срэбра, і тады сюды ўварвуцца тыя, хіжыя, прагныя.

— Нашто яны так імкнуцца сюды? — спытала Эгла. І думала сама чамусьці пра белыя камяні, што ўтваралі кола на рачным астраўку побач з яе роднай вёскай. У ясны дзень каменнае кола ззяла нясцерпным белым агнём і, падавалася, гучала. Гучала голасам жывога срэбра, спрадвечнай песняй.

Ілмар паціснуў плячыма.

— Яны пахнуць помстай,— адказаў.— Іншаю: помстай ад жаху і прагі. Яны мусілі б спаць, спавітыя спевам нашых камянёў, закаваныя Нябытам. Але зараз яны блукаюць у свеце пад месяцам.— Ён зноў паглядзеў на Эглу і сказаў цвёрда:

— Нельга дазволіць яму атруціць гэтае месца.

Эгла кіўнула. Неслухмянымі пальцамі намацала паясную торбу з зёлкамі, адной прыгаршчай выцягнула змесціва, так што ўсе пляшачкі рассыпаліся на камені. Сціснула адну, абвязаную чырвонаю ніткай, у пальцах, каўтнула, затрымаўшы дыханне,— і закашлялася: крывятворнае зелле апякло горла нясцерпнай горыччу.

— Дапамажы-тка,— хрыпла сказала Ілмару.

Той, пасадзіўшы новы чароўны агеньчык сабе на плячо, абвіў Эгліну руку вакол свайго стану і, хай і не адразу, падняўся на ногі разам з ёю. Ад высілку праціяла болем, і Эгла зноў паморшчылася, заціскаючы рану рукой.

— Хадзем,— прасіпела, бо Ілмар замарудзіўся, шкадуючы яе.— Хадзем!

Яны разам рушылі па дарожцы з абуджаных сярэбраных рун, што быццам сама сабою высцілалася перад імі. І быў паўзмрок, пранізаны бляскам срэбра, цёмныя гладкія пліты пад нагамі ды сцюдзёнае паветра, што абкружала з усіх бакоў, быццам хвалі спакойнай ракі.

А болей нічога не было. І Эгла дзівілася: «Гольша,— думалася ёй,— нават дзеля княжых дукатаў не змог бы збегчы так хутка. Ды і схавацца не мог бы таксама — не было куды».

— Гольша! — адчайна крыкнула Эгла. Рэха гукнулася, злятаючы аднекуль звысоку, пакацілася, пабегла, падскокваючы.— Гольша!..

Рэха, быццам здзекуючыся, гукалася адусюль Эгліным голасам:

— Га? Га?..— і раскатвалася далей, далей, і паступова замірала, раставала ў сцюдзёным паветры.

— Тут яго не знайсці,— мовіў Ілмар. Патлумачыў, нават не чакаючы пытання: месца, дзе яны зараз, на мяжы Тут-і-Цяпер і Ніколі-і-Нідзе. Уласна, мяжа тая сама па

сабе досыць умоўная. Раздзяліць адно і другое не атрымаецца, як ні намагайся.

— ...бо гэта,— шаптаў Ілмар,— як сон у галаве, як цень на дарозе, як адбітак у люстры. Але я ведаю, што я павінен зрабіць,— дадаў ён, змрачнеючы.

Эгла, цяжка дыхаючы, мімаходзьзірнула пад ногі, туды, дзе разгараліся сярэбраныя знакі, дзе ў цёмнай глыбіні гладкіх камянёў слізгалі іх адбіткі. Пабачыла там, у каменнай глыбіні сябе — няясны, размыты, скурчаны цень.

— Адбітак,— важка паўтарыў Ілмар.

Слабы чароўны агеньчык у яго на плячы ўскрыкнуў ад болю, успыхнуў нечакана ярка — і амаль адразу згас. Але вырвалася ўгару іншае, белае, зыркае полымя. Вырвалася — і з уздыхам растала, як і не было. Знікла.

А Эгла, цяпер без апірышча, правалілася ў цень пад нагамі, як у цёмную ваду: камень, здавалася б, такі трывалы і надзейны, зазыбіўся, захваляваўся, і агністыя знакі плылі па хвалях, як дробныя чайкі. Эгла сышла пад халодную ваду з галавою, захлынаючыся, сутаргавата варушачы рукамі, і хвалі вакол яе афарбоўваліся барваю. Нешта абвілося вакол яе цела ўпартымі ніцямі, быццам плеці водарасцей, і цягнула ўніз, уніз, глыбей і глыбей.

Там, у глыбіні, задыхаючыся, яна бачыла: Гольша ідзе, прыціскаючы цяжкі скрутак да грудзей, як немаўля, і тонкі след жалезнага пылу сцелецца за ім па каменнай падлозе. Крупінкі жалеза невыносным цяжарам навальваюцца на пляценне срэбра пад паліраванай паверхняй — і срэбра гасне, чарнее. Абрываюцца ніці, лопаюцца струны.

І дзесьці там, далёка, далёка, можа быць, нават Ніколі-і-Нідзе, чорная кроў цячэ з белага каменя, і спеў, на сярэбраную нітачку якога нанізаныя каменныя колы, абрываецца. А цемра, некалі закалыханая музыкай каменных чараў, абуджаецца, расплюшчвае незлічоныя вочы, распрадае

павуцінне, распраўляе скурыстыя крылы. І цемра крычыць, радасна і жалобна, гнеўна і ўспуджана адначасна: вось ён, век халоднага жалеза!..

— ...век людзей,— мовіла цемра, усе тысячы яе галасоў Эглінымі вуснамі, і словы ўзняліся ўгару бязважкімі бурбалкамі. І бязмежная водная глыбіня раптам сціснулася, змарнела, застыла пад Эгліным цяжарам паліраванымі плітамі з ззяйкімі рэзамі, што высцілалі шлях.

І плакала жанчына, спавіваючы чарамі са слёз. Чарамі помсты, скрухі і любові. І варушылася ледзяное лязо пад рэбрамі.

Уваччу быццам расступіўся туман: Эгла сапраўды пабачыла тое лязо: востры лядзяш вытыркаў з белага камня, падобнага на ахвярнік, і камень тачыўся смалою. Даўнія чорныя наплывы ўкрываў іней, іней рассцілаўся па чорных плітах, якія ажывалі, успыхвалі сярэбранымі рэзамі пад крокамі Эглы. Яна, прыціскаючы руку да раны, рушыла наперад, да ахвярніка.

Па другі бок камня стаяў, абкружаны колам святла, Гальша — і здзіўлены, пазіраў на Эглу, разяваючы рот. Са скрутка з жалезным пылам, што ён трымаў на руках, падалі — няўмольна і аглушальна — дробныя пясчынкі. Успыхвалі, падаючы, быццам знічкі.

— Эгла!..— разгублена выдыхнуў Гальша.

Зрабіў няўпэўнены крок наперад, працягнуў да яе руку, перакінуўшы ўвесь цяжар на другую. Ты адкуль гэта з'явілася? Не раўнуючы, з-пад вады вынырнула, дальбог. І нашто ты, нашто? Ён, Гальша, зрабіў бы ўсё сам. Зрабіў бы ўсё сам, як трэба, а пасля вярнуўся б. Пасля яны разам вярнуліся б — дамоў.

— Спыніся, чуеш? — з высілкам працадзіла Эгла, сціскаючы зубы. Зрабіла яшчэ крок, другі, абаперлася на камень рукою. Ад болю ўсё змазвалася ў яе перад вачыма,

і кола святла ад ліхтара, і сам Гольша,— усё разбівалася на асобныя каляровыя блікі.

— Што?..— Гольша прыўзняў кусцістыя бровы.

Эгла, закусіўшы вусны, выцягнула руку наперад, сціснула пальцы на ледзяным лязе, што патанала ў камені. Скуру на далоні апякло — але яна не адхапіла руку. Задыхаючыся, рэзка рванула ледзяны клінок уверх.

Цяжка ўздыхнуў сцюдзёны паўзмрок, і Эгла, прыціскаючыся да каменя, адчула, як нешта падымаецца ўнутры закаванай у каменне глыбіні. Лядзяш выпаў з яе аслабелай рукі, рассыпаўся ззяйкімі аскепкамі. Гольша зрабіў быў устрывожаны рух наперад, да ахвярніка і да яе. Але Эгла выпрасталася, наколькі магла, і апярэдзіла яго ціхім: «Спыніся». Аддыхаўшыся трохі, дадала гучней:

— Таго княжага загаду не... выконвай.

— А,— Гольша падціснуў вусны,— старая песня.

Ён зірнуў кудысь за Эглу, і твар у яго з мяккага, заклапочанага, здзіўленага імгненна зрабіўся адчужаным і змрочным.

— І гэты ўсё яшчэ тут,— прабурчаў Гольша.— Нават пачвары, і тыя яго не возьмуць, нелюдзя паскуднага. Не здохне аніяк. Ну, і чорт з ім. Гэта пасля, пасля можна будзе вырашыць. Разабрацца.

— Я, бач,— Гольша зноў паглядзеў на Эглу,— нешта заблытаўся тут трохі. Ідзеш, здаецца, і ідзеш, а канца-краю няма, і толькі значкі гэтыя гараць.— Ён тупнуў нагою, з непрыязню паглядаючы на ззяйкія руны.

Яму казалі, мовіў Гольша далей, чухаючы патыліцу, быццам тут павінна быць ці то крыніца, ці то ручай нейкі. Вада, адным словам. Самая, значыцца, святая для нелюдзяў вада. Ну, і калі сыпануць туды заклятага жалеза, вось тут-та нелюдзі і паскачуць, разумееш?

— Але месца ж,— Гольша павёў плячыма.— Толькі нелюдзям і прыйдзе ў галаву тут маліцца. Гэта ж нейкі склеп...

— Гэта храм. І вязніца,— мякка выправіў Гольшу не-чалавек.

Эгла павярнулася на голас, але Ілмара не пабачыла — толькі блікі ад зялёнага агеньчыка, які множыўся ў яе ўваччу, мутная, хісткая постаць. Вочы, аднак, ззялі ярка, зусім як чароўныя агні. Эгла трасянула косамі, насцярожана, недаверліва прыглядаючыся, а размытая постаць бязгучна рушыла паўз яе, і зыркія агні, лунаючы ў паветры, пасыпаліся следам, быццам плашч.

— Вязніца?..— перапытаў Гольша недаверліва.

У зняволенні ўласны розум праз пэўны час становіцца вязніцай, ахвотна гукнуўся не-чалавек.

Гольша нахмурыўся:

— Ты-та скуль нешта такое ведаеш? Усё нудзеў жа, падшыванец, што ні халеры не можаш зразумець. Хлусіў, нябось?

Не-чалавек спыніўся амаль на самым краі кола святла, перад белым ахвярнікам. Нешта, мабыць, у ягонай паставе было такое, што Гольша, шумна праглынуўшы сліну, адступіў на крок-другі. Выставіў перад сабою рукі са скруткам, адкуль сыпаліся, бліскаючы, пылінкі халоднага жалеза.

— Н-не падыходзь,— сказаў Гольша свісцячым шэптам.— Не смей, ты. Халоднага жалеза не хочаш, поскудзь? То я табе не толькі ручкі папсую.

І голасна, адчайна, па-дзіцячы амаль паклікаў:

— Эгла! Ты... ты бачыш, што ён... што ён...

Ды тут жа сціх, бо не-чалавек, пацягнуўшыся, зачарпнуў з надарванага скрутка цэлую прыгаршчу жалезнага пылу і надзвычай спакойна ўзважыў на далоні.

— Я прымаю тваё ахвяраванне, чалавечае дзіця,— мовіў не-чалавек.

Эгла бачыла яго светлыя валасы, у якія ліхтар кідаў рудзізну, цёмны плашч на плячах ды адведзеную ўбок руку. Глядзела на тонкае запясце з чыстаю белай скурай і бязгучна варушыла вуснамі.

— Што... што ты такое-та?..— глуха прагаварыў Гольша. Яго калаціла частаю дрыготкай. Не-чалавек, нібы забаўляючыся, падкінуў прыгаршчу пылу ўгару — і той, пясчынка за пясчынкаю, паплыў у гулкую цемру над іх галовамі, складваючыся ў знакі, узоры, сузор'і.

— Я — толькі рэха,— адказаў не-чалавек Гольшы.— Цень на вадзе, след у пяску, попел ад вогнішча, трыснёг пад ветрам.

Бледны Гольша глядзеў на яго неадрыўна, толькі часта дрыжаў, і тонкая цёмная нітачка цягнулася з яго носа да вуснаў.

— Але ўсё вяртаецца,— не-чалавек зрабіў крок наперад.— І я прымаю тваё ахвяраванне, чалавечае дзіця.

Гольша закруціў галавою, намагаючыся нешта сказаць, але не-чалавек пацягнуўся да яго рукою — і кола святла, што плаўна пагойдвалася вакол паяснога ліхтара, раптоўна змялася, нібы складваючыся ўнутр. Складваючыся — з хрыпам, здушаным ускрыкам, агідным храбусценнем. Вакол павеяла сцюжаю і вострым саланаватым пахам, сярэбраныя значкі наперадзе ўспыхнулі радасна і ярка — напоеныя ўдосталь.

Эгла зажмурылася, прыкрываючы рукамі вушы. Сцялася ў камячок болю, востра адчуваючы, што засталася зусім адна пасярод сцюжы і цемры. Пасярод уплаўленых у лёд і камень помсты, скрухі і любові, што была гарчэйшай за палын. Чароўныя агеньчыкі зазвінелі зусім блізка, і, рызыкнуўшы разляпіць павекі, яна пабачыла перад сабою ў іх зеленаватым святле не-чалавека.

— Іл... мар? — паклікала па імені з апошнім успплёскам надзеі. Але той, нахіліўшы галаву да пляча, прамаўчаў

і толькі лёгенька ўсміхнуўся. І надзея згасла, і прыйшла скруха: яна ж абяцала, што ён не памрэ. Абяцала...

Ілмараў твар рассыпаўся на асобныя рысы і фарбы, і з тых фарбаў і рысаў склаўся новы твар, незнаёмы. І — знаёмы адначасна, бо то быў твар ценю за плячыма яе адбіткаў. Ясны малады твар з упартымі цёмнымі бровамі ўразлёт, з точаным носам, з высокім ілбом, на якім інеем серабрыўся княжы вянец. Валасы мякка спускаліся на плечы — залатыя, з іглами інею, уплеценымі між пасмаў, быццам мудрагелістая аздоба.

— Ты ведаеш, як мяне завуць, чалавечае дзіця,— сказаў ён, і ў голасе ягоным спявала марознае срэбра. Тое самае, што клікала, тое самае, што пранізвала тонкімі ніцямі ўсё вакол. Пакліч — і пабудзіш. Разарвеш зачараванае кола. Вызваліш — жывою барвай — з ледзянога палону.

З жаночых слёз сатканая пастка, і адно жанчына здолее выбавіць.

Эгла пахіснулася, і яе падхапілі, дапамаглі апусціцца на белы камень, халодны і надзейны, непахісны. Срэбра спявала, ажывалі руны, напоеныя крывёю. Ва ўсяго на свеце ёсць свая цана, чалавечае дзіця. Але свабода — гэта дар. І яго можна атрымаць адно з ахвотных рук.

«Мне шкада цябе,— думала Эгла, моцна трымаючы яго за руку.— Ніхто не мусіць пакутаваць ад бясконцасці пакарання, якою б ні была правіна. Ніхто не павінен пакутаваць — так. Мне шкада цябе».

Той, што з чаканнем глядзеў на яе, злёгку ўсміхнуўся. На белых рукавах у яго расцвіталі чырвоныя макі. Нахіліўшыся, ён лёгка пацалаваў Эглу ў бледны лоб.

— Ты ведаеш, дзіця, як мяне завуць.

Эгла кіўнула: яна і праўда ведала. І мовіла, спакойна гледзячы ў гожы твар над сабою, адчуваючы, як балюча нацягваюцца скаваныя з мудрагелістых чараў ланцугі:

— Бура і Сцюжа, Трыснёг пад Ветрам...

Змрок уздыхнуў вакол, як трыснёг, і іней асеў у Эглы на веях. Нацягнулася і з глухім стогнам парвалася чорная ніць.

— Паўночнае Сонца...

Гэдмін усміхаўся ёй з парога, сыходзячы ў сваю вечную раніцу, і белая ніць рассыпалася ад яго ўсмешкі белымі снежнымі камякамі.

— І Вастрыё.

Чырвоная ніць узвілася хваляю жывой барвы, адно каб развеяцца, каб апасці цяжкімі кроплямі на белы камень. Дзесьці далёка — а можа, проста вельмі даўно — заварочалася ў хмарным радне навальніца, помсліва паглынаючы кароткае жаночае імя, хвосткае, як удар стралы.

Яна, ужо безыменная, выдыхнула апошняе слова разам з аблачынкай марознай пары. Выдыхнула — і замерла, пытальна ўтаропіўшыся ўгару. Бачачы скрозь сцюдзёную цемру, скрозь змрочныя скляпенні пячор, туды, дзе над гарамі разгараўся новы світанак маркотнага лістапада.

Там Гэдмін узяў яе за руку, і ў тую раніцу яны сышлі разам.

*лістапад 2019,*
*Мінск*

**Латышкевіч, М.**

Л27 Уласны крыж : Аповесці / Маргарыта Латышкевіч. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2021. — 270 с. : іл.— (Бібліятэка прыгод і фантастыкі).

ISBN 978-985-02-2041-7.

Аповесць «Уласны крыж» — прыгодніцкі дэтэктыў пра пошукі старадаўняга артэфакта. Журналіст Зініч прыязджае ў старажытны Полацк на запрашэнне ўніверсітэцкага сябра, што ўблытаўся ў амаль крымінальныя справы. Якія таямніцы хавае архіў экспедыцыі БелАН на Полаччыну і дзе адшукаць сапраўдны ключ ад Мудрасці? Якія загадкі схаваныя ў лёхах пад былой езуіцкай акадэміяй? І ці атрымаецца, апантана вышукваючы старадаўні артэфакт, проста выжыць?

Міфалагічнае фэнтэзі «Трыснёг пад ветрам» падхоплівае тэму загадак і росшукаў. Экспедыцыя з трох чалавек выпраўляецца ў загадкавы горны край. Што чакае свайго часу ў старых шахтах? Ці праўдзівыя паказкі пра гэтыя мясціны? І якую сілу маюць над людзьмі іхнія сны — нават на яве?

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)-44**

Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэка прыгод і фантастыкі

**ЛАТЫШКЕВІЧ Маргарыта Юр'еўна**

**УЛАСНЫ КРЫЖ**

*Аповесці*

Рэдактар *Э. В. Карбановіч*
Мастацкі рэдактар *М. Ю. Дайлідаў*
Тэхнічны рэдактар *Т. В. Свірыдзенка*
Стылістычны рэдактар *Ю. В. Конюхава*




Падпісана да друку 20.02.2021. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 00,00.
Ул.-выд. арк. 00,00. Тыраж 0000 экз. Заказ

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/5 ад 09.07.2013.
Пр-т Пераможцаў, 11, 220004, Мінск.
www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

Адкрытае акцыянернае таварыства «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 10.09.2018.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск.
Надрукавана: Філіял №1 ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
Вул. Савецкая, 80, 225409, Баранавічы.